# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Арганізацыйнага камітэта
Саюза совецкіх
пісьменнікаў БССР

*КНІГА ПЯТАЯ*

МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
*1934*

**ПЛАТОН ГАЛАВАЧ**

# ПРАЗ ГАДЫ

(*раман*)

Былому комсамольцу, комуністу
інжынеру Андрэю Агеевічу Бародзічу

## I.

Раніцою дзевятага мая тысяча дзевяцьсот трынаццатага года ў аўдыторыях Санкт-Пецербургскага універсітэта, на Васільеўскім востраве стала вядома, што ноччу скончыў самагубствам студэнт-прававік Кулікоўскі. І гэтым-жа ранкам, у пару, калі да універсітэта дайшлі першыя весткі пра самагубства Кулікоўскага, на пляцы каля Ісакіеўскага сабора адбылася сустрэча хлапчука - газетчыка з юнаком год дзевятнаццаці-дваццаці, апранутым у лёгкае студэнцкае паліто.

Было без сямі хвілін дзесяць, калі студэнт прыйшоў на пляц. Халаднаваты, паўночна-заходні вецер і дробны, непрыкметны і таму асабліва дакучлівы, дождж, загналі студэнта пад масіўныя дахі сабора, дзе ён і стаў, аж пакуль не змеціў газетчыка. Газетчык, бачна, студэнта ведаў даўно ўжо, бо адразу ж, як толькі той крануў яго за плячо, спыніўся і, ветліва ківаючы да яго галавою, падаў свежы нумар газеты.

— Даўнавата вы штосьці не хадзілі тут?—па-даросламу зрабіў сваю заўвагу газетчык і запытаў:—ці куды ездзілі?

— Ездзіў,—адказаў студэнт.—На правінцыю.

Абыякавым „ага“ хлапчук згадзіўся са студэнтавым тлумачэннем прычын, чаму яго так даўно не было ў гэтых месцах.

— Я да цябе, браток, па справе. Вазьмі гэтую запіску і абавязкова сёння-ж да поўдня перадай. Адрас тут ёсць.

Хлапчук узяў ад студэнта запіску, патрымаў яе нейкі час перад вачыма, чытаючы адрас, а тады асцярожна паклаў яе сабе ў кішэнь.

— Каханку вашу я ўраз знайду,—хлапчук шырока і па-дзіцячаму хітравата ўсміхнуўся.—Я не толькі Галадай, я ўвесь Васільеўскі остраў, як сваю далонь, ведаю, а на Галадаі я рос...

— Адказу не трэба,—папярэдзіў студэнт.—На, браток, манету і валяй туды. Зробіш?

— Ну, што вы?—пакрыўдзіўся хлапчук.—Для вас я ўсё зраблю. На каго-на-каго, а на Ваську Мілоўскага палажыцца можна.—Ён зусім ужо сур'ёзна зірнуў на студэнта і на развітанне кіўнуў галавою.—Бывайце!

Цераз пяць хвілін студэнт пешшу ішоў да Неўскага праспекта, ён меў намер пайсці ў публічную бібліятэку, што на рагу Садовай і Неўскага, а хлапчук-газетчык крочыў да маста, што злучаў горад

з Васільеўскім астравам. І ў гэты-ж час у даўгіх і гулкіх калідорах універсітэта сходзіліся купкамі студэнты і горача, запальчыва дыскутавалі аб прычынах, якія штурханулі Кулікоўскага на самагубства.

„Хвароба душ", як назваў „эпідэмію" самагубстваў адзін з вядомых тагочаснікаў журналістаў, у той час у Расіі была як ніколі яшчэ пашырана. Кожны дзень газеты нямымі і цмянымі радкамі петыта спакойна паведамлялі аб знойдзеных трупах. Было падобна, што смерць спраўляе свой урачысты парад.

Змоўкла, прыціхла водгулле нядаўніх яшчэ вялікіх падзей. І хоць дзесці ў глыбінных народных пластах зноўку збіраліся неспакойныя сілы, шукаючы новае рочаці,—зверху ўсё захлынула сабою наляцеўшая хваля рэакцыі. Яна праглынула берагі, накрэсленыя дужымі і смелымі, і цяпер вірам кружыла на паверхні ўсё кволае духам. Захопленыя гэтым вірам, ішлі з жыцця разам: і маці, у якой галадавала пяцёра дзяцей, і беспрацоўны, якім авалодала роспач, і інтэлігент, упэўненасць якога была назаўсёды пахіснута, каму засталіся разбітыя ілюзіі і дарэмныя блуканні ў пошуках агульна-чалавечае справядлівасці і шчасця. Ледзь прыкметнымі зданямі адыходзілі яны, разгубленыя, пакалечаныя. У гэтым струмені дачасна перарваных жыццяў смерць студэнта-прававіка Кулікоўскага прайшла-б непрыкметна, кабі-б яна не мела сувязі з іншымі, яшчэ ранейшымі падзеямі, што адбыліся ў універсітэце з людзьмі, пра якіх я і маю намер расказаць.

## ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Лазурэвіч шукаў чагосьці ў кніжках, раскіданых на стале, а двое другіх з прысутных былі заняты гутаркаю з Кулікоўскім, калі ў пакой зайшоў Буднік. Яшчэ не распрануўшыся, ледзь прычыніўшы за сабою дзверы, ён дастаў з кішэні складзеныя невялічкім пакетам газетныя лісты і паказаў іх.

— Чыталі? Разумееце, як гэта лоўка зроблена?

— Пілацеяўшчына!—Не ў меру высокі і гэткі-ж не ў меру танклявы, Кулікоўскі схапіў з вакна газету і, скамячыўшы яе ў даўгіх тонкіх пальцах, захадзіў па пакоі.—Мы павінны пратэставаць! Хто? Скажыце мне, хто будзе несці адказнасць за дзеянні гэтых паважаных паноў прафесараў і думцаў? Яны іграюць на пачуццях крэўнасці і адзінства веры і імкненняў. А якія словы: шматмільённае рускае сэрца б'ецца суладна з сэрцам славян!.. Які пафас!.. Усё, усё забруджана імі, закідана граззю. Усе самыя лепшыя, самыя чыстыя імкненні народа яны затапталі салдацкім ботам. Гэта хлусня. Хлусіць будзе і Пілацеяў, і мы павінны пратэставаць.

— Гэта не толькі хлусня,—перабіў яго Буднік:—Руская нацыянальная самасвядомасць дапаможа... За гэтымі словамі нешта большае, чым хлусня.

— Я не хачу шукаць большага. Каб пратэставаць, з мяне годзе таго, што апаганьваюцца лепшыя народныя пачуцці.—Кулікоўскі шырока ўзмахваў даўгімі рукамі і пальцамі левай рукі, штохвіліны хапаўся за пенснэ. Пенснэ не падала, але ў Кулікоўскага была прывычка штохвіліны правяраць, ці трымаецца пенснэ. Гэтая прывычка была яшчэ і ад таго, што не ведаў ён, што рабіць з рукамі, якім не хапала прасторы.

— Дзівак ты, калега.

— Гэта чаму-ж дзівак?—спыніўся раптам Кулікоўскі і зняў пенснэ, ды так і стаяў, трымаючы іх кончыкам даўгіх і тонкіх пальцаў.—

Я прапаную пратэставаць, не дапусціць Пілацеяўскай лекцыі, якое-ж гэта дзівацтва?

— І ўсётакі вы, калега, дзівак. Лекцыю сваю Пілацеяў будзе чытаць. Не дапусціць лекцыі ў нас не будзе магчымасці.

— Тады як-жа?—Кулікоўскі шырока ўзмахнуў рукою, у растапыраных пальцах якой трымаў пенснэ.

— Значыць, маўчаць?

— І маўчаць не трэба.

— Ха-ха! Дзіўна! І не пратэставаць, і не маўчаць! Ха-ха! Вось гэта, калега, дык і ёсць дзівацтва, прабачце, але гэта так. Мяне гэта сапраўды дзівіць.

— Для такой катэгорыі інтэлігентаў, як ты, калега, усё маё будзе заўсёды дзівацтвам.—Буднік цяпер скінуў паліто і павесіў яго на этажэрку з кнігамі.—Ты, браток, прабач мяне, але я табе проста так і адпалю. Ёсць такая катэгорыя добрых людзей, паважаных інтэлігентаў. Паглядзець на іх звонку, паслухаць іх,—чыстае ўцелясненне дабра і справядлівасці. Але жывуць яны, такія людзі, не розумам, не глыбінямі волі. Добрыя людзі, сумленныя людзі, чулыя. Яны ў адзін момант могуць угневацца і стаць на момант выказнікамі народнага абурэння. Гэтак-жа ў адзін момант яны могуць узрадвацца, захапіўшыся добрай справай, але гэтак-жа лёгка, сустрэўшыся з перашкодай, яны робяцца бяссільнымі, бездапаможнымі. Залішне тонкія душы ў такіх інтэлігентаў. Мітусяцца яны ў жыцці, самі не ведаюць, чаго шукаюць. Гоняцца за многім, жывуць напружанасцю перажыванняў, якія, да ўсяго, вельмі хутка праходзяць і, дзякуючы гэтаму, не маюць цэльнасці. Соцыяльная міміка ў такіх людзей багатая, а фізіяноміі няма. Ты, браток, прабач, але ты задужа падобен да гэтае катэгорыі людзей. Вось што...

— Ну, гэта, ты, калега, не зусім праў!

— Як хочаш, але я ў гэтым пераконаны. Іменна з гэтай прычыны ты, калега, убачыў за адозвай гуртка славянафілаў толькі асквярненне чыстых парываў рускай народнай душы, хлусню, а трэба бачыць лоўкага штукара-жанглёра, які пачынае гуляць з такімі рэчамі, як народ, нацыя, вайна. За пафасам, за заслонаю прыгожых слоў пра еднасць веры і імкненняў славян, хаваецца грозны твар вайны. Вольнасць балканскіх славян Пілацеяў і славянафілы робяць сваім дэвізам для таго, каб парабаціць Турцыю.

Гаворачы Буднік хадзіў па пакоі ад сцяны да сцяны, стрымліваючы ў хадзе сваю ўзрушанасць. Час ад часу ён зусім спакойна падносіў да ілба шырокую далонь рукі і адкідаў ёю ўгару непаслухмяныя валасы.

— І нам трэба,—гаварыў ён,—пасля лекцыі Пілацеява выступіць і растлумачыць студэнцтву сутнасць Пілацеяўскіх намераў. Адразу пасля лекцыі выступлю апанентам я. За мной Лазурэвіч. Калі будзе магчымасць, яшчэ хто-небудзь з нас,—ён звярнуўся да астатніх прысутных.—Перашкодзіць Пілацеяўскай лекцыі мы не зможам. Але мы зможам хоць пару слоў сказаць пра тое, што і прафесарскі шавінізм, хоць ён і ў белых чысценькіх пальчатках, ён гэткі-ж брыдкі, як і шавінізм чорнасоценца, які арудуе дручком... Я думаю, што трэба дзейнічаць так.

— Можа быць, можа быць.—Кулікоўскі сеў у крэсла, шырока расставіўшы даўгія ногі, і на калена паклаў руку, у якой трымаў пенснэ.— Але не пашкодзіла-б хоць у якой форме выказаць свой пратэст і цяпер. Хоць-бы тым, што будуць сарваны ўсе афішы.

— Гэта не зусім сур'ёзна.

— Чаму-ж? Я пратэстую так, як можна.

— Але ў нас ёсць магчымасці куды большыя, чым такія. І ты, калега, гэтага ніяк не можаш не прызнаць.

Пасля гэтых слоў, сказаных Буднікам, хвілін пятнаццаць яшчэ вяліся гарачыя спрэчкі вакол меўшай быць публічнай лекцыі прафесара Пілацеява, пакуль усё было ўмоўлена. Тады госці пайшлі, а ў пакоі застаўся Буднік і Кулікоўскі. Трэба сказаць, што адносіны паміж імі былі выражэннем своеасаблівай дружбы. І хоць не было амаль ніводнага пытання, з-за якога не ўзнікалі-б паміж імі спрэчкі і хоць вельмі рэдка згаджаўся Буднік з поглядамі, якія выказваў Кулікоўскі, усё-ж ён надзвычай глыбока паважаў Кулікоўскага цаніў яго за тонкі розум, за ўласцівую яму глыбокую шчырасць у перакананнях. Цэнячы ў Кулікоўскім гэтыя якасці і ведаючы яго як надзвычай кволую натуру, Буднік ставіўся да друга вельмі беражліва і з гэтай прычыны заўжды пасля спрэчак з ім адчуваў сябе крыху вінаватым. Гэтак і цяпер. Як толькі засталіся яны ў пакоі ўдвох, Буднік падняўся з крэсла і падышоў да Кулікоўскага, які сядзеў моўчкі, барабанячы пальцамі па суседнім крэсле.

— Ну, ты, таго, не крыўдуй, што я раскрычаўся так. Такая ўжо мая натура неспакойная. Я ад таго крычу,—гаварыў ён, сарамліва чырванеючы,—што здорава люблю цябе, і мне крыўдна, калі ты са мной не згаджаешся, калі ты гаворыш не тое, што трэба.

—Гм!—Кулікоўскі ўзняў галаў і ўсміхнуўся.—А ты ўсур'ёз думаеш, што заўжды гаворыш тое, што трэба?..

— Уяві сабе, што так.—Буднік весела зарагатаў.—Такая ўжо, чорт яе, натура мая: усё я думаю, што праўда на маім баку.

— Ладна, думай так і наперад. Я дык за гэта цябе люблю.—Сказаў гэта Кулікоўскі і закашляўся. Тады вузкія і ледзь згорбленыя плечы ягоныя захадзілі дрыготкай.

— Ну вось, заўжды ты так. Пахвалюешся і ў кашаль. Лячыцца табе трэба. Я гэта сур'ёзна кажу, а не тое, дык яна, гэтая чортава кохава палачка, зусім цябе да зямлі прыгне. Заўтра-ж ідзі лячыцца, а цяпер ляж і адпачні, а я пайду.

Буднік надзеў паліто і пайшоў з пакоя на лесвіцу. Следам выйшаў і Кулікоўскі.

— Асцярожна ідзі,—папярэдзіў ён,—а то ў гэтай пякельнай цемры ногі паламаць можна.

— А ты ідзі хутчэй у пакой.

Яшчэ раз Буднік пацiснуў другу руку, ветліва ўсміхаючыся, і тады хуценька, намацваючы нагамі ступені лесвіцы, пайшоў уніз. Ужо як быў на другім паверсе, яшчэ раз пачуў папярэджанне Кулікоўскага, які згары крычаў аб асцярожнасці. Ён не спыняючыся штосьці крыкнуў угару і крокаў не суняў, а як сышоў з лесвіцы, пачаў насвістваць вясёлую студэнцкую песню. Так, заняты рознымі меркаваннямі, Буднік дайшоў да Універсітэцкай набярэжнай. Па набярэжнай і па-над цёмнашэрай, бліскучай паверхняй Нявы разгонна шпацыраваў злосны паўночна заходні вецер. Вецер гнаў над Пецербургам пухлыя, мутныя хмары. У змроках начы хмары абвісалі на зямлю і павольна сунуліся над камяніцамі горада. Дажджу не было. Вецер гулліва свістаў у дзівосных спляценнях жалезных парэнч на масце і з разгону шырока ўзмятаў над набярэжнай пясок і пыл. Ён зрываў з галавы ў Будніка шапку і шырока расхрыстываў крыссе паліто і сярдзіта рваў са сцен тэатральныя афішы. Буднік спыніўся каля афіш. Вялікімі сінімі літарамі з белага—афіша паведамляла, што чацвертага снежня тысяча дзевяцьсот дванаццатага года ў актавай залі універсітэта дэпутат

Дзяржаўнай думы, прафесар Пілацеяў прачытае публічную лекцыю на тэму пра мінулае і будучнасць балканскіх славян. Буднік доўга стаяў перад афішай. Вецер калыхаў над набережнай электрычны ліхтар, і ад гэтага вялізны цень Буднікаў гойдаўся на сцяне, закрываючы афішу. Буднік прыпомніў гаворку Кулікоўскага пра тое, каб пазрываць афішы.—„Дзівакі!"—сказаў ён сам да сябе і ўсміхнуўся. З гэтым прыпомніў, што абяцаў сёння быць на „Галадаі", і тады ўжо, не затрымліваючыся, пайшоў з набережнай у напрамку да трамвайнага прыпынку. А цераз некалькі дзён пасля гэтага ў універсітэце чытаў лекцыю прафесар і дэпутат Дзяржаўнай думы Пілацеяў.

Слухаць лекцыю прыйшлі і студэнты і шмат хто з вольных слухачоў горада. І калі ўжо зала была поўная, прыйшоў і адразу стаў каля трыбуны, пакланіўшыся аўдыторыі, сам прафесар. Быў ён нізкарослы і лысы, з пышнай русай барадой, якая шырока ляжала над прафесарскімі грудзьмі. Чорны фрак утульна сядзеў на шырокіх прыўзнятых прафесаравых плячах і з асаблівай сілай падкрэсліваў вуглаватасць ягонага складу. Прафесар стаяў, абапёршыся грудзьмі на трыбуну, трымаючы левую сваю руку на стале, які стаяў побач. Растапыраныя, кароткія і пухлыя белыя ягоныя пальцы выразна выдзяляліся на цёмназялёным аксамітавым абрусе, якім быў засланы стол. За сталом, тварам да лектара, абапёршыся локцем на стол, сядзеў адзін з прафесароў універсітэта. Зала момант маўчала, разглядаючы прафесара-лектара, а калі ён прыўзняў руку і, лёганька кашлянуўшы, пагладзіў рукою бараду, што паказвала на пачатак прамовы—у залі запляскалі. Калі воплескі сціхлі, прафесар загаварыў.

— Панове!..

Першае слова, кінутае прафесарам у залу, прагучэла ўжо ў поўнай цішыні. Такая непарушная цішыня была яшчэ хвілін пятнаццаць, пасля ў залі дзе-ні-дзе пачаліся ціхія гаворкі, зрэдку нясмелыя рэплікі прафесару і злоснае шыканне на адрас тых, хто рэплікамі выказваў нязгоду з думкай прафесара. Каб супакоіць аўдыторыю, універсітэцкі прафесар пазваніў, а прафесар-лектар змоўк і доўга піў са шклянкі ваду, а пасля доўга выціраў хустачкай вусы і губы. Пасля зноў гаварыў спакойна і разважліва, то падступаючы шчыльна да самай трыбуны, і тады над трыбунай можна было бачыць толькі гострыя вуглы шырокіх прафесаравых плячэй, ды яшчэ галаву і бараду, то адыходзячы з-за трыбуны ў прастору паміж ёю і сталом, і тады аўдыторыя магла разгледзець ледзь не квадратовую постаць прафесара.

— ...Прадбачанне магчымасці агульна-сялянскага аб'яднання выклікае абурэнне з боку нямецкіх палітыкаў. Германія—небяспечная для славянства сіла...

Прафесар доўга, разважліва і пераканаўча, як здавалася яму, гаварыў пра інтрыгі нямецкіх і аўстрыйскіх палітыкаў на Балканскім поўвостраве.

— Але,—прафесар, нібы для рэveранса, адвёў у бок правую руку і ледзь схінуў галаву,—іхным планам не ўдалося стаць рэальнасцю. Заслугай рускай грамадскай думкі было тое, што аўстрыйскі план, які пагражаў фактычна поўным эканамічным, а пасля і палітычным заваяваннем Балканскага поўвострава, быў раскрыты. Настрої рускага грамадства перадаліся нашай дыпламатыі, якая зразумела, што Аўстрыя мяркуе стварыць нешта накшталт Балканскай федэрацыі пад гегемоніяй Аўстра-Венгрыі. І вось тое, якімі вынікамі пагражала гэта рускім інтарэсам, зразумела ўрэшце і наша дыпламатыя. Тады,—прафесар адкашляўся і выпіў вады,—і ўзнікла ў Дзяржаўнай думе ідэя, якая супроцьстаўлялася аўстрыйскаму плану, ідэя чыгункі, якая-б злучала

Адрыатычнае мора з Дунаем. Тады і было вымаўлена адкрыта першае слова пра тое, што аўстрыец барон Эрэнталь сваімі планамі ў самай аснове разбурае мюрцштэгскую згоду. З гэтай пары пачалося паступовае вызваленне нашай міжнароднай палітыкі ад нямецкай указкі. З той-жа пары пачынаецца і фактычнае ажыццяўленне ідэі пра аб'ядананне балканскіх дзяржаў...

Прафесар гаварыў, часта спасылаючыся на свае выказванні па гэтым-жа пытанні, якія ён рабіў праз газеты і часопісі. Пры гэтым ён часта і самаздаволена, па асабліваму падкрэсліваючы гэтыя свае словы, паўтараў: „яшчэ ў тую пару мы прадбачылі“, „яшчэ тады мы гаварылі“ . А зала моўчкі слухала прафесараву прамову і зрэдку перакідвалася ў розных месцах ціхімі шэптамі. І толькі калі загаварыў прафесар пра балканскую вайну, зала пачала слухаць з больш напружанай увагай і ўзрушанасцю. Адчуваючы гэтую ўзрушанасць і ўвагу, прафесар пачаў гаварыць больш патэтычна. Узрушанасць аўдыторыі перадалася і яму. Ён цяпер часцей пераходзіў, гаворачы, з месца на месца, і правая яго рука ўсё часцей уздымалася ў паветра.

— ...З усіх народаў Еўропы народы Балканскага паўвострава, якія ў гэты час паспяхова вядуць барацьбу з Турцыяй за сваё вызваленне, з'яўляюцца найлепшымі нашымі саюзнікамі. Адзінства крыві,— прафесар у гэтым месцы гаварыў найбольш павольна, за кожным разам рассякаючы рукой паветра,—крэўнасць моў, адзінства веры і векавая абарона намі, рускімі, іхных інтарэсаў нарадзілі вялікі і святы саюз славянскіх народаў, які будзе ўзмацняцца ў блізкай і ў далёкай будучнасці. Славянскія народы памятаюць вялікую місію Расіі ў адносінах да Балгарыі і Сербіі. Такія справы запамятаць нельга. Вось чаму мы, рускія, так спакойна глядзім на тое, што Турцыя шукае сабе саюзнікаў супроць Расіі. Гэткія шуканні яна рабіла заўжды... Самым жыццёвым пытаннем на блізкім усходзе для нас, для Расіі, з'яўляецца пытанне вольнай дарогі для нашых караблёў. І з гэтай прычыны мы не можам, мы не маем права аднесціся абыякава да пытання, хто-ж будзе гаспадаром на Балканах.

У гэтым месцы прамова прафесара набыла яшчэ большую патэтычнасць.

— Перад намі суровае запытанне веку. Як мы, руская інтэлігенцыя, передавая руская мысль, павінны паставіцца ў адносінах да вялікай трагедыі, што адбываецца на Балканах? Ці можам мы, ці маем мы маральнае права быць спакойнымі сузіральнікамі канчатковай, быць можа, барацьбы прыгнечаных балканскіх народаў з чужаземнымі ўладарамі? Ці можа не гаворыць ужо нашаму сэрцу ўсведамленне братэрства па крыві і па веры і памяць аб тым, што зроблена нашымі продкамі для вызвалення румын, славян і грэкаў з-пад турэцкага векавога прыгнёту? Дзеля самазахавання і свайго спакою, мы не маем права,—цяпер прафесар ужо не гаварыў, а крычаў, падаўшыся ўсёй сваёй постаццю ўпрастору паміж трыбунай і сталом,—маўчаць і бяздзейнічаць, бачачы неістаўствы, бачачы пагалоўнае знішчэнне мужчын, жанчын і дзяцей аднае з намі веры, бачачы насмяянне над іхнымі трупамі, карціна якіх рэгортваецца перад нашымі вачыма штодзень пры чытанні газет... Свет павінен ведаць, што шматмільённае рускае сэрца б'ецца суладна з сэрцамі тых, хто геройскі, адважна рве ланцугі векавога турэцкага гнёту. У сваім геройскім святым змаганні за сваю незалежнасць нашы браты, памятаючы вялікую місію Расіі, глядзяць і сёння на нас з вялікай надзеяй...

Зала маўчала. А калі прафесар скончыў прамову, па зале пракацілася і хваля воплескаў і хваля кароткіх адрывістых гаворак, якія

сведчылі пра нездавальненне і нязгоду з прафесарам. Тым часам прафесар пакланіўся, ледзь схінуўшы ў бок да аўдыторыі галаву, адышоў ад трыбуны і сеў. Пасля падняўся, каб наліць сабе вады, напіўшыся, адкінуўся плячыма да крэсла і доўга, не спяшаючыся, выціраў насаткай успацелы квадратовы свой твар.

Зала галасна і ўзрушана гаманіла. У гомане падняўся з-за стала, з-за цёмна-сіняга аксаміта абруса прафесар, які, кіраваў лекцыяй, і абвясціў, што пасля перапынку выступяць некалькі чалавек апанентамі. Гэта выклікала вялікую зацікаўлевасць у аўдыторыі, і таму адразу-ж пасля званка зала зноў напоўнілася.

Буднік ішоў да трыбуны спакойна, не азіраючыся па баках, і зала з цікавасцю разглядала яго сотнямі пар вачэй. Праведзены ўважлівымі поглядамі ўсяе залы, ён прайшоў да самай трыбуны. Як ішоў, сустрэўся з дапытлівым поглядмм прафесара, які ўзіраўся ў ягоны твар, стараючыся наперад адгадаць, што нясе гэты юнак у сваіх мыслях.

Як і раней прафесар, Буднік, злёгку пакланіўшыся, стаў шчыльна да трыбуны, абапёршыся на яе грудзьмі, а левую руку гэтак-жа паклаў па мяккі цёмна-сіні аксаміт стала. Пасля шырокай далонню рукі адкінуў угару з ілба непаслухмяныя валасы і, як і прафесар, лёганька кашлянуў і кінуў з трыбуны ў залу лаканічнае і звычайнае: панове. І гэтак-жа, як і прафесар, гэта першае Буднікава слова прагучэла ў поўнай цішыні. І тады частка залы запляскала, зразумеўшы ягоную іронію, а другая злосна зашыкала на тых, што пляскалі, і ўзбуджана загаманіла. Дасягнуўшы свайго, Буднік у другі раз, ужо іншым голасам, кінуў у залу тое-ж „панове“, і яно прагучэла на гэты раз па-іншаму, зразу прыцішыўшы і воплескі і злоснае шыканне.

— Прафесар Пілацееў,—гаварыў Буднік,—з'яўляецца і дэпутатам Дзяржаўнай думы. Гэта абавязвае нас з асабліва вялікай увагай аднесціся да таго, што казаў паважаны Феакціст Антонавіч.

Зала зусім супакоілася і змоўкла.

— На працягу стагоддзяў, — гаварыў Буднік, — балканскія народы не мелі сіл, каб пазбавіцца ад цяжкага прыгнёту, каб дамагчыся сваёй незалежнасці, каб самім вырашаць свой лёс. Лёс гэтых шматмільённых народаў вырашаўся палітыкамі, уладарамі больш магутнае нацыі. На лёс гэтых народаў пасягалі многія. І ў выніку балканскае пытанне стала пытаннем вялікіх інтрыг еўрапейскай дыпламатыі, у прыватнасці інтрыг аўстрыйскіх і нямецкіх палітыкаў... А сёння на далёкіх Балканах вядзецца вайна, вайна з тысячамі і з дзесяткамі тысяч ахвяр, якімі плацяць балканскія народы за справу свайго нацыянальнага вызвалення...

Буднік гаварыў і дапытліва ўзіраўся ў залу. Там ён бачыў збянтэжаныя, здзіўленыя твары сваіх таварышоў. Яны ўважліва ўслухоўваліся ў словы ягонай прамовы і не разумелі, да чаго ён вядзе яе. Прамова была яўна не такой, якую павінен быў сказаць Буднік згодна ўмаўленню. І ўжо дапытлівымі і злоснымі поглядамі яны блукалі па ягоным твары, патрабуючы ад яго тлумачэнняў, а высокі і неспакойны Кулікоўскі, трымаючы ў пальцах пенснэ, вадзіў рукою ў паветры па-над галовамі таварышоў, пытаючы ў іх, як зразумець Будніка. А побач дама з маноклем уважліва, з ласкавай ухмылкай на твары, разглядала Будніка і заспакоеным голасам штосьці гаварыла то да свае суседкі злева, то да суседа, які сядзеў наперадзе ад яе. Яны слухалі яе і ў знак згоды лагодна ківалі галовамі.

Кулікоўскі, слухаючы іхную гаворку, крывіў нездаволена твар і злосна чмыхаў, павяртаючыся да суседкі плячыма.—Гм! чорт ведае што нясе... дзіўная рэч,—мармытаў ён, выказваючы сваё нездаваль-

ненне. А Буднік, вымавіўшы апошнія словы вонкава з вялікім пафасам, наўмысля на момант змоўк, каб праверыць уражанне, якое робіць яго прамова.

— Пра ўсё гэта,—сказаў Буднік пасля некалькіх секунд маўчання,— гаварыў нам паважаны прафесар і дэпутат Дзяржаўнай думы. І я не маю намеру спрачацца з прафесарам па гэтай часці ягонае лекцыі. Але...

І зала зноў змоўкла. Кулікоўскі паднёс да твару руку з пенснэ і трымаў яе перад вачыма, баючыся не пачуць, што скажа Буднік, а ягоная суседка, цяпер ужо ўгадваючы ў прамове студэнта нейкі хітры ход, збянтэжана аднесла ад вока руку з маноклем.

— Але, панове, — сказаў Буднік, — паважаны прафесар і дэпутат Дзяржаўнай думы Пілацееў, гаворачы пра вялікую гістарычную місію Расіі ў мінулым у адносінах да славян, румын і грэкаў, заклікаў рускую грамадскасць перастаць быць спакойнымі сузіральнікамі балканскіх падзей, заклікаў яе не маўчаць, а дзейнічаць... Расія, па словах паважанага прафесара і дэпутата Дзяржаўнай думы, павінна дзейнічаць. Расія павінна, гэта значыць, выкарыстаўшы момант, умяшацца ў вайну і адарваць ад Турцыі частку яе тэрыторыі, як гэта зрабіла Аўстрыя, захапіўшы ў свае рукі Боснію і Герцагавіну, як гэта зрабіла Італія, захапіўшы ў апошняй вайне Трыполі... Да такой іменна дзейнасці заклікае прафесар рускую грамадскую думку... Страшны, жудасны твар вайны выглядае з-за заслоны прыгожых прафесарскіх слоў. Яшчэ не параслі травою магілы рускіх салдат на палях Манчжурыі, а паважаны пан прафесар і дэпутат заклікае ўмяшацца ў новую вайну. Падыміце вышэй заслону, сатканую з прыгожых прафесарскіх слоў, і за ёю вы ўбачыце жудасную карціну новых дзесяткаў тысяч салдацкіх трупаў, новыя дзесяткі тысяч пакалечаных да тых, што напаілі крывёю Балканскі поўвостраў за нядоўгія месяцы вайны. За гэтай заслонай вы ўбачыце тысячныя натоўпы асірацелых і галодных жанчын і дзяцей...

З самых далёкіх куткоў зала адгукнулася воплескамі. Воплескі перакінуліся і на сярэдзіну залы. Хтосьці падняўся ў пярэдніх радах і, махаючы рукой з пальчаткай, крычаў, патрабуючы спыніць прамоўцу. Яго падтрымала яшчэ некалькі галасоў з розных месц залы. Тады з задніх месц зноўку запляскалі і закрычалі сваё, патрабуючы, каб пярэднія змоўклі. Зала захвалявалася, загаманіла, забурліла спрэчкамі. Прафесар, які кіраваў сходам, пачаў званіць, званіў настойліва, доўга. А ў агульным гомане, у крыках і шуме званка, гучэў малады і звычны Буднікаў голас.

— Ганьба! Ганьба, гаворым мы, бачачы, што пад вучонай тогай прафесара, уцелясненнем гуманнасці і справядлівасці крыецца мундзір ваяўнічага афіцэра, афіцэра-нацыяналіста, які, ратуючы за нацыянальнае вызваленне балканскіх славян, заклікае грамадскасць да нацыянальнай нянавісці да аўстрыйцаў і турак. Нарумянены, падсалоджаны патэтычнымі словамі пра дэмакратыю і свабоду, пра крэўнасць славян, пра адзінства веры і іхных імкненняў, прафесарскі шавінізм яшчэ больш прыкры, яшчэ больш брудны, чым голы, нічым не прыкрыты шавінізм палітыкаў-чорнасоценцаў... Мана! Усё гэта мана, прафесар! Дзе ёсць шавінізм, там няма дэмакратыі, там няма свабоды!..

І калі, скончыўшы прамову, Буднік пашоў ад трыбуны ў залу, зала адгукнулася воплескамі і крыкамі. З пярэдніх месц падняўся рослы, вусаты мужчына ў штацкім. Ён доўга стаяў з разведзенымі ў бакі рукамі, чакаючы, калі змоўкне зала, а пасля, не дачакаўшыся гэтага, крыкнуў, звяртаючыся да аўдыторыі, у якой знік прамоўца.

— Ды як вы смелі?.. Якая нахабнасць. Хто даў вам права зневажацьі..

— Ганьба!—закрычалі з залы.—Ганьба!

— Правільна!—і зноў у розных месцах нядружна запляскалі.

За сталом падняўся прафесар, які вёў лекцыю, і абвясціў, што студэнт Буднік трымаў сябе недапусціма і што другія апаненты слова атрымаюць толькі ў тым выпадку, калі будуць трымаць сябе дастойна і гаварыць па тэме лекцыі. І следам за гэтым ён папрасіў прабачэння ў прафесара Пілацеява за прамову Будніка. Калі зала крыху супакоілася, ён даў слова наступнаму апаненту Лазурэвічу, але абарваў ягоную прамову ў самым пачатку. Лазурэвіч пастаяў хвіліну каля трыбуны, спрабуючы гаварыць, але голас ягоны губіўся ў агульным гомане, і, махнуўшы рукой, штосьці крыкнуўшы ў залу, чаго не зразумелі, ён пайшоў назад у залу. З свайго месца падняўся высокі, танклявы Кулікоўскі і, трымаючы над сабою руку з пенснэ, пачаў пратэставаць, патрабуючы выслухаць апанентаў. Яго ніхто не слухаў і ён, гэтак-жа, як і Лазурэвіч, безнадзейна махнуў рукой і сеў на месца. Тым часам прафесар Пілацееў падняўся з крэсла, штосьці спяшаючыся сказаў да аўдыторыі і пайшоў у суседні, з актавай залай, пакой. Старшыня абвясціў вечар скончаным. Тады пайшлі з залы і слухачы, пайшлі з гоманам, горача спрачаючыся, гулкімі струменнямі разліўшыся па даўгіх калідорах, выносячы гоман і запальчывыя спрэчкі ў цішыню вуліцы.

Каля самых дзвярэй на вуліцу Кулікоўскі дагнаў Будніка. Шырока ўсміхаючыся, прытрымліваючы левай рукой пенснэ, ён доўга паціскаў Буднікаву руку.

— Ну гэ-та, калега, здорава выйшла. Я нават не чакаў. Ты, ч-чорт, так хітра пачаў, што ніхто не спадзяваўся пачуць таго, што пасля пачулі... Брава, калега. Сёння-ж я пастараюся забегчы да цябе і паталкаваць... Брава... А цяпер іду вось тут, непадалёк...

Кулікоўскі кіўнуў галавою і знік, а Буднік яшчэ пастаяў на вуліцы колькі хвілін з сябрамі, пасля развітаўся з імі і пайшоў да сябе на кватэру.

Пасля шумнай, вялікай, асветленай залы універсітэта, маленькі пакой здаўся незвычайна цесным. Пяць крокаў ад дзвярэй да стала і кніжнай этажэркі. Два крокі ад крэсла да ложка. Цесна і няўтульна. Буднік падышоў да вакна і спыніўся каля яго, узіраючыся ў далячынь за раку, у раскіданыя ў беспарадку шматлікія агні вялікага горада. Агні па незвычайнаму іскрыліся за абледзянелымі шыбамі вакна. У вушах ўсё яшчэ жыў гоман актавай залы. Здавалася, што ў вуліцы ўнізе пад вокнамі ідзе шумны натоўп студэнтаў. Захацелася пайсці на вуліцу. Але гадзіннік паказваў на палову дванаццатай ночы. Блуканне па вуліцы было-б бескарысным. Адчувалася стомленасць у нагах і, прыслухаўшыся да яе, Буднік сеў. Але калі сеў, неўзаметку падкраўся сон. Ужо ў напаўсне ён распрануўся і лёг. А ноччу прачнуўся, як застукалі ў дзверы. Буднік прахапіўся і, не разумеючы, колькі ён спаў, парашыў, што стукае Кулікоўскі. Ён падхапіўся з ложка і ўключыў святло. Тады здзівіўся, зірнуўшы на гадзіннік. Было чатыры гадзіны ночы. У дзверы зноў пастукалі.

— Адчыніце!

Нехта незнаёмы закашляў за дзвярыма і паціху загаварыў. Буднік зразумеў, што за дзвярыма хтосьці не адзін.

— Адчыніце!—Патрабаванне паўтарылася ўжо голасам больш настойлівым.—Вам тэрміновая тэлеграма.

„Паліцыя"—зразумеў Буднік і ўважліва агледзеў пакой, стараючыся прыпомніць, ці няма ў пакоі чаго-небудзь недазволенага. Пэмяць працавала напружана і хутка. Супакоены, ён моўчкі адамкнуў дзверы і адышоў да ложка. У пакой зайшло двое. Жандарм пацiху прычыніў дзверы і застаўся стаяць каля іх, а другі, прывітаўшся, абвясціў, што зробіць вобыск. Пакуль ён пераглядаў паперы ў стале і кніжкі, якія перакладаў з этажэркі на стол, Буднік апрануўся і стаў побач з ім. Калі афіцэр перайшоў да ложка, Буднік зноўку паставіў кніжкі на этажэрку.

— Пане жандармскі афіцэр,—сказаў ён,—вы дарэмна шукаеце. Нічога недазволенага ў мяне няма. Ні ў чым злачынным я не замешаны.

— Гм... Я буду рад, калі гэта так,—адказаў афіцэр.—Пакажыце вашы чамаданы.

— Будзьце ласкавы.

Нічога не знайшоў афіцэр і ў чамаданах. Скончыўшы пошукі, ён зноў падышоў да стала і напісаў пратакол вобыска.

— Падпішыце.

— Але вы не маеце права забіраць гэтых кніг. Яны цэнзураю не забаронены.

— Маркса і Ласаля я забяру. Калі яны будуць нам не патрэбны, мы іх аддадзім вам. Так... А цяпер зрабіце ласку, збярыцеся. Вы на некалькі хвілін пройдзеце з намі ў аддзяленне, каб даць такія-сякія паказанні. Калі ласка...

— Гм... а можа гэта на некалькі дзён? ці тыдняў?

— Не, усяго на некалькі хвілін.

— Тады я гатовы ісці,—сказаў ён, апранаючы паліто.

— Вам напэўна давядзецца ў аддзяленні перачакаць. Не палянуйцеся, калі ласка, узяць з сабою мыла і рушнік...

— Та-а-к... дзякую...

— Ну, хадзем. Ключ ад вашага пакоя я перадам гаспадыні. Яна папярэджана і чакае нас...

Ён кіўнуў галавою, і жандарм адчыніў дзверы. У дзверы афіцэр першым прапусціў Будніка, а сам пайшоў следам за ім і следам-жа пайшоў жандарм з вінтоўкаю. Унізе ў калідоры яны на хвіліну спыніліся. Афіцэр панёс гаспадыні ключ, а жандарм стаяў каля дзвярэй і шырока, смачна пазяхаючы, сплюскаў вочы.

Калі выйшлі на вуліцу, афіцэр пайшоў з боку, прапускаючы наперад ад сябе Будніка, а жандарм выняў з кабура рэвальвер і пайшоў следам за арыштаваным. Вуліца ў гэтую пару была маўклівая. Пад нагамі паскрыпваў умерзлы снег. Ад гэтага холад здаваўся яшчэ большым, і Буднік наставіў каўнер ды глыбока схаваў у кішэні паліто схаладзелыя рукі. Каб сагрэцца, ён шырока крочыў па самай сярэдзіне вуліцы і час ад часу ўсміхаючыся пагдядаў, як паспяшае за ім, часта тупаючы нагамі, жандармскі афіцэр. А ззаду, за плячыма ў яго чуўся неадчэпны рытмічны скрып цяжкіх і ўпэўненых крокаў жандарма.

## ПАДЗЕЯ ДРУГАЯ

Назаўтра Кулікоўскі за ўвесь дзень аніводнага разу не ўбачыў Будніка, аднак не надаў гэтаму значэння. Але калі не спаткаў Будніка і яшчэ на працягу трох дзён, гэта яго сур'ёзна здзівіла, і ўвечары на трэці дзень ён пайшоў да Будніка на кватэру. Пакой, які займаў Буднік, быў замкнёны, і Кулікоўскі адразу-ж вярнуўся дадому. Назаўтра прыехаў да Будніка з самага ранку. Як і ўчора, пакой зноў быў замкнёны. Думаючы, што Буднік спіць, Кулікоўскі пачаў стукаць у дзверы.

Стукаў доўга і настойліва, але з пакоя ніхто не абзываўся. Гэта ўсур'ёз ужо ўстрывожыла яго, і ён, пабразгаўшы яшчэ хвіліны дзве дзвярыма, пабег уніз да гаспадыні. Ад яе і даведаўся, што Будніка арыштавалі ноччу яшчэ чатыры дні таму назад. Пасля гэтага Кулікоўскі адразу кінуўся ў універсітэт і там ужо дазнаўся, што ноччу, пасля лекцыі Пілацеява, арыштавалі яшчэ трох студэнтаў. Бязмерна ўсхваляваны ён уварваўся ў аўдыторыю ў час прафесарскай лекцыі па матэматыцы і пачаў патрабаваць, каб студэнцтва пратэставала супроць арышта і патрабавала вызвалення арыштаваных. Ягоная ўсхваляванасць адразу перадалася і студэнтам. Тыя з студэнтаў, што прысутнічалі на лекцыі, падтрымалі яго прапанову і вылучылі дэлегацыю з пяці чалавек, якім даручана было перагаварыць з рэктарам універсітэта. А ў час перапынку паміж лекцыямі настрой матэматычнае аўдыторыі перадаўся іншым. Пераважная большасць студэнтаў была шчыра абурана арыштамі і ўхваліла ініцыятыву матэматыкаў у справе пасылкі дэлегацыі да рэктара. Пасля рэктара было вырашана пасланць запытанне аб арыштах у дэпартамант паліцыі.

Калі дэлегацыя прыйшла да рэктара універсітэта, ён страшэнна здзівіўся, але дэлегацыю прыняў і выслухаў яе запытанне. Пасля зусім спакойна сказаў, што пра арышты ён ведае, але зусім не ведае, з якой яны прычыны зроблены.

— Гэтым я зусім не цікавіўся і не цікаўлюся,—сказаў ён.—Паліцыя ведае, за што арыштоўвае. Гэта яе справа.

— Але як-жа так?—Кулікоўскі першы пачаў спрэчкі з рэктарам.—Іх арыштавалі пасля лекцыі пана дэпутата думы Пілацеява. Гэта дае нам права думаць, што ў прыватнасці Буднік арыштаваны за тое, што асмеліўся апаніраваць пану дэпутату думы.—Высокі, танклявы ён стаяў перад рэктарскім сталом, крыху сагнуўшыся, абапёршыся правай рукой на край стала. Левай штохвілінна прабаваў, ці не ападае пенснэ.—Студэнты абураны. Студэнты патрабуюць тлумачэнняў. Мы просім вас даведацца аб прычынах арышта і паведаміць нам.

Рэктар, сівы, нізкарослы стары спакойна сядзеў, абапёршыся локцямі аб ручкі крэсла, і знізу пазіраў у твар Кулікоўскаму.

— Не!—рэктар адмоўна заківаў галавой.—Я гэтага рабіць не буду.

— Але мы вас просім, студэнты патрабуюць гэтага.

— А я зрабіць нічога не магу. Не буду. Універсітэт—не дэпартамент паліцыі і не жандармскае аддзяленне. Да ніякіх арыштаў мне аніякае справы няма.—Ён прыўзняўся з крэсла і зірнуў на гадзіннік.—Я, панове, сказаў вам усё, што мог. Прабачце, бывайце...

Кулікоўскі збіраўся яшчэ нешта гаварыць, але нічога не сказаў, а замест гэтага зняў пенснэ і пачаў праціраць шкелцы, доўга хукаючы на іх. Яшчэ адзін момант дэлегацыя нерухома стаяла супроць рэктарскага стала, мяркуючы, што рабіць. Тады адзін з дэлегатаў сказаў:

— Мы вымушаны будзем самі паслаць запытанне ў дэпартамент паліцыі.

Рэктар пацicнуў плячыма.

— Як хочаце, панове. Гэта ваша справа. Але я не рэкамандаваўбы рабіць гэтага.—Ён хвіліну памаўчаў, а пасля яшчэ раз сказаў:—Так, я вельмі не раіў-бы рабіць гэтага, панове...

З рэктарскага габінета дэлегацыя вышла незадаволенай. Тут-жа ў калідоры было вырашана неадкладна напісаць запытанне ў дэпартамент паліцыі, якое падпішуць ад імя студэнцтва ўсе ўдзельнікі дэлегацыі. Так і было зроблена. На другі дзень запытанне было адаслана на адрас, і студэнты, чакаючы адказу, заспакоіліся...

Прайшло некалькі дзён. Адказу з дэпартамента паліцыі не было. Не прыйшоў адказ і яшчэ цераз тыдзень. Тым часам першая і самая моцная хваля абурэння, выкліканая арыштамі, улеглася, і пераважная большасць студэнтаў, да якіх звяртаўся Кулікоўскі з прапановаю зноўку пачаць справу з пратэстамі, безнадзейна махала ў адказ яму рукамі і раіла спакойна чакаць канца справы арыштаваных. Кулікоўскі злаваў, нерваваўся і адыходзіў ад сяброў і знаёмых, кідаючы на іхні адрас самыя зняважлівыя, абразлівыя словы. І з тым, як праходзіў час, ён усё больш і больш замыкаўся ў сабе. Сябры, ведаючы пра ягоныя адносіны з Буднікам і, такім чынам, разумеючы прычыны ягонай нервовасці, на зняваґі не адказвалі, але і не падтрымлівалі яго ў гутарках пра арышты, усяляк ухіляючыся ад такіх гутарак. А яшчэ прыблізна цераз чатыры з паловаю месяцы ў універсітэце стала вядома, што арыштаваных пасылаюць у далёкія губерні на жыхарства ў прыпісных месцах.

Паведамленне пра лёс арыштаваных калеґ зрабіла цяжкае ўражанне на студэнтаў, якія ведалі арыштаваных, але такога абурэння, як самы арышт, яно не выклікала. Кулікоўскага-ж яно зусім выбіла з калеі, а пасіўнасць, з якой сустрэлі гэтае паведамленне студэнты, з асаблівай сілай уразіла яго і пакрыўдзіла.

Увесь той дзень Кулікоўскі праблукаў па горадзе. Прыпамінаючы адрас, ён заходзіў па дарозе да знаёмых. Прыходзіў, пачынаў якую-небудзь гутарку, пасля раптам абрываў гутарку, спяшаючыся збіраўся і, папрасіўшы прабачэння, зноў ішоў на вуліцу. Вуліцаю ён то ішоў спяшаючыся, спрытна абмінаючы пешаходаў, то сцішаў хаду, і тады павольна, разгублена рушыў тратуарам, блытаючыся між людзьмі, сутыкаўся з сустрэчнымі, не ўмеючы размінуцца з імі, і яшчэ больш нерваваўся і злаваў. Часам ён спыняўся перад шырокімі вокнамі кніжных вітрын і, забыўшыся, доўга стаяў перад імі, упёршы погляд у рознакаляровасць вокладак і шрыфтоў, не разумеючы, што яму трэба, не ўмеючы зразумець сэнсу напісанага на вокладках кніг. Часам пазнаўшы ў натоўпе сустрэчных выпадкова знаёмы, бачаны дзесці раней твар, ён вітаўся і падаваў незнаёмаму руку. Той на момант спыняўся, гэтак-жа кланяўся і падаваў руку Кулікоўскаму, углядаючыся ў яго твар, і,не пазнаўшы, прасіў у яго прабачэння і спяшаўся пайсці. Тады, здзіўлена паціскаючы плячыма і сканфужана ўсміхаючыся, ішоў спяшаючыся і Кулікоўскі, злуючы на сябе за такую разгубленасць.

У свой пакой ён прыйшоў тады, як змерклася. Прыйшоў зусім стомлены, але не лёг адпачываць, а, не запальваючы святла, доўга блукаў па пакоі з кута ў кут і спыняўся толькі, каб адкашляцца і абцерці хустачкай твар, які пры кашлі пакрываўся кроплямі поту.

Цераз нейкі час, зусім ужо стаміўшыся, ён уключыў святло і сеў да стала. Пачаў штосьці пісаць. Але пісаць было, відаць, цяжка, і ён адкінуў ручку ды пачаў кудлачыць валасы сваімі доўгімі танклявымі пальцамі. Цяжкія неадчэпныя думы не давалі спакою. Было жаданне пазбавіцца ад іх, вызваліцца ад іхнае ўлады. Заплюшчыўшы вочы, ён выцягваў пад сталом на ўсю даўжыню ногі, клаў сабе на патыліцу рукі, сашчэпленыя ў пальцах, і сядзеў так нерухома, сілячыся задрамаць. Але сон не прыходзіў. Наадварот. Мыслі, ад якіх ён хацеў пазбавіцца, ішлі цяпер не хаатычна, як да гэтага, а ў строгім лагічным парадку, набываючы сэнс канечне патрэбнага, няўхільнага.

За вакном не змаўкаў роўны, прыглушаны гоман горада. У гэты гоман штохвілінна ўрываліся крыклівыя галасы сірэн аўто і прарэзлівыя званкі трамваяў. Ён наўмысля стараўся канцэнтраваць свае мыслі на гэтым, і абуджаная свядомасць, адведзеная на момант знойдзенай

сілай волі ў бок ад звычайнае свае сцежкі, накрэслівала ў выбражэнні ломаную гукаў, якімі жыве горад. Чапляючыся мыслямі за ўсё выпадковае, Кулікоўскі імкнуўся адцягнуць увагу ад галоўнага, чым жыў ужо некалькі тыдняў.

Раптам усхапіўшыся з крэсла, ён падышоў да вакна і з разгону штурхануў далонямі рамы. Вакно расчынілася на ўсю шырыню, і пакой зразу напоўніўся і вільготнай прахалодай красавіка, і іскрыстымі плямамі далёкіх і блізкіх гарадскіх агнёў, і густа сплеценай, багатай гамай гукаў каменнага горада, і надакучлівым, які рэжа вушы, крыкам галак, што спыніліся на нач на дрэвах у бліжэйшым скверы. Сквер зусім блізка. Голыя, яшчэ без зеляніны, высокія дрэвы роўнай сцяной стаяць побач з суседнімі камяніцамі. Пасля і гэта стала прывычным. Гукі нараджаліся і знікалі. Знізу даходзіў шоргат шматлікіх ног. Шэрымі ценямі ішлі бесперапынна ў адзін і ў другі бок пешаходы. З лёгкім, ледзь чутным, прысвістам імчаліся па асфальтавай вуліцы аўтамабілі. Лёгшы грудзьмі на падваконнік, пазіраў Кулікоўскі ўніз. Шэрыя цені ўнізе бязмэтна споўдаліся ў адзін і ў другі бок. Ён уявіў сябе паміж імі.—„Нашто я там? Што я там буду рабіць? Каму з іх патрэбен я?“—І раптоўна зачыніў вакно.—„А тут? Каму-ж я патрэбен тут?“—Павольна павярнуў галаву і азірнуўся наўкола сябе ў пакоі. У самым далёкім куце белая, і халодная ў сваёй бялізне, печ, каля сцяны ложак, стол, этажэркі з кнігамі, а вакол чатыры сцяны і над імі—мерцвяна-белая столь. Пакой палохаў пустэчай і маўклівасцю. Тады ён зноўку стаў ля вакна, абапёршыся рукамі на падваконнік. Узяў папяросу і, бяручы, доўга здзіўлена пазіраў, як дрыжыць рука. З гэтай прычыны запамятаў на папяросу і не закурыў, а нерухома стаяў каля вакна, углядаючыся ў далячынь над горадам. Там цэлае мора палымнеючых зыркіх агнёў. За імі патануўшая ў цемры далячынь, бязмернасць расійскіх прастораў. Што там? Што ў той далячыні, дзе мяжуе з цемрай замкнутае кальцо пецербургскіх агнёў?

Расія! Вялікая расійская зямля. А на ёй, як лішай, як кароста, струп'я саламяных расійскіх вёсак. Расія! Апаясаная вузкімі паскамі грузкіх, бясконцых вясковых дарог, згубленая ў прасторах, лясных, балотных і стэпавых, блукае яна ў поцемках. Расія! Сярод неабдымна вялікіх багаццяў зямлі, на ўсіх скрыжаваннях дарог, дзе пахіленыя ў маху крыжы, яна, апранутая ў пачаснае, абвешаная жабрацкімі торбамі, палахлівая і згорбленая стаіць з працягнутай рукой і, азіраючыся па баках, хаваючы ў схіленых да зямлі вачах і халопскую жывёльную пакорлівасць і непамерна вялікую, узгадаваную ў крыві злосць, і нянавісць, нізка згінаецца, б'ючы паклоны багатаму купцу і расійскаму дваравіну, ураднікуі станавому, земскаму начальніку і прыставу і багатаму мужыку-міраеду.

Ты и могучая, ты и бессильная,
Матушка Русь...

А ўнізе бесперастанку, шоргаючы нагамі па каменным тратуары, усё гэтак-жа не спяшаючыся, споўдаліся шэрыя цені. І Кулікоўскаму захацелася зноўку адчыніць акно і адсюль, з пятага паверха крыкнуць уніз да людзей нешта крыўднае і абразлівае.—„Нішто нашае не патрэбна ім. Нікому...“—Знерваваны, ён крута ірвануўся і пайшоў да стала. Яшчэ стоячы, узяў ручку, але ў момант адкінуў яе і, таропка схапіўшы паліто, пайшоў з пакоя. З калідора, спяшаючыся, замкнуў за сабою дзверы, як бы ўцякаў ад каго. Ключ па-незвычайнаму дзынкнуў у замку, і гэта неяк абрадавала. Рад быў, што пайшоў з пакоя. Цяпер адчуў, што вельмі моцна хвалюецца. Слухаючы, як б'ецца

сэрца, доўга стаяў каля дзвярэй, слухаючы цішыню, якая засталася за дзвярыма. Пасля паціху, спатыкаючыся, пайшоў уніз. На тратуары густы струмень пешаходаў захапіў яго, павёў за сабою. Маўклівы, разгублены, ён ішоў за натоўпам, аж пакуль не апынуўся ў вуліцы паміж звонкім трамвайным вагонам і крыклівым аўто. Тады завярнуўся і пайшоў назад, усё гэтак-жа механічна перастаўляючы ногі следам за другімі. Параўняўшыся з домам, у якім жыў, не спыніўся, хоць было такое жаданне, а, спяшаючыся, пайшоў да сябе ў пакой. Як і раней, ідучы на вуліцу, ён замкнуў за сабою дзверы і, не скідаючы паліто (было пасля вуліцы халаднавата), сеў да стала. Спяшаючыся, узяў са стала ручку і на кавалку паперы, які ляжаў на стале, пачаў пісаць.

„Яшчэ ўчора я на шмат што спадзяваўся, я ў шмат што верыў. І хоць дарога была згублена, я ішоў вобмацкам, спадзяючыся знайсці яе і сустрэць на ёй сваіх, каму дораг святошны дзень рэволюцыі. Але замест дарогі—сцяна. Глухая сцяна. Куды ісці цяпер? Назад? Шукаць іншых дарог? Ці можа спыніцца і ладзіць жыццё каля сцяны, спадзяючыся, што некалі выгляне сонца і абагрэе? Гэтага я не хачу, а іншых дарог не бачу, няма іх.

„Я хацеў, каб скончыліся буднія дні на зямлі. Я хацеў, каб заўтрашні дзень быў запісаны ў календар чырвонай, святошнай фарбай. Але я гартаю listkі календара і бачу толькі чорныя фарбы. Але перада мною глухая сцяна і сытая нянавісная морда ротмістра.

„За сцяной здань далёкай галоднай, змучанай голадам Расіі. Сцяны мы ніколі не разбурым, бо ніколі мы не зможам сабраць патрэбных сіл, бо мала нас і мы разбрыліся адзінкамі, кожны ў сваё.

„Баязліўцы! Гэта мы, мы інтэлігенты, а не хто іншы, вінаваты ў тым, што кожны дзень, кожная хвіліна рускага жыцця, цяжкога і жудаснага, кладзецца на душу цяжкой каменнай глыбай. Глыба гэта душыць нас. Прыціснутыя ёю да самай зямлі, мы страцілі сваю волю і смеласць. Усё для нас стала абыякавым, і мы маўчым, хоць і бачым, што ўсё вакол нас, самае лепшае, што жыло ў народзе, забруджана, затоптана ў гразь наваксованым ботам ротмістра. Мы страцілі нават сілу пратэставаць.

Усё і назаўсёды страчана намі. Вось чаму мэты высокія сталі для нас, для нашага пакалення, зусім недасяжнымі. Вось чаму ўстала перад намі, аддзяліўшы нас ад Расіі, глухая сцяна. Услухайцеся! Калі вы не зусім яшчэ сталі глухімі, вы пачуеце, як змучаная, скрываўленая, галодная Расія б'ецца ў перадсмяротных сударгах і праклінае нас. Я не хачу слухаць гэтых праклёнаў і таму я іду ад вас, баязліўцы! Лепш там, чым жыць каля сцяны. Я буду рабіць тое, на што маю яшчэ сілы. Я буду пратэставаць сваёю смерцю...“

Падняўшыся з-за стала, Куліkоўскі скінуў паліто, шыбануў ад сябе на ложак, а тады склаў напісанае невялікім пакетам, сунуў сабе ў кішэнь і пайшоў да вакна. З разгону адчыніў вакно на ўсю шырыню, спяшаючыся, узлез на падваконнік і, каб не думаць, каб не даць часу развагам, кінуўся ўніз.

Падаў Кулікоўскі з разгону і плашмя, грудзьмі, падкурчыўшы пад галаву рукі, лёг на бруку непадалёку ад тратуара. Залюдненая, гулячая ў такую пару, вуліца, палахліва шарахнулася ў бок, ускрыкнула і з гоманам стаўпілася каля акрываўленага трупа. Штурхаючы друг дружку, каб зірнуць на труп, упарта лезлі людзі ў натоўп. Лезлі і злосна крычалі друг на дружку.

А з боку падыходзілі яшчэ і, дагадваючыся ў чым справа, станавіліся на цыпачкі, каб зазірнуць у сярэдзіну натоўпа і, звяртаючыся да суседзяў, пыталі:

— Хто ён?
— Жывы?
— Беспрацоўны?
— Студэнт?

На запытанне ніхто не адказваў, і яны яшчэ больш упарта, працуючы локцямі, лезлі ў натоўп.

З перакрыжавання вуліц, змецíўшы суетлівы натоўп, пайшоў паліцэйскі. Ён ішоў, падняўшы ўгару руку, і натоўп пакорліва расступіўся да самай сярэдзіны, адразу зноўку замкнуўшы за паліцэйскім круг. Паліцэйскі нагнуўся над трупам, крануў яго, ці жывы, і пайшоў да тэлефона. А праз сем хвілін яшчэ труп падабрала больнічная карэта. Тады натоўп, крыху ўсхваляваны, разышоўся, шпацыруючы па тратуарах, а вуліца зноўку жыла, як і да гэтага, шоргатам ног, аганькамі, сірэнамі і шыпячым свістам аўтамабіляў, крыклівымі галасамі рамізнікаў і цокатам конскіх капытоў, і цераз хвіліну ўжо нельга было дазнацца, што на запыленым, схаваным у поўзмроку бруку, ляжаў яшчэ зусім нядаўна труп чалавека.

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Раніцою назаўтра Будніка выклікалі з камеры да начальніка турмы а той абвясціў, што ён вызваляецца і павінен неадкладна на працягу дваццаці чатырох гадзін выехаць у адну з губерань паўночна-заходняга краю для жыхарства ў прыпісным месцы.

Вышаўшы з турмы, Буднік у першым-жа кіоску купіў паперы і, напісаўшы на ёй некалькі слоў, заспяшаў у горад. У горадзе ён не пайшоў адразу да сябе на кватэру, а накіраваўся на пляц, што каля Ісакіеўскага сабора, дзе сустрэўся з хлапчуком-газетчыкам. Аддаўшы хлапчуку запіску, ён зноў такі не пайшоў на сваю кватэру, а накіраваўся, ў публічную бібліятэку, спадзяючыся спаткаць там патрэбнага яму чалавека.

У бібліятэцы Будніку напаткаць таго, каго ён шукаў, не давялося. Але затое адразу-ж, прыехаўшы туды, ён дазнаўся пра смерць Кулікоўскага.

— Як так?—не верачы, пытаў ён і пасля доўга стаяў на месцы, разгублена блукаючы поглядам па тварах таварышоў. І адразу ўсплываў перад вачыма жывы, цёплы вобраз Кулікоўскага, высокага, танклявага, па-незвычайнаму рухавага чалавека. Вось ён, такі прыкметны, сваім ростам, стаіць сярод таварышоў і, штохвілінна здымаючы пенснэ, шырока махае над галовамі сваімі рукамі і гаворыць горача, пераканаўча.—Як-жа так?—зноў пытаў збянтэжаны Буднік.—Чаму-ж не дагледзелі? Няўжо нічога нельга было заўважыць?—І ўсё яшчэ не верачы ў праўду гэтай, зусім нечаканай і недарэчнай навіны, Буднік з бібліятэкі пайшоў на кватэру да Кулікоўскага. Калі, задыхаўшыся ад хадзьбы, ён за хвіліну падняўся на пяты паверх і стаў перад дзвярыма пакоя, у якім жыў Кулікоўскі, пакой мылі. Сагнуўшыся над вядром з вадою, выкручвала анучу жанчына, круглатварая, шыракаплечая, стоячы на падлозе шырокімі ступнямі белых ног. Яна здзіўлена зірнула на Будніка і выпрасталася. Трымаючы ў руках анучу, якой мерылася збіраць з падлогі ваду, яна сказала:

— Вы, пэўна, да пана студэнта прыйшлі? Вы, пэўна, нічога яшчэ не ведаеце? Пан студэнт наш гэтай ноччу выкінуўся з вакна і разбіўся. Паднялі ў карэту ўжо зусім нежывога... Божа мой,—сказала яна ўсхвалявана.—Ён-жа такі худы быў і кволы, што, здаецца, каб на зямлі спаткнуўся ды ўпаў, дык і то разбіўся-б, не то што з такой вышыні...

— А ў мяне лішне дабра, ці што? Навошта-ж ён мне? Дзяцей няньчыць, дык у мяне і сваіх нянек хапае, во што. А карміць яго з нейкай ласкі мне няма ніякай рацыі.

— А як-жа яму жыць?

— А я-ж адкуль ведаю, як яму жыць? Дабро-ж у яго нейкае было, мне-ж ён яго не пакінуў...

— Чаўпеш ты немаведама што.

— Во і ты-ж чаўпеш. Паехалі, дабро ўзялі. Нейдзе там скалечыўся, на каго робячы, а я вінен, выходзіць. То дзякую табе за ласку, во што я табе скажу.

— Ат, каб не казаць дрэннага слова, не чалавек ты, Мікіта, душы не маеш чалавечай, братавай...—Тарэнта безнадзейна махнуў рукой, і пайшоў на свой двор, а Мікіта пайшоў у гумно.

З гэтай пары і ўсталяваліся паміж братамі суседскія адносіны, якіх жадаў Мікіта. Пачалі яны жыць кожны сам сабе на сваім двары. Тарэнту такія адносіны звязвалі неяк па руках, ніякавата яму было, калі даводзілася сустрэць Мікіту. А Мікіта акурат гэтага і чакаў і таму рад быў, што ўсё ў іхных адносінах ясным стала, дагавораным да канца, што няма чаго больш у гаворках з братам прыкідвацца, прытварацца. Ты сабе жыві, а я сабе жыць буду як умею,—так сфармуляваў ён гэтыя адносіны. Пакуль не было такіх адносін, Мікіту браты ў цяжар былі. Прыдзе чаго ў хату Тарэнта, няёмка за стол яго не пасадзіць, і хоць не хацеў, а за стол садзіў. Прыдзе чаго папрасіць, пазычыць, ніяк нельга яму ў тым адмовіць. Пазычаў, а сам аж мучыўся, бо хто-ж яго ведае, як з яго пасля возьмеш тое пазычанае дабро, як з ім пасля лічыцца. Крэўнасць перашкаджала. А цяпер пагаварылі пра Паўла, і ўсё ясным зрабілася. Цяпер Тарэнта ў хату да яго так сабе з-за дробязі не пойдзе, не пусціць туды і дзяцей, каб не назалялі, не прыдзе і пазычаць, калі ў чым завядзецца патрэба. Так і павялося. Браты пачалі жыць кожны сам сабе, як і звычайныя суседзі. Пра Паўла Тарэнта брату больш ні аднаго слова не гаварыў і толькі часам у гутарцы з якім суседам, як пачынаў скардзіцца на жыццё, дык прыпамінаў сваю гутарку з Мікітам і тады скардзіўся суседу на братаву скупасць. На скаргі такія заўсёды ў гутарках выклікалі самі суседзі. А прычынай таму было, што жыў Мікіта ў Шапятоўцы, як ніхто амаль багата. І разбагацеў неяк раптам, на ваччу ўва ўсіх.

Пачалося з таго, што нечакана для ўсіх узяў Мікіта замуж дачку кірпатаўскага багатыра Кажанца Рыгора. У таго дзяцей усяго было двое: сын ды дачка, і ён дачцэ ў пасаг даў дзесяць дзесяцін зямлі. Такім чынам стала ў Мікіты сваіх адзінаццаць дзесяцін. А як паехалі браты з бацькам на перасяленне ў Сібір, ён і іхную зямлю, тры дзесяціны, адкупіў і тады ўжо займеў аж чатырнаццаць. Цесць памог Мікіту і на скаціну ўзбіцца і на новую хату. Хутка займеў Мікіта пару коняй ды ажно шэсць штук кароў і свайго бугая. І жыццё Мікітава стала сытым і лёгкім, зайздросным для другіх. Але зямля Мікітава была не ў адным месцы. Чатыры дзесяціны былі раскіданы ў палосках па шапятоўскім полі, а дзесяць па кірпатаўскім. Багата было клапот з палосамі, і таму, як пайшлі па акрузе весткі пра хутары, Мікіта першы загаварыў пра іх у Шапятоўцы і загаварыў так, нібы нельга было яму без хутароў жыць больш аніводнага дня. З гэтай-жа прычыны, ды яшчэ з некаторых, нікому нявыказаных меркаванняў, як прыехалі ў Шапятоўку каморнікі, Мікіта сам запрапанаваў ім стаць да яго на кватэру. Пасля, як каморнікі пайшлі першы раз у поле, Мікіта цэлы дзень праблукаў з імі, а вечарамі дома даўгія

гадзіны выседжваў на лаўцы каля іх, стараючыся хоць чым дагадзіць ім. Але ўвесь час ні пра што ён нават і не заікнуўся ім, усё нібы рабіў з нейкай там гаспадарскай ласкі. А ўжо на сёмуху, як селі ўсёй сям'ёй за полудзень і каморнікі выпілі па чарцы гаспадарскай гарэлкі, Мікіта, падліваючы ў чаркі яшчэ, загаварыў.

— Значыць, па-новаму жыць будзем... та-ак я вам скажу, маладзец, хто да такога дадумаўся, душу ён мужыцкую нашую зразумеў, во што я вам скажу. Ах, як зразумеў ён яе. Сілы няма ў мужыка па палосках тых бегаць. У каго адна якая дзесяціна там, дык ён, я вам скажу, гуляючы за тыдзень шнуркі свае абойдзе, з сяўнёй і з плугам, а ў каго дзесяць якіх дзесяцін ці, скажам, чатырнаццаць, як у мяне, таму няўпраўка, таму хоць разарвіся. Таму зямлю ў адзін кавалак сабраць і хочацца, во што я вам скажу. Каб гэта выйшаў раніцою ў поле, а яно ўсё перад тваімі вачыма, куды ні глянь... На душы шырэй ажно робіцца ад дум такіх, пане каморнік.—Звяртаўся ён да старэйшага. Той еў, сагнуўшыся над міскай і маўчаў.—Толькі ў мяне адна загвоздка ёсць,—Мікіта спыніўся каля яго і схіліўся над сталом, упёршыся ў стол рукамі.—Першае, што зямля мая не ў адным вобчастве: чатыры дзесяціны тут, у Шапятоўцы, а дзесяць там, у Кірпатаўцы. А другое, будынкі ў мяне новыя, нядаўна стаўленыя: не абжыўся я ў іх, а тут зноў перавозь ды стаў. Сіл у чалавека на такое не стане, во што я вам скажу.

— А можна і без такіх турбот абыйсціся.—Каморнік пастукаў лыжкаю аб край міскі і палажыў яе на міску зверху.—Можна, скажам, хутар так нарэзаць, каб пасля, як будзем Кірпатаўку разбіваць на хутары, каб тады другі хутар побач з першым апынуўся, каб уся зямля разам была. А пераводзіцца, як ты захочаш. Хутар мы табе так выражам, што будзе ў ім і твая сядзіба і другім канцом акурат упрэцца ён у кірпатаўскае поле. Клінам вось так зробім.—Каморнік павёў пальцам па стале, абрысоўваючы пляц Мікітавага хутара.—Тут вузей ад сядзібы, а там шырэй, як-бы палоса адна, аж да самага раўчука. А налета адтуль табе прырэжам другі хутар, і жывi сабе на здароўе.

Пакуль гаварыў каморнік, Мікіта стаяў схіліўшыся над сталом, не скранаючыся з месца, а з другога краю стала нерухома сядзела жонка Мікітава, прагна ловячы кожнае слова каморнікава. Як скончыў каморнік, яна не ўтрымалася.

— Каб-жа вам, паночкі, бог здароўечка даў за тое, што і вы нам дабра зычыце. Гэта-ж жывi тады і не памірай ніколі.

— Вось і будзеце жыць, гаспадынька, будзеце добра жыць. Мы што сказалі—зробім.

— Дай-жа бог вам здароўечка,—зноў-тое-ж паўтарыла Мікіціха.— Хай вас бог беражэ.

— Не ведаю я ўжо, чым мне вам і аддзякаваць,—замармытаў Мікіта, схіляючыся яшчэ ніжэй над сталом, хацеў пакланіцца каморніку.— З бяды вы мяне навек выцягваеце, во што я вам скажу, паночак.

— Мужыцкая бяда і нам родная, самі мы з мужыкоў, да па мужыцкаму дзелу колькі год ужо ходзім. І робім, як лепш, каб меней тае бяды было.

— А яе багата, бяды гэтай. Крута мужыку, з зямлёй цесна, і мужык неспакойны з-за гэтага. Вунь Лапаціцкія гэтай вясной пана ледзь не забілі, спаліць хацелі, што зямлі не аддаў у арэнду. А ў пятым годзе нашага пана як папатрэслі! У нас і цяпер неспакойныя ёсць,— зноў ён над сталом схіліўся.—Ёсць, такія ёсць, што на ўсё пойдуць. Такіх трэба было-б куды-небудзь у Сібір на вольную зямлю пасылаць, во што я вам скажу. Самі не хочуць ехаць, дык іх варта было-б

пасылаць туды, дык назад ужо не пушчаць. А то ў мяне браты два яшчэ ёсць. Паехалі дзесьці з бацькам, а цяпер паведамілі, што назад едуць. Шэсць гадоў прабылі там, а цяпер назад. Гэта не парадак так рабіць, во што я вам скажу. Прыдзе і тут толькі замінаць будзе другому. Праз іх, такіх, тут чалавеку разгону няма ў жыцці. Ім-бы такім, калі ўжо не шанцуе самым жыць, дык ідзі ў парабкі і рабі як след, як табе паложана, а не задавайся, не замінай другім. Вунь і ў мяне такі па двары ходзіць,—ён кіўнуў галавою ў акно. На двары, над калёсамі стаяў, абапёршыся на іх, парабак, ягоны, Гуз Анупрэй.—Малады, а ў гаворкі розныя лезе і ён. Іх такіх на ўсё падбівае салдат Міхалка, што на канцы жыве. Усё ён. Як скулянка якая сядзіць і муціць, назаляе ўсім, жыць не дае...

Гэтая Мікітава гутарка з каморнікамі адбылася на сёмуху ў час полудня. А цераз тры яшчэ тыдні прыехаў назад з Сібіры Тарэнта. І ў той-жа вечар, як сабраліся каморнікі спаць ісці, Мікіта ўсунуўся ў хату да іх і сеў на лаўцы, паклаўшы на калені далонямі рукі.

— Вось я і дачакаўся гасцей,—сказаў ён.—Прыехаў, знацца, брат. І як мне з ім цяпер давядзецца, розуму не дабяру.

— А што?—запытаў каморнік.

— Ды тое, што зямлі ў яго зусім цяпер няма, як ад'язджалі, я ў іх зямлю выкупіў. Знацца, хутара ён ніякага не атрымае.

— Ну, бясспрэчна, што так.

— І цяпер будзе на маім гарбе скулаю сядзець. З сядзібы-ж, я яго не выселю, брат-жа...

— Ну сядзіба, гэта што-ж, няхай сабе і сядзіць, мы нават яе можам неяк і выразаць, хоць і ў тваім плане. А больш тут нічога. Зямлю-ж ён табе прадаў?

— Ага, прадаў.

— І паперы на гэта ёсць?

— Папер няма, але-ж сведкі ёсць.

— Думаеш, ён чапляцца да цябе будзе?

— Хто яго ведае. Вось параіцца хацеў, як рабіць.

— Ніяк не рабі. Няхай жыве на сядзібе і ўсё. Як жыць, няхай сам сабе думае, табе што... Смешны ты, гаспадар, усё трывожышся, усё неспакойна бегаеш.

— Дзе тут будзеш спакойны, калі ўсё яно так вядзецца, усё пра другіх думаць даводзіцца. Гэта не спакой, а гора адно, во што я вам скажу. Але, дзякуй вось, што параілі, я так яму і скажу: няхай сам за сябе цяпер думае. За мяне ніхто іншы не думаў, во што. На гэтым спакойнай ночы вам...

Ён непрыкметна высунуўся з хаты і, ціхенька прычыніўшы дзверы, пайшоў на сваю палавіну, дзе заўсёды жыў з сям'ёй. А як лёг у ложак, доўга не мог заснуць, усё варочаўся з боку на бок, скідаючы з сябе, коўдру, усё меркаваў, хацеў адгадаць, як паставяцца да яго браты, і зараней падбіраў словы да гутаркі з Тарэнтам. Запамятаўшы, што побач жонка, ён пачытаў мармытаць, уяўляючы, што ўжо спрачаецца з братам. Жонка, стаіўшы дыханне, прыслухоўвалася да ягонага мармытання, а пасля пытала, што ён гаворыць. Узлаваны, ён пераварочваўся на другі бок і маўчаў, зноў мяркуючы пра тое-ж. Гэтыя меркаванні мучылі яго, не давалі яму спаць, і таму так бязмерна рад быў Мікіта, калі пагаварыў з братам, калі ўсё галоўнае ў іхных адносінах было дагаворана да канца. З часу гэтае гутаркі адыйшло ад воч тое, што палохала сваёй невыразнасцю. Пасля гэтага, вяртаючыся часам у думках да тых меркаванняў, ён пужаўся. Ён пачынаў

з яшчэ большай сілай адчуваць, што гэта было-б, калі-б браты, не дай бог, засталіся жыць у ягонай хаце, ці калі-б, не дай бог, ён згадзіўся ўзяць да сябе Паўла. Было так і цяпер. Мікіта па нейкай патрэбе ішоў у гумно. Як выходзіў з хаты, убачыў на двары ў Тарэнты Паўла. Браў Павал дровы, ды як сагнуўся на дрывотніку, так і не разагнуўся, а сеў і пачаў стагнаць. Мікіта хуценька прычыніў дзверы, а сам праз шчыліну ў дзвярах назіраў з сянец за Паўлам, аж пакуль той падняўся і пайшоў у хату. Тады Мікіта і падумаў, што давялося-б яму жыць з такім, клопаты за яго на сябе ўзяць. Паднялася крыўда на Тарэнту, які хацеў збыць Паўла з сваіх на ягоныя рукі. Крыўда паднялася з такой сілай, што Мікіта ў гумно пайшоў па незвычайнаму шпарка і са злосцю на ўсю шырыню расчыніў у таку вароты. А ў ток увайшоў і запамятаў, чаго бег туды. Тады са злосці пачаў крычаць немаведама на каго.

„Думаеш, што я хлопчык малы, што я дурны, нічога не разумею... Так вось і вазьму, калі ласка.—Ён пакруціў галавою.—Не, браце, не такі я дурны, як ты думаеш. Яшчэ паглядзім, хто дурнейшы выйдзе, во што... Вазьмі да сябе,—схіліў ледзь галаву і махнуў рукой,—хай пажыве які час,—зноў кіўнуў галавою.—Дзякую табе за такую ласку. А гэтага ты не хочаш?—Усміхаючыся аскаліў зубы і ў бок да ёўні, у чорную пляміну яе нізкіх дзвярэй, ткнуў кукішам.—Во што я табе скажу, во што... Іч, які ты разумны. Няхай пажыве... Вазьмі, на сваю, знацца галаву, вазьмі. А дабро ягонае хто ўзяў? Я? Іч, дык вось і вазьмі, і гадуй, калі ўмееў спажываць. А мне не патрэбен ён, без яго абайдуся як-небудзь ужо“.—Зірнуў угару пад страху. Праз шчыліны ў страсе свяцілася далёкае чыстае неба.—„Перакрыць вось трэба, а то як дажджы пойдуць, не абярэшся ліха тады. Падумалася, што калі-б не прыехаў Тарэнта, дык усё-б даўно было дагледжана. Дзе-б не пайшоў, скрозь замінала адчуванне прысутнасці братоў і прыходзіла злосць. „Гэта-ж не дай бог, што такое робіцца. Яму жыць цяжка. А мне лёгка? Мне можа ў тысячу раз цяжэй, во што Табе не цераз мяне цяжка, ты да мяне не лезь, во што, а жыві, хто-ж табе не дае... А то-ж, хай бог крые: ні табе ў сваёй хаце павярнуцца, ні табе ў сваім гумне што палажыць... Разумнік знайшоўся. Во цяпер і жыві, як сумееш. Годзе я на вас на ўсіх нарабіўся, як малыя былі, а цяпер самі рабіце, во што, самі, няма дурных на вас рабіць, годзе“.—Адыйшоў у бок, узяў у куце мятлу і замёў у куток пацярушаную некім салому. На саломе кінуў мятлу і, так і не прыпомніўшы, чаго ішоў у ток, пайшоў дадому. А дома, як прыйшоў на свой двор, здзівіўся таму, што ўбачыў. Акурат, калі ён пералез цераз варотцы і зайшоў на двор, на вуліцы, супроць яго хаты, спынілася панская каламашка, і з яе злез Ермалай Трыфанавіч, панскі аконам. Не чакаючы, пакуль ён пойдзе ў двор, трушком падбег Мікіта, да варот, адчыніў іх і пакланіўся панскаму аконаму.

— Міласці просім, будзьце ласкавы, заходзьце. А можа коняй у двор увесці?

Мікіта застыў на месцы, чакаючы, пакуль аконам выцірае хустачкаю ўспацелы твар і адкажа.

— Не трэба, я не надоўга.

— Як ваша ласка. А чаго, дазвольце ведаць, заехалі?

— Каморнікі дома?—замест адказу, запытаў аконам.

— Дома, падвячоркваюць. Ото-ж і выйдуць, я ім скажу. Гэтай-жа хвілінкі скажу. —І Мікіта, не надзеючы шапкі, кінуўся ў сенцы, а цераз пару хвілін выйшаў назад, прапушчаючы наперад ад сябе каморнікаў.

— Дзень добры, панове. Феакціст Антонавіч вельмі прасіў да яго пад'ехаць на гадзіну якую. От, калі маеце час, дык сядайце і паедзем.

Не даючы каморнікам гаварыць, аконам пайшоў з двара і завярнуў каня. Следам за ім пайшлі і каморнікі.

— Ну, сядайце, панове. Бывайце здаровы,—кінуў ён ужо з каламашкі ў бок да Мікіты, які стаяў на вуліцы каля сваіх адчыненых варот. Мікіта збянтэжыўся. Такі нечаканы аконамаў прыезд па каморнікаў здзівіў яго. Хацелася як мага хутчэй даведацца, на што спатрэбіліся пану каморнікі. Заняты здагадкамі ён не адразу адказаў на аконамава развітанне, а ўжо як паехала каламашка вуліцай, нешта збянтэжана прамармытаў і, зачыніўшы вароты, пайшоў на двор да старасты, спадзяючыся хоць што даведацца ад таго. Але старасты дома не было, і ён хутка вярнуўся да сябе. Павячэраўшы ён доўга сядзеў на лаўцы каля стала, час ад часу паглядаючы ў акно, ці не едуць каморнікі назад. Але хутка зусім сцямнела, а каморнікаў не было, і, не дачакаўшыся іх, Мікіта лёг спаць. Спаў неспакойна, і хутчэй не спаў, а доўга ляжаў на ложку, услухоўваючыся ў кожны шорах, слухаў, калі бразне ў ваконную шыбіну каморнікава рука.

Хата, запоўненая густой цемрай, рабілася цеснай. З гары, зусім нізка над ложкам, абвісала чорная столь, і над ложкам пад столлю ў цемры тонкімі галасамі звінелі камары, прывабленыя пахам чалавечага цела. Яны доўга спявалі ў цемры, трывожачы сваім піскам і без таго неспакойны Мікітаў сон, а пасля раптам садзіліся яму на лоб і змаўкалі. Месца, дзе кусаў камар, нясцерпна свярбела, і ўзлаваны Мікіта далонямі рук цапаў сябе па твары, душачы камароў. Разбуджаны чуў, як спакойна дышуць дзеці і побач глыбока, з уздыхамі жонка. Прыслухоўваўся да іхнага дыхання і пачынаў забывацца, засынаў. Гэта цягнулася да поўначы. Апоўначы, як зусім забыўся ў сне, здалося, што едзе ён кудысь на калёсах, і калёсы тыя на жалезным хаду, лёганька гэтак бразгочуць восі ў калёсных утулках. Бразгат гэты прыемны, песціць слых, і Мікіта доўга ўслухоўваецца ў яго, пакуль з двара ў вакно забарабанілі мацней. Разбуджаны ён глынуў сліну і ўсхапіўся бегчы да дзвярэй. Папярэдне зірнуў у вакно.

— Чаго-ж гэта ён зваў вас?—запытаў Мікіта ў каморнікаў, прапускаючы іх у сенцы.—Справа якая, ці так сабе, на пачастунак?

— На пачастунак,—кінуў малодшы, і Мікіта адчуў, як дыхнула на яго ад каморніка вінным пахам.

— Пачастунак пачастункам, а за тым і справа вялікая, вунь якая справа...

Каморнікі пайшлі ў сваю палавіну, а Мікіта выйшаў на двор, пастаяў там хвіліну на ганку, слухаючы, як сапуць у хляве каровы, пасля ціханька зайшоў у сенцы, замкнуў дзверы і пайшоў да сябе, растрывожаны каморнікавымі загадкавымі словамі.

Тое, што трывожыла ў гэты час Мікіту, займала не толькі ягоныя думы, а і думы ўсіх шапятоўцаў, усіх ваколічных сялян. Калі ў акрузе з'явіліся каморнікі, па ўсёй ваколіцы пайшлі ўпартыя чуткі, што цар нібы з поваду юбілею дома Раманавых даў маніфест, якім загадаў панам перадаць на выкуп лішкі сваёй зямлі сялянству. Гаварылася, што акурат, мераючы хутары, і будзе казна наразаць кожнаму панскай зямлі. Шапятоўцам такая гаворка, як нікому, была па сэрцу, бо-ж побач ляжалі шырокія прасторы панскай зямлі, ад якой спадзяваўся кожны атрымаць нейкі кавалачак і сабе. Пра такі маніфест упарта, на кожным сходзе, дапытваліся шапятоўцы ў каморнікаў. Але каморнікі, адказаўшы раз, што пра такі маніфест нічога яны не

чулі, пасля ўжо адказвалі жартамі, і ніяк нельга было зразумець, што яны хочуць сказаць.

Калі-ж пачалі каморнікі абыходзіць шапятоўскую зямлю, калі пачалі разбіваць яе на хутары, тады пайшла другая гаворка, што маніфест царскі паны схавалі, бо не хочуць аддаваць сваёй зямлі. Гэткімі думкамі жыў і Мікіта, спадзяючыся, што прырэжуць зямлі і яму. І калі павёз панскі аконам да сябе каморнікаў, Мікіта падумаў, што справа там будзе ісці менавіта пра гэтую справу. Яшчэ больш ём пераканаўся ў гэтым, калі пачуў загадкавыя каморнікавы словы, і як лёг у ложак, думаў толькі пра тое, як-бы даведацца хутчэй пра ўсё пядрабязна, каб ведаць, што рабіць, куды кінуцца за прырэзкай. Запоўненая такімі думкамі прайшла неспакойна і гэтая Мікітава ноч.

(*Працяг будзе*).

САВА ГАЛАВАНІУСЬКІ

# ЭПІТАФІЯ ЭДУАРДУ

И пусть напишут:
здесь лежит спокойно
веселый странник,
плакать не умевший.
*Эд. Багрыцкій.*

'Шчэ кроў тваю не сцярушыла пылам
і пырнікам на зарасла магіла,
і на стале 'шчэ хлеб дыміцца парай,
а каля хлеба—кварта з малаком;
ты не даеў і выбег за вароты,
і конь панёс цябе па Апанаса,
а дзень звінеў і зацвітала жытам
уся зямля, якую ты здабыў!

Твой даўны сябар—нерашучы Ламме:
Той Апанас—калішні продармеец—
усе мы ведалі, што здрадзіць ён напэўна,
і кожны сціснуў у руцэ наган.
І мы пайшлі, трывогу затаіўшы,
між шумных ніў шукаць тваіх слядоў.
Сем помст у сэрцы,
у грудзях сем смерцяў
схаваў спакойна кожны барабан.
І ў стэпе мы крычалі:—Камісару!
І—Коганеl—крычалі,—адгукніся!
І мы спынялі коняй, каб учуць як
дзівосны голас твой і твае словы...
Але звісала пад зямлёю ціша
прасторная, вялізная такая,
што ў ёй і нам навекі заблудзіцца,
як у лясах, здавалася-б не грэх.
Так цэлы дзень храплі ўсе нашы коні,
закілзаныя ржаваю тугою.
Так пенай мы усе шляхі укрылі,
аж покуль ноч твая не падыйшла.
І ў стэпе там, пад зорамі і ветрам,
мой верны конь раптоўна спатыкнуўся;
так труп знайшлі мы над шырокім шляхам
і кроў тваю, распырсканую ў пыле.
Уначы быў бой, а ранкам пасля бою
над шляхам яму ў стэпе мы капалі.

— Дзе друг твой Ламме, сыты, і бязвольны,
калішні продармеец Апанас?
Мы свет прайшлі і на шляхах гублялі
свае гады, юнацтва і сяброўства,
але знайшлі затое праўду веку—
юнацтва і сяброўства нам не шкода.
І можа ты, наш мёртвы камісару,
пачуеш у словах гэтых нагароду
вятроў і год?— і можа слова сябра—
таксама кліч прысяга і пароль?
Быў ноччу бой, а раніцою залпы
у новы бой тваім свяцілі імем.
Але праз смех і свята перамогі
я сам тугу ў грудзях сваю нясу.
І радасць мо' найбольшая для песні—
ў вачах насіць адвагу смутнай смерці,
якую я узяў, як спелы колас
з твайго снапа матываў і радкоў?
Ты, дружа мой, не раз па стэпе пойдзеш,
плячо табе намуляе вінтоўка;
калі-ж ў стэпе знойдзеш ты магілу,
спыніся там, прысядзь на жоўты пырнік.
У той труне, у той магіле дальняй
мой сябар даўны ціха спачывае—
фламандзец Ціль і продармеец Коган—
такое ў нас далі яму імя.
Ён быў дзівак, як думалі ў Адэсе,
бо ў дні дзяцінства, сытага вадою,
апошні скрылік сушанага хлеба
заўсёды ў порце рыбам аддаваў.
Яшчэ любіў ён—выйсці на узлессе,
між двух атак схіліцца на вінтоўку,
або пакласці галаву на камень
і слухаць так суровы гул зямлі.
І з птушкамі, як з намі, размаўляў ён,
раскрыўшы насцяж сэрца свайго дзверы
для свісту куль і для лясное песні.
Хаду трывожную спыні на момант,
сядзь адпачыць на прыдарожны камень,
і слёзы хай не заблішчаць на вочах,
нагружаных утомаю баёў;
і хай рука мацней вінтоўку сцісне
і, набракаючы крывёй і цеплынёй,
хай сэрца б'е трывогу, як на сполах,
у медны звон натруджаных грудзей!

З украінскага пераклаў М. Багун.

СЯРГЕЙ ЗНАЕМЫ

# БІЯГРАФІЯ МАЙГО ГЕРОЯ

## I.

Сказаць, каб што-небудзь асабліва непакоіла Казіма—нельга. Ат, як і заўсёды, надворна вясёлы і бесклапотны ён ішоў уздоўж вуліцы і насвістваў „Маруся атравілась". Ён спыніўся каля вакна булачнай. Вітрына была завалена球 рознымі булачкамі, піражкамі, крэндзелямі і доўгімі маткамі абаранкаў. Абапёршыся аб парэнчу, ён уставіўся поглядам на вуліцу. Нельга сказаць, каб ён аб чым-небудзь думаў, ён проста глядзеў і час-ад-часу глынаў слінку. Дзверы ў булачную раз-по-раз адчыняліся і з нейкім асабліва сытым павольным рыпам зноў зачыняліся. Казім павярнуў да дзвярэй галаву і, убачыўшы чалавека, папрасіў:

— Дзядзечка, дай капеечку.

Той нават і не зірнуў у бок хлопчыка. Ён спакойна ступіў на тратуар і знік у людскім натоўпе.

На вуліцы рабілася шумна і людна. Трамваі, як і заўсёды, снавалі здзін за адным, бразгаючы глухімі званкамі. Казім зірнуў яшчэ раз у вакно булачнай, плюнуў і са свістам, надворна бесклапотны і вясёлы, пайшоў вуліцай. Ен ішоў і ці то глядзеў пад ногі, як-бы шукаючы чаго, ці то зазіраў у твар людзям і так пільна, што, здавалася, хоча пазнаць знаёмага яму чалавека. Каля трамвайнага прыпынку ён спыніўся. Воддаль стаяла жанчына з двума невялічкімі дзяўчаткамі. Казім прыглядзіўшыся, нацэліўся, ён узяў сваю падраную шапчонку, збедніўся і, падышоўшы да жанчыны, папрасіў:

— Цётачка, дай капеечку... Ад учарашняга нічога не еў.

Жанчына, захінаючы сабой дзяўчат, нервова кінула на брук мядзяк, які, трапіўшы на трамвайную лінію, пакаціўся ўздоўж яе. Казім, ёмка павярнуўшыся, рынуўся ўздагон манеты і, зачапіўшыся нагой за падраную штаніну, расцягнуўся. І ўжо бяручы ў рукі трохкапеечную манету, ён чуў, як весела смяяліся дзяўчаткі над яго нязграбнасцю. Ну, і што-ж, няхай пасмяюцца. Казім мацней сціснуў у руцэ мядзяк і, пасвістваючы, пайшоў назад, мяркуючы купіць невялікі кавалак хлеба, каб хоць панашчыцца. Але ён так хутка і так безуважна ішоў, што пераблытаў вуліцы і на скрыжаванні пайшоў зусім у другім кірунку.

Ён ішоў, не заўважаючы сваёй памылкі. На вуліцы станавілася ціха. Рэдка-рэдка праедзе рамізнік, ці пройдзе які-небудзь нягеглы чалавек. Казім азірнуўся і памкнуўся павярнуць назад, як раптам на другім баку вуліцы дзверы адчыніліся і на брук шыбанулі п'яныя галасы і мацюканне. Ён рынуўся туды. А калі зірнуў у адчыненыя дзверы, то ад радасці ажно прыцмокнуў. Гэта быў звычайны ўскрайны

шынок. На двары пачынала цямнець, і ў шынку запалілі святло. Два хлопцы падвялі да дзвярэй і выпхнулі на вуліцу абшарпанага п'янага чалавека. Калі ён бразнуўся на тратуар, то Казім убачыў, як з кішэні вылецела і лягла каля ступенькі залатоўка. Ён, нядоўга думаючы, хапіў яе і горда пераступіў парог шынка. Узяўшы кавалак „дзяшоўкі" і добры кавалак чорнага хлеба, Казім сеў за столік насупраць нейкіх двух п'яных мужчын. Адзін, як здавалася, ужо драмаў, а другі так, прыплюшчыўшы вочы, цягнуў нейкую курню. За другім столікам трое п'яных хлапцоў гулялі ў карты. З цёмнага суседняга пакоіку даносіліся мужчынскія галасы і жаночы рогат. Казім няўпрыкмет падсунуў да сябе куфель суседа і спраквала выцягнуў піва. Ён ужо крыху перакусіў і цяпер больш уважліва прыслухаўся і прыглядзеўся да навакольнага. Сусед з прыплюснутымі вачыма цьмяна некуды глядзеў і па-ціху спяваў:

Жызнь мая нялёгкая,—
У Маскве цяжка пражыць.
Сям'ю маю радную
Даводзіцца забыць.

Хлопцы, што гулялі ў карты, нешта заспрачаліся між сабой. Шынкар за стойкай паласкаў шклянкі. А сусед спяваў:

З вёскі лісты пішуць
Раскошнай сын жывёць?
Палучку палучаіць,
Дамоў дзеняг не шлёць.

Увайшла новая пара. І шынкар заняўся імі. Карцёжнікі зірнулі ў іх бок і, як здалося Казіму, адзін затоенна ўхмыльнуўся і падміргнуў жанчыне. А сусед ўсё спяваў.

Якая гэта палучка
У месяц рублёў пяць...
Ідзе сын, рассуждае,
Куды грошы дзяваць.
Зіма ідзёць халодная,
Пальто трэба купіць...
А грошы гэтых мала,
Давай-ка, брат, прапіць.

Увайшоўшая пара, пагутарыўшы з шынкаром, накіравалася ў другі пакой. Насустрач ім рынуліся прывітальныя галасы. Гэтыя прывітанні настолькі былі гучныя, што сусед Казіма, як-бы абудзіўшыся ад сну, сказаў: „Цыц там, замры..." І зноў заспяваў. Толькі цяпер слоў яго песні нельга было разабраць, чуліся сіпаватыя п'яныя гукі. Хутка і яны змоўклі. І тады добра было чуваць, як шлёпаюць хлопцы картамі па стале і цуркамі сцякае з цыраты разлітае піва. Казім асушыў куфлі суседзяў і заўчасна, без тумака, выйшаў на вуліцу. Ён быў сыт і п'ян. Цяпер трэба было на буферы трамвая прабрацца на Трубную і там каля цёплых асфальтных катлоў пераначаваць. А не ўдасца, прагоніць гарадавы, тады на вагзал, ці ў які цёмны калідор. І напяваючы нейкую песеньку, ён пайшоў у кірунку трамвайных званкоў.

II.

Так, ён пайшоў шукаць месца для спачыну. Гэта было для яго зусім не нова.

Малы і абшарпаны ён хадзіў па вуліцах, капаўся ў ямах адкідаў, ездзіў пад паравозамі, на тэндэры ад горада к гораду; бледы і хілы ён жыў і дыхаў сярод бруду і жабрацтва, рады кавалку скрадзенага чорнага хлеба, ці колькі выпрашаным капейкам. Яго малога і слабога

вельмі часта і многа білі, але ніколі ніхто не шкадаваў, тым больш не вучыў. Беднасцю і галадэчай выціснуты з роднай сям'і, ён не ведаў матчынай ласкі і прыхільнасці. Ён запамятаў нават тое, што ў яго дзесці ёсць маці і стары, прапіўшы жыццё, бацька. Так, ён помніць гэта худое страшэннае бацькава аблічча, крывёю наліты твар і касцястыя моцныя кулакі. Чамусьці ў памяці застаўся такі ўспамін.

Неяк на рынку ён імкнуўся ўкрасці кавалак „дзяшоўкі". І калі схапіўшы гэты кавалак, праскочыў праз натоўп, стаў пад другой крамай і пачаў есці, раптам чыясьці моцная рука схапіла яго за шыварат. І Казім, прывыкшы да кпін і штодзённых здзекаў, пачуўшы боль, не заплакаў, ён ціха і вінавата папрасіў.

— Дзядзечка, пусці.

Але шырокаплечы качаргаваты гарадавы, даўшы колькі тумакоў галоднаму хлопчыку пад бок, вырваў з яго рук кілбасу і працягнуўшы яе ў руцэ перад сабой, павёў, горда ступаючы сярод натоўпу, абшарпанага, галоднага злачынцу ў участак. Там хлопчыка пхнулі ў цёмны і брудны катух, ды так далікатна, што ён з усіх чатырох грымнуўся ў куток. Неўзабаве туды прывялі нейкага п'янага. Ён упіраўся і крычаў, ён мацюкаўся на чым свет стаіць. А калі прычынілі дзверы, ён доўга са злосцю і мацюканнем біў кулакамі ў іх. Але вось гэты агромністы страшэнны п'яны твар заўважыў Казіма. На хвіліну ён спыніўся, прыгледзеўся і потым з яшчэ большым абурэннем кінуўся на хлопца.

— Ааа. Дык гэта ты ў мяне надоечы кішэні абчысціў... Ты...—Ён біў і таптаў малога злачынцу, аж пакуль не ўзялі ледзь жывога акрываўленага адтуль хлопчыка. Той самы качаргаваты гарадавы, выцягнуўшы Казіма ў халодны калідор, сказаў:

— Ты не хліпай там... Развялося вас, шкарадзі гэтай... Калі не біць вас, дык вы нічаму і ніколі не навучыцеся.

Хлопчык змоўк. Але ён назаўсёды запомніў гэта, ён потым дазнаўся, што гэта быў бацька і запомніў яго ласкавасць. І калі выйшаў зноў на вуліцу пачаў жыць і дыхаць трухой і жабрацтвам, капацца ў адкідах. Ён пачаў прыглядацца, прыслухоўвацца і разам з тым рагатаць. Яму было весела. Але дарэмна было-б думаць, што ён бесклапотны і гатовы па-роўна над усімі і ўсім смяяцца. О, не, далёка не. Ён падаўся на ўскраіну. Але часам заглядаў і ў гарадскі цэнтр. Ён усё бачыў, дармо, што дзіцё. Ён усё прыймаў глыбока да сэрца, на яго асядала твань жыцця. Бачыў ён няроўнасць, жорсткасць і несправядлівасць, бачыў гвалт, голад і холад, бо ён рос на вуліцы. На ўскраіне пазнаваў жыццё, на рынках адкідамі і скарынкамі праганяў голад, у хлявах пастаялых двароў туляўся ад холаду, пад паравозамі пераязджаў ад аднаго да ругога горада, але яго ўсюды сустракала адно і тое. Яго жыццё ўсюды было аднолькавым.

Толькі ён бачыў, ён разумеў, што не ўсе жывуць па-роўнаму, што не ўсе жывуць так, як ён, як гэтыя ўскраіны. Бо ёсць-жа такія, якія маюць што праз акно выкінуць. Яны дарослыя, яны багатыя. Але ў роскашы і багаці яны забыліся падумаць, што і хлопчык вуліцы расце, расце і мацнее на ўскраіне і што ён не адзін, а шмат іх такіх дзяцей, што вырастуць там, на вуліцы, у брудных цэхах, на вагзалах, пад платамі неабмежаваных вясковых прастораў. Ім цяжка, ім цесна. Але яны растуць. І яны будуць дарослымі.

А пакуль яны бегаюць па вуліцы абшарапаныя і галодныя, бадзяюцца па завуголлю гарадоў, спяць па цёмных халодных калідорах, на вагзалах.

III.

Казім, адбіўшыся ад таварышоў, раптам апынуўся без ніякай падтрымкі, і вось, як і заўсёды пры такіх выпадках, ён рушыў на гарадскую ўскраіну. Яму давялося начаваць у нейкай разламанай краме на Прэабражэнскім валу. Гэта была звычайная крама нейкага падупаўшага купчыка. Казім улез туды праз невялічкае выбітае акенца. Зірнуўшы ў куток, ён убачыў нейкія лахманы і кавалкі паперы. Яму было добра. Ён праз сон радаваўся, што знайшоў сабе надоўга куток для начлегу.

Апоўначы, калі хлопчык вуліцы спаў моцным сном, калі толькі водгукам быў чуваць шум і лямант вялікага горада, асцярожна адчыніўшы засаў, у краму ўвайшла жанчына. Яна адразу пачула сапенне і нейкі неспакойны шэлест паперы ў кутку. Яна асцярожна зірнула туды, прыгледзелася і пад воблескам цмянога месячнага святла, што ўрывалася праз выбітае акно, убачыла невялічкі камячок. Счакаўшы колькі хвілін, жанчына прыгнулася і пачала будзіць малога. Той не спудзіўся. Не закрычаў. Прывыкшы да вулічных незвычайнасцей, ён ціха забытаў:

— Хто ты?

— Я жанчына... Ты заняў маю плошчу... і лёг на мае рэчы.

— Калі не маніш, то гэта праўда... Я не ведаў, што гэта будка належыць табе. Але, калі так, то мы ўжо сёння як-небудзь удваіх змесцімся... Ён па-даросламу пацягнуўся і пачаў навакол мацаць рукой. Падумаў, а потым яшчэ дадаў:

— Ці можа мента пазавеш?—Жанчына пачула, як ён іранічна ўсміхнуўся. Потым яны доўга абое маўчалі, толькі ў кутку пад хлопцам ціха шапацела папера. У змрочнай цемені не ў рашучасці стаяла жанчына. Хто яна? Адкуль, што ёй трэба?—думаў Казім. Хто ён, звычайны вулічны хлопчык, ці знарок пасланы шпік? Яна прысела каля яго і хутка яшчэ мацней зашапацела папера. Казім адчуў, што жанчына шарыць па яго лайтуззю рукамі:

— Чаго шнырыш?!

— Ты зусім яшчэ дзіцё...

— Я трэція суткі не спаў і цэлы дзень нічога не еў...

Жанчына нервова занепакоілася.

— Я нічога пры сабе не маю... Але я знайшла сабе новую кватэру, і калі ты дапаможаш мне перабрацца туды, я знайду што-небудь, каб накарміць цябе.

— Дапамагчы гэта можна... Ты... напон не брэш?

— Не, я шчыра кажу. Ва ўсякім разе ты нічога не губляеш.

— Можа то так.

— Ну, дык а чаго-ж табе баяцца?

— Рэчаў у цябе многа?

— Не-е. Табе давядзецца несці толькі адзін клуначак... Устань, я вось зараз... падрыхтую яго.

Ноч была ціхая, пад восень. Месяц стуліўся за хмары, змрок навіс над горадам. Яны выйшлі і цёмным завулкам накіраваліся ўздоўж вала. Кожны з іх нёс нешта закручанае ў лахманы. Што там было, Казім не думаў, ён здагадаўся, што гэта за жанчына. Ну, дык а якія-ж у яе могуць быць рэчы? Звычайна, колькі там спадніц ды яшчэ хусцінак якіх. Не даходзячы першага вулічнага ліхтара, яны сустрэлі нейкага чалавека і зараз-жа павярнулі ў невялікі двор. А там праз другія двары нават праз нейкі цёмны пад'езд прыйшлі да пагорбленай старой хаты. Ім адчынілі. Здзіўлены Казім спыніўся ля парогу.

Пры цмяным святле ён убачыў колькі мужчын, якія, задуменна седзячы, павольна курылі. Калі хто пускаў дым адразу з усяго рота,

то дым непрыкметна дрыжэў, ад чаго ўсё воблака ціха гойдалася пад столлю. Казім паклаў свой скрутак лахманоў на рог услона і сам зноў адышоў да парога. Ён па-дзіцячаму спакойна і глыбока глядзеў на гэтых людзей, баючыся прамінуць кожнае іх слова. Людзі гаварылі ціха. І ўсё больш намёкамі, часам пазіралі на Казіма, ад гэтага яму рабілася ніякавата. Ён адчуваў сябе крыху чужым, далёкім. Але ён па-дзіцячаму спакойна і глыбока разумеў, што гэта за людзі. Ён бачыў, як учора такіх-жа хмурых і моцных вялі ўздоўж вуліцы гарадавыя. А колькі дзён таму назад ці не такія-ж самыя каменнем і палкамі адбіваліся ад узброеных салдат! Тады і ён, Казім, выбраўшы зручную хвіліну, стоячы за тумбай, запускаў у салдат каменні... А вось гэты, што сядзіць за сталом, падцяты і худы, ці не ён колькі дзён таму назад даў Казіму два пятакі за тое, што той прыляпіў да сцен дамоў колькі нейкіх абвестак. Казім не думаў тады чытаць іх. Яму важны былі грошы, бо ён хацеў есці. Ён вельмі шкадаваў, што такія заробкі трапляліся яму рэдка.

У хаце пачаўся настарожаны рух. Прынесеныя жанчынай і Казімам лахманы былі развязаны, і адтуль людзі бралі нейкія паперы. Бралі, хавалі іх пад вопратку і хутка разыходзіліся.

Жанчына ветліва частавала Казіма кавалкам хлеба і кілбасой. Потым, калі ўсе разышліся, яна паклала хлопчыка спаць. І Казім на заўсёды запомніў гэтую ноч і гэтую жанчыну. Паклаўшы яго, бруднага хлопчыка вуліцы, на чыстую пасцель, яна доўга і ласкава гладзіла яго па скудлачаных валасах і шчыльна накрывала ад холаду. Яна вельмі шмат цёпла і ласкава гаварыла. Але дзе, хіба можна што-небудзь помніць у такія хвіліны? Казім ляжаў, яму было вельмі хораша, так хораша, што, здаецца, першы раз у жыцці ён заплакаў. Але плакаў так, што жанчына не бачыла і не чула. Вуліца яго навучыла нават затое плакаць, не паказваючы людзям сваіх слёз.

Казім прачнуўся бадзёры і ўзрушаны. На двары свяціла добрае, яснае і цёплае сонца. У хаце было цёпла і суха, ціха і пуста. І вось дзверы расчыніліся, увайшла жанчына. Яна нават не сказала яшчэ як зваць яе. Праз адчыненыя дзверы Казім чуў нейкі незвычайны лямант і, як здалося яму, рэдкія-рэдкія стрэлы. Так, гэта стрэлы. Ён чуў іх колькі раз, калі разганялі рабочую дэманстрацыю.

— Ты будзеш, хлопчык, у хаце, пакуль я, ці хто іншы з нашых не прыдзе. Ты харошы, паслухаеш, пасядзіш, вось тут у шафе хлеб, і кілбаса, захочаш есці—еж, а я пайду на вуліцу... Чуеш? Там страляюць.

Яна не запытала ў Казіма, ці хоча ён заставацца ў хаце, яна нават не зірнула на яго, а проста павярнулася і пайшла. Казім асалавеў ад нечаканасці, і са здзіўленнем глядзеў ёй у след. Дзіўна яму было, не верылася. Як гэта, каб яму, вулічнаму хлопцу, раптам даверылі кватэру? Ён агледзеўся кругом. Потым узяў са стала кавалак хлеба, пачаў есці. Ён прыслухаўся да вулічнага ляманту і ўсё чакаў, што вось-вось хто-небудзь прыдзе.

Мінаў дзень, вечарэла ўжо. На вуліцы ўсё мацней і мацней чуліся стрэлы. Казіма агортвала нецярплівасць, яго цягнула на вуліцу, яму хацелася ведаць, што робіцца там, не шырокіх і вузкіх вуліцах, у завулках вялікага горада. Ён узяў сабе ў кішэнь кавалак хлеба, узяў кавалак кілбасы, паглядзеў на хату і, зачыніўшы дзверы, выйшаў.

Ён доўга ішоў пустымі і вузкімі вуліцамі ўскраін. Ён углядаўся ў вокны, але яны былі шчыльна зачынены аканіцамі. Ён хацеў сустрэць і запытацца ў каго-небудзь, што здарылася, але рэдка-рэдка прабягалі людзі і ўсё заклапочаныя: кожны некуды спяшаўся. На скры-

жаваннях не было паставых. А воддаль усё чулася страляніна. Раптам ён убачыў людзей, якія зніклі ў завулку. Казім засвістаў у такт сваіх крокаў і хутчэй падаўся за імі. Ён бег шпарка, яму хацелася дагнаць даведацца, яму хацелася пагаварыць з людзьмі.

І вось ён выбег на плошчу. І ўбачыў, убачыў, як на вуліцы, што спускалася ўніз ад плошчы, людзі загружалі яе розным ламаччам. Ламалі агарожу, здымалі з крукоў вароты, аднекуль выносілі шафы і канапы, выкочвалі калёсы, нават бярвенне аднекуль з'явілася. Нехта адапхнуў яго ў бок, сарваў вакяніцу і грымнуў яе на ламачча. А страляніна мацнела і вулічная агарожа расла. Людзі вінтоўкамі снавалі навокал яе, потым пачулася ціхая каманда. Усе зніклі ў двор, і зноў насцярожаная цішыня агарнула ўсё, толькі чуліся стрэлы і лёскат конскіх капытоў па бруку.

Цемень вечара павольна насоўвалася. Казім прысеў за бочкай і прыслухаўся. Ён пачуў, як ляскаюць конскія капыты па бруку, і яшчэ пачуў і ўбачыў, як адзін за адным са двара выбягаюць людзі і хаваюцца за агарожай. Хвіліна... лёскат капытоў бліжэй... бліжэй... вось ён зусім недалёчка, і раптам грымнулі стрэлы. Цемень асвятлілася і потым як-бы пагусцела. Задрыжэлі ў вокнах шыбы. І потым зноў стрэлы, зноў, зноў... Эх, і захацелася Казіму таксама... Але ён абвёў навокал рукой і нічога паблізку не знайшоў. Тады ён адскочыў у бок, намацаў невялікі камень і з усёй сілай запусціў яго цераз вулічную агарожу... Яго нехта паклікаў. І вось Казім на двары. Чалавек просіць яго, каб ён, узяўшы колькі патронаў, падаў іх туды на барыкаду. Казім зірнуў на чалавека, а потым махнуў рукой і, падставіўшы шапку, сказаў:

— Сып!—Сэрца яго ад радасці білася мацней і, здавалася, ногі самі бегалі. Ён доўга са здавальненнем насіў патроны, не чуючы пад сабой зямлі. Ён забыўся на ўсё. Ён чуў толькі адно—галасы, якія звалі яго ў ціхай цемені: „Сюды, малы, сюды“.

А калі адлягла страляніна, калі зацокалі падковы коняй воддаль, вецер прайшоўся па верхавінах дрэў недалёкага саду, дым рассеяўся і хмара спакойна спаўзла некуды ў бок, тады вышаў і стаў над горадам такі вялікі і ясны месяц, і ўбачыў Казім, што стаіць ён з патронамі ў шапцы перад сваёй знаёмай жанчынай. І сорамна яму стала і радасна. Ён прысеў, і яе рука зноў апусцілася на яго дзіцячую галаву.

IV.

Цесная, удушная цяплушка туга набіта людзьмі. Салдаты, матросы і так вольныя з мазалістымі рукамі ў абшарпанай вопратцы едуць на Заходні фронт. У цяплушцы цесна і душна. Так што нават не чутно рыпу гармоніка, а песня, нібы ў зачыненай бочцы, глуха абрываецца і нікне. Пад нарамі ў кутку на нейкіх рэчах у падранай рамізніцкай хламідзе ляжыць Казім. Ён таксама едзе на фронт. Узрошчаны вуліцай, ён пачынаў разумець навакольнае.

Атрымаўшы штуршок, ён з імклівасцю аддаўся гэтай хвалі і зараз смела ішоў уперад. Але яму хацелася бегчы. З ім было тое самае, што часам бывае з чалавекам, які трапіць у багну, у балота. Ён ідзе па балоцістай дрыгве і адчувае, як вязне, не паспеўшы пераставіць ног. І тады ён чатырмя карабкаецца, хапаецца за кожную купінку, за кожную галінку, шукаючы паратунку. Але вось ён выбіраецца на цвёрды бераг, бачыць перад сабой неабсяжныя прасторы, чуе пад нагамі цвёрдую глебу. І яму хочацца, хочацца шпарка, шпарка бегчы да імкнёнай мэты. Такі чалавек самы моцны і самы радасны. Ён ні-

колі не спыніць сваёй хады і не збочыць з дарогі, не пабаіцца голаду ці холаду. Для яго яны нястрашны, ён пераджыў большае, перанёс цяжэйшае. І гэта яму ні па чым. Ён будзе ісці і ніколі не саступіць свайго шляху і ён прыдзе, будзьце ўпэўнены, ён прыдзе да вызначанай мэты. Натое ён і чалавек, узрослы на ўскраіне, на вуліцы, на цесным фабрычным двары, у цеснаце, брудзе, голадзе і халадэчы...

Казім пераварочваўся з боку на бок і час-ад-часу ўспамінаў то жанчыну, якой некалі падаваў патроны, то родную маці, абрысы твару каторай ён імкнуўся аднавіць у сваёй памяці.

Але ўсё, што хоць крыху прыпаміналa гэты родны вобраз, у самым пачатку сваім знікала, рассейвалася. І замест гэтага зноў паўставалі знаёмыя брудныя вуліцы Нямігі, цесная і сырая канурка сутарэння, брудная падлога і абшарпаныя сцены, голыя і галодныя дзеці і заўсёды п'яны і страшэнны бацька... Дзе яны цяпер, што з імі? Цягнік ішоў павольна, і думкі запляталіся ў сне. Цыбаты гвардзеец расцягнуўся поплеч з Казімам і моцна хроп. У цяплушцы было цесна, накурана і душна. А па целе Казіма пачалі споўдацца нейкія халодныя мурашкі, дрыжыкі працінаалі яго. А між тым, у цяплушцы было вельмі накурана і душна. Казім цясней падкурчыў ногі і шчыльней прысунуўся да суседа, паімкнуўся заснуць. Але ногі стылі, цела працінаў холад, а на ілбу выступіў ледзяністы пот. Хлапец дрыжэў, моцна ляскаючы зубамі. Потым раптам яму зрабілася горача, млосць агарнула і вельмі, вельмі захацелася піць. Яму здалося, што ён чуе пах вады і нейчы ласкавы голас...

— П-і-іць,—папрасіў ён. Але ў цяплушцы стаяла цемень і ў цішы толькі чуваць было тахканне колаў і нейкі надакучлівы рып рэсор. І раптам здалося Казіму, што на яго павольна сунецца нейкая страшэнная сіла, якая вось-вось гатова прыдушыць яго. Вось яна ўжо звісае над ім і сваімі агромністымі рукамі хапае яго за вопратку. Ён бачыў недзе гэты страшэнны твар і гэтыя кроўю налітыя вочы. Яму здалося, што страшыдла ўжо душыць яго, нібы абцугамі сціскаючы грудзі і галаву. І, як-бы адчуваючы сваю пагібель, Казім неяк па асабліваму жалабна заплакаў. То быў не плач, а бездапаможны енк чалавека, што гінуў.

Калі цяплушка абудзілася, то ў хлапца была ўжо страшэнная гарачка, яго паліла, у няпрытомнасці калаціла і кідала ва ўсе бакі. Яго імкнуліся сутрымаць, санітар праз сілу даваў яму нейкія лекі. Але дарэмныя патугі, ён кідаўся ва ўсе бакі. Яму рабілася то млосна та вельмі холадна, то непрытомнасць агортвала ўсё цела. А цягнік па-ранейшаму павольна ішоў наперад—туды, на Заходні фронт, на дапамогу ў вызваленні бацькаўшчыны Казіма.

Праз які час цягнік спыніўся, і хворага хлапца клапатлівыя таварышы здалі санітарнай камандзе. Каманда ішла на фронт, лазарэтаў паблізку не было. Хлапца вырашылі пакласці ў Асінаўскай больніцы.

## V.

Ён ачуняў вясной. На двары стаяла добрая пагода. Было цёпла, было ціха, было хораша. Ап'янялі і вабілі далёкія светлыя прасторы. Нясмела шастаючы голлем, рассыпалі прыемны пах зялёныя дрэвы. Было так лёгка і радасна. А ён бледы і хілы, ледзь перастаўляючы ногі, выцягся на двор. Ён быў больш падобны на здань, ніж на чалавека. Худы і жоўты, ён выцягнуўся, твар падоўжыўся, а вочы глыбока ўпалі, і гэта надавала яму нейкі незвычайны выгляд. Здавалася, нібыта ўзялі чалавека ды пераліцавалі. Ён зусім не паходзіў на хлопчыка.

Гэта быў акрыляўшы падлетак, які моцна паў, не паспеўшы ўтрымацца на ўласных крыллях. І вось ён цяпер выцягся і прысеў, каб адгарэць на цёплым сонцы зазяблае цела. Ён яшчэ не мог доўга стаяць на ўласных нагах, яны падкашваліся, цела млела, ныла нутро і вельмі хацелася есці. А есці то не было чаго. Вар з сахарынай і кавалак макухі—вось і ўся спажыва. Ды каб хоць гэтага ў волю. А то... падкашваліся ногі і ныла нутро, бо вельмі хацелася есці...

І ўсёткі Казім адужаў. Змалку трапіўшы на вуліцу, ён навучыўся цярпець і зносіць усё, што толькі мог знесці і выцерпець калі-небудзь чалавек. Худы і слабы, у падраным жупане, што даў доктар, ён прыехаў у Менск, ён асцярожна адчыніў дзверы ў бацькаўскае сутарэнне. Але бацькі ўжо даўно не было, а старая маці з братам дзень-у-дзень сядзелі на Саборнай пад касцёлам з выстаўленымі да людзей худымі рукамі і з худымі запаўшымі тварамі. Яны былі галодныя і прасілі, прасілі толькі кавалачак хлеба ці макухі, каб перабіць голад, каб не памерці ад страшэннай галоднай смерці.

Перад слабым збалелым Казімам паўстала пытанне куды? Зноў на вуліцу, на Ніжні? Ён выйшаў на двор. З суседняга дома даносіліся нейкія блытаныя галасы. Казім здагадаўся, звычайная рэч, яго пацягнула, яму вельмі захацелася туды, к гэтым галасам, зліцца з імі, далучыць свой і забыцца на ўсё, на ўсё.

Як і звычайна, пасля ўдалай ночы весялілася кампашка Боні Гарбака. Казім адчыніў дзверы і спакойна зайшоў як да сваіх даўно знаёмых сяброў.

— Ты чый?—запыталася гаспадыня.

— Казімых.

— Што, жаданне маеш да справы прыкладацца?

— Так, жаданне маю, толькі вось яшчэ людзей не ведаю,—адказаў Казім.

— З людзьмі мы можам звесці, у такіх малойчыках, як ты,—патрэба ёсць... эй, Марфуша, чуеш, прасі госця да стала... Частуй госця.

А нейкі п'яны, сіплы голас пяўся на ўвесь накураны пакой. Гэта быў даўнейшы спадручны гаспадыні—Ванька Гарбак. Цяўшы колькі чарак палітурнага перагону, ён цягнуў сваю ўлюбёную песню:

Палюбіў Кацю, паверце,
І кварцеру Каці зняў...
Перад людзьмі ліцамерыў,
Вараваў, Каці таскаў.

— Бач, сцерва, кідаў рыжаваты сусед,—чаго ёй захацелася...

А Бонька, не слухаючы, цягнуў:

Завушніцы, бранзалеты,
Плацце лёгкае, як пух.
Італьянскія карцінкі
Захацела Каця ўдруг.

— Ой, сволач,—кідаў неўгамонны сусед. Марфуша занялася Казімам. Бонька, не зважаючы ні на вошта, спяваў:

Ну, я ўзяць усё праверыць,
На паперцы запісаць...
А Кацюша плакаць стала:
— Ідзі, мілы, вараваць.

Гаспадыня некуды выйшла. Рыжаваты сусед, нязграбна аблакаціўшыся на стол, моцна спаў. Марфуша, цесна туляючыся да Казіма,

нешта ласкава шаптала яму на вуха. Цяпер Бонька мог спакойна канчаць сваю песню. І ён цягнуў:

Дзе заб'еш, а дзе зарэжаш,
А дзе возьмеш наверняка...
Па грашах купца зарэжаш,
А то й прыхвошчаш чудака.
Аднойчы асенняю парою
Я із „дзела" прыхажу.
Сам з разбітай галавою
Ізнямогся і дрыжу.
І пастучаўся я ў калітку,
Але адказаў усё няма
— Што ты, дворнік, не атвараеш,
Ці яшчэ Каці няма?

Марфуша налівала адной рукой у чаркі перагон, а другой абшчэллівала Казіма. Яна часам гладзіла яго па шчаках і ціха казала:

— Які ты белы і худы... Ты што, нядаўна з турмы вырваўся? А Бонька спяваў:

І стучыся, не стучыся,
Усёроўна не атвару...
А калі будзеш ты стучацца,
Міліцыянера пазаву.

— Не, у турме я не быў... Я на хваробе абсекся.

— А Бонька ўсё спяваў. Ён нібы той глушэц, калі ўжо зацягне сваю песню, дык тады нічога не чуе і нікога не бачыць. Так і Бонька, ён толькі часам, зусім механічна перакуліць чарку перагону і зноў цягне:

Паглядзі ты на таблічку,
Што кварцера прад'на...
А дзе-ж Каця, а дзе-ж рэчы?
Усё з сабою павязла.

Ён спыніўся і, нікуды не зірнуўшы, узяў чарку, патрымаў яе ў руце і потым хуценька перакуліў, змахнуў з воч слёзы і зусім ціха, ціха дрыжачым плаксівым голасам дакончыў:

Каця, Каця ізмяніла
Усе надзеі і мячты...
Хватка ты мяне жаніла,
Дзе цябе цяпер найсці?

Ён скончыў і абвіс над сталом. Яго кудлатая галава пробліскамі сівізны дрыжэла пры цьмяным святле газоўкі. Здаецца, ён плакаў? Так, ён плакаў—гэты друг Ніжняга рынку і слаўтай Бардучыхі—Сонькі з Ніжняга—свацці, кумы і цешчы блатнякоў. Боньку растрывожыла песня, але ён любіў гэтую песню, ён часта яе спяваў, а іншых песень не ведаў і ведаць не хацеў. Ён любіў толькі гэтую песню, якую можа нават сам склаў. Казім ледзь, трымаючыся на нагах, падышоў да ложка і галавой бразнуўся на пасцель. Марфуша паранейшаму ўвіхалася каля яго. Газоўка хліпала ў накураным сырым сутарэнні.

## VI.

Ён прыйшоў дамоў раніцой. Маці сядзела каля вакна і зашывала торбачку. На ложку соп і варочаўся меншы брат. Мурзаты і абадраны, ён нехаця падняў галаву і зірнуў на Казіма, як-бы надумаўшы ці што запытаць, ці сказаць нешта. Толькі змоўчаў і, нацягнуўшы брудную гуньку, падкурчыў ногі і зноў засоп. Казім прысеў на край услона і задумаўся. Маці, завязаўшы вузел, адкусвала нітку. Потым яна паклала на акно торбачку і звярнулася да малодшага сына.

— Уставай, Сымонька, я ўжо торбачку тваю зашыла.—Малы нічога не сказаў, толькі і зрабіў, што яшчэ больш падкурчыў ногі і з галоўкай схаваўся пад гуньку.

— Не курчся, нечага; балазе выспаўся ўжо. Уставай, а то крывы Шэська і месца наша зойме.

Казім паглядзеў на маці. Яна ў гэты час адчыніла невялічкі сундучок і дастала адтуль некалькі скарынак хлеба, потым наліла ў гліняную, абітую абручом, міску вады і аднекуль выцягнула драбок сахарыны, паклала гэты драбок у міску і потым доўга і павольна круціла лыжкай тую ваду, затым пачала на дробненькія кавалачкі крышыць скарынкі і кідаць іх у міску. З большай і мякчэйшай скарынкі яна абцерла цвіль і падсунула яе Казіму. Той мутнымі і жаласлівымі вачыма глядзеў на маці

— Не думай, мой сынок,—сказала яна праз нейкі момант.—Дасць бог, неяк пражывем. Гэта-ж не зіма, а лета на дварэ.

Казім маўчаў і глядзеў на маці. Яму было і сорамна перад ёй і вельмі балюча. Ён добра бачыў усю галечу свайго сутарэння і разам з тым адчуваў, разумеў сваю бездапаможнасць. Хілы і збялелы ён не мог ісці і да якой-небудзь работы прыкласці рукі. А калі-б і мог, не так-то лёгка знайсці гэтую работу, каб зарабіць кавалак хлеба. Згалелы і разбураны горад, як і ўся краіна, вельмі багата патрабавалі і зусім мала маглі даць, нават таму, хто добра і глыбока разумеў хаду падзей і з сэрцам аддаўся ім; трэба было шмат і напружанай працы, трэба было самаахвярства, і людзі ішлі на гэта. Ішлі, бо бачылі, разумелі, адчувалі, як час-ад часу рассейваюцца, распаўзаюцца туманы і воддаль усё ясней і шырэй выступаюць абрысы нечага новага, дарагога і радаснага.

І Казім часам адчуваў, як гэтыя прабліскі мільгацяць перад ім. Ён тады ўспамінаў пражытае, аднаўляў у памяці сустрэчу з Мар'яй Іванаўнай, прыгадваў тую ноч і імкнуўся хоць-бы цьмяна вызначыць свае шляхі, адшукаць хоць бы нейкую сцежку, якой можна было-б выбіцца на дарогу жыцця, падтрымаць гэтую старую і збалелую маці і падгадаваць ды выпіхнуць у людзі вось гэтага малога небараку брата. Едучы дамоў, Казім так і думаў. Вось прыеду, падамся кудынебудзь на завод і тады... Толькі-ж заводы былі развалены, майстэрні спустошаны, а саматужнікі ледзь самі сабе на кавалках хлеба зараблялі і, бясспрэчна, у подумцы не мелі, каб каго да сябе за вучня браць... І вось ён сядзіць і думае, як дапамагчы свайму гору, пры горы ўсёй краіны. Маці пазірае на яго высахшы твар, павольна чапляе на плечы сабе, потым Сымоньку торбачкі і плача буйнымі і горкімі слязмі.

— Мама, ты не плач, я ўжо вялікі, і зараблю табе на кавалак хлеба.— Гаворыць так, а ў самога галава ніжыцца, і на вочы набягаюць слёзы, буйныя і бездапаможныя слёзы хворага і слабага юнака. Малодшы брат незразумелымі вачыма пазірае на Казіма і, здаецца, хоча падыйсці пашкадаваць яго. Ды вось маці,—яна бярэ Сымоньку за руку і вядзе да парога. На доўгім матузу торба звісае да самых пят і нязграбна целяпаецца каля ног. Малы моўчкі пераступае парог і з радасцю выскаквае на двор, дзе шмат сонца, дзе так хораша і так радасна. А маці спынілася перад самым парогам, папраўіла чапяльнік і, перахрысціўшыся, сказала.

— Сынок мой, не хадзі ты да Сонькі... Лепш я буду цябе з жабрачай торбы сваёй карміць, чым у іхным багацці жыць.

Яна пастаяла крыху, падумала, яшчэ раз папраўіла чапяльнік і вышла. А Казім сядзеў і моўчкі глядзеў ёй услед. Ён думаў нешта

сказаць маці, яму хацелася хоць-бы цёплым словам абнадзеіць старую ды не было тых цёплых слоў, не было ўжо маці. Яна зноў пайшла на Саборную ратаваць сваё і яго жыццё.

Нібы анямеўшы, ён доўга яшчэ сядзеў, аж пакуль не пабачыў праз зацёклае і захлёпанае граззю акно сонечныя праменні на сцяне суседняга дома. Тады ён устаў і, дастаўшы з-пад ложка бацькаўскую спадчыну—тупы тапор, выйшаў на вуліцу. Ён доўга цягнуўся ўздоўж яе бруднай і вузкай—Нямігі. Ён абышоў амаль палову двароў, прапануючы свае вольныя рукі, але нікому яны не спатрэбіліся. Тады ён выйшаў на рог каля Ніжняга рынку і прыпыніўся. Сонца павярнула з поўдня, і з рынка пачалі разыходзіцца людзі. Сівы чаляднік з іржавай пілой прыпыніўся недалёка і паглядзеў на Казіма. Ламавы рамізнік з возам бочак праехаў, і прамінулі, некуды спяшаючы, людзі.

— Што гэта, стары, людзі печы перасталі паліць?

— Чаму, паляць, толькі цяпер такія ўжо людзі. Дзе палена хто дастане, дык і сам парэжа, сам і паколе. Нашаму брату—чалядніку кепскія заработкі.

Вечарэла, і Казім, прыпёршыся да сцяны, стаяў і глядзеў сабе пад ногі. Яму вельмі не хацелася ісці дамоў і разам з тым вельмі рупіла чаго-небудзь перакусіць, каб хоць крыху замарыць нутраны голад. Стары чаляднік развітаўся і пасунуўся да хаты; трэба-ж было ісціі Казіму, не начаваць-жа на вуліцы, калі такі-сякі куток ёсць і ён пайшоў...

На другі дзень было тое самае. Казім вельмі доўга хадзіў па дварах, а калі нічога не выхадзіў, выйшаў на той самы рог вуліцы і прыпыніўся. Упачатку ён памкнуўся на Саборную пайсці, але прыпомніўшы, што там маці з братам, супыніўся і падпёр худымі плячыма вулічную тумбу. Воддаль стаялі іншыя чаляднікі. А на Ніжні, туды і адтуль, цягнуліся адзін за адным людзі. Казім глядзеў на іх і абмяркоўваў сваё становішча. Яму хацелася да чаго-небудзь прыкласці рукі, яму вельмі патрэбна было зарабіць якую капейку, каб хоць як узбіцца на адзежыну. Можа, калі-б чалавек меў ахайнейшую вопратку, дык яму-б тады і работу далі, а так ніхто нават і слухаць не хоча. Казім па-ціху крануўся з месца і накіраваўся да Ніжняга. Паспрабую, думаў ён, авось ды што-небудзь выйдзе, і пайшоў шпарчэй, трымаючы на віду бацькаўскую спадчыну—тупы тапор.

На рынку было говарка і людна. Ён праціснуўся між людзей і прыпыніўся каля кітайца з пацеркамі; той падазрона зірнуў на хлопца і заўчасна падабраў і паклаў у сундучок больш каштоўныя рэчы. Казім адхінуўся ў бок і, выставіўшы тапор, голасна гойкнуў:

— Каму тапор? Добры тапор...—Плячысты гарміла ўсміхнуўся і абыякава кінуў:

— Тваім тапаром толькі каменне часаць.

— І тваю дурную галаву,—агрызнуўся Казім.

— Брызь, падлюга,—і намерыўся выцяць. Казім крутануўся ў натоўп.

— Пакажытку тапор, малец,—звярнуўся нейкі дзед.—Свой, ці можа дзе свіснуў?—разглядаючы казаў ён.

— Вам усёроўна... Купляйце, калі трэба.

Чалавек доўга цанаваўся і ўсё аглядаў рэч. Ён то паважыць на руцэ, то пазногцем дзе калупне, то звон паслухае. Казім цярпліва чакаў і не саступаў ні капейкі ніжэй вызначанай цаны. Урэшце чалавек аддаў хлопцу тапор і адышоўся. Але не паспеў Казім і колькі раз выгукнуць аб сваім тапары, як адкуль чорт прынёс таго самага гармілу; ён цапнуў Казіма за шкірку рукой і, мусіць, добра намерыўся скалануць, як раптам перад імі вырас Бонька.

— Пусці мальца,—і нешта кінуў яму на сваёй зладзейскай мове. Потым яны адзін за адным нырнулі ў натоўп і ўжо больш, як не імкнуўся Казім адшукаць іх, не знайшоў. Той самы чалавек, што раней цанаваўся, зноў падышоў, зноў доўга аглядаў тапор і ўрэшце выняў з-за пазухі грошы і заплаціў.

Схаваўшы ў кішэнь грошы, Казім рынуўся да Кіркі Табачніка. А праз нейкі час ён звярнуўся зноў на рынак, і трымаючы ў руках папяросы і запалкі, гукаў на ўвесь голас:

— Каму папяросы „Кузьма Кручкоў"!!!

І час ад часу то той, то той цягнуліся да хлапца. Гіршык Шмуйловіч, што прадаваў на рынку ваду, з зайдрасцю глядзеў на свайго канкурэнта. Ён вельмі дакараў сябе, чаму раней за гэтага лайдачага сына не надумаўся прадаваць папяросы. А Казім бегаў з аднаго ў другі канец і ўсё крычаў:

— Найлепшыя папяросы!

І той ці іншы чалавек спыняў хлапца і браў папяросу. Бо не ў кожнага-ж хапала грошай на цэлы пачак, ды яшчэ каб знайсці гэты пачак, трэба было абляскаць ледзь не ўвесь горад. А тут сабе папяросы пад самымі рукамі.

— Каму закурыць! Найлепшыя папяросы!!!

А праз колькі дзён разам з Казімам быў і малодшы брат. У невялічкім вядзёрку ён насіў чыстую і студзёную ваду. Гэтым новым канкурэнтам Гіршык Шмуйловіч канчаткова быў нездаволены і, калі часам яны сустракаліся адзін на адзін, то дзіцячыя кулачкі самі сціскаліся і вельмі хмурнелі бровы. Але-ж Гіршык хоць і быў большы, усё-ж не чапаў Сымонку, бо што не кажы, а брат у яго вунь які, нават сам, не то што прадае папяросы, а адкрыта курыць. А такога зачапі, дык ён табе і галаву знясе... Здалёку па-ранейшаму даносіўся голас.

— Каму закурыць!

І ў розных канцах рынка як-бы ўторылі яму іншыя, больш танклявыя галасы:

— Каму вады!

— Сцюдзёнай вады!

...Так пацягнуліся дні.

## VII.

Зацемна пусцеў рынак, і з апошнім крамнікам, ішоў дамоў Казім. Ён пазнаёміўся ўжо з гандлярамі Ніжніх радоў і ведаў амаль усіх перакупшчыкаў з рынка. Ён часта дапамагаў каму-небудзь з іх упарадкаваць які тавар; часта перакупляў для іх тое-ці-сёе з другіх рук; напрактыкаваўся цанавацца і часам перабіваць цану з тым, каб хутчэй збыць якую рэч знаёмага гандляра, ці адкупіць у якога-небудзь няўмекі за невялікія грошы добрую штуку. За ўсё гэта Казіму перападала досыць добрая доля шанцу. І ўсёткі гэтага было мала. Праўда, у хаце часцей загасціваў кавалак хлеба і з'явілася такая-сякая адзежына. Але маці яшчэ хадзіла на Саборную і брат данашваў апошнія порткі, а сам Казім швэндаўся ў падраных апорках. Вось чаму вечарамі Казім хадзіў на Віленскі вагзал і там нанімаўся насіць рэчы пасажыраў. Ён скраў на рынку ў некага невялічкую каляску і разы са два на ёй перавозіў чужы багаж.

Толькі да яго паслуг пасажыры адносіліся недаверліва, і калі нават хто наймаў, дык вельмі ўжо насцярожана ўсю дарогу сачыў за хлапцом. Хоць у Казіма і намеру благога не было. А адкуль-жа людзям пра тое ведаць? Надворны выгляд гэтага хлапца, як і ўсе яго рухі, вельмі-ж ужо нагадвалі вулічнага злачынца. Аднаго разу на

вагзале Казім зусім выпадкова напаткаў Марфушу. Тая, убачыўшы яго, падышла і прывіталася.

— Што-ж гэта ты, Казім, да нас не прыходзіш?

— Так, часу няма.

Яна пацягнула хлапца з вагзала. Прыбраная і рослая яна выдавала значна сталей сваіх год; яе зусім яшчэ малады твар меў на сабе след нейкай заўчаснай старасці; калі-ж яна расчыняла рот, каб зарагатаць, каля воч збіраўся цэлы жмут невялічкіх зборак, і тады здавалася, што Марфушка вельмі ўжо пражыўшая жанчына. А між тым гэта была зусім яшчэ юначка. Пазней Казім вельмі часта ўспамінаў і не раз казаў сваім таварышам, як старыць вуліца чалавека. Вось хоць-бы ён сам, малады яшчэ хлапец, а выгляд, выгляд зусім мужнага і ўзбуяўшага чалавека. Надворны выгляд яго зусім не па гадах...

Яны ішлі цямнейшым бокам вуліцы. Людзей было мала і вельмі цмяна гарэлі ліхтары. Нейкі п'яны чалавек, трымаючыся за паркан, рыгаў на самы тратуар. З падваротні двара, грызучыся між сабой, выкаціліся два сабакі. Казім памкнуўся быў атакаваць іх, ды прыпомніў, што не адзін—стрымаўся. Бесклапотная Марфушка ўсё рагатала і расказвала нейкую выдуманую гісторыю аб сваіх хахалях. Так, ішлі яны да самага двара, а там Казім намерыўся павярнуць дамоў, ды дзе там. Узрушаная Марфушка пацягнула яго да сябе.

Сонька была недзе „на справе", і Марфуша адчувала сябе гаспадыняй. Казім сядзеў і час-ад-часу меркаваў—чаго ўласна хоча ад яго гэты чалавек? Марфуша ўвіхалася каля хлапца, без сораму надараючы яго пацалункамі. Можа яна пакахала Казіма? Ці чорт. А можа? Здараецца-ж так, што і ў такіх людзей часам абудзіцца сапраўднае пачуццё каханая і пяшчот. Здараецца, толькі рэдка. І той, хто быў на вуліцы, убачыўшы гэта аднаўленне, не паверыць ў яго шчырасць. Бо надзвычай ужо шмат давялося бачыць яму фальшы вулічных жанчын і вельмі часта даводзілася фальшывіць самому...

Прайшло некалькі дзён, і зноў аднаго разу ўвечары Казім стаяў каля пад'езда Віленскага вагзала. Прышоў цягнік, з Гомеля і пасажыры адзін за адным выходзілі ў горад. Убачыўшы ў каго рэчы, Казім пaдбягаў і прапаноўваў свае паслугі. Але пасажыры моўчкі праходзілі каля яго, не звартаючы нават увагі. Казім адышоўся ўбок і прыпёрся да сцяны. Людзі ішлі, людзі праходзілі, каля пад'езда было ўжо амаль пуста. Рамізнікі параз'язджаліся і пазнікалі людзі. Стоячы Казім меркававаў падацца на Александраўскі, хоць там яшчэ менш было шанцаў на заробак, бо, апрача рамізнікаў поўзала яшчэ конка, і ўсёткі ён думаў пайсці. Ён намерыўся, нават і адхінуўся ад сцяны, як раптам дзверы расчыніліся і на пляцоўку выйшаў нейкі прыстойна апрануты чалавек. Следам за ім насільшчык вынес рэчы. Ён паставіў іх каля слупа і, як-бы працягваючы няскончаную гутарку, зазначыў:

— Я вельмі прашу прабачэння... Пры ўсім маім жаданні, грамадзянін, я ўсё-ж не магу. Ёсць вельмі пільная службовая справа... А вось і хлапец, ён вам і на край света дапаможа адтарабаніць рэчы...

Учуўшы, што пра яго ідзе гутарка, Казім падбег. Надзея на заработак мільганула перад ім. Рослы і прыстойна апрануты грамадзянін абмераў хлапца праніклым поглядам. Перад ім стаяў бедны, худы і абшарпаны хлапец вуліцы.

— Ну, нясі тады, малы.

Казім падхапіў на плечы чамадан і наважыўся ісці.

— Пачакай,—сказаў чалавек. Ён выняў кашалёк, каб расплаціцца з насільшчыкам. У гэтым самы момант дзверы зноў расчыніліся і, не

зважаючы ні на каго, прайшоў Бонька Гарбак. Ён нават на Казіма не звярнуў увагі, хоць і ведаў яго, вунь, як добра. Шырокія яго плечы ў пацёртым пінжаку хутка схаваліся ў цемені вуліцы.

Чалавек расплаціўся з насільшчыкам, той яго вельмі дзякаваў. Урэшце яны пайшлі,—Казім паперадзе, а чалавек следам. Ішлі ціха, не спяшаючы. Казім аб нечым думаў. Цяжкаваты чамадан ціснуў плячо, тады Казім перакладаў яго на другое плячо і паціху ішоў далей. Было цёмна і шумелі абапал вуліцы маладыя дрэвы. Раптам, адкуль не вазьміся, чорт рамізніка панёс, ён ледзь не падбіў Казіма. Рамізнік мацюкнуўся і намерыўся выцець хлапца пугай, але, заўважыўшы прыстойнага чалавека, ён сцебануў пугай па кані.

— А можа паедзем,—кінуў ён, ад'ехаўшыся. Чалавек махнуў рукой і загадаў Казіму ісці па тратуары. Праз нейкі час яны апынуліся ў гасцініцы, і задаволены платай Казім з радасцю выскачыў на вуліцу. Але не паспеў ён ступіць і некалькі крокаў, як з-за рога насустрач выплыў Бонька.

— Ты, падшыванец, у якім нумары гэты тып спыніўся?

Казім зірнуў на яго і падумаў: „вось чаго ты цікаваў".

— Што маўчыш, быдла, цябе пытаю.

— А што я, агент твой, ці што?

— Ну, ну, гніда, цыц!—Бонька хапіў яго за руку. У гэты момант Казім успомніў усе свае сустрэчы з Горбаком і, доўга не думаючы, выпаліў:

— Пусці... У дзевятым...

І яны разышліся хто куды. Казім хутка запамятаў пра гэты выпадак. Толькі адно засталося ў яго з тых пор гэта—затоеная баязлівасць Бонькі і разам нейкая варожасць да яго. Але-ж пасля гэтага вечара Казім яшчэ часцей пачаў бываць і на вагзалах. І цяпер не толькі ўвечары, ён тарчэў там і ўдзень і познай ноччу; амаль да кожнага поезда ён прыбягаў на вагзал. Ён хутка адбіўся ад рынка, пакінуў чаляднічаць; яго крыніцай існавання сталі вагзалы. З ходою часу ён так прызвычаіўся да сваёй новай работы, што лічыў яе зусім нядрэннай. Ён нават час-ад-часу пачаў браць сабе ў дапамогу брата і часта думаў над тым, як-бы добра было калі-б яго прынялі ў штатныя насільшчыкі вагзала. А можа і прымуць? Абяцаў-жа адзін з насільшчыкаў закінуць слова начальству. Казім радаваўся і дні і ночы прападаў на вагзалах.

Аднойчы збедніўшыся так, стаяў Казім пры выхадзе з Александраўскага вагзала, звычайная рэч, ён аб нечым думаў. Толькі ён ніколі не думаў праз сваю справу. Рэдка, рэдка калі яму даводзілася думаць аб гэтым, то былі выключныя выпадкі. А так ён заўсёды думаў аб іншым, як вось і цяпер.

— Казім, дапамажы грамадзянцы дабрацца ў бліжэйшую гасцініцу.

Здаецца яго паклікалі? Казім падняў галаву, паглядзеў, так, клічуць, ідзе. На вагзале цемень. На вуліцы таксама. Ён, як і звычайна, спакойна бярэ на плечы чамадан і ідзе паперадзе. Ён робіць зусім невялічкія крокі, каб нават не нявесці падазронасці на тое, што ён думае змыцца. Жанчына яго просіць колькі раз ісці шпарчэй, бо яна змарылася і хоча адпачыць. Казім паслухмяны, ён робіць тое, што яму кажуць. Ён ідзе шпарчэй.

Вось і гасцініца, нумар. Тут светла і цёпла. Казім здымае з плеч чамадан і ўпяршыню глядзіць на жанчыну. Яна ўжо сталая кабеціна, і калі працягнула яму грошы, то рука задрыжэла. Што гэта? Казім узіраецца ў яе твар, больш глыбока, яшчэ глыбей... Жанчына спакойна глядзіць на яго, здаецца, яна ўхмыляецца крыху. Здаецца яна...

І раптам Казім кідаецца да яе. Ён плача, а яна, як і тады, ласкава гладзіць яго ўскудлачаную галаву. Яна, як родная маці, пытаецца ў яго, дзе ён быў, што з ім здарылася, чаму зноў на вуліцы, хіба-ж мала было, хіба мала перацерпеў, перанёс?.. А ён, як малое дзіцё, убіўшыся ў прыпол, наўзрыд горка і жаласна плача.

А за вакном мароз, сцюжа. І дзесьці там, на Нямізе, прыбраная і гатовая на ўсё сядзіць і чакае Казіма Марфуша. Сышліся знаёмыя Сонькі, прыйшоў Бонька, і, як заўсёды, Сонька частуе гасцей, усхваляючы Казіма і рочачы Марфушы вялікае шчасце. Але Казіма няма, і газоўка хліпае ў накураным сырым сутарэнні.

Казім не прыйшоў тую ноч. І спалох агарнуў хатніх. Ён не прыйшоў і на другі дзень, і маці забегала па ўсім горадзе.

А між тым Казім сядзеў і ўсё па парадку расказваў сваёй даўнішняй знаёмай, прыхільніцы—Мар'і Іванаўне Каравай.

— Я пра вас думаў часта, Мар'я Іванаўна. Чамусьці вы мне здаецеся вельмі харошым чалавекам.—І ён нязграбна і асцярожна гладзіў яе ўсю ў зморшчыках, старую, жылістую руку.

— Веру табе, веру, але ніяк не магу зразумець, чаму ты зноў пайшоў на вуліцу?.. Хіба яна табе не далася ў знакі? Няўжо табе не хапіла-б месца на якім заводзе?..

Казім маўчаў і ўсё гладзіў яе такую харошую і цёплую руку.

Тады Мар'я Іванаўна прыгарнула яго да сябе і моцна пацалавала гэтага, яшчэ зусім юнака ў самыя вусны.

## VIII.

Ён выйшаў на двор хмуры, задуменны. Ён рашуча пераступіў парог сутарэння, але-ж ці толькі ў гэтым справа. Трэба неяк змагчы на заўсёды разысціся з гэтымі людзьмі, паабсякаць усе нітачкі, на якіх трымалася сувязь. А гэта-ж, гэта-ж не лёгкая справа. Казім азірнуўся. Каля дзвярэй стаяла Марфушка. Яна была худая, і нейкі тупы сум працінаў яе наскрозь. Яна апусцілася, а таму і выдавала значна старэй сваіх год. Патупіўшы вочы ў зямлю і залажыўшы назад рукі, яна плакала. Яна не ўсхліпавала, як некалі, калі прытваралася, а плакала ціха нутром, раняючы на зямлю буйныя слёзы. Казім падышоў і прысеў на брудную ступеньку, што вяла ў сутарэнне.

— Марфушка, ты на мяне не крыўдуй. І ты, і я—усе мы разумеем, што жыць заўсёды так мы не зможам. Рана ці позна...

— Гэта праўда, Казім, праўда, толькі я думала, я верыла, што ты мяне не пакінеш тут, што ты возьмеш. Ты ўжо не маленькі... Яна перастала плакаць, яна толькі цяжка дыхала, нібы вось-вось узабралася на высокую гару...—Я, Казім, думала, што мы будзем жыць разам усюды і заўсёды... А ты, ты кінуўся да гэтай камісаршы, што-ж, цёплае мясціна, дарма, што старая, як падла... затое...

— Марфуша, я табе не раз казаў, што гэты чалавек даражэй мне за родную маці...

— Ведаю я гэтых родных маці... Ідзі ўжо, бо недзе прагне, чакае... Чаго ты прыходзіш да нас? Для цябе-ж тут нічога і нікога няма. Ці мо' цікуеш, выдаць хочаш? Дармо, тут цяпер толькі я адна. А мяне-ж не возьмеш, я-ж не хадзіла красці... Ідзі, яна чакае... кур'ер Соўнархоза...

Казім зірнуў на Марфушку і шчыра ўсміхнуўся. Марфушка яго ніколі не ўпікнула за тое, што ён злодзей, яна лічыла гэта зусім прыстойным. А вось за тое, што Казім пайшоў кур'ерам у Соўнархоз, яна ўпікнула. Што-ж, няхай. У тым, што Казім стаў кур'ерам, ён

нічога дрэннага не бачыць. Ва ўсякім разе, гэта значна лепш, ніж днямі выстойваць на вэгзалах, чакаючы прыхода цягнікоў. Ён намацаў руку Марфушкі і, паціснуўшы яе, ціха сказаў:

— Заўтра я забіраю адсюль маці і брата... Больш я не прыду сюды... Чуеш?.. Калі-ж табе будзе туга, скажы, я ніколі не адмоўлюся дапамагчы.

— Сам з голаду не здохні... Дзякуй, я пражыву і без тваёй дапамогі...

Казім заплікнуў паліто і выйшаў на вуліцу. Было сумна і студзёна. Смярдзела нейкай тванню і перастоем. Над горадам была вясна, а тут, у гэтых скучаных сутарэннях, па-ранейшаму цвіль выступала па сценах. Ён ішоў моўчкі, нікуды не спяшаючыся, і сум не даваў яму спуску. Ён накіраваўся да конкі і, спрытна ўскочыўшы, падаўся на Александраўскі.

Ужо поўгода, як Казім працуе кур'ерам Соўнархоза. Ён багата паспеў, ён дабіўся да сапраўдных людзей. Мар'я Іванаўна не на крок не адпускала яго ад сябе. А паколькі яна амаль увесь час была ў Соўнархозе, то дні і ночы быў там і Казім. Яна паказвала яму, навучала, тлумачыла. А ён, заўсёды рэзкі і непаслухмяны, уважліва слухаў яе, і кожнае яе слова баяўся пратраціць, запамятаць. Аднаго разу яна паклікала Казіма ў габінет камісара. Той папрасіў сесці.

— Ну, як?—запытаўся ён потым.—Абжыўся ты ў нас троху? Не цягне зноў на вуліцу?.. Потым, тав. Казім, я даведаўся, што ў вас ёсць маці і брат... Як яны, можа дапамагчы трэба? Мар'я Іванаўна кажа, што ў цябе з кватэрай кепска.

— Дзякуй за ўсё. Мар'я Іванаўна на мяне не забывае. А што да кватэры, нічога, як-небудзь. Там мы ўжо жывем даўно.

— Дарэмна скромнічаеш. Ты, брат, калі што, дык кажы... А наконт кватэры давядзецца перабрацца табе сюды ў будынак Соўнархоза... Але ўласна гэта ўсё між іншым, галоўнае-ж мы вось мяркуем перакінуць цябе на працу ў аддзел.

— Я не змагу, я малапісьменны...

— Відаць Мар'я Іванаўна цябе лепш ведае, яна запэўнівае мяне, што ты ў аддзеле зможаш працаваць... Ва ўсякім разе, паспрабуй.

Казім, стрымліваючы нутранае хваляванне, спакойна выйшаў з габінета. Ён не мог нарадавацца жыццю і людской прыхільнасці.

І ўсёткі яму часам рабілася сумна. Гэта часцей за ўсё было тады, калі не так было работы, а галоўнае, калі не было Мар'і Іванаўны. Вось і цяпер яна паехала некуды ў камандзіроўку. Яго пацягнула да Марфушкі. Ён ведаў, што яна цяпер адна. Уся ранейшая кампашка ў першыя-ж дні паспела раскасіравацца. Марфушка, пасля ад'езда Сонькі з Бонькам, асталася адна. У яе тлела надзея, невялікая надзея на Казіма. І хоць яна амаль кожны дзень пасля дзесяці вечара выходзіла на трэк, усёткі яна не пакідала думкі пра яго. Яна старанна цікавала яго на двары, часта заходзіла да маці. Ёй здалося, што Казіма яна ўсёткі кахае.

А Казім... Конка павольна кацілася ўздоўж Маскоўскай. Мільгацелі ў вячэрнім змроку цьмяныя ліхтары. Казіму было сумна. Нейкі чарвяк тачыў нутро. Казім імкнуўся моцна рагатаць і шмат гаварыць, бо яму было сумна... Вось і вагзал. Ён такі самы, як і год таму назад. Людзі споўдаюцца, прамінаючы позяхамі нудныя гадзіны чакання. Вунь спіць кабеціна, абапёршыся на чамадан, як лёгка гэты чамадан зьміліць. Казім колькі раз праходзіць каля жанчыны. Яму проста хочацца прайсціся. Нейкі чалавек папрасіў запалку. Ахраннік праходзячы скоса зірнуў, вайсковец паблізку спыніўся. Казім стаў,

паглядзеў навокал, усміхнуўся і выйшаў на двор. Ён моўчкі пацёгся ўздоўж вуліцы. Ён ішоў і думаў пра тое, як мяняецца жыццё, як праходзяць дні і як часам хочацца нечага, а чаго, хто яго ведае.

Аднойчы, можа гады праз два, Казім пачаў прасіць Мар'ю Іванаўну, каб тая дапамагла яму паступіць на завод. Яна, добра ведаючы Казіма, бачыла яго наскрозь, разумела яго таксама наскрозь. Пачуўшы просьбу хлапца, Мар'я Іванаўна падумала, яна была такі чалавек, намякні ёй толькі аб чым-небудзь Казім, то адразу ў глыб пранікне, зразумее, што патрэбна, чаго ён хоча. Так і цяпер, можа б Казім і рад адмовіцца ад раней пададзенай думкі, дык дзе там, Мар'я Іванаўна спуску не дае. Што дня некуды звоніць, пытаецца просіць, абяцае. І так можа тыдні са тры, ці месяц. Урэшце яна дагаварылася. Казім слухае яе паведамленне і не ведае, як аддзякаваць. А Мар'я Іванаўна сур'ёзна глядзіць на яго і потым зусім па-інакшаму, не так, як раней, пачынае гаварыць.

— Я да гэтых пор заўсёды гаварыла з табой, Казім, як з хлапчуком. Я прывязалася да цябе, як да роднага сына. Я не вінавата, што ў мяне няма цяпер дзіцяці. Турма забрала іх у мяне, а барыкада забрала мужа. Ты памятаеш, таго падцятага, касцістага мужчыну... Ты памятаеш тую ноч. . Ён згінуў там... Ды ці толькі ён адзін. Ты быў там і таксама мог загінуць, загінуць дзіцём, непабачыўшы свету, непаспрабаваўшы жыцця, сапраўднага жыцця. Ты быў хлапчуком вуліцы і бачыў толькі гора... Але ты не загінуў, і калі я зноў сустрэла цябе і дазналася пра твой стан, мне зрабілася вельмі балюча за твой лёс. Я паклялася дапамагчы табе выбрацца з твані, стаць на сапраўдную дарогу. Ты маеш поўнае права ісці па гэтай дарозе разам з усімі намі.—Яна спынілася, падумала і, узяўшы руку Казіма ў свае рукі, дадала.—Цяпер ты ведаеш, куды табе ісці, ведаеш, што рабіць. Будзеш на заводзе, памятай, як-бы цяжка не было, не здавайся. Ты-ж умеў знесці цяжар вуліцы і сутарэння, дык няўжо не зможаш добра працаваць? Зможаш... А там мы яшчэ сустрэнемся з табой, пабачымся...

Яна моцна паціснула Казіму руку і, здаецца, плакала.

Праз колькі дзён яны развіталіся. Гэта была цяжкая ростань, якая рочыла радаснае спатканне. Казім пайшоў на дрэваапрацоўчы завод, прыстроіўшы малодшага брата на сваё мейсца ў Соўнархозе.

## IX.

Вось ён і завод. Колькі думак, і як усё проста, звычайна. Казіма паставілі ў слясарню не то вучнем, не то падручным. Яму далі камплект інструментаў, паказалі, на якіх ціскох працаваць, паклалі перад ім некалькі балтоў, і механік сказаў:

— Калі што не зразумела будзе, пытайся. А лепш за ўсё, скажу табе, хлопча, прыглядайся да работы іншых ды не валацуж, а рабі. Работу ты крыху разумееш, а там падвучышся...

І Казім рабіў. Ён, здавалася, толькі і жыў заводам. Ён быў заўсёды паслухмяны і вёрткі і разам з тым просты і даверлівы. Такімі людзьмі звычайна бываюць толькі ў юнацтве, а юнакі—пры першым каханні. Раніцой прыходзіў на работу да гудка. Яму вельмі карцела хутчэй даведацца пра ўсе складанасці сваёй работы. Першыя дні яму далі апілоўваць балты. З непрывычкі гэта здалося вельмі цяжка і галоўнае, дакучліва. Гэта-ж думаць толькі, ад гудка да гудка стой і пілікай сцёртым рашпілем па цвёрдым жалезе. На далонях павырасталі кравяністыя мазалі, косці ламала і часам па ўсім целе прабягала слабасць. Казім вельмі пацеў і, шчыра кажучы, яму было сорамна за сваю слабасць. Поплеч з ім стаялі такія-ж самыя хлапцы, ім

нічагуткі, а ён, здавалася, увесь вадой падплыў. Хутка апілоўка балтоў скончылася, а за ёй мінулася і баязлівасць першых дзён. Казім пачаў уваходзіць у жыццё слясарнай. Ён нават смялей зазіраў у вочы старэйшых слесароў і пачынаў шуткаваць з хлапцамі-падручнымі. Праз два тыдні, калі скончыўся курс заводскай пробы, Казіма прымацавалі да слесара Каўшэвіча.

Гэта быў маўклівы і хмуры чалавек, здавалася, што ён усё нечым нездаволены. Яго курносы твар і падслепаватыя вочы заўсёды былі ўбіты ў якую-небудзь дэталь; калі нават ён гаварыў з кім, дык не меў прывычкі глядзець у твар, не, так заверне ў бок галаву, буркне што-небудзь, ды зноў за сваё. Ён быў зусім не гаваркі. А Казіму вельмі хацелася гаварыць, не, яму хацелася слухаць, каб іншыя гаварылі. А вось Каўшэвіч маўчаў. Калі ён нават даваў апілаваць дзве ці тры трубкі, толькі тады скажа:

— Я прыглядаўся, пілаваць ты добра ўмееш. Вось і падгані пад угольнік гэтыя канцы. Толькі не спяшайся, павольна, але каб добра.

Казім і шархаваў канцы труб напілкам. Поплеч за сваімі ціскамі працаваў Лагвянок, ці, як звалі яго ўсе, проста Іванька. Гэта быў вельмі рупны і гаваркі чалавек. Упачатку Казіму здалося, што ён нават троху дуркаваты. Бо дзе-ж гэта бачана, каб стары ўжо чалавек, а так багата, проста бесперастанку, розную дрэнь малоў. Стаіць над ціскамі, робіць што-небудзь і ўсё гаворыць. Не паспее аднаго скончыць, за другое хопіцца, і хоць пустое меле, але Казім слухае. І здаецца толькі ён адзін і слухае Іваньку. Слухае і старанна прыціскае падпілак да жалеза. Ён нават забыўся на ўсё і на ўсіх, ён не чуў голаса Іванькі, і перад ім былі толькі ціскі, падпілак і гэта цвёрдае жалеза, якое трэба было пілаваць, пілаваць, каб падагнаць пад угольнік.

Аднойчы пасля палучкі здарылася так, што Каўшэвіч, Іванька і Казім выйшлі з завода разам. Пачынала вечарэць, і восеньская імгла сыпалася на дол. Ішлі моўчкі. Чамусьці нават Іванька маўчаў. А калі пачалі набліжацца к масту, Каўшэвіч запытаўся ў Лагвянка.

— Можа, Іван, зойдзем да Кашкеля?

— Яно б не пашкодзіла... Ты, Казім, дамоў?

— Не, калі не палічыце нязручным для сябе, то я пайду з вамі.

Кашкеля ведала ўся ўскраіна. То была традыцыйная піўнушка. Ранейшы карчмар з-пад Ігумена, Кашкель імкнуўся і ў піўной трымацца карчомных парадкаў. І як раней у карчме, так цяпер і ў піўной у адным з куткоў ён павесіў невялічкі абразок. Калі ў Кашкеля пыталіся, чаму ён гэта зрабіў, то гаспадар адказваў:

— Наш чалавек вы ведаеце, што гэта за натура. Ён вып'е з напарстак, а вэрхалу наробіць на цэлую вёску. То вокны пачне біць, то адзін аднаго дубасіць. А ты яму на абразок пакажы, дык ён і супакоіцца ды яшчэ пачне перад ім кленчыць. А мне што, кленч сабе на здароўе, абы разбою не было.

— Дык гэта было раней, у вёсцы, а тутака-ж горад, і людзі ў нас цяпер такія, што бога не прызнаюць.

— А, чалавеча, не ўсе, не ўсе, кажу, людзі бога не прызнаюць. Вось да мяне прыязджаюць суседзі з вёскі, дык яны табе, перш чым за куфель узяцца, колькі разоў перахрысцяцца ды яшчэ ўкленчаць.

Дзверы расчыніліся, і ў піўную ўвайшлі Каўшэвіч і Лагвянок. Казім затрымаўся на двары.

— А прабачце,—просіць Кашкель свайго гутарлівага наведвальніка...—Ягамосці пролетары, прашу да стала, вельмі рад вам.

— Сядзем самі, ты не юлі.

— Вы, Каўшэвіч, заўсёды так, калі-б хто збоку пабачыў, дык падумаў-бы, што мы вельмі-ж лютыя ворагі.

— Павінен сказаць,—умяшаўся Іванька,—што аб дружбе кантракта мы не падпісвалі.

— Які ж там, Іванька, кантракт, мы і без яго абыдземся. Старая дружба ніколі не ржавее.

— Старая дружба? Хто гэта з табой яе вадзіў?

— Ат, не мялі, Іванька, пустога. Нам не ўпяршыню сустракацца... Вы за той апошні столік?.. Эй ты, Карпа, фор гезунд адтуль.

— Душу з цябе выгнала-б, што ты мяне ганяеш усё,—незадаволена азваўся Карпа.

— Прашу садзіцца... Вось вам куфлі, а вось і піва.

— Ты пастаў нам трэці куфаль, там у нас яшчэ адзін ёсць.

— Гэта можна, чаму-ж не.

— А раз можна, дык і стаў, не юлі, кажу,—азваўся Каўшэвіч.— Паглядзі, ці ня будзе там „свойскага“ каплю.

— Я думаю... што трэці... трэці таксама свой чалавек.

— Ды свой, не юлі ты.

— Толькі Каўшэвіч, каб ніякай бяды. Сёння ўжо два разы заходзіў міліцыянер, а надоечы нават інспектар быў.

— Ды нясі, кажу, як быццам акрамя цябе і дастаць няма дзе... Нясі, кажу, мы яе зараз і расціснем тут.

Казім прыйшоў, калі куфлі былі ўжо наліты. Выпілі. Ён зірнуў на сваіх суседзяў і, падумаўшы, сказаў:

— Не ведаю, як вы, а я дык ад чаркі не адмовіўся-б.

Каўшэвіч зрабіў ухмылку задаволення.

— Я пайду папрашу,—сказаў Казім,—можа стары дзе дастане перагону?

Задаволена шлёпнуўшы па плячы, з жартаўлівай радасцю сказаў Іванька:

— Сядзі, малец, на месцы, да цябе паклапаціліся ўжо.

Кашкель падыйшоў і, абмераўшы поглядам Казіма, неўпрыкмет перадаў Каўшэвічу „свойскую“—звычайную самагонку. Гэтую „свойскую“ прывозілі Кашкелю ігуменскія землякі, якія, не паспеўшы пераступіць парог піўной, кідаліся перад абразом на калені, і тым шпарчэй і актыўней рабілі гэта, як бачылі міліцыянера, ці якога чужога чалавека сярод наведвальнікаў Кашкеля.

Адыходзячы ад століка, Кашкель кінуў:

— Кажаце падаць тарана? Можна, калі ласка, спажывайце на здароўе.

Кашкель заўсёды гаварыў з расцяжкай і паўторамі. Ён як-бы хацеў падмайстроўвацца пад гутарку старога местачковага гандляра. Яму здавалася, што іменна так павінны гаварыць усе шынкары, як гаворыць ён.

— Ну і юла, скажу я вам, такіх на свеце мала,—казаў Каўшэвіч...—Давай сюды свой куфель,—звярнуўся ён да Казіма.

— Толькі вы мне не так многа.

— Я меру ведаю, гаварыў ён, я не перадам... А гэты Кашкель такі чалавек, такі чалавек, што здаецца і ў пекле, калі-б туды папаў, дык напэўна адчыніў-бы піўную...

— Такія ў пекла не трапяць, ім і ў раі хопіць месца,—зазначыў Іванька.

— Гэта, як сказаць...—Каўшэвіч наліў у куфлі піва. На яго старыя аброслыя і пацёртыя гадамі шчокі пачынала выступаць чырвань. Ён, здавалася, весялеў і ўсё больш і больш пачынаў гаварыць.

— Я павінен сказаць, што гэты Кашкель разумны чалавек...

Пачуўшы, што яго памінаюць, гаспадар падышоў да стала.

— Нешта думалі сказаць мне?

— Ды што табе скажаш, не юлі брат..

— А вось і не так, дзядзька Каўшэвіч, сказаць ёсць што...

Кашкель нахіліў да Казіма вуха.

— Падайце яшчэ адну,—сказаў той.

— Дармо ты гэта робіш, дармо, кажу,—сур'ёзна зазначыў Каўшэвіч.

— Чаму дармо, што я ня маю права пачаставаць майго майстра?

Каўшэвіч усміхнуўся. Іванька з радасцю плёхаў Казіма па плячы і ўсё казаў.

— Правільна, правільна, паважай, брацiку, іншых, і цябе будуць паважаць.

— Усім сабакам не зважыш,—уставіў Каўшэвіч.

— Ды не сабакам, а старэйшым, кажу.

— Ну, то—іншая рэч. Старэйшы, ён чалавек з вопытам і з такой, сякой практыкай.

Кашкель зноў торкнуў нешта, толькі цяпер не Каўшэвічу, а ўжо Казіму.

Іванька з кожнай хвілінай усё глыбей і глыбей падаваўся маўчанню. Яго бесклапотны твар абдымала нейкая незвычайная думка, ён падстаўляў рукі пад бараду і, абапёршыся на іх, падоўгу глядзеў перад сабой на сцяну. Здавалася, што праз яе ён бачыць нешта далёкае, далёкае і таямнічае. Зусім адваротнае рабілася з Каўшэвічам. Чым больш ён выпіваў, тым весялейшым рабіўся, тым больш гутарыў, а часам нават і спяваў. Толькі калі ён пачынаў спяваць, яго голас грубеў, і сам ён увесь рабіўся зноў сур'ёзным і неяк песеннамаўклівым. Ён ні на кога не звяртаў увагі і, здавалася, песня мімаволі выплывае з яго, а ён сядзіць і слухае, спакойна і задаволена:

Раскінулась мора шырока,
А волны бушуюць ўдалі...
Таварыш, мы едзем далёка,
Найбліжэ да роднай зямлі.

Піўная даўно апусцела, і Кашкель, пазачыняўшы наглуха вокны, зашчапіў на кручок дзверы, і аблакаціўшыся на стол, задрамаў. Іванька далёка, далёка і спакойна глядзеў. Казім сядзеў і моўчкі ўспамінаў,— ён бачыў некалі такі-ж малюнак. Так, гэта было і гэта было тады вунь, калі ён галодны і абадраны на вуліцы шукаў кавалка хлеба, але... Няўжо, няўжо з таго часу нічога не змянілася?.. Эх, Мар'я Іванаўна... А Каўшэвіч цягнуў сваю песню:

Не чутно на палубе песень,
А Чорнае мора бушуе, шуміць...
Як успомніш м'нулую жызнь,
Успомніш, дык сэрца баліць.

Ён спяваў, а ўсе сядзелі і ні то слухалі, ні то засыналі. Ён спяваў, а ноч пасоўвалася, прыспяшаючы прыход заўтрашняга дня.

## X.

У слясарнай было пуста. Казім паднёс да ціскоў наліты падшыпнік і пачаў падчышчаць яго. Ён асцярожна і роўненька вадзіў падпілкам, як-бы баючыся не папсаваць, не выбраць больш патрэбнага. Ён часта клаў на падшыпнік вал, папярэдне пацёршы яго крэйдай. Потым круціў вал, а затым зноў шараваў падпілкам і зноў прымяраў. І так канчаючы адзін, браўся за другі, за трэці. Яму сказалі, што работа

тэрміновая, трэба зрабіць хутчэй, што перагарэўшыя падшыпнікі габляркі раніцой павінны быць спраўленыя. Вось ён і працуе. Трэба-ж.

У майстэрню прыходзіў механік завода. Ён праверыў работу, нешта запытаўся ў Казіма пра заліўку і пайшоў. Яму трэба было быць у кацельнай. Там устанаўлялі новы кацёл. Невялічкі лакамабіль, што пакінуў стары гаспадар, цяпер не мог задаволіць патрэб завода. Для невялічкай майстэрні гэты лакамабіль быў яшчэ туды-сюды, а вось для ўзбуяўшага завода, у які ператварылася тая майстэрня, лакамабіль быў малы і слабы. Вось і рашылі дадаць сапраўдны паравік, вялікі і моцны. А гэта не зусім лёгкая справа. Цяжка было знайсці такі паравік, але не лёгка яго і ўстанавіць. Вось ужо колькі часу капаюцца вакол гэтай устаноўкі. Каўшэвіч, які зубы з'еў па ўстаноўках катлоў, кажа, што можна і без гэтага катла, бо ён ужо-ж надта вялікі для такога завода.

Казім падагнаў апошні падшыпнік і, сабраўшы, яго перанёс у цэх. Габлярка стаяла, як той безаружны баец. Ён саставіў убок шчыты і пачаў ставіць на месца падшыпнікі. Нават паставіўшы, даводзілася некаторыя падганяць яшчэ. Бо паставіш коса—грэцца будуць, а там ізноў згараць. Ён зірнуў на фрэзер, што стаяў каля габляркі, і падумаў, што непарадку ў цэху багата. Станок быў не вычышчаны. А калі ён паглядзеў падшыпнікі, яны былі не памазаны, сухія. Дзіва, што падшыпнікі гараць. Чаму-ж не гарэць. З кацельнай даносіліся грымоты цяжкіх малатоў, а з другога паверха, як-раз над галавой Казіма таксама чуліся стукі. У зборачным нехта працаваў. А ён, малады слесар, які рыхтаваўся да экспертызы, старанна прыганяў падшыпнікі габляркі. Вось ён скончыў работу і, паганяўшы ўручную—саматугам станок, яшчэ раз змазаў падшыпнікі і пачаў выціраць рукі. У зборачным таксама змоўклі стукі, і чуліся галасы людзей, што спускаліся ўніз па лесвіцы. Толькі з кацельнай даносіліся моцныя ўдары малатоў. Праз механічны да выхада прайшлі два мужчыны. Неўзабаве за імі спусцілася з лесвіцы і, папраўляючы на галаве хусцінку, спяшалася дзяўчына. За ёй цягнуўся крываваты майстар. Казім выціраў пілавіннем рукі.

— Карамец,—паклікаў ён дзяўчыну,—пачакай, разам пойдзем.

— А, Казімка, пайшлі, пайшлі, братка.

— Вось хвілінку, толькі інструменты адтарабаню.—Ён аднёс у майстэрню інструменты, дагнаў каля варот дзяўчыну, і яны разам пайшлі.

Першы раз Казім зачапіў гэту дзяўчыну на нейкім мітынгу. Яна тады стаяла недалёка ад яго. Шмат смяялася і адпускала па яго адрасу розныя шпількі. Казім звярнуўся тады да яе з непрадуманымі словамі.

— Скажыце, дзе вы такому лёгкаму смеху навучыліся?

— А вам што, не падабаецца? Не слухайце, зрабіце ласку.— І, кінуўшы непрыязны погляд, перайшла на другі бок. Казім зразумеў, што зрабіў глупства. Але тады прабачэння не пайшоў прасіць. Ён зрабіў гэта значна пазней. І цяпер, як добра знаёмыя, яны часта сустракаліся, гутарылі.

— Між іншым, куды ты гэта пазаўчора так спяшалася?

— Не вельмі, каб ужо і спяшалася. Так, бегла на дзяжурства.

— На якое дзяжурства, што ты пляцеш?

— Так і пляцеш ужо! Ніякіх плётак, а проста бегла на чарговае дзяжурства на завод. Хіба ты не ведаеш, што я ў пажарнай дружыне састаю?

— А адкуль мне ведаць, ты-ж не хвалілася.

— Ну, Казім, не прагневайся, але-ж ты вельмі труцень. Сапраўды смешны ты хлопец. Далей цэха і станка ты літаральна нічога не бачыш. Ты, ведаеш, нейкі, як малы. Што табе скажуць, тое і робіш.

— А што па твойму на шыбеціну лезці?

— Смешна, вельмі смешна; на чорта тая шыбеніца, але разам з усімі працаваць, удзельнічаць хоць бы ў той самай пажарнай дружыне—ты можаш.

— Гэта можа і праўда, але ты зразумей, калі я прышоў на завод, то меў пэўную перад сабой задачу—набыць кваліфікацыю.

— Ну ты яе набыў. Дрэнна—добра—ты слесар. А што далей? Няўжо-ж на гэтым канец свету?

Казім зусім неўпрыкмет нават для сябе ўзяў Рэньку пад руку. Карамец таксама не звярнула на гэта ўвагі.

— Не, я ведаю, што не на гэтым канчаецца свет, але, разумееш, не было да гэтых пор калі звярнуць увагу на грамадскую работу.

— Добрая ты цаца. Між іншым, чуў, з нашага завода на машынабудаўнічы некалькі слесароў думаюць паракінуць?

— Чуў, але ахвоты асаблівай не маю. Тут я неяк абжыўся з людзьмі.

Яны можа-б яшчэ доўга гаварылі, але раптам на нейкім заводзе пачуўся трывожны гудок. Яго хутка падтрымалі іншыя. Карамец тарганула за руку Казіма.

— Нешта сур'ёзнае здарылася. Нам трэба вярнуцца.

На вуліцу выбягалі людзі. Перапалохана яны пыталіся, што здарылася і рупна, дзе каторы спяшаліся.

— Добра-ж, калі глупства якое гарыць, а калі ды большая, шкада ўсё-ж такі.

— Рэнька,—сказаў Казім,—хоць мне і не абавязкова, я-ж не пажарнік і не партыйны, але давай разам вернемся на завод.

— Ізноў ты сваё, як быццам не разумееш, што ў час трывогі кожны рабочы павінен быць на сваім заводзе.

— Правільна гэта, правільна, ды толькі пажарніку трэба хутчэй хадзіць,—жартаўліва сказаў Казім.

— Згодна, але-ж ты ўсёткі нейкі тып.—Яна паціснула яго руку і толькі цяпер заўважыла, што зусім неяк па свойску трымаецца з Казімам. Больш таго, ідзе нават з ім пад ручку.

— А хутчэй, хутчэй,—і яна вырвала руку і пабегла наперадзі.

Карамец здавалася, што яны павінны прысці на завод першыя але калі прыбеглі, то знайшлі там амаль палову рабочых. Людзі з сур'ёзным выразам на твары пыталіся адзін у аднаго, што здарылася. Пажарнікі былі на сваім месцы і нарыхтаваўшыся чакалі загада. Рэнька ямчэй прымацавала сваю каску і прыстала да каманды. На вуліцы, у цемені ночы беглі людзі. Заводскія гудкі заціхлі, і цяпер толькі чуліся трывожныя гудкі паравозаў. На заводскім двары ўсё больш і больш рабілася людна. Рабочыя стаялі кучамі і, як-бы чакаючы нейкага ўказу, спакойна гаварылі. У габінеце дырэктара ішла нарада кіруючага актыва. Казім падышоў да сваіх слесароў. У кацельнай ішла работа, і, каб не перашкаджаць ёй, паставы—комсамолец не пускаў туды жадаючых паглядзець. Казіма нехта з таварышоў пачаставаў папяросай. Каля майстэрні прайшло, радзячыся аб нечым між сабой, некалькі піонераў завадскога атрада. „Іш, жэўжыкі, і сну на іх няма", падумаў Казім.

З канторы выйшлі дырэктар і сакратар ячэйкі і хутка вакол іх стварылася людское кола. Тады сакратар падняўся на колькі пярэсылак лесвіцы і абвясціў, што ўласна нічога не здарылася і нідзе нічога

не гарыць. І хоць аб гэтым ведалі без яго, але ўсёткі слухалі, бо цікава было, на які-ж чорт уночы людзей непакояць. А сакратар казаў:

— Гэта, таварышы, проста трывога, каб яшчэ раз праверыць гатоўнасць рабочых і комуністаў у любую хвіліну выступіць на абарону сваіх заводаў.

Нехта глуха і нездаволена кінуў:

— Галаву-б сабе скруціў, ноч толькі папсулі:

-- Маўчы ты там, не бурчы, дай паслухаць, што чалавек гаворыць.

Змоўклі паравозныя гудкі, і над горадам зноў павісла глухая цемень. Толькі часам які-небудзь паравоз свісне раз-другі, ці затрубіць стрэлачнік, альбо па вуліцы праедзе рамізнік, і зноў стане ціха. Сакратар, пераступаючы з нагі на нагу, працягваў:

— Значыць, таварышы, за дбайнасць, за акуратнасць усім рабочым завода ад партыйнай ячэйкі шчырая падзяка... А зараз усе комуністы і комсамольцы павінны астацца, усе астатнія без шуму разыходзіцца па хатах.

Казім пыйшаў са двара завода следам за іншымі. Ён развітаўся з таварышамі і пайшоў адзін. Ішоў і думаў. Упяршыню за ўвесь час яго работы на заводзе, яго вельмі зацікавіла, аб чым уласна тыя, што засталіся, будуць гаварыць, куды пойдуць, што рабіць будуць. Перад мастом, яго затрымалі, але дазнаўшыся, хто і адкуль ідзе, прапусцілі. Прайшоўшы мост, Казім азірнуўся назад і сур'ёзна ўсміхнуўся. Насустрач яму невялічкімі атрадамі ішлі рабочыя. „Комуністы,— падумаў Казім,—куды гэта яны?“ Ён уздыхнуў і нехаця пайшоў дамоў.

А на заводзе комуністы і комсамольцы станавіліся ў строй. Дырэктар падзякаваў за дбайнасць пажарную каманду, сам праверыў падрыхтаванасць машын і, перагаварыўшы з начальнікам, развітаўся.

Пажарнікі павольна разыходзіліся.

У партыйнай калоне ішла пераклічка. Рэнька ўціснулася ў рады між сваіх дзяўчат. Скончылася пераклічка, і радамі па чатыры чалавекі пайшла калона на вуліцу і накіравалася за горад, ішлі ціха і цвёрда.

## XI.

Каўшэвіч аднойчы сказаў Казіму:

— Ты-б падаўся к нам у пажарную. Усе майстровыя там. Чаму-б і табе не паступіць?

— Я-б можа і запісаўся, толькі ці прымуць?

— А чаму не прымуць, ты вось намякні.

Убачыўшы праз колькі дзён начальніка, Казім выказаў сваё жаданне. Той, яшчэ падахвоціў хлапца, а праз некалькі дзён і заяву прыняў. У хуткім часе Казіма зацвердзілі пажарнікам на агульным сходзе каманды. І хоць ён надворна быў спакойны, але ўнутры вельмі гэтаму радаваўся. Ён пачаў уваходзіць у справы каманды, наведваць заняткі і хутка меў ужо роўныя з іншымі правы і абавязкі. Праз нейкі час ён добра мог валодаць рукавом. К таму ён падцягнуў сваю кваліфікацыю. Апошняя экспертыза адзначыла, што па сваёй кваліфікацыі хлапец варты вышэйшага разрада. Як завяршэнне, Казіма перакінулі на сканчэнне мантажа кацельнай. Ён працаваў шмат і плённа. Каўшэвіч не пераставаў хваліць Казіма, а Лагвянок усё дамагаўся магарыча. Казім адкладаў гэта да пуску новага катла. І вось, нарэшце, кацёл пачалі грэць.

Кацельная яшчэ была ў рыштаваннях. Апоўначы, калі ўсе разышліся і астаўся толькі Казім ды качагар, раптам узнік пажар. Ён пачаўся недзе за катлом. Непрыбраныя залітыя газай і маслам сухія дошкі рыштавання пыхнулі, як салома. Полымя па драўляных сценах чырвонымі языкамі паднімалася ўгору, як бы жадаючы хутчэй і найшчы-

рэй палізаць высокія кроквы. У кацельнай зрабілася дымна, а полымя ўсё ярчэй і ярчэй разгаралася, пераскакваючы далей і далей. Дзяжурны качагар, перапалоханы такой раптоўнасцю і сілай пажара, падняўшы крык, выскачыў на двор. Тады Казім прычыніў за ім дзверы і сам кінуўся да катла, каб даць гудок. Але полымя коўзалася па верхніх трубах, прабрацца да гудковага кола не было магчымасці. Тады ён саскочыў уніз і ў момант хапіўся за пажарны крант. Вада чохнула з брандсбоя. Перапалоханае полымя яшчэ мацней загуляла па сцяне. Але гэта было толькі ўпачатку. Залітае вадой рыштаванне абтухала, і полымя, як слаба прымацаваная павуціна, перапалохана матлялася ў кутку. Падсечанае знізу, яно не магло ўтрымацца ўгары. У кацельнай зрабілася цёмна. Правады паперагаралі, ліхтары, што віселі па сценах, патухлі. Было дымна, і дыхаць зрабілася цяжка. І ў гэтай цемені чуваць было, як трашчыць залітае вадой абгарэўшае рыштаванне і дошкі, і як бесперастанку б'е, залівае брандсбой.

Хутка прыбеглі ў кацельную на дапамогу ўсе, хто быў на заводзе. Выклікалі механіка і пажарную гарадскую каманду. Але ў кацельнай затухалі апошнія галавешкі. Цьмяна гарэлі зноў запаленыя ліхтары, і праз адчыненыя дзверы і вокны выходзіў апошні горкі дым. Казім выкруціў мокрую сарочку і расцягнуў яе сушыць на бакавіне катла. Дырэктар усыпаў механіку за тое, што не прыбралі рыштавання. Казім пад крантам абмываў куродым і гразь. Механік насядаў на дзяжурнага качагара, які не дагледзеў. Інспектар гарадской пажарнай каманды пісаў пратакол. А Казім, памыўшыся і апрануўшы высахшую кашулю, узяў ліхтар, маслёнку і палез на кацёл. Яму было вельмі шкада, што вось з-за нейкай дробязі, неахайнасці, ледзь не кануў новы і такі харошы кацёл. Казім сардэчна выцер пакуллем каплю масла, якая кацілася па блішчастай бакавіне катла.

Усю гэтую ноч Казім не спаў і механік не пакідаў кацельнай. Ён сам паправіў перагарэўшыя правады, паставіў новыя пробкі, і ў кацельнай зноў стала светла. Раніцой ён сам даваў гудкі і сам пускаў машыну, а калі Казім збіраўся ісці дамоў, механік моцна пацісnуў яму руку і сказаў:

— Вы зрабілі вялікую справу.

— Іван Мацьвеевіч, я гэта павінен быў зрабіць.

— Але вы маглі і не рабіць?

— Я зусім не разумею вас.

— Затое я разумею.

— Можа вам і відней, на тое вы і механік.

Стомлены Казім развітаўся і паціху пайшоў. Яму хацелася адпачыць, але яго трывожыла і прычына пажара. „Адкуль і як,—думаў ён, падшыпнікі насоса нагрэліся, новы кацёл яшчэ не так быў нагрэты, дык як-жа?“ Ён не ведаў і не мог ведаць. Толькі праз некалькі дзён спецкамісія ўстанавіла, што нейкі дурань, ці можа хто і знарокам, паклаў на паравую трубу жмутануч сушыць. Вось ад іх і ўзнік пажар. Калі Казім дазнаўся пра гэта, ён не здзівіўся, ён падумаў толькі, што і на заводзе розныя ёсць людзі. Толькі цяпер ён прыпомніў перапалох качагара, а чаго-б уласна яму палохацца. „І чорт-жа, ведае, што нельга дзвярэй адчыняць, дык не, насцеж пакінуў за сабою дзверы“.

Але калі Казім прачытаў загад па заводу, дзе яму дырэкцыя выносіла падзяку за геройскі ўчынак, і газету, дзе таксама пра гэта пісалі, ён на ўсё забыўся і ад радасці не ведаў, што рабіць. Такой радасці ў яго яшчэ ніколі не было і так моцна ў яго яшчэ ніколі не білася сэрца, і так лёгка ён ні разу яшчэ не хадзіў па зямлі. Казім толькі цяпер пачынаў разумець, што такое сапраўдная чалавечая радасць.

## XII.

Усё часцей і часцей сустракаліся Рэнька з Казімам. І рабілася гэта цішком. Вельмі-ж ужо не хацелася Рэньцы, каб на заводзе дазналіся пра іх сустрэчы. Тады ўжо не ўпасешся ад розных кпін і насмешак. І хоць яны не шкодзяць, наадварот, такія насмешкі заўсёды прыемна слухаць, але лепш калі іх ўсёткі зусім няма. Зімой Рэнька больш за ўсё сустракала Казіма на лыжах за горадам. Хораша ім тады было ісці пухкім снегам, адчуваючы блізкасць адзін аднаго. А потым, дзе-небудзь у лесе, каля цяпла, прыемна было пасядзець адзін каля аднаго, хукаць у рукі адзін аднаму і падоўгу глядзець у вочы. Але лепей улетку. Скончаць работу і, не дабыўшы да канца на сходзе ці гуртку, зноў куды-небудзь—на травяністы абмежак, ці ў лес, і там... Эх, харошая пара—цёплае лета і кароткае першае каханне! Не запамятаць вас, не пазбыцца. Як-бы хацелася паўтору, як-бы хацелася яшчэ і яшчэ раз перажыць, адчуць, ды дзе там. Прыдзе новае лета, больш цёплае, ці часам больш дажджлівае. Будзе другое каханне больш шчырае і цёплае, ці сустрымнае, ці крыклівае. Але не вярнуць таго першага кахання, той першай асалоды і таго смешнага запою ўсім навакольным. Ідзеш тады, здаецца, і ног пад сабою не чуеш, і навокал нічога не бачыш, тады хочацца ляцець, тады хочацца смяяцца, тады хочацца радавацца і кахаць. Эх, сляпыя вы, вочы юнака, вам-бы на свет зірнуць, а вы далей яе—любасці сваёй нічога не бачыце. Толькі не хутка гэта пачынаецца, але вельмі хутка праходзіць. Мінае, як ранішні туман, як раса, знікае і расплываецца, як далёкія зоры. І ўсё такі яно ёсць, яно будзе—гэтае першае каханне, і нам не запамятаць, не пазбыцца яго.

Казім прывітаўся з Рэнькай, і яны за якіх два гады разам пайшлі ў клуб.

— Слухай, Казім, ну чаму ты марудзіш?

— Не магу я, разумееш не хапае смеласці.

— Смешна, сапраўды смешна.

— І нічога смешнага. Ну, уяві сабе. У мяне запытаюць якое-небудзь палітычнае пытанне.

— Як быццам ты не адкажаш? Падумаеш, невук такі, на другім курсе рабфака, ды яшчэ баіцца.

— Ды не баюся, а так... Ай, да ладна, падумаю! што ты мяне ганяеш.

— Я цябе не ганю, Казім, але лічу, што табе думаць нечага, цябе комсамол не папсуе, у гэтым ты можаш быць заранёй упэўнен.

— Досыць, досыць аб гэтым ты ўжо. Кожны раз ты мне ўсё адно і тое, гэтак і надакучыць можна.

У клубе быў нейкі вечар. Людзей назбіралася багата. Казім пераступіў парог следам за Рэнькай і здзівіўся. Насупроць яго стаяла проста апранутая, крыху падфарбаваная, але зусім прыстойная выглядам Марфуша. Яна яшчэ не заўважыла Казіма і весела гаварыла з нейкім хлопцам. Рэнька юркнула ад Казіма, і ён, застаўшыся адзін, спыніўся ў кутку і задумаўся. Ён упяўся вачыма ў Марфушку і меркаваў, ці варта зачапіць? І што ўласна ён скажа, калі зачэпіць? Аб чым будзе пытацца, што раскажа. Ён адчуў, што не знойдзе агульных слоў для размовы з Марфушкай, і, каб не быць заўважаным, выбраўся на двор. Ён пайшоў вуліцай, часам азіраўся, як-бы баючыся, каб хто не дагнаў, і ўсё думаў, думаў пра гэтую неспадзяваную сустрэчу. Марфуша, як-бы тая зажыўшая рана, дала адчуць Казіму яго зусім нядаўняе мінулае. Казіму здавалася, што ён ужо назаўсёды

забыўся на пражытае, але цяпер адзін вобраз гэтай дзяўчыны, узняў перад ім увесь нядаўні малюнак. Казіму зрабілася брыдка перад самім сабою. Ён адчуў, што спудзіўся Марфушы і, каб перамагчы гэтую слабасць, намерыўся вярнуцца. Толькі зрабіўшы колькі крокаў, плюнуў і сказаў уголас:

— Згарэць яму ўсяму. На чорта яна мне. Квіты, дык назаўсёды.— Ён крута павярнуўся і пайшоў дамоў. Каля самай хаты ён успомніў пра Рэньку і ніякавата адчуў сябе, што не тактоўна абышоўся. Напэўна дзяўчына непакоіцца. Ды нічога, з ёй уладзіцца. Казім схаваўся ў цёмным калідоры...

На другі дзень перад самым абедам Казім аднёс у бюро комсамольскай ячэйкі сваю заяву. Калі ён ішоў туды, то вельмі азіраўся па баках, каб каго-небудзь не сустрэць. Яму проста не хацелася рабіць з гэтага шум і к таму хлопец усё думаў—авось ды адмовяць, хоць адначасова ўпэўнены быў, што прымуць.

Пасля работы Казім зусім выпадкова напаткаў Карамец. Яна стаяла каля брамы і аб нечым гутарыла з культурнікам заўкома. І якраз у той самы момант, калі Казім параўняўся, яна скончыла гутарку і падала руку. Адышоўшыся крыху, яна пакрыўджана сказала:

— Хамула ты ўсёткі нейкі. Змыўся і ні слова... Бегаць за табой я не думаю, ты гэта май на ўвазе.

— Я, Рэнька, маўчу, таму што заслугоўваю самай жорсткай лаянкі. Але павер, што мне вельмі не добра зрабілася.

— Кінь, устарэла ўсё гэта, яшчэ прыдумаеш хваробу якую-небудзь.

— Не, ты павер, я шчыра кажу.

— Шчыра? Гэта табе толькі здаецца. Трэба-ж неяк выкруціцца. Я, Казім, адчуваю, што ты пачынаеш адыходзіць убок ад мяне.

Казім пачуў, як дрыжыць яе голас і як цяжка выходзяць з грудзей словы. Ён разумеў, што Рэнька не верыць яму і, чаго добрага, пры яе натуры можа развітацца з ім нават назаўсёды. Яму раптам зрабілася шкада Рэнькі, такой харошай, блізкай Рэнькі Карамец. Ён прытуліў яе бліжэй да сябе і, ужо нічога не захоўваючы, расказаў ёй усю праўду. Яна цяпер уважліва слухала і па-ранейшаму шчыра верыла, бо па голасу адчувала, што чалавек гаворыць праўду.

На двары вечарэла і як-бы цішэй рабілася. Ці можа таму цішэй, што яны не заўважылі, як знаёмай вуліцай ішлі за горад. Зрабілася цёмна, і, следам за вячэрняй зоркай, зоры высыпалі на небе. Воддаль выступалі агромністымі і даўгімі абрысы старога бору і з высі падалі і рассыпаліся блішчастым ззяннем далёкія зоры. Яны не ведалі, гэтыя зоры і ведаць не будуць, што на гэтай зямлі так хораша і так радасна быць маладым.

## XIII.

На заводзе ўсё мацнелі чуткі.

— Будзе скарачэнне.

— Спыніцца завод.

— Няма сыравіны. Чуткі сабе хадзілі, блукалі па цэхах. Хто верыў, а хто і не. Адны казалі, што будзе гора, а другія проста рагаталі і раілі не слухаць балбатні, а больш і лепш працаваць. Чуткі блукалі па цэхах. Пра гэта не гаварылі, калі бачылі паблізку комуніста, ці комсамольца. Чуткі разносіліся за іх спінамі неўпрыкмет. І тым не менш ячэйка ведала. Склікалі мітынгі, тлумачылі, і вось чуткі ўлягаліся. Толькі дзе-ні-дзе хто-небудзь скажа, але яму ўшо не вераць. Бо колькі, як тыя чуткі сноўдаюць на заводзе, а завод сабе працуе

ды і ўсё. Казім канчаў рамонт насосаў у кацельнай. Ён паправіў падшыпнікі, паставіў новыя сальнікі і, памазаўшы, пачаў правяраць работу. К яму падышоў Храпянок. Ён таксама цікавіўся работай насосаў. Калі ўбачыў, што насос добра працуе, ён лісліва пахваліў Казіма і потым зусім неўпрыкмет запытаў:

— Скажыце, вы, як герой, павінны ведаць, хутка выйдзе загад спускаць пару?

Казім падазрона паглядзеў на яго.

— Нязручна вам, качагару, пра такія рэчы чуткі, пускаць.

— Ды я, хай бог крые, я проста чуў ад людзей, вось, і запытаўся ў свядомага чалавека. А каб я сам каму, дык не ратуй божа.

— Не ўратуе і бог, калі насвеншая матка прагневаецца,—сказаў сакратар ячэйкі. Ён таксама падазрона паглядзеў на Храпянка і дадаў:—Што гэта вы нешта, дзядзька, без бога не да парога. Нешта ён вам вельмі ўжо даўся.

— Дык якое там, я ўжо, чалавеча, па прывычцы. Жывучы з усім звыкся. І з богам, і з чортам, і з людзьмі рознымі.

— Але мусіць і яны з табой звыкліся? Дружбу маеце?—Сакратар яшчэ раз зірнуў на Храпянка і звярнуўся да Казіма:—Ты брат, пасля гудка зайдзі да нас. Трэба пагаварыць.

— Ахвотна,—сказаў Казім,—ахвотна прыду.—Ён падумаў, што ўрэшце яго заява будзе разгледжана і мінецца той час, калі яго будуць лічыць беспартыйным. Вось чаму Казім спяшаўся ў ячэйку. І калі апынуўся там, то вельмі здзівіўся, бо ў невялічкім пакоіку ячэйкі было багата людзей і пераважна ўсё слесары. Неўзабаве прышоў дырэктар. Гэта быў вельмі просты і звычайны чалавек. Выдатнае ў яго было толькі адно—дабрадзейны такі і заўсёды радасны выгляд і, разам з тым, нейкая вера ў сябе, у гэтую радасць, у кожнае слова сваё і людзей. Ён калі гаварыў з чалавекам, дык гаварыў сур'ёзна. І за што асабліва яго паважалі на заводзе, гэта за слова, за такое моцнае слова. Скажа чалавек, як выгарыць. Паабяцае, і зробіць, і галоўнае, зробіць да часу, добра. На заводзе яго заўсёды можна было знайсці. Казалі, што ўвечары інжынер навучае яго сваёй справе. Дык вось ён прышоў і пачаў нараду.

— Уласна,—сказаў ён,—сёння давядзецца больш гаварыць вам, таварышы. Нам прыйшоў такі загад, каб пяць добрых слесароў перакінуць на машынабудаўнічы завод. Вось мы і рашылі сабраць вас ды пагутарыць, як хто глядзіць на гэтую справу.

Потым гаварыў сакратар. За ім выступалі слесары, выказваліся майстры цэху. Усе ў адзін голас згаджаліся з тым, што людзей перакінуць трэба, але вельмі прасілі не чапаць цэхавых майстраў. Казім, калі нехта памянуў яго, выступіў таксама:

— Я не маю нічога супроць пераходу на другі завод. Але павінен сказаць, што мне і тут не дрэнна.

— Не, не,—умяшаўся механік,—яго чапаць нельга, гэты чалавек вельмі заводу патрэбен.

— І не толькі ён патрэбен, усе патрэбны, але на машынабудаўнічым таксама патрэбны людзі і дзе іх узяць, калі ў краіне не хапае кваліфікаваных рабочых?—зазначыў дырэктар.

— Трэба было-б таму заводу, у якога не хапае, і клапаціцца аб людзях, рыхтаваць, не ўступаў механік.

— Ен рыхтаваў, Іван Мацьвеевіч, але ўсёткі не хапае. Вось мы і павінны перакінуць некалькі добрых слесароў. Дапамагчы павінны.

Разышліся позна. Патрэбныя людзі былі намечаны. Неабходна было яшчэ парадзіцца. Казім радаваўся, але разам з тым і не даваў

веры, што ўдасца перайсці на другі, больш буйны завод. А перайсці хацелася, хоць унутры дзесьці і была захавана баязлівасць новага месца.

І вось па заводу бегае Панасенка. Ён вельмі непакоіцца за вынікі справы. Некаторыя з слесароў катэгарычна адмовіліся пераходзіць на другі завод, і гэта стварыла пагрозу зрыва ўсяго мерапрыемства. Комсамолец Бардушэнка з кузні, дазнаўшыся, што лучыў у спіс мабілізаваных, нааддрэз адмовіўся ісці на машынабудаўнічы. Гэта ўжо было вельмі, і заводскі комсамол заварушыўся. Па цэхах бегаў Панасенка і абвяшчаў членам бюро пра ўнечарговае паседжанне. Паседжанне меркавалася пашыранае, і Панасенка запрашаў актыў. Узрушаны і крыклівы ён зачырванеўся ад бегатні і, падымаючыся па лесвіцы ў зборачны, старанна выціраў свой шырокі лоб. Праз расшпілены каўнер сарочкі былі відаць яго моцныя шырокія грудзі і кароткую чырвоную шыю. Шырокая далонь рукі, што разам з насаткай спаўзла на шыю, выдавала тоўстыя і кароткія пальцы, на якіх дзе-ні-дзе былі яшчэ цемнаватыя плямы жалезных апалаў. Уся постаць Панасенкі была складзіста моцнай і важнай, так што зусім нездарма пад гэтым малатабойцам скрыпела лесвіца.

— Чэрці цябе тут носяць, гэтага Панасенку, яшчэ лесвіцу нам паламаеш,—наляцеўшы на сакратара жартавала Карамец.

— Ну, ну не вельмі на начальства чарцей вешай.—Усё яшчэ выціраючы пот, казаў Панасенка.—Ты куды гэта накіравалася?

— У механічны.

І яны размінуліся: Панасенка павольна пайшоў па лесвіцы ўгару, а Карамец, часта тупаючы нагамі, пакацілася ўніз. Праз момант Панасенка азірнуўся, але на лесвіцы ўжо нікога не было, толькі жмуток густога бярозавага пылу павольна круціўся каля разбітай шыбы. Сакратар паклаў у кішэнь насатку і, праціскаючыся між радамі накладзеных рам і ножак ад крэслаў, пайшоў да сваіх хлапцоў. Ідучы ён ад нейкай рамы адшчапіў тоненькую шчэпачку і, паклаўшы яе ў рот, пачаў кусаць зубамі.

Доўгімі і роўнымі штабелямі ўздоўж рабочых сталоў ляжалі розныя дэталі. У працэсе пашырэння завод пачынаў рабіць не толькі, як раней, невялікія столікі, а добрыя крэслы і сталы на точаных ножках, ёмкія, драўляныя ложкі з пружыністымі матрацамі, дубовыя шафы і буфеты і добрыя прыгожа афарбаваныя дзверы.

Карамец працавала надалёка ад уваходнай лесвіцы. Разам з іншымі яна абчышчала ножкі для крэсал. Вось яна прыбегла і, жартуючы з суседам, пачала гэблем раўняць ножку. Тоненькія пакручыстыя ўрыўкі стружкі дробным дажджом сыпаліся на падлогу. Ножка выпроставалася, набываючы патрэбны выгляд. Нагнуўшыся Рэнька кавалкам шкляной паперы трэ ножку і, змахваючы рукой дробную стружку, перад запыленым акном выврае яе. І так, адна за аднэй на працягу ўсяго дня. Зацягненая пылам чырвоная хусцінка на яе галаве з'ехала на патыліцу, і з-пад яе выбіліся кудзеркі русых валасоў. Бярозавыя дробненькія стружкі закрапаліся ў яе валасах і пыл асеў на твар. Гэта надавала ўсёй ёй нейкія своеасаблівыя водценні хараства; а калі ды яшчэ яна крыху ружавела ад праменняў цёплага сонца, пекнатой і здароўем налівалася яе цела, і крутыя ўзмахі рук выказвалі вялікую сілу гэтага чалавека.

Ледзь праціскаючыся між двух штабеляў, ішоў Панасенка.

— Вось-жа ўпёрлі яго чэрці між штабеляў. Асцярожна не паразварочвай.

— Чаго ты крычыш, цэлы будуць.

Потым ён прыхінуўся да аднаго з штабеляў і, пазіраючы на Рэньчыны рукі, сказаў:

— Прыходзь на бюро.

— Вось табе і на. І заўсёды ты бюро тады склікаеш, калі ў мяне вытворчая нарада.

— Бюро нечарговае, таму так і выпала.

— Вельмі ўжо ў цябе часта нечарговыя бюро. Ну, як па твойму мне ісці на бюро, а нараду пакінуць? А? А потым сам будзеш дапякаць, што ў нарадзе не працую.

— Сёння бюро важнае; трэба быць.—У куточку яго не шырокага рота тырчэла тоненькая, нібы саломенка, шчэпачка. І калі Панасенка гаварыў, яна, раптам здрыгануўшыся, потым доўгаківалася ў кірунку руху яго вуснаў.

— І нарада сёння важная; бачыш рукамі вось шмарую гэтыя ножкі, а знайшоўся чалавек, які прапануе праект машыны для гэтай работы.

— Сапраўды цікавая і важная рэч. Але на бюро ты ўсёткі прыходзь. І ён зноў між штабеляў паціснуўся да лесвіцы. Карамец паклала новую ножку і, падагнаўшы лязо ў гэблі, пачала падчышчаць яе. Дробныя стружкі сыпаліся на падлогу.

Праз некалькі дзён быў вечар—сход комсамоліі заводскай ячэйкі. Казім прышоў на гэты вечар настарожана радасным і разам з тым адчуваў, што недзе ўнутры скрабе ні то баязлівасць, ні то перапалох, ні то проста нейкая нерашучасць. Рэнька была асабліва вясёлая і буйная. Яна насілася, як той чорт па пекле. Дзіва ажно брало, адкуль у чалавека гэтулькі імпэту. І вось курносы і малы Панасенка, такі смешны і просты, але харошы сакратар, адчыніў сход. Члены бюро ячэйкі занялі месцы ў прэзідыуме. Панасенка абвясціў, што сход прысвечаны двум пытанням—прыёму ў комсамол і провадам комсамольцаў і беспартыйнай моладзі на машынабудаўнічы завод.

Першай разглядалася заява Казіма. Калі толькі абвясцілі пра гэта, малец захваляваўся, не дай ты ліху стаць. Ён проста не ведаў, што рабіць. Нават для рук не знаходзіў месца. А між тым раней рукі заўсёды мелі нейкае месца. Рэнька неўпрыкмет кідала на яго погляд і задаволена ўсміхалася. Іншыя дзяўчаты прыхільным позіркам праціналі яго. Уважліва слухаючы, спачувалі хлапцы. А Казім, як той дурань, сядзеў і хваляваўся, хваляваўся і радаваўся. Часам яму здавалася, што ён ужо на сёмае неба ўзнёсся. Сакратар чытаў анкету. У зале было па-комсамольску ціха і ўважліва. Рэнька неўпрыкмет прыглядалася. Хлапцы пачыналі зайздросціць, а між тым надворна з пагардай глядзелі на навічка.

— Няхай скажа, хто былі бацькі?

— Дзе быў і што рабіў да завода? — сыпаліся пытанні. Рэньцы вельмі хацелася адказаць на іх. Але Казім і сам не зломак. Ён адказаў і надворна спакойны сеў. І тады, каб шмат не гаварыць, Панасенка выняў з кішэні газету і перад усім сходам прачытаў нататку пра геройскі ўчынак Казіма. І не паспеў ён скончыць, як воплескі заглушылі яго голас. Галасавалі, а Казім спакойна глядзеў наперад і думаў, як-бы хараша было пабачыць цяпер Мар'ю Іванаўну. Ён абвёў позіркам залу і, незнарок напаткаўшы чулы погляд Рэнькі, усміхнуўся. Тая шматзначна паківала на яго пальцам і адвярнулася. Яна паглядзела на Казіма яшчэ раз, калі пачула яго прозвішча сярод мабілізаваных на машынабудаўнічы завод. Толькі цяпер гэты позірк быў інакшы. Ні то дакор, ні то жаль нутра выліваліся праз яго. Што ў гэты час думала Каранец, Казім не ведаў і не даведаўся ні тады

ні пазней. Ён быў рад, што ідзе на завод, на новае месца. А як часам бывае, чалавек пры сваёй радасці запамятае пра гора блізкага, а часам і роднага чалавека. І хоць у Рэнькі асабліва гора не было, тым не менш яна адчувала сябе вельмі ніякавата. Што не кажы, а блізкі чалавек з завода ідзе. Новае месца, новыя людзі. Запамятае, як піць даць, запамятае. А можа і не? Э, ды неяк будзе... У зале рабілася шумна і весела. Да сцен рассоўвалі крэсла, а каля сцэны сам Панасенка арганізоўваў паліт-вудачку. Казім круціўся па залі, весела рагатаў, усім казаў прыемныя рэчы, дзякаваў за павіншаванне і вельмі-ж ужо прыглядаўся да дзяўчат. Карамец колькі раз паглядзела на яго і незаўважна пайшла.

## XIV.

Пачынаўся новы дзень на новым заводзе. І чалавеку, прызвычаенаму да пэўнага кірунку, даводзілася ісці іншым напрамкам. Ён выхадзіў з той самай кватэры, перасякаў той самы двор, а калі выходзіў на вуліцу, то паварочваўся і ішоў зусім у другі бок. Ён часта блытаў. Але прыпомніўшы кірунак, варочаўся і ішоў, ішоў у патрэбным яму напрамку. Казім выбіраўся на завод да гудка. Кажучы праўду, яму было на заводзе весялей. Да таго-ж і цяга была. Новая работа, новыя людзі і ўсё новае, а трэба-ж гэта ведаць,—і людзей і работу. А работа складаная. Гэта ўжо не падшыпнік наліць ды прыгнаць. Гэта і не балты нарэзаць, ці сальнікі ставіць. Тут перад табой стаіць варштат, выпадкам ці знарокам — папсутая збэржа. А ты павінен умець удуць у яе душу, прыладзіць, паставіць патрэбныя часткі так, каб яна зноў магла працаваць. І гэта работа толькі да часу. Для азнаямлення, для навучання. А там, там паставяць на выраб дваццаціпяціміліметровых свідравальных станкоў. Страшнага нічога няма для таго, хто ведае справу. А як не ўмееш?.. Казім уставаў да гудка і ішоў на завод.

У цэху было пуста і ціха. Маўклівыя станкі, моцна апёршыся на падмуркі, чакалі сваіх гаспадароў. Тыя, што былі прывезены на рамонт, пастаўленыя на колікі мелі пануры выгляд. Станіны нейкага прэса, зваленага каля сцяны, ссунуліся на праход і былі затаптаны. Такарны станок з паламаным суперам і разбітай перадачай быў завалены розным жалеззем. Па кутках валялася рознае лам'ё. Казім агледзеў свой станок, дастаў, са шкапчыка інструмент, на дварэ, знашоў дзве невялічкіх патрэбных шасцярні і пачаў прыганяць іх. Валік фрэзера быў задужа таўставаты. Давялося распілаваць шасцёрку. Урэшце яна села на сваё месца. Тады ён узяўся за рэгулятар. Гудзеў гудок, збіраліся рабочыя. Суседзі па рабоце віталіся. Некаторыя проста ўхмыляліся і ішлі далей да сваіх месц. А Казім корпаўся каля фрэзера. Ён здавалася і не заўважае нічога. А між тым яго набітае вока далёка бачыла і востры розум мог даць адпаведную ацэнку кожнаму факту. Праз колькі дзён ён ужо добра ведаў з кім можна трымацца прасцей, хто ласкавей адкажа на пытанне, хто з радасцю дасць патрэбную параду. А дапамога яму была неабходна. Хоць і добра ён ведаў фрэзер, але для большай упэўненасці хацелася пачуць слова ад другога больш вопытнага можа таварыша па рабоце. Каб выверыць ніжнюю пліту фрэзера. Казім звярнуўся да Драгуна. Той ухмыльнуўся і завярнуўшыся неразборчыва нешта буркнуў сабе пад нос.

— Ты, брат, мацней, а то я на адно вуха не дачую,—прыкінуўшыся прастачком сказаў Казім.

— Не дачуеш?! А бачыш добра?

— Як быццам.

— Ну дык сам і глядзі, што робіш. Нянек тут табе не будзе. Саміх трэба яшчэ вучыць,—сказаў Драгун і падышоў да Казіма, пастаяў крыху ды зноў завярнуўся на сваё месца. Казім глядзеў на яго і думаў „ой, сволач". Ён падняў сам пліту і стаў яе выўяраць.

— Ты, Драгун, проста бесчалавечны,—казаў Кізіла, ідучы на дапамогу суседу.—Чалавек у цябе дапамогі просіць, а ты козырам нос трымаеш... Што тут у цябе не выходзіць, малец?

— Як быццам усё добра, толькі хочацца, каб хто іншы паглядзеў, ды сказаў свае слова. Усёткі неяк надзейней і весялей.

— Тое самае і я кажу, людское слова, што ўрубель для воза. Казім прыглядзеўся да Кізілы. Гэта быў танклявы, сярэдніх год і росту чалавек. Ён ветліва глядзеў на Казіма, а потым прыгінаючыся пачаў правяраць пліту.

— Каля беражку тут напілачкам трэба, гарбінка невялікая.—Казім таксама паглядзеў. Сапраўды выдавалася гарбінка. Ён зняў яе, і яшчэ раз праверыўшы паклікаў майстра для здачы. Фрэзер выглядаў як новы. Адчувалася, што каля яго хадзілі рукі сапраўднага работніка. Майстар пачаў правяраць з прымацавальных вінтоў для бакавых нажоў. Яны былі на месцы. Потым ён праверыў хамуцік пад'ёмніка. І хутка так ад меншага к большаму перабраў ён увесь фрэзер. Ён быў задаволен работай. Фрэзер, паставіўшы на ваганетку, павезлі на рабочую пробу. Кізіла гаварыў Казіму ветлівыя рэчы і рочыў вялікія перспектывы. Малады слесар быў вельмі ўдзячны гэтаму яшчэ не старому чалавеку за яго ветлівасць і клапатлівасць.

Набліжаўся перапынак. Майстар хадзіў каля станкоў і, нічога нікому не кажучы, поркаўся ў скрынках са струментам. Казім, думаючы, што майстар правярае струменты і тое, наколькі яны добра ўтрымліваюцца, адчыніў і сваю скрынку. Вычашчаныя і парадкам складзеныя ключы ляжалі па правы бок скрынкі. З другога боку ляжалі падпілкі. Парадкам складзеныя цыркулі і малаткі былі кожны на сваім месцы. Майстар паглядзеў у скрынку, шчупнуў у куточку рукой. Казіму здалося, што ён нечага шукае. Драгун запытаўся:

— Антон Адамавіч, што зноў свіснулі?—Майстар падышоў да яго і зусім ціха сказаў:

— Так, свіснулі, таварыш Драгун. Але дай ты рады, падумаць нават няма на каго. А кавалка медзі, як і не было.

Здзіўлены Казім прыслухоўваўся. Кізіла таксама настарожана збочыў галаву.

— Нечага сказаць, чыстая работа.

— Ведама ж, ад свойскага злодзея не схаваеш. Усё-ж на віду, адхінешся куды, так і ведай, чаго-небудзь і не стане.

— Паганая ў гэтага свойскага злодзея прывычка... Я, Антон Адамавіч, думаю, каб мы ўзялі сёння ды пагаварылі з хлапцамі.

— Яно сабе, трэба-ж нешта рабіць, а то чаго добрага ад малага чалавек панадзіцца і вялікае цягаць.

— Не ўжо, да гэтага мы не дапусцімся, дух з яго вон, а дазнаемся-ж, чые тут рукі ходзяць,

Казім падышоў да Кізілы і, паказываючы на Драгуна, запытаўся:

— Гэта што цэхком наш?

— Не, адказаў той, ён парторгам лічыцца.

— А-а-а, парторг, разумею. А што гэта ў майстры скралі што?

— Чорт яго ведае. Стары ён ужо, пакладзе дзе-небудзь рэч якую, запамятае, а потым шукае і чуткі пускае на ўвесь завод, што ўкралі.

— Так,—сказаў Казім і падумаў: цікавыя тут людзі, глядзіш на яго, здаецца просты чалавек, а зірнеш бліжэй, неяк інакшым выдаецца. Ён пастаяў каля Кізілы, нешта яшчэ запытаўся і пашоў на сваё месца.

Пасля работы Драгун склікаў цэхавы сход комуністаў. Казіму вельмі хацелася ведаць, у чым рэч. Але сход быў зачынены. Значыць, нешта сур'ёзнае, думаў Казім. Значыць справы не толькі ў кавалачку прапаўшай медзі. Не, бясспрэчна не, адказваў ён сам сабе. І не ведаючы толкам, у чым рэч, ён пакінуў думаць і, скончыўшы работу, акуратна прыбраў інструмент і пашоў дамоў. Трэба-ж было і рабфакаўскія хвасты падагнаць.

*(Канец у наступным нумары).*

М. ІСАКОЎСКІ

## ДАГАРАЙ, МАЯ ЛУЧЫНА

У калгасе „Маяк“ адкрыта электрастанцыя!

У гэту ноч маладыя
Адмянілі любоў і спатканні,
А дзяды і бабулі
Адказаліся спаць наадрэз.
Так напружна
Цягнулася тое чаканне,
Пад цяжкою страхою
Халодных асенніх нябес.

Запрашэнні на свята
Да апошняга ўчора раздораны,
Падрыхтована ўсё—
Ад машын і да самых гарачых вачэй.
Уключыў ты рубільнік
І абсыпаў калгаснікаў зорамі
У пяцьдзесят,
Паўтараста
І болей свячэй.

Ты сваёю рукою
Запальваеш лепшага веку пачатак,
Тут у нас
Падымаеш ты гэтага ззяння агні,
Дзе асенняя поўнач
Сумавала у нізенькіх хатах,
Дзе пяшком,
Памаленьку
Праходзілі стомлена дні.

Тут жыццё вызначалася
Чорнай смугой беспрасветнай.
Дзе быў лёс чалавека—
Валяцца ў гразі на зямлі.
Тут радзіліся людзі
Пад якойсьці праклятай планетай
І шчаслівай планеты
Анідзе адшукаць не маглі.

Рэвалюцыя
Нас неухільна змагацца вучыла,
Па шырокіх дарогах з сабой
Яна нас павяла.
Да канца і на попел
Згарэла сягоння лучына,
І самотная руская песня
З лучынай згарэла да тла.

Мы яшчэ паваюем!
І, вядома, не збытаем ходу,—
Нам выразна відны
Яснавокія далі да мэт.
Пад шчаслівай зарою,
Што прышла к нам з электразавода,
Мы з табою народжаны двойчы на свет.

Нашы зоры плывуць,
І заўзята змагацца нас клікаюць,
Разбураючы здзекі,
Каб высока над намі зіяць.
У нас жыццё узнялося,
Нібы песня такая вялікая,
Вось такая,
Што хочацца слухаць яе
І самому спяваць.

1931 г.

Пераклаў з рускай мовы М. Хведаровіч.

**А. КРАПАЧОЎ**

# ШАХІМАРДАНСКАЯ МЯЧЭЦЬ

## I.

Ляніва, як стары вярблюд, цягнулася жыццё кішлака ў даліне Імралі. Скупыя на здарэнні павольна міналі год за годам.

Людзі, паміраючы, пакідалі пасля сябе тыя-ж палі бавоўны, джугары і рыса; тыя-ж арыкі, бусліныя гнёзды на роўных дахах мячэцей, густыя чынары, высокія стройныя пірамідальныя таполі, усё, што так запомнілася ім з самага дзяцінства.

Ну, можа хто з старых, перад тым, як адправіцца на прасторны кішлачны мазар*), і заўважаў, што калі ён быў яшчэ баранчуком**), не было вось гэтых трох кібітак, якія цяпер стаяць на ўскраіне Імралі. І ўсё.

Жыццё было беднае на здарэнні, як бедныя вадою доўгі час нячышчаныя арыкі.

Праўда, часта гэтая манатонная аднастайнасць жыцця парушалася прыездамі міралхура***).

Калі-ж былое Какандскае ханства ператварылася ў Ферганскую вобласць Туркестанскага генерал-губернатарства, пачалі часта заязджаць у Імралі стражнікі, выклікаючы ўжо не да казі ****), а да прыстава тых, хто не плаціў падаткаў ці даўгоў.

Пасля гэтых выклікаў сіратліва тырчэлі голыя асновы закінутых глінабітных кібітак.

Ранейшыя ўласнікі гэтых кібітак сыходзілі ў Каканд і Намаган на бавоўна-ачышчальныя заводы, альбо ішлі на поўдзень туды, дзе цягнуліся высокія горы, і засяляліся там на вольнай зямлі, ускопваючы ручным спосабам тонкі лёсавы пласт пануры́х, негасцінных сопак.

Помняць Імралі і 1916 год. Казацкія канвоі вялі тады да чыгуначных станцый натоўпы кіргізаў, узбекаў і таджыкаў.

У Палескіх балотах, каля Дзвінока, на Карпатах, каля Эрзерума для абароны расійскай дзяржавы перакладваліся з месца на месца мільёны кубаметраў зямлі.

Кожны дзень вайны дорага каштаваў вялікай імперыі, і для капання акопаў вырашана было скарыстаць дарэмную рабочую сілу.

Выгодны быў таджыкскі, узбекскі альбо кіргізскі дэханін*****) яшчэ і тым, што цяжка яму было згаварыцца з рускім шэрашынельным мужыком.

---

*) Мазар—могілкі.
**) Дзіцем.
***) Ханскія або эмірскія чыноўнікі.
****) Казі—суддзя.
*****) Селянін—працоўны.

Наадварот дальнабачныя аўтары плана разлічвалі супроць мабілізаваных акопнікаў, калі спатрэбіцца, накіраваць вострую злосць, якая кіпела ў гэтага мужыка. Помніў Імралі слаба ўзброеныя атрады паўстанцаў, якія не хацелі пакарацца загаду Ак-пашы*) і лічылі, што лепш памерці ў роднай краіне, як на палях Галіцыі.

Помніў Імралі і злы твар семірэчанскіх казакаў, юнкераў, гімназістаў з добраахвотніцкіх дружын.

Кіраваў аперацыямі генерал Курапаткін, які браў пад Ошэм, Алма-Атай, Наманганам, у Закаспіі і Харэзме рэванш за адыходы па стратэгічных меркаваннях ад Ляояна, Сандэпу і Мукдэна.

Многа пустых кібітак засталося тады ў Імралі і суседніх кішлаках.

Вакол Імралі па тлустых, багатых вадою, землях заселенай часткі Ферганскай даліны раскінуліся дзесяткі кішлакоў, падобных да Імралі, як блізнюкі.

Але яшчэ пры цары Імралі вылучаўся ад суседніх кішлакоў даліны новай мячэццю і Рахманкулавым домам.

Дом, як крэпасць, быў абгароджаны высокай сцяною, а не звычайным нізкім дувалам**).

Цяжкія каваныя вароты надзейна сцераглі спакой прасторнага Рахманкулавага двара.

Але нядоўга карыстаўся Рахманкул новым домам.

Вось ужо другі год не жыве ён тут. Няма і яго сям'і. А дом заселен, заселен і прасторны двор.

Раніцаю рэзкі гук сігнала імчыцца па кішлаку. Двор ажывае.

З-пад навесаў людзі выводзяць на вадапой фыркаючых коняй. Адкрываюцца цяжкія вароты.

Часавыя ідуць у двор. Іх змяняе каля варот днявальны.

— Таварыш старшыня, вы павядзеце на вадапой?—чуваць голас дзяжурнага па эскадрону.

— Ясна,—густым басам абзываецца старшыня.

Часамі ў двары і на вузкай кішлачнай вуліцы праводзіліся заняткі. Звінела ссечаная шашкамі лаза, коні, пахрапваючы, бралі перашкоды. Але часта за шчыльнымі сценамі было ціха.

Толькі часавыя і днявальны, які змяніў іх раніцай, заўсёды былі на месцы.

## II.

Дзяжурны па канюшні Шыцькоў, усміхаючыся, гаворыць камандзіру эскадрона.

— Хвасты пушацца ў коняй, таварыш камандзір. Значыць выступаць хутка будзем.

На шырокім твары камэска Смірнова расплываецца ў адказ усмешка.

— Час ужо,—тыдзень у гарнізоне ды і коні застаяліся...

Раніцай, калі ўвесь эскадрон пасля ўборкі і вадапою шумна ўмываўся ў вялікай хаўзе, тэлефаніст з парога нізкай кібіткі закрычаў на ўвесь двор:

— Рэбята! Передай камандзіру эскадрона, што наштабрыг да тэлефона яго кліча.

Смірноў, які мыўся разам з усімі, абазваўся:

— Чую.

Спешна выцер рукі і ў адной сарочцы пабег да кібіткі.

---

*) Ак-паша—„белы цар".
**) Глінабітная агарожа.

Вярнуўшыся зноў, Смірноў падышоў да старшыні эскадрона Зуева.
— Канчай базар, старшыня! Выступаем.
— Харчы і фураж браць, таварыш камандзір?
— Возьмем на двое сутак. Чорт яго ведае, можа ў горы за ім падацца давядзецца.
Праз некалькі хвілін чырвонаармейцы ўжо напаўнялі саквы зернем, рассоўвалі па перамётных сумках хлеб, кавалкі смажанай бараніны, якую раздаваў тут-жа на дварэ эскадронны повар.
— Сядлай!—скамандаваў Зуеў.
Усе спяшаліся да навесаў і выводзілі коняй на конавязі.
Мірзабаеў доўгі час не мог супакоіць адпачыўшага за тыдзень гнедага карабіра. Жарабец не даваўся, каб яму накінулі сядло, і парваўшы аброць, бегаў па шырокім двары.
Мірзабаеў ледзь злавіў „Бека" каля варот.
Загарэлы, васпаваты твар Мірзабаева зрабіўся злым. Мірзабаеў моцна ўдарыў жарабца нагою. Камандзір аддзялення Лашчылін, які сядлаў свайго „Анютку", крыкнуў Мірзабаеву:
— Эй, ты! татарчук. Крыху лягчэй! Гэта табе не дзерава, а конь.
За Лашчылінам Зуеў трымаў падсядланага каня.
— Што ты, Лашчылін, пятрушкай займаешся. Далажу камэску, ён цябе ўзгрэе. Ясна.
— Падумаеш, пажартаваць не можна з таварышам. Ці што ён каня б'е,—буркнуў Лашчылін.
— За каня ён і адкажа, а ты жартуй ды ведай меру. Ясна.
— Строг ты вельмі стаў, Зуеў,—з'едліва заўважыў Лашчылін.
— Ты мне не ўказ. Я ваюю з восемнаццатага года і не такіх, як ты, супакойваў. Мы тры-чатыры гады таму назад не вельмі што яшчэ ва ўсім разбіраліся, а такога бясчынства з таварышамі не рабілі.
— Ну хопіць, пагаварылі,—выводзь сваё аддзяленне,—і Зуеў, ледзь даткнуўшыся левай нагою да стрэмя, лёгка перакінуў у сядло сваё жылістае стройнае цела і паімчаўся да варот.

* * *

Вузкія звілістыя вуліцы кішлака Імралі ўзбудараджаны людскімі галасамі, моцным конскім фырканнем, мяккім звонам падкоў аб цвёрдую дарогу.
Жыхары выглядваюць з двароў і моўчкі праводзяць эскадрон.
Толькі каля апошняй кібіткі на ўскраіне кішлака два хлапчукі нечага крычаць, размахваючы цюбецейкамі.
За хлапчукамі стаіць і ўхвальна ўсміхаецца высокі, з чорнаю барадою дэхканін у зношаным даматканым халаце—відаць, бацька.
За атрадам бег вялікі калматы эскадронны сабака.
Гэта быў адзін з тых бяздомных сабак, якія карміліся каля гарнізона і добраахвотна спраўлялі няхітрую службу—звонка брахаць пры з'яўленні чужых.
Набегаўшыся за галкамі, сабака махнуў кароткім адсечаным хвастом і павольна павярнуў назад.
— Бывай, куртаты!
— Што, куртач, басмачоў спалохаўся?
— Глядзі, у гарнізон іх не пушчай!
Імчаліся яму наўздагон галасы чырвонаармейцаў.
Сабака спыніўся, паглядзеў на эскадрон і рашуча накіраваўся да кішлака.
— Так, куртач службу ведае,—заўважыў Лашчылін.

— Не горш за цябе,—абазваўся высокі, з маленькімі рыжымі смяшлівымі вачыма, Ніканаў.

Лашчылін нічога не адказаў, як-бы і не чуў, што сказаў Ніканаў. Ведаў Лашчылін, што ў слоўным перапале цяжка яму ваяваць з Ніканавым.

Засохлая дарожная гразь тысячамі арбяных калёс, чалавечых ног і конскіх капытоў перамолата на атрутны шэры пыл.

Конскія ногі па бабкі тонуць у ім, як у пухавіку. Пыл, узняты пярэднімі коннікамі, ахутвае ўвесь эскадрон і доўгі час густым воблакам стаіць над дарогай.

Чырвонаармейцы часта чхаюць, лаюцца, успамінаючы багародзіцу і ўсіх святых.

Вецер трэпле скручаныя чорныя лісты высокіх пірамідальных таполяў, якія прагна цягнуцца да зімняга сонца. Чынары зусім распрануты, і іх голае голле ўздрыгвае ад лёгкіх напораў ветра.

Далёка, далёка паперадзе відаць вялікія горы. На фоне лілёвых хрыбтоў рэзка вылучаюцца чыстыя аснежныя вяршыні.

Канец снежня, аднак зімняе сонца хоць і скупа, але грэе людзей і зямлю.

Камандзір узвода Кувалдзін, які чатыры дні таму назад прыбыў у Імралі, успомніў, што на адзіным у эскадроне табель-календары, уласнікам якога з'яўляецца ён, Кувалдзін, засталося да новага, тысяча дзевяцьсот дваццаць другога, года толькі дзве незакрэсленыя клеткі. Амаль тры тыдні, як выехаў Кувалдзін з дому, пасля сканчэння кавалерыйскіх курсаў.

Там, каля Екацерынбурга і Чэлябінска, усюды ляжаў глыбокі снег. На станцыях, калі пасажыры неслі гатаваную ваду, з чайнікаў узнімалася густая пара і павольна раставала ў марозным паветры. І Кувалдзіну неяк не верылася, што ўсё гэта было зусім нядаўна.

За Кувалдзіным ехаў праваднік і перакладчык эскадрона Іргаш.

Кувалдзін павярнуўся да яго:

— Што-ж, Іргаш, зіма тут цяпер будзе ці не?

Іргаш усміхнуўся.

— Январь, февраль, па вашаму, зіма прыдзе. Плахі зіма ў нас. Вада многа. Холадна многа.

Бясконца цягнуцца далінныя кішлакі.

Галодныя сабакі кідаюцца пад ногі коням і моцна брэшуць. Нічога не чуваць з-за гарэзлівага сабачага выцця. Ужо мінулі кішлак, але доўгі час яшчэ не сціхае надрыўнае завыванне сярдзітых разбуджаных сабак.

У дэхканіна, які прывітаўся са Смірновым каля Ах-Булака, Ніканаў пытае:

— Эй, ты! Басмач кайда *).

Той вінавата ўсміхаецца і адказвае:

— Бельмейман **).

Ніканаў яго перадражнівае.

— Бельмемам! Не ведаеш. Дурачку з сябе строіш. Абараняй тут іх, гліну, а яны шавяльнуць пальцам для нас баяцца. Крывы чорт Куршырмат ***) загадаў ім джугару не зразаць, яны не рэжуць, а басмацкая зграя—засады ў джугары на нас наладжвае і б'е, як курэй. Вось тут і ваюй! Сволачны народ.

---

*) Басмач дзе?
**) Не ведаю.
***) Куршырмат—главар ферганскіх бесмачоў.

— Чаго ты лаеш кожнага, Ніканаў? Навошта ўсіх у адну кучу валіш? Мы-ж не старая армія, разам з дэхканамі адну справу робім,— пярэчыць Шыцікаў.

Нікапаў хутка яго перабівае:

— Кінь ты са сваёй агітацыяй! Не вельмі вялікую навіну сказаў.

Кувалдзін навічок у гэтых абставінах і ўважліва прыслухоўваецца да Нікапавай і Шыцікавай гаворкі. Ён успамінае хлапчукоў, дэхканіна з ветлівай усмешкай, якіх бачыў на ўскраіне Імралі.

Але пасля апавядання пра джугару, у Кувалдзіна з'яўляецца сумненне, ці не звычайная гэта хітрасць, і кожны жыхар—сапраўды захаваны басмач.

Ззаду на поўголаса заспяваў Іргаш.

— Ды не можа гэтага быць!—падумаў Кувалдзін.

У кішлаку Ак-Булак эскадрон спыніўся на малы прывал.

Праз шчыліну высокага дувала палахліва выглядвае двое бліскучых вачэй. Адзін з хлапчукоў, якія забаўляліся ў двары, адважыўся і падышоў да дувала. Астатнія, спыніўшы гульню, наглядалі за ім.

Лашчылін пад'ехаў да дувала і, прыўзняўшыся на страмёнах, зазірнуў у двор.

— Глядзь ты, пералічвае нас, сукін сын! Убірайся адсюль, пацан галалобы!—закрычаў ён на спалоханага хлапчука.

Вярнуўшыся да свайго аддзялення, Лашчылін пачаў расказваць, як басмачы скарыстоўваюць дзяцей для шпіянажа.

Народ у эскадроне бывалы, абстрэлены, і Лашчыліна ніхто не слухаў.

Падыйшоў Нікапаў і, узяўшы Лашчыліна за руку, спытаў:

— Што ты ясі, што такі разумны?

Чырвонаармейцы засмяяліся.

Лашчылін аблаяў Нікапава, сеў на бервяно, якое валялася каля дувала, выняў зашмальцованы кісет і кавалак газеціны, пачаў скручваць таўстую папяросу.

Мірзабаеў здаволен, што чырвонаармейцы смяюцца з Лашчыліна. У супроцьлеглым канцы Ак-Булака чуваць спачатку глухі шум многіх галасоў, які ўсё больш і больш нарастае. Да эскадрона падбіраецца густое воблака пылу, паўзе над роўнымі дахамі кібітак.

Смірноў загадаў Нікапаву даведацца, хто ідзе.

Нікапаў хутка ўскочыў у сядло і галопам паімчаўся да пыльнага воблака.

Вярнуўшыся далажыў, што ідзе пяхота.

Эскадрон неахвотна прыбраў коняй з дарогі.

Рота, стомленая пераходам, павольна мінала эскадрон.

Пыл асеў.

— На коняй!—звонка камандуе Смірноў.

— Садзіся!—і зноў пыльная вуліца кішлакоў, пыльная дарога.

Калі Смірноў пераводзіць эскадрон на крок, застаялыя коні просяць повада і, вырываючыся са строя, казляць.

Смірноў паварочваецца да чырвонаармейцаў:

— Распусцілі! Трымаць коняй! Паспеюць яшчэ наскакацца.

За Кувалдзіным едзе Нікапаў. Яго худы, пакрыты вяснушкамі твар часта мяняе свой выраз.

Нікапаў памайстэрску грае на балалайцы. Пад яго гібкімі пальцамі балалайка выдае самыя неспадзяваныя гукі. Сёння балалайка нема і Нікапаў весяліць сябе і суседзяў песнямі.

У яго слабенькі, але прыемны тэнарок. Спявае ён больш сваё. Чырвонаармейцы ўважліва слухаюць і здаволены, што Нікапаў з імі ў адным эскадроне...

Ніканаў спявае:

Гораздо лучше воевать нам с басмачами
И смерть иметь ежеминутно за плечами,
Чем с маргеланскими красотками якшаться
И через них с свободой распрощаться.

— Песенька, як трэба,—кінуў старшыня Зуеў.

— І дошлы-ж ты па гэтай часці, Ніканаў. Ясна.

Ніканаў павярнуўся, падміргнуў чырвонаармейцам.

— Ну, а як мяркуеш, старшыня, даедзем сёння да басмачоў?

— Ясна, даедзем і нарвемся,—адказвае Зуеў. Усе смяюцца. Любіць Зуеў слова „ясна" і ставіць яго ў кожным сказе. Так і празвалі яго ў эскадроне—„ясна". Зуеў нездаволен і бурчыць на Ніканава.

— Трапушка ты, а не баец... Дурашлёп!

— Ясна,—дадае да яго ў тон Ніканаў пад дружны рогат эскадрона. Кувалдзін чуе ўсю гаворку і таксама смяецца.

У рад з Ніканавым едзе Іргаш.

Дзесятак год працаваў ён у Какандзе на баваўняным заводзе, а потым пайшоў у Чырвоную армію і вось ужо больш года ў эскадроне Смірнова.

На Іргашавым твары скарынка густога загару, не схаваеш яе і густой чорнай барадою.

Праз буйныя белыя зубы ляцяць аднастайныя гартанныя гукі простай песні пра квітнеючыя даліны, шумныя горныя рэчкі, пра злых басмачоў.

Іргаш спявае пра тое, што бачаць яго бліскучыя чорныя вочы. Многа яны бачылі за доўгія сорак год жыцця, не пераспяваеш усяго.

Але кожную песню Іргаш канчае нязменным:

— Гузель Фергана *).

Чырвонаармейцы па-сяброўску падсмейваюцца з Іргаша і яго песні. Толькі Ніканаў нездаволена бурчыць:

— Зноў зацягнуў сваю валынку.

* * *

Сонца спяшалася схавацца за далёкімі гарамі. Яны ахутваліся густым змрокам і хутка зусім зніклі. Змрок імкліва поўз па даліне, праглынаючы кішлакі. Хутка сцямнела. У адных гімнасцёрках ехаць стала ўжо холадна, і на бліжэйшым малым прывале чырвонаармейцы адвязвалі ад сёдлаў шынелі. Ледзь крануліся пасля прывала, Смірноў павярнуўся да эскадрона.

— А ну, Лашчылін, Мірзабаеў, Агапаў і Ніканаў—у дазор! Агледзець асцярожна балкі і сопкі з правага боку. Старшы дазора Лашчылін.

Рыссю выязджаюць чацвёра і адлучваюцца ад эскадрона.

Смірноў крычыць наўздагон.

— Ды не высоўвацца там, вельмі ўжо не гаманіць. Асцярожна.

У цемені чуваць толькі часты конскі тупат. Хутка і ён змаўкае.

Байцы здзіўлены. Ува ўсёй брыгадзе не было звычаяў ездзіць з дазорамі. Устанавілася правіла, што дазор выслаць—басмача спужаць.

Навічок камандзір пойдзе ў аперацыю, вышле дазор і адразу рашаць чырвонаармейцы, што трус. Дурная слава прыліпае, як кароста, цяжка адарваць.

---

*) Прыгожая Фергана.

Смірнова ведала ўся брыгада, ведалі і басмачы. Ведалі і прозвішча далі „полван-камандзір“. У баёх па смірноўскім „Зайчыку“ пазнавалі і эскадрон. Страляюць з сопак і крычаць:

— Другі іскадрона—камандзір Полван *).

А сёння раптам дазор.—Але-ж наш дарма не пашле,—маўкліва рашае кожны.

Кувалдзін адзіны ў эскадроне камандзір узвода. Астатнія хто ў шпіталі, хто ў водпуску. Палітрук застаўся ў гарнізоне, жорстка трэсла яго трапічная ліхаманка.

Кувалдзін здаволен, што ён адзін і што Смірноў будзе вымушан звяртацца да яго. Палохае Кувалдзіна толькі тое, што ён самы маладзейшы ў эскадроне—яму толькі што пераваліла за дзевятнаццаць год. Ці будуць слухаць яго чырвонаармейцы. І Кувалдзін мімаволі зайздросціць цвёрдай камандзірскай упэўненасці Смірнова.

Многа апавяданняў ходзіць пра Смірнова па брыгадзе і па другіх частках фронта.

Дабіраючыся ад штаба палка да Імралі, Кувалдзін уяўляў сабе Смірнова нязмерным сілачом, стройным, высокім, з арліным позіркам, панурым чалавекам, які ніколі не ўсміхаецца.

І замест гэтага Смірнова, якога намалявала яго ўяўленне, Кувалдзін сустрэў круглатварага, злёгку згорбленага вясёлага таварыша. Ды і вочы ў Смірнова замест арліных суровых аказаліся самымі звычайнымі шэрымі вачамі.

Кувалдзін не быў у баях. Стараецца трымацца больш смела і гэтым прыглушыць халадок, які падбіраецца да сэрца. Кувалдзіну здаецца, што ўвесь эскадрон ведае пра гэта. Але спакой Смірнова паступова заражае і Кувалдзіна.

Халадок пад сэрцам знікае, і Кувалдзін спрабуе ўявіць сабе, як ляжыць ён, паранены, у шпіталі.

Зразумела, паранены ён пры незвычайных абставінах. Даведваецца пра яго ўвесь Туркестанскі фронт. Даведваецца і родны Верхісецкі завод, даведваецца бацька, курсанты, знаёмыя дзяўчаты.

У шпіталь прыязджае сам камандуючы фронтам...

І цяпер Кувалдзін рады, што ён едзе разам з вядомым Смірновым, едзе пад яго камандай за Рахманкулам.

Згодна зводкі, якую перадаў разам з загадам наштабрыг, Рахманкул бадзяецца ў далінных кішлаках.

Ранішні густы туман разрываецца гучным крыкам з боку дазора.

Кувалдзінавы мары пра шпіталь і славу хутка зніклі, напалоханыя гэтым крыкам і голасам Смірнова:

— А ну, таварыш Кувалдзін, махні і даведайся, у чым справа? Ды хутчэй!

Кувалдзін шпорыць упартага каня і разам з Іргашам імчыцца да дазора.

Відаць сілуэты дазорных. Дазорныя абкружылі на дарозе невялікую групу дэхкан.

Пад'ехаўшы, Кувалдзін заўважыў канчу ў Ніканавых руках.

Адзін з дэхкан падбег да Кувалдзіна і, схапіўшы яго за нагу, хуценька пачаў гаварыць.

— Таварыш камандзір! Няма басмач, таварыш, няма. Ман факір бічэра **).

— Шакал табе таварыш, а не мы,—закрычаў на яго Ніканаў.

---

*) Полван—багатыр.

**) Я бядняк.

Пад'ехаў Іргаш і хутка загаварыў з дэхканамі. Тыя, часта жэстыкулюючы, усе адначасова пачалі яму тлумачыць, якім чынам трапілі яны на гэтую дарогу.

— Сволачы, ці-ж выдадуць сваіх! Дазвольце, таварыш камандзір, усыпаць гэтым гадам,—звярнуўся Ніканаў да камандзіра ўзвода.

Кувалдзін разгублена глядзеў і чакаў, калі пад'едзе Смірноў.

Іргаш гарачыўся.

— Бічэра... бедны... куркадзе... *) бічэра... Вінтоўка няма, патрон няма. Харошы дэхкан, не басмач. Гонарам гаворадь совецкая ўлада— дэхкан улада.

Перакручвае Іргаш узбекскія словы, думаючы, што так лепш зразумее яго Ніканаў. Доўгі час Іргаш стараецца пераканаць Ніканава, што большасць дэхкан за совецкую ўладу. Той смяецца і кажа Іргашу.

— Ішак **) ты, а не Іргаш. Яны ад совецкай улады, як чорт ад ладана, хаваюцца.

Іргаш зварочвае каня і злосна лаецца па-ўзбекску.

Пад'ехаў Смірноў, даў затрыманым некалькі пытанняў і адпусціў іх, загадаўшы Ніканаву ехаць з эскадронам.

Ніканаў ціха шэпча Смірнову:

— Таварыш камандзір, ей-богу, басмач наш Іргаш. Усіх затрыманых выгарадзіць хоча.

Смірноў моцна яму адказвае.

— Маўчы і варочайся на месца. Ад Іргаша больш карысці, чым ад цябе. Я яшчэ і Лашчыліна ўзгрэў за тое, што ты ў дазоры бясчынствуеш.

Ніканаў аблаяў каня, які спатыкнуўся.

— Стары чорт, дурніца!—і вярнуўся ў строй.

— Што, наеўся?—пытае Ніканава нехта з суседзяў.

— Ну, а ты цыбук, маўчы!—і Ніканаў ехаў далей моўчкі, узлаваны.

На ўсходзе за лілёвымі гарамі расла і шырылася яркая барвовая палоса. З-за высокіх горных храбтоў павольна выпаўзала вялікае сонца. Уперадзе відаць былі дрэвы Кафтар-Ханы і расквечаныя яркім макам ранішняга сонца доўгія нізкія дувалы.

З дазора імчыцца коннік. На фоне невысокіх сопак, блізкага прадгор'я Алайскага храбта, фігура конніка здаецца Смірнову расплыўчатай і незвычайна вялікай.

— Мірзабаеў, таварыш камандзір,—кажа Зуеў.

Смірноў моўчкі ківае галавою і шырокай рыссю едзе насустрач Мірзабаеву. Мірзабаеў спыняецца і, хвалюючыся, дакладвае:

— Басмачы, банда, таварыш камандзір. Тут з правага боку, памятаеце, дзе ў нас з поўгода таму назад бой быў?

— Помню, помню, Мірзабаеў. Ну, добра, станавіся ў строй, у дазоры табе рабіць больш няма чаго,—кажа Смірноў і вярнуўшыся разам з Мірзабаевым спыняе эскадрон каля бліжэйшай сопкі. Загадвае злазіць з коняй.

Усе ўзрушаны і забыліся, што збіраліся адпачываць у Кафтар-Хане. Некаторыя, перадаўшы сваіх коняй згаворчывым суседзям, падыходзяць да камандзіра эскадрона.

— Я пайду сюды, месца мне знаёмае,—кажа Кувалдзіну Смірноў і паказвае на цясніну, а потым паварочвае ў паветры рукою да Кафтар-Ханы:

---

*) Баяцца.
**) Асёл.

— Гэта будзе далей і цяжэй, але напэўна. А ты са сваім узводам прыкрый выхад з лагчыны да кішлака і бі іх тут у хвост і ў грыву.

Смірноў добрадушна смяецца і ляпае Кувалдзіна па плячы.

— Ну вось табе і Ферганскае баявое хрышчэнне.

Кувалдзін цмяна ўяўляе сабе, што будзе бой. У галаве засталося адно—прыкрыць выхад з лагчыны.

Смірноў адыходзіць у бок і падае дазору знак неадкладна варочацца да эскадрона.

Шыцікаў самаздаволена гаворыць чырвонаармейцам:

— Не камандзір у нас, а воўк. Адразу пранюхаў, дзе зайцы. Ды і Лашчылін маладзец, а ты ўсё чэпішся да чалавека, Ніканаў.

Ніканаў моўчкі папраўляў сядлоўку.

— Па конях!.. садзіся!..—каманд<sub></sub>уе Смірноў, і шпарка едзе эскадрон у сопкі. Кувалдзін з узводам выходзіць, бліжэй да кішлака, устанаўлівае нагляд і чакае. Часта курыць, насцярожна прыслухоўваючыся да кожнага гука з цясніны.

Шырокім мысам упаўзаюць у Ферганскую даліну каля Кафтар-Ханы адрогі Алайскага хрыбта і зараз-жа крута абрываюцца.

Высокія сопкі зрэзаны глыбокімі лагчынамі. У аднэй з такіх лагчын, падобнай да катлавана, прыкрытай з усіх бакоў горамі і выкрыў Лашчылін банду.

Вузкая казіная сцежка, гулліва выкручваючыся, бяжыць па карнізе. Коні храпуць і, пужліва косячыся па баках, асцярожна ўзнімаюцца на гару. Атрад сыходзіць з коняй і вядзе іх за повад.

Узняліся на грэбень. Стары бінокль Смірнова злавіў у свае мутныя вочы групу стрыножаных коняй і людзей, якія спалі.

Усе насцеражыліся, нават да коняй перайшла ўзрушанасць людзей, і яны нервова матляюць вушамі.

Часавых не відаць.

Стомленыя вялікім пераходам, басмачы ўсё яшчэ бесклапотна спяць у глыбокай лагчыне, не думаючы, што іх будзе хто шукаць тут, за дзве вярсты ад шырокай далінная дарогі і вялікага кашлака.

Выхад для банды толькі адзін—уцякаць па вузкай цясніне і сыйсці ў даліну да Кафтар-Ханы.

Узвод Кувалдзіна закрыў гэтую дарогу.

— Ці здолее стрымаць?—думае Смірноў.—Эх, каб здолелі!

Атрад садзіцца на коняй і пакатымі адхонамі быстра з'язджае да банды. Чырвонаармейцы на хаду выхватваюць з ножан клінкі. Нехта не вытрымаў і выстраліў.

У бандзе ўзнялася трывога. Перакачваючыся шматгалосым рэхам, загрымелі вінтовачныя стрэлы. Джыгіты торапка пераразалі путы стрыножаных коняй і, няшчадна сцёбаючы канчамі конскія бакі, рынуліся да вузкай сцежкі.

Шырокаплечы кулямётчык Падгорны проста з каня б'е з свайго „Люіса" у натоўп джыгітаў. Валяцца людзі і коні.

Вакол лаянка, крык.

Чатыры джыгіты, якія не паспелі злавіць сваіх коняй, спяшаюцца па вузкім карнізе і, часта адстрэльваючыся, затрымліваюць атрад. Іх засеклі, але пакуль скідалі з дарогі трупы, вышла затрымка.

— Лоўка, таксама выручка,—бурчыць Смірноў. Хітруй, не хітруй, а не выберэшся. Кувалдзін вас сустрэне.

Уперадзе чуваць бязладная страляніна.

Смірноў крычыць чырвонаармейцам:

— Ходу, ходу рэбята! Кувалдзін іх частуе.

Атрад галопам выскаквае ў даліну. Уперадзе—стракатыя халаты джыгітаў, якія прарваліся, да кішлака.

Страляніна сціхла. Толькі асобныя джыгіты ад бяссільнай злосці пасылаюць з кішлака шалёныя кулі.

Іргаш быў з Кувалдзіным. Ён падыходзіць да некаторых забітых басмачоў і пільна ўглядаецца ў твар. Спыняецца і доўгі час глядзіць на труп, што ляжыць каля арыка.

Забіты ткнуўся тварам у зямлю, распрасцёр рукі, як-бы хацеў апошні раз абняць увесь свет. На спіне, на яркім сінім палатне вялікая крывавая пляма.

Іргаш перавярнуў забітага і крыкнуў Кувалдзіну:

— Рахманкул!

Кувалдзін імкліва падбег да трупа.

— Няўжо?

— Так, так, курбашы Рахманкул.

Шумным натоўпам падыходзіў смірноўскі атрад. Кувалдзін пабег насустрач.

— Смірноў, Рахманкул забіты.

Смірноў замахаў шапкай і прышпорыў „Зайчыка“.

Пад'ехаў, злез і ўважліва паглядзеў на забітага.

— Што, стары дружака, уліп? А ну, рэбята, забярыце ў яго ўсе паперы, пячатку, усю яго хурду-мурду. Цяпер нам у гарнізоне жыць можна спакайней—кватэрнай платы няма каму з нас сыскаваць.

Некалькі чалавек падыйшлі да Рахманкула, і хутка Шыцікаў складаў у каўровы курджум, які знялі з забітага рахманкулавага каня, усё, што знайшлі ў Рахманкула.

Сабралі зброю, злавілі напалоханых коняй і рушылі да Кафтар-Ханы.

Чатыры чырвонаармейцы неслі цяжка параненага Зуева.

Кувалдзіну хочацца смяяцца, многа гаварыць. Гаварыць пра сёняшні бой. Сэрца, якое перажыло страх смерці, такой блізкай і магчымай, аджывае і радуецца. Радуецца таму, што забіты Рахманкул і выканана задача, і таму, што яно мае магчымасць біцца і надалей.

III.

Спыніліся ў Кафтар-Хане. Прагна пілі бледна-зялёную гарбату. Пакарміўшы коняй, ляглі спаць. Рассядлоўвалі паўзводна. Удзень елі пераварaны тлусты плоў*).

Потым спявалі. Спявалі украінскія і рускія, спявалі і „мамаджан“.

Дарья волнуется, шумит,
Сердито камнями играет,
В горах цветущей Ферганы
Мы власть советов защищаем.

Кувалдзін рад, што ён быў у баі і, мяркуючы па тым, як абыходзяцца з ім чырвонаармейцы і Смірноў, з заданнем сваім справіўся і разам з усімі спявае:

— Советской стала Фергана
И мы не даром в мире жили.

Кішлачны аксакал**) гаворыць з Іргашам. Вочы палахліва пазіраюць на састаўленыя ў куце вінтоўкі і асабліва доўгі час спыняюцца на канчах Смірнова і Кувалдзіна.

*) Вараная з рысам бараніна.
**) Старшыня.

Іргаш перакладвае, што па аксакалавых вестках басмачоў блізка няма. Апрача аксакала ў кібітцы круціцца яшчэ некалькі чалавек. Кувалдзіну асабліва падазроным здаўся гарбаты стары з доўгай сівавацай барадой і слязлівымі вачыма. Стары часта без усякай прычыны ўваходзіць у кібітку і, перабіраючы ў сандале паленне, уважліва прыслухоўваецца да таго, што кажа аксакал.

Кувалдзін праз Іргаша спытаў у аксакала, куды пайшлі рэшткі рахманкулаўскай банды, і заўважыў, як стары кінуў перакладваць дровы і, каб лепш пачуць адказы аксакала, нахіліўся і павярнуў да яго галаву. Аксакал ухіліўся ад простага адказу. Кувалдзіну хацелася дамагчыся ад яго больш дакладнага адказу.

Смірноў, крануўшы Кувалдзіна за рамень, сказаў:

— Бескарысна. Гэты гад шпіёніць за аксакалам. Вось стары хрэн, але здолей яго злавіць.

— Смірноў, а што калі заставіць выхады з кішлака?—прапанаваў Кувалдзін.

— Не паможа,—спакойна адказаў Смірноў.—Ты выйдзі, глянь, што робіцца,—паказаў ён Кувалдзіну ў адчыненыя дзверы кібіткі на вуліцу.

Вялікіх двароў у кішлаку не было, і эскадрон размясціўся ў некалькіх мясцах. Усюды снавалі жыхары. Неслі ляпёшкі, катык, вялі бараноў, скідалі з дахаў кібітак тугія вязанкі канюшыны.

— Паспрабуй, прасачы, хто тут свой, хто вораг? Цяжкая, брат, справа на вока вызначыць. А басмачы пра нас ужо ведаюць. Злуюць некаторыя нашы рэбяты на жыхароў. Ды не толькі чырвонаармейцы, а некаторыя з камандзіраў. Не разумеюць, не бяруць пад увагу становішча вось гэтага-ж аксакала. Мы з табою заўтра пойдзем, а ён застанецца. Хто паручыцца, што дапаможнікі нябошчыка Рахманкула альбо Ярмат-Максума не выдадуць яго? Нездаволена наша братва тым, што быццам мы залішне асцерагаемся. Басмачы, кажуць, тыя смялейшыя, больш рашучыя ў гэтых справах. Вось хоць-бы для прыкладу Рахманкула ўзяць. Ён міндаляў не разводзіў, усходняй палітыкі не прызнаваў. Падтрымлівае хто-небудзь з жыхароў нас, ну і крышка— нож у пуза і ўсё. Трапіў бы да яго ў лапы Іргаш—скалечыў бы, як бог чарапаху.

Смірноў усміхнуўся.

— Мазгі яшчэ некаторым уладжваць давядзецца. Нашто таіцца, я ў гэтай справе таксама спачатку блытаўся. Мяне, разумееш, палкавое бюро месяцы чатыры таму назад за мудрагельства некаторых маіх эскадронных рэбят пацягнула да адказнасці. Спачатку крыўдна было—за нішто лаюць. Падумаеш—вялікая справа! Агрэлі там двухтрох канчою. Ды без патрэбы не агрэюць. Агрэлі, значыцца, што-небудзь было. Доўга брыкаўся я на бюро—усё не хацелася прызнацца, што гэта і мая віна. Брыкаўся да таго часу, пакуль камісар палка не спытаў у мяне:

„А ты, таварыш Смірноў, не падумаў, што гэтай канчою мы не толькі другіх сваімі не зробім, а яшчэ Іргаша адпіхнем. Што-ж па твойму, мы каланізатары, ці памочнікі мясцоваму насельніцтву? Ты можа забыўся, за вошта ваюем? Можа быць блытаеш нас, Чырвоную армію, са Скобелевым ці Кауфманам? Баі менавіта гэтага ад нас і хочуць. Разлічваюць на наша глупства. Паказваюць усё такім чынам, што і рэвалюцыі ніякай няма, што мы толькі прыкрываемся званнем большэвікоў, а на самай справе розніцы між намі і былымі пакарыцелямі рускімі няма. Не падумаў пра гэта, таварыш Смірноў?"— Сядзеў я, ведаеш, як на вугаллі, а камісар далей крые. Ды проста ў лоб, без усякіх адхіленняў:

„Помніш, як генерал Курапаткін і сямірэчанскія кулакі ў 1916 годзе спальвалі дзесяткі кішлакоў, без усякага разбору знішчалі дэхкан? Думаеш, што засечкі ў насельніцтва пасля гэтага не засталося? Баі гэтым і карыстаюцца. Справай трэба давесці, што мы інакшыя людзі, інакшая армія“.

— А потым, ведаеш, раззлаваўся мусіць на маю ўпартасць і кажа: „Ці варта яго і ў партыі пакідаць? Калі ён забыўся, што мы дапамагаем рэволюцыю рабіць, забыўся, што мясцовая бедната, батракі, какандскія і намаганскія рабочыя таксама змагаліся з самаўладствам, забыўся, што яны і супроць бекаў, супроць эміра выступалі, што нямала добраахвотных атрадаў з мясцовага насельніцтва, таксама, як і яго эскадрон, ваююць, церпяць нястачы, трацяць сваіх таварышоў забітымі і паранеными—тады трэба спытаць—што-ж ён помніць?“—Ну, мне адказаць няма чаго. Зразумеў я, што не ў тыя вароты паехаў. Іншы раз яшчэ і цяпер бываюць зрывы. Запамятаеш, а потым самому сорамна. Трэба і нам рэбят сваіх падсякаць таксама часцей. Трудна будзе. З табою нас у эскадроне ўсяго і партыйцаў толькі чатырох: Шыцікаў ды палітрук. Ну, але калі трэба, дык зробім. Верна, глупства гэтае часта бывае не па злой волі, а таму, што не кожнаму хочацца мазгамі да канца варочаць. вось ён і пора гарачку дзе не трэба, як наш Ніканаў. Я, ведаеш, на бюро таксама пачаў быў гаварыць пра тое, што мне ўжо трыццаць другі год. Быў я стаўропальскі батрак, разам з Апанасенкам бугаям хвасты круціў, разам з ім і белых біць пачаў. У Чонгарскай так і быў да канца дваццатага года. Ваяваў, не было калі вучыцца. Ну і за гэта мяне таксама ў пераплёт узялі. Але-ж *правільна* ўзялі, як ты думаеш?

— Правільна, вядома,—усміхаючыся, адказаў Кувалдзін.—Толькі мне да гэтай гаворкі з табою, таварыш Смірноў, і самому многае незразумелым было. Бачыш, я грамадзянскую вайну пражыў на Урале. Там у нас усё было больш ясна і проста. Белыя, дык белыя, чырвоныя, дык чырвоныя.

Смірноў устаў і шырока закрочыў у кібітцы.

— Нічога, Кувалдзін, тут таксама хутка ўсё ясным зробім. Навучым усіх, а не толькі Іргаша, розуму. Зразумеюць, што да чаго, і самі пачнуць басмачоў лавіць. Я ўвесь год тут, а ведаеш, многае проста на вачах змяняецца. Узнімецца, абавязкова ўзнімецца ўсё дэхканства супроць розных Рахманкулаў, Ярман-Максумаў, Куршырматаў. Каб толькі не прахлопаць.

Смірноў спыніўся, сеў да сандала і, выбіраючы вугаль для люлькі, гаварыў далей:

— Я так думаю, Кувалдзін, што і ваяваць мы тут павінны яшчэ смялей, чым у сябе на Доне альбо на Украіне ваявалі. І барацьбою трэба давесці, што мы інакшыя людзі, што за дэханскую справу гатовы панесці любую ахвяру, што справа гэта наша агульная і няма ў нас у сэрцы страху...

* * *

Падвечар памёр Зуеў. Пахавалі тут-жа ў кішлаку. Разышліся ад магілы моўчкі. Моўчкі клаліся і спаць. На магілках усю ноч прарэзліва скавіталі галодныя шакалы.

Пакарміўшы коняй і паклаўшы ў кабуры толькі што спечаныя ляпёшкі і кавалкі смажанай бараніны, экскадрон выступіў з Кафтар-Ханы.

Раніцаю пачаўся халодны дождж і ліў увесь дзень.

Чыстае светла-блакітнае неба зацягнулася густою шэрай імгою. У гэтую імгу праваліліся і горы, і дальнія кішлакі. Цяжкая зімовая

вільгаць з'едлівым холадам забіралася пад шынелі. Дарога ператварылася ў ліпкую твань. Коні ледзь выцягвалі ногі з глыбокай гразі.

Эскадрон ішоў увесь час крокам. Настуджаныя і змораныя коннікі пачыналі грузнымі мяшкамі хістацца ў седлах.

Ехалі моўчкі. Зрэдку толькі хто-небудзь аблае спатыкнуўшагася каня і пацягне канчою па мокрым конскім крыжы.

Мінуўшы чахлы абрыкосавы гай, эскадрон нечакана выйшаў насустрач бязладнаму стракатаму натоўпу.

Смірноў павярнуўся да Кувалдзіна.

— Кувалдзін, гэта Ярмаш-Максум,—і, выхапіўшы клінок, закрычаў:— За мною! У атаку! Марш, марш!

Прышпорыў „Зайчыка", размахваючы над галавою клінком, паімчаўся да шчыльнага натоўпу халатаў. На хаду крыкнуў Кувалдзіну:

— Кувалдзін, кулямёт давай сюды з правага боку на сопку, і чырвонаармейцам:

— А ну, рэбята, паддай, маць іх так! Наперад, хто каго дагоніць.

З-пад конскіх капытаў ляцелі грудкі гразі. Расцягнены ў глыб па вузкай дарозе эскадрон з гікам імчаўся на банду.

Яна спынілася, падбадзёрваючы сябе рознагалоссем бязладных вінтовачных стрэлаў.

— Ура!..—закрычаў Смірноў.

— Ура!.. Ура!..—размахваючы клінкамі, падганяючы коняй, крычалі чырвонаармейцы.

Натоўп халатаў перамяшаўся, хутка завярнуў коняй і пачаў спешна адыходзіць у сопкі.

„Зайчык" пад Смірновым захістаўся і асеў на заднія ногі. Пярэднія выпрасталіся, як жэрдкі. Смірноў быстра саскочыў і спыніўся, разгублена гледзячы на „Зайчыка". З круглых фіялетавых конскіх вачэй пацяклі слёзы. Ён застагнаў, паваліўся бокам...

Шыцікаў падвёў Смірнову захопленага ў часе ўчарайшага боя завадскога жарабца. Аюпаў і Мірзабаеў здымалі з „Зайчыка" сядло. „Зайчык" ціха стагнаў.

— Садзіцеся, таварыш камандзір,—сказаў Шыцікаў.

Эскадрон у вузкай лагчыне вёў бой. Частка басмачоў засела на сопках і, пастрэльваючы, выручала сваіх.

Кулі з вясёлым візгам шлёпаліся ў дарожную гразь.

— Яшчэ заб'юць якою шалёнай, таварыш камандзір. Паедзем, перасядлаў я,—падганяў Смірнова нізенькі Шыцікаў, ледзь стрымліваючы гарачага жарабца і свайго каня.

Смірноў усё яшчэ стаяў, але калі ўбачыў асядланага гнядога жарабца, аблаяў Шыцікава і сеў у гразь побач з „Зайчыкам".

Шыцікаў настойліва пацягнуў Смірнова за рукаў шынелі. Смірноў раптам схапіў наган і стрэліў Зайчыку ў вуха. Ускочыў на жарабца, да крыві рассек яму камчою скуру на лбе і паімчаўся ў лагчыну. Шыцікаў, Аюпаў і Мірзабаеў паехалі рыссю.

Смірноў павярнуўся да іх і злосна крыкнуў:

— Галопам, нас чакаць не будуць.

Пасля боя ехалі міма забітага „Зайчыка".

— Каб абадраць яго, таварыш камандзір,—прапанаваў нехта з чырвонаармейцаў.

Смірноў не, абарочваючыся, выціснуў:

— Каб цябе... самога, абадраць,—і нават не глянуўшы на Зайчыкаў труп, паехаў далей.

Везлі параненага Паўленку. Берданачная куля разбіла яму сцягно, і ён цяжка стагнаў, варочаючыся на саматужных насілках. Лекпома

не было. Не было індывідуальных пакетаў. Таму абвязалі споднян сарочкай, гімнасцёрку знялі, але надзець не змаглі і зверху, ад дажджу, прыкрылі ёю бледныя грудзі.

У часе спуску пярэдні конь спатыкнуўся і паранены выкуліўся з насілак, падабралі. Паўленка страціў прытомнасць і блюзніў.

Зморанын коні, адчуваючы блізкі адпачынак і корм, пүддалі ходу. Здалёк адрывіста забрахалі сабакі. Мільганулі рэдкія кішлачныя агні.

Эскадрон павярнуў у правы бок і ў кішлаку, на прасторным байскім двары, сышоў з коняй. Чырвонаармейцы наспех разнуздвалі коняй, паслаблялі падпругі і, зморанын, садзіліся на вільготную земляную падлогу ў кібітках.

Некалькі чалавек пайшлі капаць магілу. Паўленка памёр перад кішлаком.

## IV.

Мінула два тыдні, як эскадрон вышаў з Імралі і блукае па горных кішлаках.

Падбіліся зморанын коні. На падцягнутых баках вострa выступаюць рэбры. Некалькі коняй замулены. На кожным чарговым прывале выяўляюцца яшчэ два-тры замуленых кані. Замяніць хворых коняй не магчыма і іх зноў сядлаюць. Чырвонаармейцы паблажалі. Скура ад дажджу і ветру пачала аблупліваццa. Па твары шырокія брудныя пісягі, мыла няма і даўно ўжо ўсе мыюцца без мыла. Махоркі ўзялі мала. Не разлічвалі, што выезд зацягнецца на доўгі час. Толькі ў найбольш ашчадлівых яна захоўвалася з тыдзень пасля выступлення з Імралі. Пачне курыць такі шчаслівец, а да яго пад'язджаюць з усяго эскадрона і просяць:

— Падгорны, дай на два дымы.

— Ну, хоць на адзін.

І вандруе падгорнаўская цыгарка праз дзесяты рот. Кувалдзіну вельмі хацелася курыць, але неяк нязручна было прасіць у Падгорнага—камандзір, скажа, а просіць...

Падгорны сам прапанаваў. Прагна смактаў Кувалдзін з'едлівы тытунёвы дым.

Скончыўся тытунь і Падгорнага.

Эскадрон перайшоў на мясцовую самасадку. Ад яе балела галава і многіх нудзіла.

Смірноў, перакідаючы ў руках пустую люльку, смяяўся.

— Паездзім яшчэ з тыдзень, ніводнага курца ў эскадроне не застанецца.

З Вуадзільскай цясніны вышлі да вузкай мелкай рэчкі. Мінулі вялікі кішлак Шахімардан.

За поўвярсты ад кішлака стаяла адзінокая старажытная мячэць. Блізка мячэці прытуліліся дзве вялікія кібіткі без стрэх.

— Славутая мячэць. Самай старажытнай тут лічыцца,—чаранком бізуна паказаў Смірноў Кувалдзіну на мячэць.

Падвечар эскадрон увайшоў у кішлак Іордан і спыніўся начаваць.

Дажджу сёння не было, але халодны вецер злосна рве голыя чынары і чаратавыя стрэхі кібітак.

У кібітках холад і вільгаць. Земляная падлога намокла і пакрылася клейкай сліззю.

На брудных кошмах, хутаючыся ад холада ў тонкія шынелі, спяць чырвонаармейцы. Многія, апрача шлемаў, яшчэ абвязалі галовы хусткамі.

Тыя, што не спяць, моўчкі п'юць бледна-зялёную гарбату.

Кувалдзін распрануў шынель і лёг у адной гімнасцёрцы на тонкую саламяную цыноўку. Накрыўся шынялём, але знізу сырая гліняная падлога была халодная, і Кувалдзін ніяк не мог сагрэцца.

Зноў апрануў шынель, але саграваўся толькі той бок, які быў бліжэй да агня. Сплюшчваючы вочы на якую хвіліну, Кувалдзін зноў прачынаўся ад холаду. Не вытрымаў, устаў і прысеў да агня.

Пырскаючы іскрамі, звонка трашчалі сырыя калюшкі. Сырыя асінавыя дровы доўгі час не ўгарваліся, шыпелі і выкідвалі вузкія струменьчыкі сіняватага дыму.

Смірноў, ратуючыся ад дыму, ляжаў на жываце. Падпёр твар рукамі, глядзеў на агонь.

Кувалдзін спытаў:

— Калі варочацца будзем, Смірноў?

— Так, браце, перахітрылі яны нас, здаецца. Бачыш, падмяняюць адну банду другою. Змарыць хочуць, а потым і застукаюць дзе-небудзь у Вуадзіле. Парашыў я заўтра ў гарнізон заварочваць. Думаю, што два першых мае данясенні штаб палка атрымаў, а астатнія не дашлі. Згубілі нас, непакояцца.

Кувалдзін вышаў з кібіткі.

Па шырокім двары расстаўлены прывязаныя на прыколах коні.

Зморaныя, яны лянiва жуюць саман.

Многія ляжаць і моцна стогнуць.

Кувалдзін, праверыўшы часавых, вярнуўся ў кібітку. Смірноў ужо спаў.

Падгорны трос над агнём сарочку.

Кувалдзін успомніў свае нядаўнія мары пра шпіталь, славу, знаёмых дзяўчат і засмяяўся.

Падгорны здзіўлена паглядзеў на яго і перастаў трэсці сарочку.

— Вы з мяне смяецеся, таварыш камандзір?

— Не, не Падгорны, гэта я так. Мяне таксама моцна пакусваюць.

Падгорны ўсміхнуўся.

Чырвонаармейцы, стараючыся сагрэцца, усцягвалі на сябе брудныя лахманы кошм, якія валяліся на падлозе, але хутка іх скідалі. Кошмы былі напоўнены блыхамі.

Кувалдзін зноў лёг—вельмі хацелася спаць.

Удзень выступілі з Іордана назад.

У набухлым ад бясконцага дажджу ліпкім грунце вузкіх сцежак вязнуць ногі.

Змучаныя, знясіленыя коні ледзь ідуць.

Іх цаводзіцца цягнуць за повад.

Дарога з левага боку шчыльна прыціскаецца да сопак. З правага боку шырокая лагчына, а за ёю доўгая града сопак.

Да выхада ў Ферганскую даліну далёка, ды ўперадзе яшчэ Вуадзільская цясніна—месца пастаянных засад.

Смірноў часта спыняе эскадрон, каб даць адпачыць людзям і коням.

За сотню сажняў з правага боку сцежкі, хаваючыся за грэбнямі сопак, Лашчылін вядзе свой дазор.

Дазор раптам спыніўся. Лашчылін карабкаецца на грэбень. Са сцежкі сочаць за кожным яго рухам. Лашчылін спаўзае да дазорных і пасля разам з імі бяжыць уніз.

Смірноў спыняе эскадрон і кажа Кувалдзіну.

— Мусіць некага выкрыў?

Лашчылін з балкі крычыць:

— Басмачы, таварыш камандзір, блізка! За сопкамі.

На сопках паказаліся адзінокія коннікі.

За імі пачалі выскакваць групы джыгітаў і, размахваючы вінтоўкамі, пачалі спускацца ў балку.

— Лашчылін, хутчэй!—закрычаў Смірноў.—Кувалдзін, ты глянь, якімі нахабнымі сталі! У атаку ідуць, сволачы! Падгорны, дай ім чосу, як след. Вунь з-за таго каменя,—паказаў Смірноў на вялікі кавалак скалы, які ляжаў пасярэдзіне сцежкі.

У вільготным паветры глуха і мерна загрукаў кулямёт.

— Садзіся!—камандуе Смірноў.

І эскадрон, выціскаючы апошнюю сілу са зморaных, змучаных коняй, пайшоў насустрач бандзе.

Банда спынілася і, выцягнуўшыся ўздоўж балкі, пачала агрызацца частай стралянінай.

Смірноў падскочыў да Кувалдзіна і паказаў у правы бок.

— Уліплі. Вось чаму гэтыя дружкі так і расхрабрыліся.

Кувалдзін паглядзеў, куды паказаў Смірноў.

Збоку ўрочышча Куль-Кутман у фланг эскадрону ішла другая банда.

— За мною!—крыкнуў Смірноў і крута павярнуў эскадрон зноў да сцежкі.

Наперадзе відаць голыя чынары Шахімардана.

Наводшыбе тарчыць адзінокая шэрая, старажытная мячэць.

— Ну, братва, у кішлак праскочыць нам трэба, іначай ухалодзяць нас тут на сопках,—кажа чырвонаармейцам Смірноў.

Чырвонаармейцы паганяюць зморaных коняй. Тыя, часта спатыкаючыся, павольна спушчаюцца па адхонах сопак у лагчыну, дзе расцягнуўся Шахімардан.

Па сопках імчацца коннікі і часта страляюць.

— Бач, якія героі, гады, лаецца Ніканаў.

Стромкі спуск, эскадрон зноў злазіць з коняй і вядзе іх за повад.

У эскадроне двое параненых. Іх хутка перавязваюць і з цяжкасцямі садзяць на коняй. З Падгорнага Кувалдзін здымае кулямёт і нясе яго ў руках.

Забітага Аюпава нясуць Мірзабаеў і Ніканаў.

Іргаш ідзе побач з Ніканавым і ўважліва разглядае джыгітаў, якія гарцуюць на сопках.

— Які ты сярдзіты зрабіўся, Іргаш—знацца не хочаш. Вазьмі ў Шыцікава каня, правядзі да кішлака. Траіх-жа яму трудна весці—кажа Іргашу Ніканаў.

Іргаш усміхаецца, бярэ ў Шыцікава Ніканавага каня.

— Каб толькі паспець праскочыць у кішлак!—адна думка ва ўсім эскадроне.

Вось ужо блізка мячэць, а там недалёка і кішлак. Эскадрон падыходзіць да мячэці.

З кішлака выскакваюць басмачы і, схаваўшыся ў сухім арыку, часта страляюць па атрадзе.

— Эх, сволачы! занялі Шахімардан. Да мячэці!—крычыць Смірноў і, выхапіўшы ў Кувалдзіна пулямёт, страляе па групе басмачоў каля арыка.

* * *

Эскадрон спешна заводзіць коняй на шырокі двор.

Чырвонаармейцы зачыняюць вароты і хутка прабіваюць вузкія байніцы ў дувалах і сценах мячэці.

## V.

Кулі мякка шлёпаюць у сырыя гліняныя сцены.

Бывае, пападаюць у байніцы і глыбока ўпіваюцца ў тоўстыя, дзеравяныя бэлькі мячэці.

Кішлак і ўсе сопкі вакол мячэці заняты. З бліжэйшай сопкі басмачы крычаць:

— Таварыш, пюльмет давай! Мультук*) давай.

— Патроны, патроны беражыце, рэбята,—кажа чырвонаармейцам Смірноў. Пасля адыходзіць з Кувалдзіным у кут мячэці.

— Карміць чым будзем? Дый вады ёсць усяго некалькі фляг. Патронамі мы з табою таксама не багатыя, выстралялі за гэты час не мала.

Кувалдзін адчуў, што збляднеў.

Смірноў ідзе да байніц. Правярае, які агляд, ці выгодная для стральбы байніца, коратка адказвае на пытанні. А ў самога адна думка:

— Як быць? Як пераслаць вестку пра сябе? Колькі басмачоў? Хто старшы курбаш? Напэўна, Ярмат-Максум?

Падыходзіць зноў да Кувалдзіна і працягвае пачатую з ім гаворку.

— Нічога, пашлю сёння ўначы Іргаша ў кішлак на разведку. Можа што-небудзь і праведае.

* * *

Іргаш вярнуўся і цяпер ціха расказвае Смірнову. Некалькі чырвонаармейцаў падыйшлі і слухаюць. Спакойна гаворыць Іргаш. Менш пераkручвае рускія словы, але адчуваецца, што гэта штучны спакой. Спакой—сродак для Іргаша расказаць усё, а расказаць трэба многа.

— Гэты стары шакал Ярмат загадаў дэхканам сабраць сухі чарот і засыпаць мячэць і двор. Дэхкан не хоча. Ярмат траіх зарэзаў. Мула дазволіў паліць мячэць і гаворыць дэхканам, каб неслі чарот.

— Кафіры**) спаганілі святую мячэць. Алах не будзе слухаць у ёй нашы малітвы.—Дэхкане леглі на вуліцы і сказалі: не пойдзем. Ярмат ездіў на кані і біў усіх камчою. Дэхкан не падняўся. Ярмат забіў яшчэ дваіх.

Не можа спакойна больш расказваць Іргаш.

— Джыгіты зусім, як жулік, стаў. Карабчыць***) пачаў. Красці пачаў. Жыхары баяцца. Мне бічэра дэхкан галазом гаворыць:

— Іргаш, совецкая ўлада харош.

Шыцікаў хлопае Іргаша па плячы:

— Дэхкан якшы, Іргаш!

Іргаш адыходзіць у бок і, тузануўшы за рукаў, цягне да сябе Смірнова:

— Вось, д'ябал, напэўна няпрыемнасць нейкая, хіцёр не хоча казаць, каб усе чулі,—уздагадваецца Смірноў.

Іргаш хуценька шэпча:

— Таварыш камандзір, Ярмат паклікаў яшчэ тры курбашы. Прышоў Ташлат, Нур-Мімбашы. Басмач тысяча будзе. Заўтра мячэць паліць будуць. Баі мардзінераў****) пасылаюць па чарот. Ярмат варту даў—баіцца, збягуць мардзінеры. Чырвонаармейцы блізка няма.

---

*) Мультук—стрэльба.

**) Кафір—няверны.

***) Красці.

****) Мардзінеры—батракі.

* * *

У куце застагнаў Падгорны. Кувалдзін падышоў да яго і ў змроку мячэці ледзь пазнаў у гэтым схудзелым з прыплюшчанымі вачыма, чалавеку спакойнага ўсмешлівага Падгорнага. Сёння раніцай куляй, якая прабіла дзверы мячэці, быў папсаваны і кулямёт.

— Кулямётчыка і кулямёт страцілі,—падумаў Кувалдзін і ён прыпомніў нядаўнюю гаворку з Падгорным на начлезе.

— Не абрыдла,—спытаў Кувалдзін. Падгорны, усміхаючыся, адказаў:

— Не, прывык ужо. Ды і што многа балакаць, таварыш камандзір. За сваю справу не боязна і ездзіць.

— А калі год так будзем ганяцца?

— Ну, і што? Вось каняпкі як?

— Сям'я ёсць?—дапытваўся Кувалдзін.

— Ёсць. Бацька стары ды він знае, шчо раблю грамадску справу.

А вось цяпер ляжыць Падгорны ў куце мячэці і, цяжка расплюшчваючы вочы, шэпча Кувалдзіну:

— У гарнізоне... трошкі грошай, та барахлішку... Будзьце ласкавы, таварыш камандзір... Додому пашліце... Шыцікаў адрас ведае... Ой, гарыць... Душа, душа гарыць...

Кувалдзін уліў з флягі астачу вады Падгорнаму ў рот.

Той прагна напіўся і памёр.

Да памёршага падыходзіць некалькі чырвонаармейцаў.

— Рэбята, насы не вешайце. Адаб'емся. Іргаша сёння ўначы пашлем да сваіх. Пойдзеш, Іргаш?—пытае Смірноў.

Іргаш, адчуваючы дзесяткі скіраваных на яго вачэй, адказвае:

— Так, пайду.

Вады няма. Галодныя няпояныя коні жуюць гнілое лісце і грызуць слупы мячэці.

Смірноў звяртаецца да чырвонаармейцаў.

— Таварышы, коняй трэба... перабіць, каб не дасталіся басмачам.

— Таварыш камандзір, дык як-жа гэта?

— Нашых коняй?

— Так. Перабіць,—паўтарае Смірноў.—Усе сыйдзем з двара ў мячэць. Да нас будзе цяжэй падабрацца...

„Бека“ пад Мірзабаевым забілі яшчэ пазаўчора перад кішлаком.

Мірзабаеў бачыць, як падыходзіць да сваёй „Анюткі“ Лашчылін. Гладзіць шыю, морду, глядзіць у вочы. Пасля цалуе ў тоўстыя мокрыя губы. Адыходзіць. Зноў варочаецца. Па яго твары цякуць слёзы. Не вытрымаў Мірзабаеў, падышоў да яго.

Лашчылін усхвалявана схапіў Мірзабаева за руку, падбегшы да „Анюткі“ моцна абняў яе худую, гібкую шыю.

— Не магу, Мустафа. Ды яшчэ калоць! Камандзір сказаў, што патроны берагчы трэба, не магу, што хочаш са мной рабі. Няхай лепш басмачы заб'юць, сваімі рукамі не магу.

І Лашчылін, крута павярнуўшыся, ідзе ў мячэць. Смірноў пытае яго:

— Чаму кабыла стаіць? Чаму загаду не выконваеш?

Лашчылін падыходзіць да дзвярэй мячэці і, не цэлячыся, страляе ў „Анютку“. Тая цяжка валіцца на бок.

Ніканаў зачыняе дзверы мячэці.

— Ад дзвярэй адыходзьце, таварышы,—кажа Смірноў.—Шалёная трапіць,—прабіваюцца дзверы, а ты, Кувалдзін, правер, ці ва ўсіх сценах хапае байніц. Патрэбна мець кругавы абгляд і кругавы абстрэл. У задняй сцяне мячэці прабіць некалькі дадатковых байніц, там у дувале

ёсць вялікі пралом. Калі Іргаш праз яго ходзіць, дык-жа і басмачы могуць пралезці.

Кувалдзін пасылае Шыцікава і Ніканава прабіць дадатковыя байніцы ў задняй сцяне, а сам ідзе праверыць становішча ўсіх астатніх байніц.

## VI.

Іргаш асцярожна адчыніў дзверы мячэці і знік у змроку доўгай зімняй начы.

Некалькі адзінокіх стрэлаў з сопак разарвалі цяжкую цішыню.

Ва ўсіх хто застаўся ў мячэці, адна думка:—Няўжо Іргаша? Не можа быць. Гэта так што-небудзь...

Трэці дзень у асадзе. Няма вады і хлеба. Сліна ў роце густая і ліпкая. У куце стогнуць параненыя і хрыпла просяць піць.

— А ці выратаюць свае? Ці дойдзе да іх Іргаш?—думае кожны.

— Таварыш камандзір, таварыш камандзір,—будзіць Шыцікаў Смірнова, які задрамаў.—Чарот да мячэці цягнуць. Дувал развалілі.

Смірноў падбягае да бліжэйшай байніцы і бачыць, як павольна паўзуць праз праломы ў дувале чаратовыя вязанкі.

— Адбіцы!—крычыць Смірноў, і чырвонаармейцы падбягаюць да байніц. У мячэці гулка грымяць стрэлы. Чаратовыя вязанкі спыняюцца, але пасля павольна пачынаюць падбірацца ўсе бліжэй і бліжэй. Яны паўзуць з усіх бакоў. Каля сцен мячэці выростаюць вялікія чаратовыя гурбы. Адкінуць іх нельга, ужо світае, і таго, хто паткнецца за дзверы, застрэляць з бліжэйшай сопкі.

На роўны дах мячэці басмачы кінулі запаленае пакулле і некалькі цюкоў бавоўны.

— Так, справы нашы няважныя. Кібіткі, кібіткі вось тыя, што на водшыбе, трэба заняць, а то ўсмажаць нас тут,—кажа Смірноў і падыходзіць з Кувалдзіным да байніцы.

— Вось бачыш гэты пралом,—паказвае Смірноў.—Праз яго і трэба бегчы. Басмачы нам-жа лепш зрабілі. Але ўсім адразу не прабіцца—патрацім многа. Часткамі паспрабуем. Ты вядзі свой узвод і займай левую кібітку. Я цябе падтрымаю агнём з мячэці. Не пушчай нікога да суседняй. Не пушчай, я яе потым займу. Эх, каб толькі Іргаш дабраўся.

Кувалдзіна ўзвод падрыхтаваны. Цяжка адчыняць першым дзверы, а яшчэ цяжэй першымі выходзіць з мячэці. А некаму-ж трэба, і зараз-жа.

Усё больш развідніваецца.

Узвод нерашуча топчацца каля дзвярэй. Зверху загарэліся і трашчаць бэлькі. Дым з падпаленых каля сцяны чаратовых куч доўгімі струменямі ўрываецца ў байніцы і шчыліны мячэці.

— Ну, доўга вы яшчэ будзеце чакаць?—нездаволена пытае Смірноў.—Хутчэй, рэбята!

Кувалдзін падыходзіць і адчыняе дзверы. Падскакавае Ніканаў:

— Эй, дай дарогу Ніканаву. Шкада, што балалайкі няма.

За Кувалдзіным і Ніканавым выбягае ўвесь узвод.

Збянтэжаныя басмачы спынілі страляніну, але, калі ўзвод быў ужо за дувалам і бег да кібіткі, з усіх сопак затарахцелі злосныя стрэлы.

Ніканаў паваліўся перад самай кібіткай, куля разбіла яму галаву. Астатнія дабеглі.

— Прабіліся,—вольна ўздыхнуў Шыцікаў,—як нашы?

Басмачы рынуліся да пралома іляглі за вялікімі грудамі высушанай гліны.

Прабіцца тым, хто застаўся ў мячэці, немагчыма...

Хістаецца высокі дах. Адна бэлька перагарэла і, разламаўшыся пасярэдзіне, з трэскам правалілася ў сярэдзіну мячэці. Моцна застагнаў прыдушаны бэлькай Канаеў. Лашчылін і Мірзабаеў падбягаюць да яго і, ледзь здужаўшы адкаціць у бок цяжкае распаленае бервяно, абтушваюць рукамі агонь на шынелі.

— Сюды, сюды Мірзабаеў!—крычыць Лашчылін, які вярнуўся ад сваёй байніцы,—да мяне хутчэй! Бачыш, куды забраліся гады?—Ї паказвае Мірзабаеву на групу басмачоў, што пралазілі праз пралом дувала на двор.

Мірзабаеў становіцца каля байніцы побач з Лашчылінын і адкрывае агонь. Два басмачы падбіты. Астатнія, шчыльна прынікаючы да зямлі, хаваюцца за абломкамі разбуранага дувала.

— Не палезуць больш,—упэўнена кажа Лашчылін і падыходзіць да Мірзабаева.

— Ведаеш, Мустафа... Добры ты хлопец, даруй, што я цябе аблаяў, калі з гарнізона выязджалі. З-за дурнаты гэта вышла.

Мірзабаеў паварочваецца да Лашчыліна, моцна паціскае руку і зноў становіцца да байніцы.

Хістаецца дах...

Радасна ўлюлюкаюць басмачы. Лаюцца. Правалілася яшчэ адна бэлька, за ёю другая, трэцяя.

Ї вось, спачатку ціха, потым усё мацней і мацней чуецца песня

...Любви беззаветной к народу...
...И жизнь свою, честь и свободу...

разлягаецца са старажытнай Шахімарданскай мячэці.

Дах захістаўся і цяжка рынуў уніз. Чалавечы крык і песню прыглушыў грукат абваленых бэлек.

У кібітцы ўсе бачылі, як абваліўся дах, як з мячэці ўзняўся воблакам густы дым.

— Загінулі і Смірноў, і ўсе,—захліпаў у куце Шыцікаў.

Каляровыя халаты ўсё бліжэй падбіраюцца да кібіткі. Кулі лёгка прабіваюць яе сцены, з'едзеныя часам. Страхі ў кібітцы няма. Ї да смерці нудлівы візгат куль.

Кувалдзін ціха гаворыць чырвонаармейцам:

— Так трэба, як Смірноў, таварышы.

Раптам усе насцярожана пачалі прыслухоўвацца. На ўскраіне кішлака частая страляніна. Басмачы рынуліся ў балку да коняй і паімчаліся ў сопкі.

— Няўжо выручка?—падумаў Кувалдзін і, як-бы баючыся памыліцца, не казаў пра гэта.

Каля самай кібіткі чуваць рухі, глухая гаворка, і потым усё абарвалася мерным грукатам Максіма. Не вытрымаў Шыцікаў, выбег з кібіткі і крычыць.

— Свае! Выходзь. Свае. Пяхота.

Гэта быў батальён аднаго стралковага палка. Яго конная разведка наладзіла сувязь з дывізіёнам пятага кавалерыйскага палка і эскадроны Андэрсона, абышоўшы Шахімардан з поўначы, гналі па сопках бязладную банду...

Каля дувала, у гразі, ляжаў парваны шакаламі голы чалавек. З жывата вываліліся кішкі, і іх дзяўбло вараннё.

Шыцікаў падыйшоў да забітага. Хутка адскочыў ад яго, падбег да Кувалдзіна:

— Іргаш, таварыш камандзір.

— Як? А вас хто-ж прывёў?—спытаў здзіўлены Кувалдзін у камандзіра батальёна.

— Ніхто. Мы ведалі, што вы ходзіце недзе тут. Жыхары нас паведамілі, што Ярмат сабраў усіх басмачоў да Шахімардана. Мы падышлі, пачуўшы стрэлы...

На арбах везлі абгарэлыя трупы.

Ідучы міма парванага голага цела, якое валялася каля дувала, чырвонаармейцы здымалі шапкі.

Шыцікаў спыніў арбу, некалькі чалавек паднялі і асцярожна закруцілі цела ў шырокую кошму.

— Вось табе і басмач. А Ніканаў заўсёды яго басмачом празываў, кажа Шыцікаў, кладучы Іргаша на арбу.

Далёка чуваць рэдкія адзінокія стрэлы. На сопках вакол Шахімардана стала незвычайна ціха.

Кувалдзін спыніўся насупроць мячэці і доўгі час глядзеў, як хутка разыходзяцца клубкі шызага дыма. Выразна паўставала ў галаве кожная драбніца трохдзённай аблогі, прыпамінаўся родны Верхісецкі завод, Екацерынбургскія кавалерыйскія курсы, нядаўнія мары пра геройства і славу.

— Вось як яно адбываецца ў жыцці,—падумаў Кувалдзін і пайшоў побач арбы, на якой ляжаў труп Смірнова.

Кувалдзін не мог пагадзіцца з думкай, што ніколі больш не ўбачыць цёплай усмешкі на шырокім твары Смірнова, не пачуе яго спакойнай гаворкі і не ўбачыць акрэсленых рухаў упэўненага ў сабе і ў сваёй справе сталага чалавека.

— А мяне-ж і другіх выратаваў. Выратаваў, ахвяраваўшы сябе,—падумаў Кувалдзін. Падышоў да трупа, палажыў разбітую галаву Смірнова на складзены скрываўлены шынель.

Спынілася і рэдкая адзінокая страляніна.

— Ну, пяты полк расправіўся з гэтай зграяй,—скзаў Шыцікаў і, падышоўшы да чырвонаармейцаў батальёна, папрасіў закурыць:

— Дайце, браткі, тыдні два не курыў.

Пальцы дрыжэлі, калі круціў тоўстую папяросу.

— Дзякаваць вам, рэбята, за выручку. Каб не вы—хана нам была-б. Па пяць патронаў засталося на вінтоўку, а яны насядаюць і насядаюць.

За Шыцікавым падыйшлі яшчэ некалькі чалавек і таксама, скручваючы дрыжлівымі пальцамі папяросы, расказвалі пра трохдзённы бой у мячэці.

— Комэск маладцом быў у нас. Каб не ён, усе-б мы ляжалі вось тут,—паказаў Шыцікаў на арбу.

Батальён падыходзіў да сярэдзіны Шахімардана і парашыў адпачыць, пакуль вернецца дывізіён пятага палка. Да чырвонаармейцаў падыйшоў высокі дэханін і на блытанай рускай мове спытаў—ці не яны прабіваліся з мячэці.

— Так, мы,—адказаў Кувалдзін.

Узвод хутка быў абкружаны шумным натоўпам дэхкан. Натоўп усё павялічваўся. Дзеці цягнулі катык, ляпёшкі і падавалі чырвонаармейцам. Шыцікаў злавіў хлопчыка, які толькі што прынёс вялікую маршчатую дыню і, смеючыся, спытаў—ці не насіў хлопчык чароту да мячэці.

Той палахліва глядзеў на брудныя Шыцікавы рукі і стараўся хутчэй вырвацца.

Высокі дэхканін, усміхаючыся, пераклаў хлопчыку Шыцікава запытанне.

Хлопчык, забыўшыся пра тое, што наважыў уцякаць ад гэтых дужых рук, праз перакладчыка пачаў пераконваць Шыцікава, што ён не любіць басмачоў.

Шыцікаў пагладзіў хлопчыка па галаве.

— Правільна, правільна, хлопчык. Любіць табе іх няма за вошта. Праўда. Я пажартаваў.

За кішлаком дагарвала напоўразбураная мячэць.

---

Л. КАЦОВІЧ

# АПОШНІ

(*апавяданне*)

Яго галава была вялізная, разбухлая, злітая ў адно з круглымі плячыма. Шыі не было відаць—галава і плечы. Чалавек выглядаў надзьмутым гумовым мяшком. Здавалася—тыркні яго голкай, ён тонка зашыпіць і скамечыцца ў анучу...

Вось гэткім ён цяпер мне здаецца, калі я выглядаю з акна і бачу,—пара змізарнелых коняй ледзь цягнуць чорны катафалк з крыху сцёртым надпісам: „Праведнасць яму насустрач".

Катафалк ледзь рухаецца.

На козлах сядзіць рыжы чалавек і лупцуе пугаўём худых коняй, матляючы шырокай чырвона-рыжай барадой. Ён бліскае сляпым вокам.

— Но!.. Но!.. Каб вас халера!..

У катафалку ляжыць Мэндаль Клячкін. Чалавек, які яшчэ ўчора жыў ці не жыў... Чалавек, які хацеў жыць—па іншаму жыць...

Сціраючы з акна налёт вільгаці, я напружана прыглядаюся.

Сёння туман: між сівым небам і паветрам няма розніцы—неба лягло на зямлю... Усё-ж бачу праз туман катафалк з надпісам паяўрэйску, рыжага фурмана і худых коняй. Але ні водзін чалавек не ідзе за катафалкам.

Самотнае пахаванне.

Адзінокім, як пры жыцці, Клячкін застаўся і пасля смерці.

— Апошні,—усміхаюся,—апошні...

Пакідаю спацелае акно, апускаю фіранку. Саджуся за стол, канчаю чытаць прамову Молатава пра другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бяскласавага грамадства.

* * *

Мэндаль Клячкін, як відаць, зусім не хацеў нараджацца. Маці з вялікімі пакутамі радзіла яго. Акушэрка гвалтам выцягнула Мэндаля за вушы. Раней гаварылі, што яго матка, бакалейшчыца, насіла яго ў чэраве дзесяць ці адзінаццаць месяцаў... Яна пакутвала праз гэта, палохалася: „Каб не было, барані божа, мёртвага дзіцяці".

Але Мэндаль усётакі нарадзіўся і застаўся ляжаць камяком з заплюшчанымі вачыма. Яго паласкалі халоднай вадой, пакуль ён іх не расчыніў. І засталіся ў яго ад гэтага чырвоныя, хваравітыя павекі.

Хадзіць ён пачаў позна. Доўга поўзаў. І нават пасля ён любіў болей сядзець, як хадзіць.

— Сядун,—празвалі яго,—Мэндаль Сядун...

Бацькам гэта мала абыходзіла. Наадварот—яны радаваліся

— Расце спакойнае дзіцянё...

Спакойнае дзіцянё „паўзло“ некалькі дзесяткаў год. Перапаўзло дзве рэволюцыі. Пасівела. Яшчэ больш паспакайнела. Больш надзьмулася. Да самай смерці глядзела на жыццё праз два вузенькія шнурочкі хваравітых павек.

* * *

Мэндаль Клячкін жыў са мной на адным падворку. Сустракаўся я з ім рэдка. Ён не любіў мяне за маю гарэзнасць, за мой юнацкі задор. Я называў яго проста Мэндаль Клячкін,—ён - жа любіў, каб яго называлі „рэб Мэндаль“, ці „пане Клячкін“.

Увесну я стаяў з Клячкіным на тратуары ля нашай хаты. Ён быў надзьмуты, маўчаў.

Доўга мы так прастаялі—два маўчальнікі.

Снег, што ляжаў на даху пару месяцаў, разагрэўся на сонцы і пырскаў на нас мутнымі кроплямі.

Мы стаялі, глядзелі на чатырохпавярховую камяніцу, якая засталася недабудаванай з мінулага году, і маўчалі.

— Сонца пячэ,—непрыкметна для самога сябе сказаў я. А калі ён крыху павярнуўся да мяне, я дадаў:

— Ужо можна распачаць сяўбу...

Клячкін хутка адвярнуўся ад мяне, чмокнуў губамі, закашляўся.

— Вя-лі-і-кае шчасце...

Я ведаў яго думкі. Мне захацелася сказаць яму непрыемнасць. Ён глядзеў на недабудаваную камяніцу. Сёлета яе трэба закончыць. Пяцьдзесят рабочых сем‘яў атрымаюць светлыя, добрыя памяшканні.

Я міргнуў яму:

— Ужо хутка можна будзе таксама прыступіць да рамонту!..

Ён махнуў рукой, скрывіўся:

— Пхэ!..

І, аттапырыўшы ніжнюю губу—чырвоны кавалак мяса, спакойна пайшоў на падворак.

* * *

Я даведаўся—Клячкін быў калісьці гандляром. Ён меў жонку. Ен меў двухпавярховую камяніцу—спадчыну ад бацькі. Дзяцей у яго не было.

Кожным летам ён ездзіў лячыцца, не ад хваробы, а каб гаварылі:

— Клячкін паехаў на курорт...

Ён любіў, каб сабака брахаў па падворку. Каб камяніца выглядала прыгажэй за іншыя—камяніца Клячкіна. Каб жонка была прыбраная ў шоўк—жонка Клячкіна. Каб залаты ланцужок целяпаўся на камізэльцы. Каб лакіраваныя камашы блішчэлі.

Ён марыў—каб фурман з раздвоенай барадой сядзеў на козлах пышнага фаэтона і кіраваў параю жарабцоў...

Ён марыў...

Мэндаль Клячкін выпіў зранку шклянку кавы, узяў лясачку са срэбнаю ручкай і выйшаў на вуліцу. Толькі пару дзён таму ён вярнуўся з жонкаю з Ялты—загарэлыя. Ён спакойна крочыў, апіраючыся на лясачку. Глядзеў з-пад брывей на прахожых—быццам задумліва. Быццам нікога не заўважаў.

На рагу вуліцы, каля нейкай абвесткі, сабраўся натоўп людзей, ён таксама спыніўся. Хутка прачытаў раз і другі. Моцна застукала сэрца. Яго смуглы твар пажаўцеў. Ён аглянуўся на спалоханых скамянелых людзей і пабег назад дахаты.

— Вайна... Смерць... Жонка адна—Клячкіна жонка... Камяніца—Клячкіна камяніца.. Чорная лясачка са срэбнаю ручкаю—яго лясачка... Залаты ланцужож на камізельцы... Бляск камашаў...

У яго блыталася ў галаве. Ён уявіў сабе юхтовыя брудныя боты, анучы, шэрыя шынелі і мерцвякоў—безліч мерцвякоў з раззяўленымі скрыўленамі ратамі...

Ён прыйшоў дахаты, сказаў жонцы, што галава баліць, і лёг. Яна яго гладзіла сваімі пухкімі рукамі, цалавала яго гарачы лоб, вочы, кончык носа.

Клячкін вырашыў:

— Не пайду ваяваць...

Ён не пайшоў. Ён не мог хадзіць. Яму „штукар“ штосьці такое зрабіў—ён не мог кратацца.

Ён быў задаволены. Ён церпіць болі—у сваёй камяніцы—камяніцы Клячкіна. Ля сваёй жонкі—жонкі Клячкіна. Ён будзе хварэць, але выратуе жыццё. Ён не будзе валяцца дзесці на полі, з высалапленым чорным языком. Яго не пахаваюць разам з „мужыкамі“, з вашывымі шынелямі, з бруднымі ботамі...

Ура! Мэндаль Клячкін жыве!.. На яго камізэльцы вісіць ланцужок. У руцэ чорная лясачка са срэбнай ручкай. На падворку хрыпла брэша стары сабака. Яго жонка з ім. Ён зноў ездзіць на курорты—смуглявіць твар і глядзіць на прахожых з-пад брывей, быццам задумлівы, быццам незаўважаючы нікога...

Ён не прыкмячаў, што адбываецца навакол яго.

Раненых на насілках праносілі каля яго—ён не прыкмячаў. Кроў лілася—ён не прыкмячаў. Самалёты ляцелі—ён не прыкмячаў. Знарады разрываліся над галовамі і кавалкамі ваты рассыпаліся па небе—ён не прыкмячаў...

Клячкін глядзеў на ўвесь свет з-пад брывей, з іранічнай усмешкай:

— Каму гэта абыходзіць? Я жыву...

Адзін год адштурхоўвае другі, трэці... надышоў дзень—гадзіна, хвіліна... Пастукаліся да Клячкіна ў вароты... Стары сабака хрыпла забрахаў і зваліўся скавычучы ля будкі з разбітай галавой. Доўга хрыпеў сабака, пакуль не скачанеў без дыхання.

Клячкін стаяў ля прыпёртых дзвярэй бледны, з сякерай у руцэ. Яго жонка схавалася ў ложку пад пярынай.

Доўга стукаліся ў дзверы—Клячкін не адчыняў. У галаве была страшэнная пустата.

— Адчыніць ці не?..

Ён адчыніў. У хату ўвайшло трое. У аднаго з іх на грудзях—чырвоная істужка, рэвальвер за поясам. Двое—у шэрых шынелях з вінтоўкамі ў руках.

— Імем Рэволюцыйнага Камітэта...

У Клячкіна вывалілася сякера з рук і рассекла яму насок гамаша.

* * *

Гэтым-жа годам жонка Клячкіна памерла ад тыфуса.

* * *

Адзінокі, апушчаны, злосны на ўвесь свет і людзей, на самога сябе. Яго твар набыў выгляд разбухлай росчыны, набраклы нос, тоўстыя губы, вузенькія вочы—два чырвоныя шнурочкі. У яго сэрцы да болю ўрасталася нянавісць. Ён прагнуў помсты. Яму хацелася абавязкова

сустрэць гэтых трох чалавек, што ўварваліся ў яго хату, у імя рэвалюцыі, сустрэць іх, адпомсціць ім за ўсё, і тады яго не палохае смерць.

— Але дзе-ж яны?..

Ён іх шукае гадамі і не можа знайсці. Ён-бы іх пазнаў. Іх твары ўрэзаліся ў яго памяць. Заўсёды ён думае пра іх. Заўсёды ён уяўляе сабе іх выгляд.

Ён баяўся доўга глядзець на людзей, каб не затушаваць вобраза тых. Ува ўсіх людзей ёсць насы, ірты, вочы—у тых былі зусім асаблівыя. Ён-бы іх напэўна пазнаў.

— Але дзе іх знайсці?..

Іх немагчыма адшукаць. Кідае ён позіркі на іншых, і здаецца яму—яны падобны да тых...

— Усе ворагі!..

І што ён значыць адзін—супроць усіх?

* * *

Апошні раз я сустрэўся з ім у яго пакоі.

Я выпадкова зайшоў туды.

Нешта падобнае да чалавека сядзела, захутанае ў ватовае шкумецце, на шырокім прадзіраўленым крэсле. Сядзела з растапыранымі, разбухлымі нагамі і глядзела ў біблію. У яго пакоі—спарахнелы ложак. На сталах—кавалкі счарствелага хлеба, гаршкі, заплеснявелая талерка, пабітая шклянка. Ложак, з праваліўшымся чэравам да самай падлогі. На падлозе рассыпанае пер'е, кавалкі ваты, анучы...

У мяне сперла дыханне ад агіднага паху трухляціны.

Ён не павярнуў да мяне галавы, не запрасіў сесці, толькі забурчэў, як злосны сабака спрасонку, мацней засоп праз свае шырокія ноздры.

Апынуўшыся на вуліцы, я ледзь аддыхаўся. Я доўгі час глыбока ўдыхаў свежае паветра—прачышчаў лёгкія.

* * *

Цяпер ужо Мэндаль Клячкін далёка ад нашага падворку. Зараз штатны магільшчык старога могільніка расплюскае апошняй рыдлёўкай пяску яго магілу і паставіць дошку з надпісам:

„Тут пахаваны“...

З яўрэйскай мовы пераклаў
Ізр. Плаўнік.

Л. КАЦОВІЧ

# „ГАЗЫ“

(*З кнігі „Гумарэскі“*)

Стракочуць машыны. Шпарка, у адным напрамку водзяць жвава касцістыя пальцы. Адплывуць пальцы пэўную адлегласць, пераскочаць назад і—зноў тое самае.

Заўсёды пры рабоце Бэрка Шпунт любіць працэджваць праз зубы розныя гукі і слоўцы.

Піня падышоў да яго яшчэ да пачатку работы і давай браць яго на цыгундар.

— Я не разумею, таварыш Шпунт, няўжо вам не сорамна, што толькі вы ў цэху не запісаны ў асаавіяхімаўскі атрад? Мабыць, будучая вайна вас мала турбуе. Вы думаеце, што буржуй маўчыць, што ён не рыхтуе для нас мільёны бомб і газаў?..

Бэрка Шпунт блiснуў на яго адным вокам і скрывіў рот.

— Мяне не палохаюць газы... Я прывык да газаў змалку.

Піня ўсё яшчэ прабаваў угаварваць яго:

— Кожны рабочы павінен быць цяпер гатовым. Вазьміце прыклад з нас...

Бэрка Шпунт шырока ўсміхнуўся натапыранымі рэдкімі вусамі.

— А чаго мне баяцца,—жартаваў ён, сыплючы пры гэтым дробным хіхатам,—калі куля стукне мне ў лоб, дык адскочыць назад. Калі пападзе ў рот—выплюну яе, а калі, не ў благі час кажучы, трапіць у жывот, дык ён і без гэтага ад смеху лопаецца...

Полуднем, калі Піня прыстаў да яго не на жарт, Шпунт упарта стаяў на сваім:

— Я жыву сваім розумам... Вам няма чаго непакоіцца аба мне...

Піня апошні раз прабаваў яго пераканаць:

— Памятайце, таварыш Шпунт, вы пасля пашкадуеце...

Гэта раззлавала Шпунта:

— Што ты гаворыш, — выкрыкнуў ён. — Хоць-бы не спазніўся. Якая гарачка. Ну і гады насталі—Піня мяне вучыць розуму.. Будзь спакойны, браток, я ведаю, што раблю...

Пасля работы, прачытаўшы на варотах абвестку пра цэхавы сход, што адбудзецца ўвечары, Бэрка Шпунт фанаберыста накіраваўся да хаты.

Недзе з другога паверха праз расчыненае акно гармонік разразаў паветра рывістымі тонамі. Гэта прыцягнула Бэркаву ўвагу да новай пяціпавярховай камяніцы, якая выглядала здалёк, нібы апранутая ў каракуль. Ён спыніўся ля камяніцы, і ў яго памяці ўсплыла пакрыўленая хатка, якая трымалася на падпорках. Яму цяжка было пазнаць месца ранейшых руін. Неяк раздалася ўшыркі вуліца, і, замест дашчанага тратуара, цяпер разлёгся асфальт.

Варта, каб і яго Х'ена глянула, што робіцца на свеце, тады адпала б шмат з яе нараканняў. Вось на гэтым самым месцы яе бацька-латутнік у старой пакрыўленай хатцы латаў старое барахло...

Ён ведае, што Х'ена праходзіць мо' дваццаць разоў на дзень па гэтай аднаўленай вуліцы, ля новых камяніц. Але яна нічога не прыкмячае.

Праўду кажучы, ён гэтага і сам не заўважыў да апошняга часу? Дык ён такі дзівіўся, як гэта можна не ўгледзець такога прыгоства. Ён падышоў да камяніцы і гладзіў, гладзіў рукамі „каракуль", пагаспадарску аглядаў яе з ног да галавы і задаволены адышоўся, агорнуты свежымі думкамі.

Сёння, як толькі Х'ена пачне яго пілаваць, што яна свету не бачыць, што „вочары" скароцяць яе жыццё, дык ён і скажа ёй адно толькі слова:

— Х'ена, ты сляпая!

Няхай сабе думае як хоча, мо' і дадумаецца да праўды.

Ногі яго лёгка насілі. Галава горда задралася ўгору, дзе скудлачаныя хмары таксама лёгка разносіліся па ўсім прасторы.

У хаце сустрэла яго злосная Х'ена, выціраючы фартухом замасляныя, счарнелыя ад гаршкоў рукі.

— Пан з'явіўся!.. Што яму абыходзіць?—пачала яна ціха мармытаць, але з кожным словам яна ўсё павышала свой віскліві голас.— Раней стаяла ў „вочары"... Баліць яму ці што?.. Пакуль дастала мяса... Хоць ты на кавалкі разарвіся .. Гэта-ж пан мой зараз на полудзень з'явіцца... Хапай-лапай,—гаршчочак перавярнуўся... цяпер вось пячыся цэлы дзень..

Бэрка ўсміхнуўся і расспяваўся. Затым ён стаў ля кухонных дзвярэй і, прыняўшы сур'ёзны выгляд, голасна сказаў:

— Х'ена, ты сляпая...

Яна не зразумела яго слоў, яна лемантавала:

— Расцерла дзень без таркі...

І ўзялася ўсётакі падаваць на стол.

Ён направіў радыёпрыёмнік і насунуў навушнікі. Цяпер яму ўсёроўна, хай сабе Х'ена малоціць языком цэлы дзень, яму гэта не пачым. Ён слухае музыку. І, наогул, яго цяпер цікавіць адно: „Якім гэта чынам дадумаліся да такой мудрай рэчы, як радыё. Заўсёды, калі ён надзяе навушнікі, ён пра гэта думае. Гэта сапраўды, вялікае дзіва".

Так ён прасядзеў ля радыё-прыёмніка, пакуль Х'ена не паклікала палуднаваць.

На цэхавы сход ён прыйшоў адным з першых. Стаяла пытанне аб прарыве ў цэху. Вырашылі мабілізавацца і на працягу двох тыдняў ліквідаваць прарыў.

Пасля сходу Піня скамандаваў:

— Атрад, стройся!

І Бэрка Шпунт не паспеў агледзецца, як застаўся адзін адным ля ўвахода ў цэх.

Уздоўж падворка выстраіліся ўсе рабочыя яго цэха, толькі ён адзін застаўся воддаль асобна ад усіх.

Ён чакаў. Яму цікава было паглядзець, што яны тут усёткі зробяць.

Ён задумаўся: „А калі бегаюць на падворку з бляшанымі барабанамі, а калі надзяюць маскі? Што гэта дае? Што?

Аднак ён непрыкметна падсоўваўся ўсё бліжэй і бліжэй да атрада. Яго захапіла дысцыпліна рабочых, цікавасць даведацца, што тут усёткі адбываецца.

Раптам ён угледзеў самога сябе пасярод усіх рабочых свайго цэха, у адным шэрагу. Мабыць ніхто гэта не заўважыў. Маўчалі.

Дамоў ён прыйшоў пазнавата. Х'ена даўно ляжала ў ложку. Яна крэхчучы пайшла адчыняць дзверы.

— Валандаецца цэлыя вечары...—мармытала яна ідучы.

Бэрка Шпунт усміхнуўся ў калючыя вусы і гарэзна міргнуў да яе вокам:

— Я быў у асаавіяхімаўскім атрадзе...

Яна яшчэ больш раззлавалася.

— Устаў, здаецца, чалавек чалавекам, і вось табе маеш—зусім пайшоў у „трыяд"...

Бэрка спачатку абурыўся: гэта-ж зусім не яе справа. Але ён адумаўся: лепей дабром. І ён вельмі лагодна вылупіў верхнюю губу з калючымі вусамі і мяккім голасам сказаў:

— Завошта тут гневацца? Я-ж хаджу на заняткі атрада, каб навучыцца, як абараняцца ад газаў, разумееш? Я-ж цябе таксама навучу, бо навошта мне жыццё без цябе?..

Х'ену пачаў душыць смех. Ужо даўно, даўно не чула ад яго гэткіх салодкіх слоў, і яны гутарылі да позняй ночы, пакуль дзеці не вярнуліся дамоў.

Назаўтра ён зноў пайшоў у атрад, і так дзень-у-дзень.

Праз колькі дзён Бэрка Шпунт прыйшоў дахаты і шапнуў Х'ене на вуха:

— Не палохайся... Будуць страшэнныя гудкі... Гэта будзе спробная трывога... Не палохайся.

Гэтым самым вечарам сапраўды разраўліся сірэны, і Бэрка пусціўся бягом на фабрыку.

Збор адбыўся на фабрычным двары. Некаторых паставілі на варту, маршавалі з барабанамі. Гэтак займаліся з поўгадзіны. Затым выказаліся пра небяспеку вайны, і гэтым кончылася. Большасць рабочых спацыравалі па падворку і жартавалі між сабою, бо кожны ведаў, што гэта толькі спробная трывога. Вярнуўшыся дамоў, Бэрка разачаравана махнуў рукой:

— Калі я не хацеў запісвацца ў атрад, дык, значыцца, ведаў чаму. Не будзе вайны, і няма часу глупствам займацца...

У знак згоды Х'ена кіўнула галавою.

— Я-ж раней гаварыла, ці-ж ты мяне слухаешся? Ты-ж ганарысты, задзіраеш галаву, як даўней губернатарскія коні...

З таго часу Бэрка пакінуў атрад...

— Ну, што-ж,—казаў ён, што будзе з усімі, тое самае будзе і са мной.

Але, калі праз некаторы час перадавалі па радыё аб жудасці газаў, чыхальных, слязатачывых і нарыўных, дык гэта яго вельмі зацікавіла. Ён даведаўся, што іпрыт, люізіт і дык—самыя страшэнныя газы на свеце.

„Калі газы сапраўды існуюць на свеце і калі гавораць пра небяспеку вайны, дык чым-жа, сапраўды, можна будзе абараняцца?... І калі вораг наскочыць раптоўна і скіне тры гэткіх „клёцкі" адну з „іпрытам", другую з „люізітам, а трэцюю з „дыкам", дык тады сапраўды жывот ужо можа лопнуць не толькі ад смеху..."

Так меркаваў Бэрка Шпунт і не ведаў, што рабіць.

У горадзе неўзабаве пачалі пагаварваць пра газавую атаку.

Прайшло каля двух тыдняў. Думка пра сапраўдную газавую атаку трывожыла яго. Аднаго разу, прыйшоўшы да хаты з работы, ён, смачна пад'еўшы, толькі прылёг адпачыць, аж раптам задрыжэліваконныя шыбы. Спачатку загулі сірэны як звычайна, але з кожным разам яны галасілі ўсё мацней і мацней і запоўнілі лямантам увесь горад.

Бэрка пільна прыслухаўся і адчуў, што на гэты раз галошанне не звычайнае. Ён падышоў да акна і ўгледзеў—можа з пяцьдзесят самалётаў захапілі ўвесь кругавід.

Неўзабаве пачалася небывалая сраляніна. Бялявыя плямы рассыпаліся па ўсім небе, быццам уверсе перакідваліся снежкамі.

Самалёты ўсё набліжаліся і набліжаліся. Перапалох усё мацнеў і мацнеў. Разам з галошаннем сірэн пачаў лемантаваць увесь горад.

У хаце збянтэжыліся. Схаваліся пад коўдрамі, навалілі на сябе падушкі.

Але Бэрка не збіўся з панталыку. Ён зараз-жа ўзяўся заклейваць пабітыя шыбы і закітоўваць шчыліны мяккім хлебам.

Але ўсё-ж нічога не памагло. Ля яго хаткі ўпала бляшаная скрынка і, рассыпаўшыся на кавалкі, выпусціла з сябе страшэнны дым.

Бэрка не паспеў агледзецца, як праз усе шчылінкі, якіх ён раней не мог заўважыць, пачаў прабівацца нейкі жаўтаваты дымок.

Ён бачыў, як жонка скруцілася абаранкам. Яна ўжо не магла выгаварыць і слова, а толькі бяссільна тужылася лавіць рукамі паветра, пакуль канвульсійныя ўздрыгі пальцаў, пафарбаваных у гнілую жаўцізну, не спыніліся.

Ён нічым не мог ёй дапамагчы, ён сам ледзь выскачыў на вуліцу, каб крышачку адсапнуцца. Ён адчуў, што ён ужо таксама атручаны. Яго арганізм, відаць, быў дужэйшы і мог больш перанесці.

Вуліцу цяжка было пазнаць. Ад гулу самалётаў і галошання заводскіх сірэн можна было аглухнуць. У некаторых месцах палыхалі камяніцы. Навюткія камяніцы, каракулевыя таксама палыхалі. Гэта вельмі балюча. Такія прыгожыя муры.

Па вуліцы, нібы чэрці, бегалі людзі ў гумовых масках з бляшанымі барабанамі. З барабанаў сыпаўся белы пылок і, нібы мукою, абсейваў усю вуліцу. Адны тушылі агонь, другія цягалі людзей, атручаных газам і дымам, людзей, скурчаных, з абвугленымі тварамі.

Стараючыся, каб яго не заўважылі, Бэрка падворкамі і калідорамі прабіўся на вялікую плошчу. Там, мабыць, павінен быць атрад.

Плошча, дзе высока на вежы стаяў гарадскі гадзіннік, была на гары. Адтуль лёгка было ўбачыць, што робіцца далёка навокал.

Ён угледзеў, як двох у масках панеслі на насілках ледзь не мёртвую Х'ену. Ён ведаў, што яе панеслі ў бальніцу, і ён супакоіўся.

Ён дабег да гарадскога гадзінніка. Раптам пацямнела. Сумяціца яшчэ павялічылася, і на фоне пажарышчаў вызначылася пара вялізарных крылляў самалётаў.

Перад вачыма Бэркі самалёт кружыўся з такім жудасным гулам і так нізка, аж ён ледзь не кранаўся дахаў камяніц.

Раптам высунулася рука і блiснула шасцікантовая металічная скрынка. Бэрка зразумеў, што зараз вось тут хочуць пачаставаць людзей газавай бомбай. Лётчык шукае больш выгоднае месца.

Бэрка аж вышчарыў зубы. Ён з гарачкі пачаў выдзіраць каменні з бруку і кідаць, кідаць на самалёт.

Раптам пачуўся ў паветры страшэнны трэск. Самалёт зачапіўся крылом за вышку гарадскога гадзінніка. Крыло адламалася і са свістам і шыпеннем паплыло ўніз.

Бэрка абрадаваўся, убачыўшы, як самалёт пачаў бяссільна кружыцца на адным месцы і раптам лёгка, як матыль, на адным крыле скінуўся ўніз.

Ён падбег да самалёта. Адтуль паказаўся на смерць перапалоханы замежны афіцэр з бомбай у руцэ.

— Выратаваць горад ад бомбы,—бліснула маланкай думка.

Ён скрыгануў зубамі. Спрытна скокнуў, як кошка, гатовы ўрэзацца ў горла афіцэра сваімі вялізнымі кравецкімі пазногцямі.

Афіцэр збянтэжыўся. Кінуць бомбу—ён рызыкуе ўласным жыццём, дык ён так стараўся адбівацца ад Бэркі.

А Бэрка ні нашто не глядзеў. Ён глыбока ўеўся ў гарляк афіцэра, каб адным махам задушыць яго, адпомсціць за ўсё, за Х'ену, за дзяцей, за пажары...

Раптам Бэрка пачуў голас Х'ены.

— Што за трасца цябе бярэ?.. Чаго ты так кідаешся?..

Бэрка Шпунт праснуўся. З ілба сцякаў халодны пот. Ён моргаў вачыма—доўга не мог ачухацца. Ён толькі злосна глянуў на Х'ену.

— Што-ж гэта ты зрабіла? Калі-б ты мяне разбудзіла на пяць хвілін пазней, я прыкончыў бы афіцэра.

— Якога афіцэра?—глянула на яго Х'ена, як на вар'ята.—Што ты плявузгаеш?

— З бомбай...

— Вар'ят, малахольнік...—плюнула Х'ена і злезла з ложка апранацца.

На работу Бэрка Шпунт прыйшоў змораны. Ён сеў за сваю машыну, не прамовіўшы ні з кім ні слова, і напружана ўпяўся вачыма ў свае касцістыя пальцы, якія па-звычайнаму пачалі скакаць туды-сюды, накіроўваючы шціва ў патрэбным напрамку.

Полуднем ён падышоў да Піні і па-сяброўску стукнуў яго па плячы.

— Піня, я не хачу быць белай воранай, пішы мяне ў атрад.

Пераклаў з яўрэйскай мовы.
Ізр. Плаўнік.

---

ЯКУБ КОЛАС

## „НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ“ М. ЛЫНЬКОВА *)

Разглядаючы той ці іншы мастацкі твор, мы, звычайна, падыходзім да яго з пэўным крытэрыем, прад'яўляем да яго тыя ці іншыя запатрабаванні, якім павінен ён адпавядаць. Даволі прыпомніць, што такое мастацкая літаратура, у чым заключаюцца яе спецыфічныя функцыі, яе актуальнасць, каб устанавіць гэтыя крытэрыі. Што-ж такое мастацкая літаратура і ў чым яе асаблівасці? Мастацкую літаратуру можна азначыць, як асобую форму грамадскай свядомасці, класавай ідэалогіі, форму, якая праз сістэму сваіх вобразаў вядзе да пазнання рэчаіснасці і служыць задачам класавага самаўмацавання. Для таго, каб мастацкая літаратура найбольш эфектыўна выконвала сваю ролю, яна павінна стаяць на належнай вышыні і з фармальнага боку, іменна—актуальнасцю праблемы, сюжэтнасцю, глыбынёю ахвата рэчаіснасці, праўдзівасцю, уменнем проста, ясна, правільна, прыгожа і ў той-жа час цікава раскрыць усе тыя элементы, з якіх наогул складаецца ўвесь комплекс таго, што мы называем мастацкім творам. Сюды-ж, само сабою разумецца, уваходзіць і слоўнае майстэрства пісьменніка ў шырокім значэнні.

У такім прыблізна плане я хачу разгледзець апошні твор Лынькова М., яго раман „На чырвоных лядах“. Гэты твор заслугоўвае асаблівай увагі па многіх прычынах. Па-першае, твор гэты належыць пяру вядомага і папулярнага беларускага пісьменніка з немалым пісьменніцкім стажам. Па-другое, аб гэтым творы, калі не лічыць невялікай газетнай рэцэнзіі Куніцкага, змешчанай у „ЛІМ'е, наша крытыка не азвалася ніводным словам. Па-трэцяе, „На чырвоных лядах“ становіць сабою новы этап у творчасці Лынькова, дзе аўтар ад навел і больш-менш значных па зместу апавяданняў і аповесцей пераходзіць да вялікага мастацкага палатна, на якім ён хоча шырока і поўна паказаць местачковы быт беларускага захалусця часу імперыялістычнай вайны, паказаць класавыя адносіны паміж рознымі соцыяльнымі групамі і, як вынік гэтых адносін, павольнае нарастанне рэволюцыйнай хвалі. Па-чацвертае, у рамане „На чырвоных лядах“ прадстаўлен дужа багаты матэрыял і для нашай літаратурнай вучобы, куды таксама ўваходзіць і такое актуальнае цяпер пытанне, як чыстата і правільнасць літаратурнай мовы.

Раман „На чырвоных лядах“ надзвычай шырока ахоплівае ўжо адзначаны перыяд часу ў плане местачковага побыту і па багаццю выведзеных персанажаў не мае роўнага сабе ў беларускай літаратуры.

Перад намі праходзіць група беларуска-яўрэйскай местачковай беднаты, прадстаўленая ў двух пакаленнях: болей кансерватыўнага

*) Друкуецца ў дыскусійным парадку.

старэйшага, за нямногімі выключэннямі, і болей прагрэсіўнага, у сэнсе сваіх настрояў, маладога.

Вось гэтыя персанажы:

1. Лаўрэн, ліхтаршчык і сторож на Дняпры, ён-жа і царкоўны стараста, чалавек лагодны, богамольны. 2. Стары паромшчык Амяльян. 3. Рыбак Сяргей. 4. Хвёдар Жаранкоў, горкі бядняк, змушаны часамі здабываць сабе хлеб дробнай кражаю. 5. Старая салдатка Варташыха. 6. Салдатка Кастуля. 7. Саклета. 8. Бежанец Напрэй, служыць за парабка ў кулака Цыбула. 9. Марта, Напрэева сястра, жыве прыслужніцаю ў манастыры. 10. Андрэй, папоў парабак. 11. Дваровы пастух Валодзька. 12. Аніс, шахцёр. 13. Дваровы батрак Трахім Сапун, забіты, прыдушаны паднявольным жыццём. 14. Лявон, яго сын. 15. Селянін Напрэй Казёл. 16. Сямён Казёл, салдат, георгіеўскі кавалер. 17. Мірон, рабочы ў панскім двары. 18. Яўхім, Міронаў сын, калека. 19. Каваль Іван Іванавіч Сапрыёнаў, сын рабочага, бежанец. Местачковыя рабочыя, лазакруты: 20. Янкель Зохе, 21. Шолам, 22. Бэня, 23. Фыйбус, 24. Іцаль Шуб. 25. Дваровая батрачка Ганна. 26. Інвалід Ігнась.

Другую групу асоб складае прамежная праслойка. 27. Цупрон Палашкін. У яго хаце 8 жанчын: жонка і 7 дачок, з іх 4-х пара аддаваць замуж. Цупрон—у поўнай залежнасці ад жонкі. 28. Лявон Ражок, 29. Гарпіна, яго жонка. 30. Аднавочка Агапка, яна-ж і абортных спраў майстар, маці шахцёра Аніса. 31. Лёкса Козішка, таргуе гарэлкаю. У яе тры дачкі: 32. Саламаніда, 33. Ганна, 34. Тацьяна. 35. Якаў Смык, чалавек задаволены сваім жыццём, не грэбае ніякімі сродкамі, панскі падліза. У яго на кватэры жыве настаўніца. 36. Фельчар Асроэл. 37. Шавец Мотэль. 38. Дробны гандляр Чырвонец.

Трэцюю групу асоб складаюць: кулакі—39. Хвядос Мялаў, стараста, чалавек напорысты, не ведае стрымання сваім прагавітым кулацкім патрэбам. Трымае ў руках горкую беднату, пазычае хлеб на адработкі, абсчытвае і крыўдзіць салдатаў. Чалавек пажадлівы і помслівы; 40. Сын яго Банадысь, местачковы Дон-Жуан з сукрыстым чубам, хоць гэта донжуанства і не вяжацца з яго дурасцю, трусасцю і курыным розумам. 41. Кулак Цыбул, заблытвае ў кулацкую павуціну беднату, дабіваецца свайго „ціхаю сапаю". 42. Салівон, старастаў брат. 43. Жонка яго Аўгіння, Супронова дачка. 44. Макрыда, касавокая дачка Цыбула. 45. Руды Абрум, крамнік. 46. Рэб Нохім, арандатар. 47. Алтэр Француз, падрадчык. 48. Лейба Давідовіч, крупадзёршчык. Манашкі: 49. старая Аўдакія. 50. Маладая Марыля.

Паказана група так званай інтэлігенцыі. 51. Настаўніца Зіна. 52. Поп Панфіл. 53. Пападдзя. 54. Папоўскі сын Васіль, мяккацелы інтэлігент. 55. Прыстаў. 56.Ураднік. 57. Жандар Сухон. 58. Упраўляючы панскім маёнткам Мацвей Юльевіч. 59. Садоўнік Францысь Карлавіч. 60. Канторшчык у панскім маёнтку.

Апроч пералічаных асоб, у рамане прымаюць удзел: ляснік Сідар, стрэлачнік, жабрак, салдаты-франтавікі, дэзертыры, палонныя аўстрыякі, паліцэйскія стражнікі і іншыя. У канцы першай кнігі рамана выводзіцца рэвалюцыянер Карней.

Ужо адно гэта размеркаванне персанажаў па соцыяльных групах арыентуе да некаторай ступені ў самым рамане. Па гэтаму размеркаванню можна адгадаць і лініі іх паводзін і асноўную іх накіраванасць. Але як ні розны паміж сабою ўсе гэтыя групы, ёсць у іх нешта адно агульнае, што зблізкае іх і робіць падобнымі—гэта адсутнасць такіх чалавечых інтарэсаў, якія хоць-бы трошкі падымалі іх над узроўнем шэрага, нецікавага, драбязлівага клопату і турбот штодзённага жыцця, якія-б будзілі і штурхалі іх мыслі, клікалі-б да чагось і прымушалі-б выйсці

са шкарлупін цеснага, ідыёцкі абмежаванага індывідуалізма. Няма ў іх парываў, няма змагання. Усе яны, амаль без выключэння, жывуць голым, заалагічным жыццём, не кідаючы мыслі далей свайго вузкага і цеснага круга, у якім замкнёна іх жыццё. Убогая іх філасофія, бедная іх мудрасць, і шэрае іх жыццё. Мацнейшыя душаць слабейшых, адны болей аголенымі, простымі спосабамі, другія пад прыкрасаю няхітрай дабрачыннасці. Слабыя пакорна зносяць свае крыўды ды толькі глуха наракаюць, забіўшыся ў шчыліны сваіх „ціхіх сядзіб". Ні пратэсту, ні бунту. Адна толькі надзея: усе гэтыя заціснутыя і прыдушаныя ярмом царскага рэжыма, які ажыццяўляецца рознымі адгаліненнямі гэтай пачварнай сістэмы, носяць у сэрцы пагрозы: „пачакайце—прыдзе, прыдзе на вас пагібель!" І цярпліва чакаюць, агрызнуўшыся часам нясмела, прыхода гэтай пагібелі іх крыўдзіцеляў, як-бы мела прыходзіць яна сама сабою, незалежна ад людской волі.

Вось некалькі ілюстрацый.

Ліхтаршчык Лаўрэн, пазіраючы на вячэрняе неба, дзе паказваюцца першыя зоры, разважае:

„Ужо запалілася... ну што-ж? на тое ўжо воля боская. Каб кожнае гэта ды на сваім месцы. Днём вось сонца, а нанач месік выходзіць... дзе яму аднаму. Таму і паліць бог свае неўміруючыя ліхтары". Лаўрэн уздыхае і пачынае драмаць. „Ніхто як бог...—засыпае ён:—так бог".

Нават калі начальнік дыстанцыі Лаўрэну так засвяціў, што твар успух, пад самае вока патрапіў—быў тады сімафор недагледжаны. „Што-ж? Нішто як не ад бога".

У дваровага пастуха Валодзькі здарылася страта: укралі двух баранчыкаў. Пaклікалі яго да ўпраўляючага:

„Мацвей Юльевіч на ганку сядзеў.

— Ну, падыдзі, падыдзі, Уладзімер... Як там бацьку твайго? І, як вока міргнуць, ухапіўся Валодзька за вуха, апечанае, як варам. І не варушыўся, на нагах трымаўся.—Іначай хужэй, яшчэ больш разлуе, выспяччa пачне даваць, няхай ужо ахвоту спагоніць".

Так разважае сам з сабою дарослы чалавек, панскі пастух Валодзька. „Той-жа, кажа аўтар, біў моўчкі, наводзіў, усё стараўся, каб патрапіць ямчэй, каб больш жорсткі ўдар быў, востры, калючы. Ледзь рукі свае не скрываніў, трапіўшы косткамі ў сухі Валодзькаў падбародавік".

Аб чым-жа думае Валодзька, падставіўшы пад панскі кулак свой твар?

„Стаяў Валодзька, апусціўшы рукі, ды пакручваў галавой, каб-жа не ў вока, крый божа. Стаяў і думаў. І думак тых роіла цэлае. Узяў-бы, здаецца, лы гэтага гладкага, да аберуч да галавой аб прыступкі каменныя, на тую-б ляпёху, удрызг, у кароўю. Толькі-б мокрае месца засталося-б. Ці хрыбтом аб слупок, і не піснуў-бы, воўчае рыла. Ці ўзяць за нагу, ды стаць на яе, ды за другую-разарваць, як жабу балацяную, як квокала тое. Уздыхнуў і глуха, нібы не з грудзей і словы гэтыя:

„Даруй, паніч, ні душой ні целам не вінаваты.

Ці так разважаў Валодзька ці не, падставіўшы і правую і левую шчокі пад панскія аплявухі, судзіць не бяруся. Болей натуральным было б тут, калі-б Валодзька кінуўся наўцёкі.

Гэта пакора свайму цяжкаму лёсу і горкай долі гучыць і ў разважанні старой Гінты і ва ўсіх паводзінах яе, калі сядзіць яна над канаючым сынам Янкелем Лазакрутам.

„Цяпер можна даць волю слязам. Цяпер не перашкодзяць слёзы душы чалавечай, калі разлучылася яна ўжо з грэшным целам і далёка,

далёка ўжо недзе там, куды адышоў і муж, адышлі ў свой час бацькі, адыйдзе ў свой час і сама. Толькі крыўдзіць вось бог, сына бярэ раней".

Таксама і Марта, здаровая дзяўчына, палюбіўшая паповага парабка Андрэя, дазваляе старай ханжы, манахіні Аўдакіі, біць сябе па голым целе.

Цемра, бяздзейнасць, тупая пакора, глухое нездавальненне адных, голая непрыкрытая эксплаатацыя і здзек з боку другіх,—такі асноўны тон паказу герояў рамана. Малюнак верны, але фарбы яго згушчаны. Была-ж рэволюцыя 1905 г., але следу яе як-бы і не засталося. Праўда, аўтар паказвае павольнае нарастанне нездавальнення, гатовага выліцца ў рэволюцыйны выбух, але ён слаба паказвае канкрэтных і свядомых носбітаў ідэй рэволюцыі. Робіцца ўсё болей само сабою, саматугам.

Перадаць змест рамана—задача даволі трудная: раман „На чырвоных лядах" не мае касцяка, не мае цэнтральнай фігуры ці групы фігур, навокал якіх развіваліся-б і нарасталі пэўныя падзеі. Няма завязкі, няма інтрыгі. Раман складаецца з аграмаднага раду мазаічных бытавых герояў. Прычым гэтыя малюнкі і сцэны не заўсёды стаяць у арганічнай сувязі паміж сабою. Іх можна перастаўляць, і раман ад гэтага не парушыцца.

Некалькі больш падрабязна спынюся на характарыстыцы некаторых персанажаў. Перш за ўсё на характарыстыцы Івана Іванавіча. Па замыслу аўтара каваль павінен выконваць ролю правадыра, ролю лідэра бядняцкай мястэчковай праслойкі. Але Іван Іванавіч, трэба сказаць, з сваёй роляй спраўляецца слаба і як прапагандыст рэволюцыйных ідэй выведзен няўдала. Першыя выступленні яго ў гэтай ролі аўтар паказвае нам у другім і трэцім раздзелах другой часці рамана. Іван Іванавіч прыладжвае барабан у крупадзёрцы Лейбы Давідавіча. Хведар Жаранкоў—„галоўны механік", стораж, засыпшчык і касір крупадзёркі, як азначае яго аўтар,—адпачывае ў гэты час і гутарыць з Іванам Іванавічам. На гутарку выклікае яго сам Іван Іванавіч.

— Нешта ты, пане Хведар, не гаваркі сёння.

— А чаго-ж ужо мне, Іван Іванавіч, гаваркім быць. Дзе ўжо нам? Напетуешся на працы, дзе ўшо тут ды каб гэта гутаркамі займацца.

— Усе мы працуем,—заўважае Іван Іванавіч.

Жаранкоў пачынае гаварыць, ухапіўшыся за слова „працуем". Ён разліваецца цэлым доўгім маналогам аб працы і працы: адна справа праца бедняка, іншая справа праца багацея.

— Гэта вы правільна, пане Хведар,—згаджаецца каваль, але свайго погляду на рэчы не выказвае.

„Збіраліся часта ў Івана Іванавіча пакурыць, а то і проста так пасядзець, пагутарыць, навін якіх тых паслухаць, бо траплялася часамі газетка якая ў каваля, часта ён горад наведваў. Заходзіў звычайна Напрэй Казёл, Валодзька-пастух, калі вольны ад працы. Заходзіў Аніс Шахцёр, заглядаў часам канавал Зміцер, ды сія-тыя з лазакрутаў, маладзейшыя каторыя".

Як бачым, каваль у горадзе бываў, у яго газеты трапляліся. У яго былі і кнігі—М. Горкі, Бальмант, Фет, Кальцоў. Словам, чалавек ён граматны. Ён сын рабочага, загінуўшага ў час маніфестацыі ці то ад казакаў, ці то ад дубінкі чорнай сотні. Уміраючы, бацька наказваў сынам Івану і брату яго, не забываць пра бацьку і пра смерць яго. Усё гэта, здавалася-б, павінна было настроіць каваля на лад болей актыўнага дзеяння. Ён-жа, па Лынькову, адыгрывае ролю пасіўнага чалавека. А бедната горнецца да яго, слухае яго словы, цешыцца з гэтых слоў, лічыць за чалавека, з якім прыемна пагутарыць. Паслухаем, як гутарыць каваль.

Калі местачковая беднага, як Жаранкоў, Нупрэй Казёл, Лявончык і інш. несвядома ставяцца на шлях апазіцыі да сваіх класавых ворагаў, але ў іх няма праграмы, няма перспектывы і мэты, няма рэвалюцыйнага ўсведамлення прычын соцыяльнай несправядлівасці,—Іван Іванавіч не дапамагае ім. Ён гаворыць цёплыя, бесхрыбетныя фразы, канстатуе факты, але не дае абагулення, не дае акрэсленай устаноўкі, не кідае вострых лозунгаў, не заве, не запальвае пафасам змагання.

„—Гэта вы правільна сказалі, пане Уладзімер,—кажа ён на словы пастуха Валодзькі.—Канешна пан пра сваю карысць клапоціцца—паны вечна клапацілся аб сваіх інтарэсах. Аб іх яны клапоцяцца і цяпер, хоць-бы і машыны сабе, ізноў-жа, каму ад іх больш карысці, нашаму хіба брату? І-га, вон мой брат у горадзе на заводзе працуе. Колькі іх там яшчэ працуе. А як сталі новыя машыны ставіць, дык каторых з рабочых і на вуліцу выгналі, ды яшчэ колькі“ (стар. 58).

Гутараць на розныя тэмы—аб панах, аб вайне, аб бяссэнсіцы гэтай вайны. У справах вайны найбольшую актыўнасць праяўляе Напрэй Казёл.

„А ў немцаў хто?—гаворыць ён,—тыя-ж самыя хрысцяне, мужыкі, ды рабочыя, скажам... Працуюць у фальварку аўстрыйцы, крыху наламаліся па нашаму, дык і расказваюць, і ў іх-жа і поле такое, і гароды і ўсё, адным словам, як у нас, хіба гаспадарку толькі лепш даглядаюць. Ды і сам ты не раз мо' бачыў, як працуюць яны—дасціпныя хлопцы: і ў полі, і ў хляве, дзе ты яго ні пастаў. І да дзяўчат не зломкі—наскія хлопцы. Глядзі, Аніс, наладзяць яны табе канкурэнцыю“ (стар. 60).

„Вось і выходзіць па майму розуму: зачым ваяваць, зачым калекаў рабіць, зачым гэта мне аўстрыйскага мужыка біць. Няхай-бы выйшаў наш цар Нікалай, а насупроць яго Вільгельм і няхай-бы там ваўтузіліся, калі ўжо ўкрыўдзілі адзін другога“ (стар. 60).

Напрэя падтрымліваюць.

Аўдыторыя Івана Іванавіча разыходзіцца за позным часам. Засталіся звычайна яшчэ Пінька лазакрут, ды закройшчык Мойша Гінт.

„Дык кажаце кепскія справы, Іван Іванавіч?“

Можа Іван Іванавіч не хацеў развязваць язык пры шырокай аўдыторыі. Можа цяпер рабочым скажа ён вострае слова. І Іван Іванавіч кажа:

„Не сказаў-бы, каб добрае. Яно, вядома, як разумець. На фронце адступаюць. Начальства звярэе. Народу што дзень трэба болей. Прызыў вот-вот павінен быць. А тут нядоімкі. А земства хоць-бы палец аб палец стукнула, каб паклапаціцца аб чым. Дык вось якія справы... А ў вас як там?

„Ды яно цяжка, Іван Іванавіч, лазакрутаў-жа ў нас сабралася самыя ўжо тыя, што і зарабіць ніяк іначай не змогуць. Трымаюцца за работу, як сук за дрэва. А ў мястэчку дужа ўжо сіяністы насядаюць. Так налягаюць, што ва ўсіх галовы ходарам“.

Іван Іванавіч злуецца:

„А вы і насы развесілі“... (Сказ не дужа ўдалы).

„Да мы не развесілі. Толькі цяжка, сапраўды цяжка. Пачні гаварыць і не слухаюць“. (Іван Іванавіч зусім не задаволен).

„І слухаць не будуць, калі вы будзеце ў маўчанкі гуляць. Хто ў іх там? Мэламед гэты самы? Дык з яго-ж пясок сыплецца. Хіба заяц яшчэ Нохімаў, што з горада наязджае?“

Тут Іван Іванавіч сам пасуе перад Нохімавым зяцем.

„Ну, з тым ужо трэба лічыцца“,—кажа ён, але набіраецца рэвалюцыйнай смеласці і гаворыць:„—Але-ж хто ён такі. Лавашнік. Магазін гастранамічны, кажаце. Павінны вы гэта на зарубку ўзяць, хто кодла гэта самае арганізоўвае. Мэламэды, лавашнікі, усякія там багацеі вашыя. Лейба крупадзёр, Алтэр... Ім то што...“

А калі лазакруты заўважаюць, што і шаўцы там і ўсе вунь швачкі, ён, як аракул, адказвае:

„Я і кажу... Павінны вы неяк ставіцца да ўсяго гэтага“.

І тым не менш, Кавалёў аўтарытэт стаяў высока, і аб ім гаварылі: „А чалавек усё-ж сур'ёзны, з ім пагаварыць можна“. З гэтым згаджаліся і пацвярджалі: „Дзіва што! Каваль!“

Яшчэ адна цікавая гутарка адбываецца паміж Іванам Іванавічам і Жаранковым. У велікодную ноч ідуць яны ў мястэчка з астрогу. Жаранкоў сядзеў у астрозе поўгода. Глупая прадажная паліцыя арыштавала яго па падазрэнню ў забойстве Лявона Ражка, якога забіў ляснік Сідар. Іван Іванавіч быў арыштаваны з-за брата—брат падбіваў рабочых на забастоўку. Жаранкова цікавіць пытанне, чаму за забастоўку арыштоўваюць.Ён гэтага ніяк не разумее. „Не разумееш“,—адзываецца Іван Іванавіч.—Яно і я не разумею“. Але ён гэта сказаў з іроніяй і тлумачыць: „Ты вот сядзеў столькі, а за што ты сядзеў, запытацца. Не адкажаш. Ды твая справа не так ужо вялікая справа, але і то вось колькі месяцаў вошы карміў. Нізавошта карміў, бо закон такі, царскі закон, каб схапіць чалавека і няхай сядзіць. Ім клопату мала, што ў цябе дзеці, што ў цябе жонка. А вось забастоўшчыкі, рабочыя. Скуры дзяруць з іх, у дзесяты пот уганяюць. А дома ў гэтага рабочага дзеці з голаду пухнуць, прусу пажывіцца нечым, бо бясхлебіца, нішчымніца. Ясна, што рабочыя хочуць палюдску жыць, каб ведаць, за што працуеш, каб з голаду не памерці. Таму і забастоўка. На работу не ідуць, чыгунка стаіць. А гэта ўжо закон не дазваляе. За гэта закон у турму садзіць“.

Далей Іван Іванавіч гаворыць крыху выразней.

„— Цара, кажаш. А ты разумей, пакуль будзе цар, датуль будзеш ты за некага ў турме сядзець, датуль будуць рабочыя пухнуць з голаду. Інячай не будзе, бо цар над усімі панамі пан, а любы пан з табою не пасябруе“.

У час гэтай гутаркі адбылася адна падзея: загарэлася панскае гумно. Падзея гэта ўзрушыла Івана Іванавіча.

„Акрыяў неяк духам Іван Іванавіч,—гаворыць аўтар,—нават весялейшым стаў крыху, і хада тая пажвавела, панурыя вочы зрабіліся найбольш рахманыя і спрытнейшыя.

— Як памаладзеў каваль наш. З чаго-б то. Хіба на жаніцьбу думку займеў. Але-ж не відаць нешта гэтага,—казалі часам людзі“ (ст. 274).

Тут аўтар знаёміць нас з біяграфіяй Івана Іванавіча, з яго бежанствам, з яго няшчасцямі, перажытымі ў бежанстве, палажыўшымі на яго моцны адбітак панурасці і суму—ён пахаваў у дарозе дзіця і жонку. Трапіў у мястэчка, засеў тут у кузні і так застаўся. „Адно ўцеха з сялянамі каторымі пагаварыць ды моладзь вот яшчэ. Тая моладзь, каторая вочы мела, у каторай яшчэ на астыглі грудзі, каторая і на свет яшчэ глядзіць не жмурачыся, на поўнае тое вока маладое, рукой яго ад сонца не засцячы“.

Словам, пажар панскага гумна зрабіў у Івану Іванавічу цэлы пераварот, і аўтар яшчэ раз падкрэслівае.

„І вот акрыяў Іван Іванавічам духам. Весялейшым стаў. 'Шчэ невядома было, хто гэта гумно спаліў і як спаліў, з якімі можна сказаць,

думкамі яно было спалена. Алеж расцвіла тут радасць вялікая і свет куды мілейшым стаў. З гэтым светам 'шчэ можна памерыцца, на свой капыл яго пераставіць".

Але і гэты пералом мала дапамагае Івану Іванавічу. Ён і надалей застаецца такім-жа ацеслівым, як і раней. У гэтым сэнсе тыповым для яго з'яўляецца яго гутарка з Лаўрэнам ліхтаршчыкам. Яна даволі доўгая і падаваць яе цалкам—грамадная справа. Яна прыводзіцца на 277 старонцы рамана.

Калі прыгледзецца да абрысоўкі характара Мацвея Юльевіча, мы не знойдзем у ім ніводнай д а д а т н а й р ы с ы. Гэта—грубая, тупая, жорсткая жывучая жывёліна, якая толькі дбае аб сабе, песціць і любіць сябе. Ён ставіцца жорстка і пагардліва да ўсіх, хто стаіць ніжэй ад яго ў соцыяльным плане. У дачыненні да здаровых рабочых вядзе сябе, як пан прыгоннік самай нізкай і паганай маркі. Я ўжо прыводзіў сцэну яго расправы з дваровым пастухом Валодзькам. Застаўшы ў парку кульгавага Яхіма, сына дваровага парабка Мірона—Яхім валок сухі сук—Мацвей Юльевіч груба гоніць яго з парку і прымушае калеку пералазіць цераз высокую агароджу парка. Ён трымае рабочых ў жорсткіх рукавіцах, не дае ім ніякага патурання. За пусцяшную правіннасць, а часта і зусім без віны, ён выкідвае з двара многасямейных рабочых, з якіх ужо высмактала сокі панская эксплаатацыя. Разбівае ў кроў твары палонных аўстрыйцаў, якія працуюць у двары і якія часам захочуць крыху падурэць. Ён трымае ў руках паліцыю, купляючы яе за мізэрныя грошы, зняважліва ставіцца да ўсяга рускага, да палонных—яны не хацелі ваяваць з рускімі—Мацвей Юльевіч немец па паходжанню і нямецкі патрыёт. У адносінах да настаўніцы Зіны ён таксама выяўляецца з агіднага боку. Калі да яго прыязджае Зіна і плача, ён, ведаючы, у чым тут справа, спачатку бянтэжыцца, думаючы, што настаўніца будзе прад'яўляць да яго свае права, і заспакойваецца, калі даведаецца, што яна проста прыехала да яго скардзіцца на вясковых хлапцоў, наладзіўшых каціны канцэрт і ставіўшых ёй на від яе раман з Мацвеем Юльевічам. Мацвей Юльевіч робіць захады і пераводзіць Зіну ў другое месца. У дзелавым дачыненні ён уваходзіць толькі з такімі людзьмі, як кулакі Цыбал, Хвядос Мялаў, спекулянты Лейба Давідовіч, рэб Нохім, Алтэр.

Такія паводзіны Мацвея Юльевіча, як падае іх аўтар, выклікаюць сумненне, калі мы прыпомнім тую сітуацыю, якая складалася ў былой царскай Расіі напярэдадні рэволюцыі. Такія-ж сумненні ўзнікаюць, калі мы знаёмімся з паводзінамі кулакоў Цыбала і Хвядоса Мялава.

Поп, ураднік, прыстаў выводзяцца ў шаржыраваных рысах, як без канца глупыя, нікудышныя. Усё жыццё папа Панфіла праходзіць у стычках з пападдзёю на грунце хатніх спраў. Поп ненавідзіць пападдзю, пападдзя папа. Яны абкрадаюць адзін аднаго, вядуць сябе як самыя пустыя і прапашчыя людзі, якія могуць выклікаць адну толькі агіду. Я не маю магчымасці спыніцца падрабней на іх характарыстыцы і на характарыстыцы іншых персанажаў, бо іх дужа многа, а таму перайду да агульных заўваг.

Як ужо адзначалася раней, у рамане „На чырвоных лядах" аўтар паказвае рэчаіснасць беларускага захалуснага мястэчка напярэдадні рэволюцыі 1917 г., паказвае ў плане ўзаемаадносіны розных соцыяльных груп. Паказ даецца ў такой сітуацыі, што гэта рэволюцыя павінна прыйсці немінуча сама сабою: сістэма царскага рэжыма настолькі пала, настолькі прагніла і зжыла сама сябе, жыццё зайшло ў такі тупік, што іншага выхаду, апроч рэволюцыі, не магло быць. Быць можа гэтым і тлумачыцца той факт, што ў рамане вы не знои-

дзеце вострай рэволюцыйнай барацьбы. Калі гэта такая аўтарская ўстаноўка, то яна не можа не выклікаць цэлага рада пярэчанняў. Але пакольку мы маем толькі адну кнігу, а гэтым падзеям, відаць, аўтар адвядзе месца ў далейшым сваім творы „На чырвоных лядах", я лічу заўчасным спыняцца цяпер на гэтым пытанні. Што царызм наскрозь быў заражаны гніллю распаду, супроць гэтага ніхто спрачацца не будзе, але што рэволюцыя магла выбухнуць толькі ў выніку вострага палітычнага змагання, гэта таксама факт, супроць якога пярэчыць нельга.

На фоне распаду царызма, прадажнасці яго агентуры, маны і ліцамер'я і магло расці на арганізме бядняцкай масы такое дзікае мяса, як кулакі Цыбал, Хвядос Мялаў, Лейба Давідовіч, Алтэр, рэб Нохім, Мацвей Юльевіч, поп, манашкі і іншыя паразіты—захрыбетнікі.

Каштоўнасць рамана „На чырвоных лядах" заключаецца ў тым, што аўтар здолеў на жывым бытавым матэрыяле ў плане соцыяльных адносін паміж рознымі местачковымі праслойкамі падаць у рэалістычным стылі дарэволюцыйны час у такім святле, у такіх тонах і фарбах, што ў чытача мімаволі ўзнікае пачуццё агіды да нашага нядаўнага мінулага. На падставе матэрыяла, паданага праз мастацкае афармленне, наш сённяшні рабочы і калгаснік могуць параўнаць цёмнае, жудаснае мінулае з тым, што дае ім наша сучаснае рабочае і калгасніцкае жыццё. Сваім раманам Лынькоў з мастацкаю перакананасцю абверг нацыянал-дэмакратычны тэзіс, які цвердзіў, што кулакоў на Беларусі не было, даўшы яркія і праўдзівыя вобразы кулака Цыбала і Хвядоса Мялава. Не гледзячы на рознасць іх характараў, іх тэмпераментаў, іх метадаў кулацкага дзеяння, яны маюць адно і тое-ж кулацкае нутро. Гэта рознасць іх характараў і спосабаў адносін у дачыненні да беднаты і аднакавасць іх соцыяльнай прыроды толькі з большаю сілаю, з большаю перакананасцю б'е па контррэволюцыйнаму тэзісу нацдэмакратызма. Гэтыя фігуры кулакоў абрысоўкаю іх характараў, як і фігуры рэб Нохіма, Алтэра і Лейбы Давідовіча, паказаных таксама ярка і праўдзіва, найболей удаліся Лынькову.

Але трэба адкрыта сказаць аўтару рамана „На чырвоных лядах", што ў гэтым яго творы ёсць многа вельмі і вельмі значных промахаў.

Я не бяру на сябе ролі крытыка-прафесіянала. Я буду даваць толькі свае заўвагі, як чытач і пісьменнік. Я стаю за тое, каб самі пісьменнікі болей часта і актыўна выступалі ў прэсе з поваду таго ці іншага мастацкага твора. Першым яго крытыкам звычайна з'яўляецца сам аўтар. Толькі працэс крытыкі, вярней, самакрытыкі ён робіць употайку, адзін на адзін з сабою ў час творчай работы. І чым глыбейшая яго самакрытыка, чым стражэй паставіцца аўтар да свайго твора, тым болей выйграе яго аўтарская прадукцыя. Калі выходзіць з гэтага палажэння, то трэба сказаць, што аўтар „На чырвоных лядах" не ў дастатковай ступені ўважна аднёсся да свайго твора, да сваіх аўтарскіх прыёмаў.

У рамане „На чырвоных лядах" ёсць непрадуманыя аўтарам палажэнні, дзе ход падзей і людскіх паводзін і іх дзеянні не ўвязваюцца ў іх логіку, што робіць аўтарскі паказ непраўдападобным. Тыповым прыкладам гэтага з'яўляецца эпізод з забойствам ляснікам Сідарам местачкоўца Лявона Ражка. Сідар—панскі ляснік. Ён дужа дасціпны служака. Ніводзін лесакрад не можа схавацца ад яго вока і вуха. Ражку трэба было высеч дуб у панскім лесе. Уночы паехаў ён у лес. Не ўправіўся Ражок стукнуць некалькі разоў сякераю ў дуб, як Сідар тут як тут. Адабраў у Ражка тапор. Але тапара паказалася яму мала. Прыказвае Ражку скідаць хамут. Ражок просіць, моліць не браць

хамута: час жніва. Як без хамута будзе звозіць ён жыта з поля. Сідар не адступаецца і сам знімае хамут. Ражок не вытрымаў. Кінуўся на Сідара. Завязалася зацятае змаганне. Ражок паваліў Сідара, падмяў пад сябе, здушыў яго за горла. З воза ўпаў тапор. Сідар намацаў яго рукою і адным ударам забівае Лявона Ражка.

Так падае аўтар факт забойства чалавека.

Следавацель па крымінальных справах напэўна, паставіў-бы пад сумненне забойства ў такой сітуацыі. Сапраўды, як можна чалавеку, прыціснутаму да зямлі і здушанаму за горла, нанесці тапаром знізу смярцельны ўдар свайму ворагу. Але дапусцім, што такі факт мог адбыцца—магла мець тут месца тая акалічнасць, якую звычайна называюць выпадковасцю. Ды на гэтым справа не канчаецца. Ляснік хавае сляды свайго праступлення. Забойства здарылася на кручы Дняпра. Сідар бярэ труп Лявона Ражка і скідае з кручы ў Днепро. Выводзіць на дарогу каня, каб сам ён без гаспадара дайшоў дамоў. Але тут ляснік агледзеўся, што ў яго няма шапкі. На месцы забойства ён таксама не знаходзіць яе.

Конь прыйшоў дамоў без гаспадара. Жонка трывожыцца, трывога перадаецца мястэчку. Лявона шукаюць, але безрэзультатна. На трэці дзень ліхтаршчык Лаўрэн плыў у чоўне па Дняпры. Потым выцягнуў на бераг човен, павячэраў і заснуў пад чоўнам. Насунулася навальніца. Пайшоў дождж. Днепро выступіў з берагоў, вада падступіла да Лаўрэна, і ён прачнуўся. Хмары прайшлі, выплыў на яснае неба месяц. І бачыць Лаўрэн—каля берага плыве тапелец. Гэта—труп Лявона Ражка. Лаўрэн пазнае яго. Што-ж зрабіў Лаўрэн? Зрабіў мімавольна тое самае, што зрабіў пушкінскі мужык у баладзе „Утопленник“, нават тыя самыя матывоўкі паўтарыў. Ці меў Лаўрэн падставу для таго, каб пастуліць так, як пастуліў ён тут? Абсалютна ніякіх. І аўтар пастуліў няправільна, прымусіўшы Лаўрэна „И от берега крутого оттолкнуть его веслом“, не вяслом, праўда, а дручком. Адно нявернае палажэнне павяло за сабою другое, аўтар паддаўся іх няправільнай логіцы і робіць трэцяе нявернае палажэнне. На дванаццаты дзень пасля таго, як прапаў Лявон Ражок, прыбягае ў мястэчка рыбак Сяргей.

Аўтар расказвае так:

„Торапка бег Сяргей, аж засопся. Бег і крычаў: „Найшоў-жа, браткі, дальбог, найшоў“. І твар яго быў радасны, светлы. Нібы іскрылася радасць гэтая, цвіла на ім. Ля Алтэравай хаты прыпыніў крыху бег.

Алтэр зацікавіўся здабыткам Сяргея.

„Дык нясі хіба да мяне, калі паймаў. Што там, м і р о н а, а мо‘ сома падцэліў?“

Між іншым, заўвага. Аўтар называе міронам рыбу, але такой рыбы на свеце няма. Ёсць марона і, відаць, гэта марона перароблена тут на мірона. Чытачу гэта трэба было-б растлумачыць. І другая заўвага: наўрад ці мог цікавіць Алтэра сом, бо ў той час, наколькі мне вядома, яўрэі не ўжывалі рыбы, якая не мае лускі, як мялёк, сом, уюн.

Выклікаўшы такую зацікаўленасць сярод сваіх спажыўцоў, Сяргей нарэшце прызнаўся, што ён злавіў Лявона Ражка.

Ненатуральная і гэтая сцэна.

Сяргеевы спажыўцы, пачуўшы такую навіну, зараз-жа са страху паразбягаліся, а Алтэр стаў гнаць ад свае хаты Сяргея, забыўшы на ганку папяросу. Адзін толькі Чырвонец застаўся і запытаў Сяргея, што думае рабіць ён з тапельцам.

„—Як што? Начальству-ж трэба сказаць, няхай парадак дадуць, да закона чалавека прывядуць“.

Вось адны толькі гэтыя словы і можна прызнаць натуральнымі ва ўсім эпізодзе з забойствам Лявона Ражка, бо далей справа з ім ідзе яшчэ горай. Аказваецца, што ў Лявона Ражка, загнанага вадою пад каражыну, была ў руцэ шапка лясніка Сідара. І толькі калі рыбак Сяргей даставаў з-пад каражыны труп Лявона Ражка, тады толькі выслізнула шапка з пальцаў трупа, але Сяргей злавіў яе.

Зробім маленькі разбор гісторыі з шапкай. Мы ведаем, што Лявон Ражок паваліў Сідара і душыў яго за горла. Рукі Лявонавы былі заняты. У гэты час Сідар забівае Лявона. Сідарава-ж шапка нейкім чынам трапляе ў Лявонаву руку. Дапусцім, што і такі вывад мог здарыцца. Сідар скідае забітага ім Лявона з кручы ў Дняпро. Прадпаложым, што канвульсійна заціснутая шапка трымалася ў Лявонавай руцэ. Па закону фізіялогіі гэта магчыма. Але што мог прадстаўляць сабою труп чалавека, кінуты ў ваду, за дванаццаць дзён гарачага летняга часу. Але і на гэтым не канчаецца яшчэ гісторыя з шапкай. Стараста і панятыя апазнаюць Сідараву шапку. Аб гэтай акалічнасці даведваецца і ўраднік. Ён едзе да Мацвея Юльевіча, бярэ ад яго ўзятку—дзве залатыя пяцёркі. Перападае яму таксама і ад Сідара. Ураднік піша глупы пратакол і на гэтым фактычна канчаецца ўвесь эпізод з забойствам Лявона. А людзі ведалі, што шапка была Сідарава, ведалі, што Сідар забіў Лявона, што Хведар Жаранкоў сядзіць нявінна, і толькі адзін паняты Мірон наважыўся быў заявіць аб гэтым начальству. Але з гэтага нічога не выйшла.

Калі-б аўтар самакрытычна паставіўся да эпізода з забойствам Лявона, ён не ўпаў-бы ў такую непраўдападобную яго перадачу.

Але не ў адным толькі гэтым эпізодзе выявіў аўтар ненатуральнасць у падачы фактаў і падзей і ў абрысоўцы характараў. Спыняцца падробна на іх не буду, я проста толькі адзначу некаторыя з іх. Гэта ненатуральнасць наглядаецца і ў паказе некаторых момантаў кахання паміж старастаўым Банадысём і Тацьянаю, дачкою Лёксы Козішкі. Ёсць яна і ў камбінацыі Хвядоса-Мялава ажаніць Банадыся з касавокаю Цыбалаваю Макрыдаю, калі Цыбал прыходзіць да Хвядоса, а ў гэты час Банадысь ляжыць пад сталом, куды загнаў яго сярдзіты бацька кулак Хвядос, і паведамляе Хвядоса, што яго Макрыда зацяжарала ад парабка Напрэя. Парабак-жа Напрэй у гэты час быў мабілізаваны. Аўтар не апраўдаў паводзін Цыбала, не паказаў матываў, у сілу якіх Цыбал робіць візіт да старасты Хвядоса і выкрывае перад ім ганьбу свае дачкі.

Недастатковасць самакрытычнасці вядзе часамі аўтара на шлях анекдатычнай вульгарызацыі ў раскрыцці пэўных падзей. Гэта асабліва ярка выявілася ў „происшествиях“ Цупрона, таго самага Цупрона, у якога было восем жанчын у хаце, і які быў у палоне сваёй жонкі і выконваў розныя жаночыя работы.

Паслала жонка Цупрона кароў даіць. Цупрон заснуў пад кароваю і вось тут з ім здарылася „происшествие“ (стар. 264—265).

Найдуцца людзі, якія, быць можа, будуць весела смяяцца з усяе гэтай гісторыі, але гэта—смех людзей, якім проста бракуе культуры, у якіх недаразвіта пачуццё эстэтыкі, і браць ўстаноўкі на іх густ—не варта. Далей аўтар адводзіць цэлыя ёмістыя старонкі свайго рамана для тлумачэння слова „завутрані“, якую часта прыходзіцца выслухоўваць Цупрону. І падача робіцца ўсё ў тым-жа вульгарна-анекдатычным жанры.

Вульгарызмаў наогул багата ў рамане „На чырвоных лядах“, як у паасобных сцэнах, дыялагах, так і ў непатрэбных дэталях, якія толькі перагружаюць і зніжаюць мастацкую вартасць рамана.

Падам некалькі прыкладаў.

Калі з панскага двара вывелі ўначы карову, а на заўтра з'явілася яе скура, напаў на жанчын страх—каравячы хапун паявіўся.

„Прыдзе поначы патрэба якая на двор выйсці,—гаворыцца ў рамане,—зор паглядзець, штырхае мужыка пад бок:

— Хадзем хіба, Мацвей.

— Дзяцей хоць пасаромся, пыса паліваная... Цэла будзеш, а калі, што, язык пускай у ход... Ідзі, ідзі толькі ад ганка падалей“ (стар. 197).

Апісваючы трывожную ноч у мястэчку ў звязку з лоўляю дызертыраў, аўтар піша:

„Людзі спалі 'шчэ. Не спаў хіба Хвядос. Ды Цыбал каторы раз выходзіў на двор... і, стаўшы дзе-небудзь за вуглом—за справай, за патрэбаю—крактаў, пазіраючы на сінія, на халодныя зоры, чухаў чэзлую сваю бараду, галавою ківаў“ (стар. 316).

Лёкса Козішка так адзываецца аб дачцы Тацьяне:

„Вот бы ўхажора знайсці гэта каб, ды з розумам, не адзін-бы траяк у кішэню патрапіў. Дзіва то, і не ў матку дзеўка—поўная сакавітая, грудзі тыя, як качкі, ідзе—калышуцца“.

Маці інваліда Ігната, застаўшы ў хаце дзяўчат—яны ў жмуркі гулялі,—кідае па іх адрасу:

„Ды ці не пашалелі вы часам, то-ж гіз напаў... Та-ж няма хлопцаў на іх хвацкіх, каб да парадку давесці, бач, гізуюць“.

А аўтар ад сябе дадае:

„Трохі суцішаюцца дзеўкі, сядзяць чырвоныя, спацелыя, шчокі пыхаюць крамянаю чырванню, ходарам ходзяць грудзі, як не рэпнуць вот кофтачкі гэтыя...“ (ст. 117—118).

Не скупіцца аўтар на такі ультра-натуралізм.

Большая частка рамана напісанааднастайным своеасаблівым стылем. Месцамі стыль гэты аддае нейкаю архаічнасцю, томіць сваім цягучым ладам. Не паніжаючыся, не павышаючыся, цячэ ён пагудкаю старасветчыны, часамі нагадваючы тон царкоўных акафістаў. Усе персанажы гавораць на адзін манер. Усе яны вельмі часта „угакаюць“, „тымчасамяць“, „тоякаюць“. Сказы пабудаваны так, што прыметнікі пераважна стаяць пасля назоўнікаў.

„Захаладала ўжо вока сонцава“, „І ўвесь поп, як тая морквіна ляжалая, на паграбніцы звялая“, „Заліваюцца дзяўчаты галасамі звонкімі, крышталёвымі“, „Старэйшыя па гладышах, па місках, па начоўках новых, асінавых, па тых дзежачках ліпавых“, „Пасля дажджу твар у Валодзькі, як лапаць той ліпавы новы“, „Адагнала думкі звычайныя, жаночыя, чалавечыя“, канала лета „днямі цёплымі, на душы адыходлівымі“.

Будуе Лынькоў сказы і такім парадкам, што канчаюцца яны словам „каб“. „Калі-ж гэта жытка вока сабе пратрэ, каб ясней яно, прыгажэй каб“.

Аўтар імкнецца захаваць асаблівасць пабудовы сказаў сваіх герояў, перадаць стыхію народнай гутаркі, і гэта стыхія захоплівае і вядзе за сабою аўтара.

І апошняя заўвага аб мове рамана.

Як нам вядома, пытанне аб чыстаце літаратурнай мовы набывае асабліва актуальны характар. Вялікае ажыўленне ў гэтым плане на-

глядаецца цяпер на фронце рускай мовы, дзе гэта кампанія толькі пачынае разгортвацца. Калі справа так стаіць з літаратурнаю рускаю моваю, багацейшаю рускаю моваю, якая фармавалася і складалася на працягу цэлых сталеццяў, то справа гэта ў нас, у беларускай мове, мае надзвычай востры характар. Яшчэ да выступлення Максіма Горкага мы правялі цэлую кампанію на моўным сектары ў сувязі з рэформаю беларускага правапіса. На чарзе дня і востра стаіць у нас пытанне аб ачышчэнні літаратурнай мовы ад наццэмізмаў. Усё гэта прымушае нас звярнуць на мову максімум увагі.

Некаторым пісьменнікам і паэтам часта ставіцца ў віну іх схільнасць да ўжывання так званых правінцыялізмаў. Ці значыць гэта, што аўтары не павінны ўводзіць у літаратурную мову правінцыялізмы. Катэгарычнага вывада зрабіць тут нельга. Калі аўтар у пагоні за новымі арыгінальнымі словамі без патрэбы ўводзіць іх, г. зн. калі літаратурная мова мае ўжо свае стабільныя словы, усім зразумелыя і вядомыя, то ён паступае няправільна. Але калі ён знойдзе добрае, трапнае слова, то чаму і не ўвесці яго ў літаратуру *). Жыццё мовы і працэс словатворчасці ідуць, ідуць несупынна. Літаратурная мова павінна таксама ўзбагачвацца. Пісьменнік павінен толькі захоўваць меру і мець чуццё мовы, уводзячы той ці іншы правінцыялізм.

Што да мовы ў рамане „На чырвоных лядах“, то яна наогул дужа багатая. Лексічны запас аўтара вельмі значны, але Лынькоў не захаваў пачуцця меры ў дачыненні да правінцыялізмаў. Шмат якія з іх для мяне асабіста не зразумелы. Выпішу іх: пракавечны—дадаецца да слова лодыр. Мірон—як назва рыбы. Яна ўжо адзначалася. Пуплы—поўная хата пуплоў (дзяцей). Не ўжадобку—Елі не ўжадобку. Мутарна, петавацца—таміцца, біцца. Кокат—сена грэблі пад кокатам. Унынпіўшы позірк, маслакі—цяжка маслакі старыя ад цаглін аддзіраць. Малачайня, канапаціны—„усмешка на твары згасла, пашырэлі на ім канапаціны“. Фальч—замест фальш. Арэлі, скукарэчаны. Засіліць—засіліў у поцемку нагой за нешта цвёрдае. Прыплікнуць—смерць прыплікне. Прымружаны—замест прыжмураны. Скрыпкі—у сэнсе рыбацкай снасці. Собіла—удалося, падвязло. Налапам—нахабна. Рачанцы—пакуль валу рачанцы выйдуць, дык ён утрох хлявах пабывае. Нялеглы, лежанкі, статнелы, гіндзіцца, брытанымі,—а таму, браце, трымаць трэба брытанымі, спуску не даваць (205). Маснічаны, таечкі, знецікі, турбло, валбука і інш.

Уводзіць Лынькоў і яўрэйскія словы: брые, сандук, грыбенэс, меел і інш.

Не мала трапляецца і русізмаў і слоў, пастаўленых у формах, уласцівых рускім словам, беларускіх слоў, перададзеных няправільна.

Павытапчуць—замест павытоптваюць, закаплеш—замест закапаеш. Таюць—растаюць. Платы—плыты. Зламіў—замест зламаў. Павылезлі—замест павылазілі. Панакарміць—замест панакормлівае. Вылязае—вылазіць. Вынь да палож. Зламілася—зламалася. Жывотнае—жывёліна. Пяняе. Скатаваліся—скочваліся. Павадна. Правяць—у сэнсе кіруюць. Паламаю—паламлю. Паклікаю—паклічу. На берагу—на беразе. Кучар—замест фурман. Раскалваўся—расколваўся. Хужэй. Паварочвалі... Худога слова—замест благога слова. Памкнуўся было, сунуў было—памкнуўся быў, сунуў быў.

*) У Лынькова ў „На чырвоных лядах“ ёсць шмат такіх правінцыялізмаў, якія, на маю думку, могуць і павінны ўвесці ў літаратурную мову, напр.: згараць хату, безульства, субар, ніціцца, шуядзь, апоўзлікі.

Праўду блюдуць. Хвастае бізуном—хвошча бізуном. Думаў пра сябе—замест думаў сам сабе.

Заслугоўвае ўвагі і канструкцыя сказаў Лынькова, спалучэнні слоў у сказах. „Ды рабіўся на печанага рака (поп—*Я. К.*), калі пальцы Зіначкі нечакана датыркаліся да яго рукі (15). „Натапырыўшы вусны", „Неякавата неяк". „Трэба такі пасланць, усё-ж сваіх крывей чалавек" (110). „Выпрастаў грудзі". „З крам каторыя падбеглі". „І палавіна твара гэтага не ўздрыгне, не ўзварухнецца, неасветленая". „Няма калі было спрачацца з Цупронам". „Гучней загаласілі бабы тады каторыя".

Гэты рэестр далёка не поўны, але і паданага тут даволі, каб заключыць, што аўтар няўважліва аднёсся да мовы.

Заканчваючы далёка не поўны агляд рамана, зраблю агульныя вывады, дапоўніўшы сёе-тое з таго, што не сказаў у свой час і на сваім месцы.

Раман „На чырвоных лядах"—твор шырокага ахвата жыцця мястэчка перадрэвалюцыйнага часу. Аўтар дае шмат дасканалых малюнкаў прыроды, зарысовак, паасобных сцэн. Ярка і жыццёва выведзены кулакі і местачковыя эксплаататары. І трэба сказаць, паказ местачковага яўрэйства аўтару найболей удаўся. І асабліва ўдаўся яму рэб Нохім з яго некалькі дэспатычным ухілам у хатнім быту, ухілам, змякчаным пэўнаю доляю культурнасці. У паказе кулакоў аўтар становіцца на няправільную пазіцыю, выводзячы іх у такім плане, што яны як-бы свядома імкнуцца выклікаць незадаволенасць бедкаты, як-бы мэтаю іх з'яўляецца „жымануць" і „цісkануць". У сапраўднасці кулак бязлітасна эксплаатуючы і выжымаючы сокі з беднаты, даючы розныя пазычкі і патугі, каб потым садраць за гэта скуру,—лічыць сябе добрадзеем роду людскога. Ён у гэта верыць. Тыпова і правільна для эксплаататара разважае Алтэр у стычцы з рабочымі, аб чым ужо і гаварылася.

Раман „На чырвоных лядах" занадта перагружан персанажамі. Многія з іх не адыгрываюць у ім колькі-небудзь значнай ролі і з'яўляюцца лішнім баластам. Мала аб чым гаворыць ліхтаршчык Лаўрэн. Як социяльная з'ява ён не тыповы. Інвалід Ігнат не выкарыстан аўтарам, як аб'ект, накіраваны супроць бяссэнсіцы імперыялістычнай бойні. Ён—непрыемная клякса, цяжар для мацеры, не выконвае ніякай соцыяльнай функцыі, блытаецца пад нагамі ды ідзе ў ёўню да дызертыраў іграць у ачко. Баластам з'яўляецца і Цупрон з яго „происшествиями". Лішняя тут і настаўніца. Аўтар, відаць, хацеў прызначыць ёй болей пачэсную ролю. На гэта ёсць у рамане намёк, калі ў першае знаёмства з ёю аўтар укладае ў яе галаву мыслі аб пападдзі: „І гэта пападдзя... Якая трымае на ключы досыць вялікую бібліятэку, якая добра ведае Тургенева, Пушкіна, якая чытае Дастаеўскага, якая ведае французскую мову". Але і настаўніца прамільганула ў рамане прыкрым ценем і знікла. Непамерная колькасць персанажаў адолела аўтара, не дала яму магчымасці сканцэнтраваць на іх увагі, зарысаваць так, каб яны не забываліся, не забываліся і не змешваліся настолькі, што трэба даць спецыяльна іх класіфікацыю і наклеіць ярлыкі, як на насаджаных у палісадніку маладых дрэвах.

Рэволюцыйнае змаганне адбіта бледна. Яно выражана ў глухіх і мала выразных гутарках. Апазіцыйна настроеная моладзь—Лявончык, парабкі Напрэй і Андрэй, прадстаўлены не зусім ярка. Лявончык падпальвае панскае гумно, матываў падпалу мы не ведаем: помста гэта Мацвею Юльевічу за здзекі над дваровымі рабочымі, ці гэта ўчынак

рэволюцыйнага характару. Шмат непатрэбных дробязей, вульгарызмаў, празмерная насычанасць правінцыялізмамі, не заўсёды ўдалыя паасобныя сказы—усё гэта зніжае мастацкую вартасць рамана.

Калі даваць агульнае, кароткае і наглядное заключэнне аб рамане „На чырвоных лядах“, то я параўнаў-бы яго з новым домам, яшчэ няпоўнасцю закончаным. З яго не зняты яшчэ рыштванні, не вынесены лішнія матэрыялы, і знадворку ён не атынкаваны. З-за рыштавання і лішніх прадметаў не відаць прыгожых архітэктурных контураў самога будынка. Аўтар павінен папрацаваць яшчэ над першаю кнігаю свайго рамана, а яна заслугоўвае болей увагі, чым адвёў ёй аўтар, і тады яна па праву зойме пачэснае месца ў беларускай літаратуры.

АЛ. НЕКРАШЭВІЧ

# БЕЛАРУСКІ ДРУГІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТР

## I. Студыйны перыяд

Зразумець развіццё Беларускага другога дзяржаўнага тэатра без уліку адказнейшага, так сказаць, эмбрыянальнага перыяду его жыцця, перыяду яго вучобы—немагчыма.

Зараз-жа пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў быў створаны Беларускі першы дзяржаўны тэатр. Вызваленыя Кастрычніцкай рэволюцыяй ад векавога социяльнага і нацыянальнага ўціску—шырокія працоўныя масы БССР не маглі задаволіцца толькі адным тэатрам, ды і сам БДТ1 перажываў яшчэ толькі перыяд свайго ідэалагічнага і мастацкага афармлення. Вызваленая БССР не мела амаль ніякай тэатральнай культурнай спадчыны, мастацкія сілы яе былі вельмі і вельмі не значнымі, слабымі і малакваліфікаванымі. Паўстала неабходнасць прыцягнення да стварэння новае тэатральнае адзінкі лепшых тагачасных тэатральных сіл перадавых совецкіх рэспублік і, у першую чаргу, РСФСР.

Аднак і рускі тэатр быў на раздарожжы. Праз спадчыну старых тэатраў дарэволюцыйнае Расіі, тэатраў з велізарнай тэатральнай культурай, смела і рашуча прабіваліся парасткі новага совецкага тэатра. Ламаў старыя тэатральныя традыцыі Мейерхольд. Прабаваў свае сілы яшчэ амаль зародкавы тэатр Вахтангава. Адмаўляючы ўсё старое і ставячы за мэту пабудаваць зусім новы, не звязаны з усім папярэднім развіццём, новы тэатр—рабіў смелыя пробы Пролеткульт. Аднак і першы, і другі, і трэці яшчэ не вышлі з перыяду наватарскага эксперыментатарства, а часам і проста голае дэкларацыйнасці. Больш таго, і першы, і другі, і трэці фактычна толькі даводзілі сваё права на існаванне. Вучыць каго-б там не было у іх не было ні сіл, ні часу, дый вучыцца ў іх можна было ў той час хіба толькі вялікай смеласці і адвазе.

Адвагі і смеласці, напэўна, хапіла-б і ў маладых сіл БССР, што так шпарка раслі з гушч працоўных мас, але ім не хапала простай тэатральнай культуры, без чаго ні смеласць, ні адвага наўрад ці далі-б большае, чым смеласць і адвага маскоўскага Пролеткульта.

З другога боку было-б абсалютна няправільна, не па - ленінскі, адмовіцца ад крытычнага засваення старое тэатральнае спадчыны, асабліва такое спадчыны, як спадчына рускага дваранскага і буржуазнага тэатра.

Таму зусім не выпадковым і правільным было, што для вучобы малады беларускі калектыў выбраў моцную тэатральную адзінку, якой у той час быў Маскоўскі мастацкі тэатр (МХАТ). Гэтая мастацкая адзінка мела дасканала распрацаваную школу, якая (школа) атры-

мала назву школы Станіслаўскага. На вывучку гэтаму тэатру і, у прыватнасці, адной з яго студый, якая пазней атрымала назву Маскоўскага другога мастацкага тэатра (МХАТ 2-ой), былі накіраваны студыйцы будучага беларускага другога дзяржаўнага тэатра.

МХАТ стварыўся ў пераломны для грамадскага развіцця Расіі пэрыяд канца XIX ст. Стварэнне гэтага тэатра паклала пачатак новаму кірунку тэатральнага мастацтва, кірунку, які выйшаў за межы рускага тэатра і атрымаў назву „школы Станіслаўскага“, ці проста „тэатра Станіслаўскага“. К часу стварэння МХАТ'а на рускай сцэне панаваў рэалізм з выпрацаванымі на цягу год і адкладзенымі ў „сокровищницу русского театра“ прыёмамі. Акторы зналі, што „хваляванне выражаецца хадою ўзад і ўперад, дрыжаннем рук пры распечатванні лістоў, стукам графіна і шклянкі аб зубы прыналіванні і піцці вады, спакойнасць—скукай, пазяханнем і пацягваннем, прыказанне—паказальным пальцам уніз, забарона—паказальным пальцам уверх, смерць удаўліваннем грудзей, альбо разрываннем каўняра кашулі (Станіслаўскі, „Об ремесле“). Такім чынам рэалізм гэтага перыяду перарадзіўся ў трафарэт. Гэта прымусіла найбольш перадавыя і чулыя колы мастацкае інтэлігенцыі шукаць выхаду ад штампа і трафарэта, на якіх замерлі, так званыя, акадэмічныя тэатры. Пачаткам такіх шуканняў можна лічыць спектаклі драматычнага гуртка пры Маскоўскім таварыстве мастацтва і літаратуры. Гэтае таварыства пачало сваю работу ў 1888 г., у гэты-ж час пачаў сваю работу і драматычны гурток пры ім.

Штуршком для далейшага развіцця новага тэатральнага кірунку паслужыў прыезд у Маскву ў 1°85 і 1890 гг. Мангеймскае драматычнае трупы. „Яе пастаноўкі вызначаліся дакладнасцю распрацоўкі гісторыкабатавых, археалагічных і этнаграфічных бакоў спектакля і пазнаёмілі нас з прынцыпамі натуралістычнага тэатра... Драматычны гурток а ў асаблівасці яго кіраўнік К. С. Станіслаўскі, прагна ўбіраў у сябе гэтыя тэатральныя прынцыпы. Мангеймцы ў цэлым вызначаліся: 1) памянёным археалагічным і этнаграфічным натуралізмам вонкавага боку пастаноўкі, 2) прысутнасцю адзінага плана, які арганізоўваў і цэнтралізаваў увесь спектакль, 3) індывідуалістычнай прапрацоўкай не толькі паасобных роляў, але,—што тады было асабліва новае,—і масавых сцэн і г. д. Аднак трэба пры гэтым адзначыць, што 1) мангеймцы працавалі над п'есамі старымі і „касцюмнымі“, пераважна рамантычнага стылю, і 2) вонкавая распрацоўка спектакля ў іх пераважала пад пранікненнем у сутнасць паасобных вобразаў п'ес, тое і другое, безумоўна, рабіла іх натуралізм некалькі ўмоўным і спецыфічным. Усе гэтыя рысы адлюстраваліся пасля і на дзейнасці драматычнага гуртка“ *).

Побач з працаю драматычнага гуртка пад кіраўніцтвам К. Станіслаўскага, ішла праца і другога калектыва пад кіраўніцтвам В. І. Неміровіча—Данчэнка.

Як драматычны гурток, так і школа Неміровіча - Данчэнка ўсім ходам падзей падштурхоўваліся да стварэння новае тэатральнае адзінкі.

Гэта і адбылося 14 кастрычніка 1898 г. пастаноўкаю „Царя Федора Иоановича“ А. Талстога. Два буйных камерсанты Сяргей і Сава Марозавы сталі фактычнымі гаспадарамі матэрыяльнага боку ўсёй гэтай справы, скупіўшы за кароткі час усе акцыі. Разлік на тое, каб тэатр

*) В. Всеволодский (Гренгрос), „История русского театра“, Л.—М. Теа-кино-печать, 1929, т. II стар. 224—225.

быў „агульна-даступны“, не апраўдаўся, тэатр стаў мець сваю аўдыторыю з ліберальнае інтэлігенцыі таго часу. І калі фінансавым гаспадаром былі С. і С. Марозавы, дык, калі так можна сказаць, ідэалагічным гаспадаром была, менавіта, гэтая інтэлігенцыя.

Так распачаў сваю працу гэты буйнейшы тэатр. „Мы былі закаханы ў адну ідэю.. у ідэю новага тэатра... Ідэя гэтая хвалявала нас, як нешта невыразнае, смутнае, але цудоўнае... У чым заключалася ідэя новага тэатра, мы тады яшчэ самі добра не ведалі. Мы былі толькі пратэстантамі супроць усяго надзьмутага, ненатуральнага, „тэатральнага“, супроць завучанае штампаванае традыцыі... І гэты агульны пратэст, гэтая агульная захопленасць... злучыла нас і давала нам сілу і веру,—гаварыў Неміровіч-Данчэнка зараз-жа пасля стварэння тэатра“ *).

У далейшым сваім развіцці МХАТ заняў адно з передавых месц у тэатральным жыцці дарэволюцыйнае Расіі, стаў школай шмат якіх выдатных актораў і не менш выдатных тэатраў.

У час рэволюцыі ад МХАТ адлучыліся 4 студыі: першая—МХАТ2 другая—Малая сцэна МХАТ, трэцяя—тэатр імя Вахтангава, і чацвертая—Рэалістычны тэатр.

Соцыялагічна дарэволюцыйны МХАТ азначаўся як ідэалагічная надбудова культуры еўрапеізаванага расійскага капіталізма і часткі інтэлігенцыі, якая з ім блакавалася.

Перамогшы ў Кастрычніку пролетарыят вельмі чула і ўважліва паставіўся да гэтага тэатра, не гледзячы на тое, што тэатр быў вельмі далёкі ад яго імкненняў. Тэатр быў, зусім не падрыхтаваны ні да новага гледача, ні да яго запатрабаванняў. „Падобна да таго, як у п'есе „Анатэма“ натоўпы народу сцякаліся з патрабаваннем хлеба ў добрага Лейзара, а той упадаў у жах, не адчуваючы ў сабе моцы, не гледзячы на ўсе свае багацці, накарміць мільёны людзей, так і мы апынуліся ў бездапаможным становішчы пры выглядзе нахлынуўшага на тэатр натоўпу“ **). І хаця „сэрца білася трывожна і радасна пры ўсведамленні велізарнай па важнасці місіі, якая выпала нам на долю“ ***), трэба было звыш 10 год крызіснага застою тэатра, каб толькі да 10-е гадавіны Кастрычніцкае рэволюцыі, пастаноўкаю „Бронецягніка“ У. Іванова, тэатр зрушыўся да набліжэння да пролетарыята.

Як ужо было сказана раней, ад МХАТ'а вылучылася шэраг студый, і ў прыватнасці, з першае студыі стварыўся МХАТ2-гі, які і быў alma mater для БДТ2.

Паводле думкі Станіслаўскага, першая студыя павінна была рыхтаваць змену МХАТ'у. „Зрабіўшыся акторам Маскоўскага мастацкага тэатра, былы студыец павінен стаць апорай старых і іх намеснікам і, з часам, пайшчыкам справы, якая ў той час перададзена была намі ў поўную ўласнасць актораў“ ****).

На чале першай студыі як у сэнсе адміністратыўным, так і мастацкім быў пастаўлены Л. А. Сулержыцкі. Сулержыцкі, паводле характарыстыкі Станіслаўскага, быў „чалавекам ідэі, талстоўцам. і ў тэатры ён патрабаваў ад сваіх вучняў служэння мастацтву“ *****).

Курс „сістэмы“ чытаў сам Станіслаўскі.

Аб асноўных прынцыпах выхавання студыйцаў можна знайсці ў самога Станіслаўскага.

---

*) В. Всеволодский (Гренгос) „История русского театра“, Л.—М. Теа-кино-печать, 1929 г., т. II. стар., 229—230.

**) К. Станиславский—„Моя жизнь в искусстве“, Academia, 1931, стар. 645.

***) Там-жа, стар. 645.

****) Там-жа, стар. 611.

*****) Там-жа, стар. 614.

„Практыка нам паказала, што вучань з неакрэплай творчай воляй, пачуццём, тэмпераментам, тэхнікай, голасам, дыкцыяй і інш. не павінен на першы час залішне напружваць сябе, каб не атрымаць непажаданага вывіху і надрыву“*).

„Няхай малады артыст студыі іграе пастаянна пад наглядам свайго кіраўніка і атрымлівае пасля кожнага спектакля яго папраўкі і тлумачэнні, якія пературараюць публічныя выступленні ў практычны вурок“.

„Калі душэўныя і фізічныя даныя артыста акрэпнуць, пасля таго, як ён сыграе сваю ролю і п'есу ў студыйных умовах дзесяткі і сотні раз, можна без рыску і небяспекі перавесці яго на вялікую сцэну, спачатку ў найгранай, а пасля і ў новай ролі“.

Малады талантлівы студыец лёгка ўпадаў у адчай ад малейшае няўдачы ў рабоце. Але варта было яго агладзіць, пахваліць, запэўніць у тым, што ў яго вялікі талент,—бязволны малады чалавек і зноў ажываў.

Выкладанне ў студыі вяло да выхавання ў актора інтымных настрояў і перажыванняў, разлічаных на абмежаванае кола гледача.

„П'еса („Сверчок на печи“—*А.Н.*) патрабавала не простай акторскай ігры, а якойсьці асаблівай інтымнай, што ліецца проста ў сэрца гледача. У гэтым спектаклі можа быць у першыню загучэлі тыя глыбокія сардэчныя ноткі звышсвядомага пачуцця ў той меры, у тым выглядзе, у якіх яны ўяўляліся мне тады. Гэтыя тонкасці траціліся і не даходзілі да гледача ў вялікай прасторы малаўтульнага, шматлюднага тэатра“. І далей: „Блізкасць актораў і гледачоў злівала іх. Тым, што для дзелі здавалася, што яны змешчаны ў той самы пакой, у якім жывуць дзейныя асобы, і што яны выпадкова прысутнічаюць пры тым, што адбываецца ў жыцці п'есы. У гэтай інтымнасці была адна з галоўных прыемнасцей студыі“.

Гэтая баязлівасць вялікае аўдыторыі, пры якой трацяцца самыя тонкія н'юансы перажыванняў, спалучалася з своеасабістым талстоўскім дэзурбанізмам, з імкненнем наблізіцца да прыроды, стварыць адчуванне незалежнасці ад навакольнага грамадства. З гэтаю мэтай праектавалася пабудаваць тэатр дзе-небудзь у маёнтку каля Масквы, куды глядач мог-бы лёгка даязджаць, „атросшы з себя сталічны пыл, ачысціўшы душу, глядач павінен быў ісці ў тэатр. У такім выглядзе ён з'яўляўся-б добра падрыхтаваным да ўспрыймання мастацка-эстэтычных уражанняў“.

Гэта што да гледача. Але і актор аддаліцца ад сталіцы, ад людзей, наблізіцца да прыроды. З гэтай мэтай каля Еўпаторыі Станіслаўскім быў набыты кавалак зямлі, на якім былі пабудаваны ўсе неабходныя для вядзення самастойнае гаспадаркі будынкі. Усю гаспадарку павінны былі весці студыйцы, а зімою, у вольны ад вытворчасці час, самі студыйцы павінны былі працаваць над пастаноўкаю п'ес, г. зн. павінны былі пісаць дэкарацыі, шыць гарнітуры, рабіць макеты і інш.“*).

Не дзіва таму, што „alma mater“ БДТ2—МХАТ2—сустрэла Кастрычнік таксама разгубіўшыся, як і МХАТ. Больш таго. Звыш дзесяці год цягнуўся крызіс гэтага тэатра. Ён ніяк не мог папасці на рэйкі сучаснасці. Адзін з аглядальнікаў становішча тэатраў да 10-е гадавіны Кастрычніка (П. Маркаў) так характарызуе яго становішча: „Спосаб успрыймання сучаснасці атрымлівае ў тэатрах, звязаных з МХАТ інакшыя абрысы. Для другога МХАТ найбольш істотным з'яўляецца раскрыццё тэмы праз стварэнне асаблівага сцэнічнага свету і паказу чалавека

*) Станиславский, „Моя жизнь в искусстве“, стар. 617.

двума-трыма выразлівымі рысамі—своеасаблівая стылізацыя ўнутранага вобраза. Іграючы „Евграфа искателя приключений“,—п‘есу на тэму аб лішнім чалавеку з сатырыстычным абсмейваннем нэп‘а, акторы другога МХАТ‘а даюць рэзка вылепленыя і амаль нерухомыя вобразы, пераносячы на сучаснасць прыёмы, знойдзеныя імі на класіках: Чэбан, які паказаў караля ў „Гамлеце“, іграе нэпмана з манументальнымі рысамі ўнутранае і вонкавае нерухомасці. Сэнс ігры Дурасавай, Гіацынтавай, Дэйкун, Гатоўцава, Берсенева і інш. заключаецца не ў разгортванні сцэнічнага вобраза, а ў яго падкрэсленым паказе—стылістычным выяўленні яго ўнутраных якасцей. Асабняком стаіць М. А. Чэхаў... які пераводзіць „псіхалагізм“ у самбалічны план“ *).

Такім чынам увесь зрух МХАТ‘а 2-га за дзесяць год пасля Кастрычніка заключаўся ў пераходзе ад паказа самых тонкіх н‘юансаў, псіхалагічных перажыванняў, паказваемых героя ў, толькі да большых абагульненняў і пераключэння паасобных актораў (Чэхаў) у план псіхалагізма. Гэтая лінія, між іншым, закончылася пераходам асноўных яе прадстаўнікоў да простае папоўшчыны і эміграцтва (Чэхаў).

Прынцыпы, пакладзеныя ў аснову выхавання студыйцаў МХТ‘а былі ў асноўным пакладзены і ў аснову выхавання ў беларускай студыі.

Сістэматычная праца студыі пачалася фактычна з другога навучальнага году, бо тагачаснае кіраўніцтва НКА не забяспечыла для арганізаванае студыі ні адпаведных матэрыяльных умоў, ні адпаведных сіл. Фактычным кіраўніком студыі быў артыст МХАТ‘а Л. Бондараў, выкладчыкамі: Афонін (першая студыя МХАТ‘а) і Успенская (МХАТ) З прычыны дрэннае арганізацыі працы гэты год для студыі прапаў амаль дарэмна.

З канца 1921-1922 навуч. году кіраванне студыяй было даручана таленавітаму В. С. Смышляеву, рафініраванаму прадстаўніку мхатаўскае тэатральнае культуры. Праца Смышляева пры яго аўтарытэце наклала вельмі моцны адбітак на студыйцаў і, можна проста сказаць, мела для стварэння іх ідэалагічнага і мастацкага светапогляду рашальнае значэнне.

Арганіцыйная праца была ў такім-жа заняпадзе, як і ў першым годзе. Галоўнаю перашкодаю для заняткаў была адсутнасць сталага памяшкання. „Лекцыі адбываліся ў розных памяшканнях. Так: і) у былым рэстаране „Прага“, 2) ва украінскім клубе, 3) у беларускім прадстаўніцтве, 4) ва ўласным абшчажыцці, 5) на Лапухінскім заводзе (Остоженка), 6) на Лубянскім пляцы ў клубе Борахава, 7) на кватэры ў Смышляева“,—піша адін з студыйцаў **). Гэта, а таксама і агульная неўпарадкаванасць справы вельмі і вельмі паніжала эфектыўнасць працы студыі.

Апошнія тры гады праца студыі была наладжана больш-менш нармальна. Рэч вядомая, што такія ўмовы працы прывялі да значнага адсеву студыйцаў і, напрыклад, у канцы першага навучальнага году (1921-1922) у студыі засталося толькі 10 чалавек, к канцу другога—16 чалавек. У агуле-ж скончыла студыю і ўвайшло ў склад БДТ2 34 чалавекі, а менавіта: Бандарчык Т., Барысевіч В., Бялінская М., Бялінскі Б., Васілеўская В., Вашкевіч Б., Васілеўскі М., Вялікі З., Гэпнер Л., Ілынскі А., Кашэльнікава Р., Катовіч І., Корбуш А., Лабаноўская Я., Лабаноўскі М., Лангіна Г., Лагоўская А., Мазалеўская, Муляўка, Маўчанаў П., Міцкевіч М., Рагавенка Б., Радзялоўская А., Саннікаў К., Сянько М., Сяргейчык П., Стэльмах С., Станюта С., Скальскі, Тышкевіч В., Чайкоўскі Я., Чарназемава Н. і Шынко Л.

*) Марков, „Театр“, журн. „Печать и революция“. 1927 г., кн. 7, стар. 155.
**) „Маладняк“, 1924, № 5, стар. 105.

* * *

Пераважная большасць набранае ў студыю моладзі была выхадцамі з вёскі з досыць нізкай агульнай адукацыяй і амаль без усякае палітычнае адукацыі. Уся яна гарэла жаданнем аддаць сябе на службу „святому мастацтву". Крытычна адносіцца да таго, што ёй давалася ў студыі, яна не магла. Наадварот. Кожнае слова таго ці іншага выкладчыка прыймалася з захапленнем і на веру, як нейкая ісціна, якая нібы хоць крыху прыпадымае заслону над той таямніцай, якая завецца тэатральным мастацтвам і пазнанне якое шырока адчыняе вароты да славы. А калі да гэтага дадаць тое, што кіраўнікі студыі, прытрымліваючыся запаветаў свайго настаўніка Станіслаўскага, лічылі кожны крок маладога студыйца геніяльным, можна сабе ўявіць настроі і перажыванні неспрактыкаванае ў жыцці студыйнае моладзі.

Нацдэмаўскае тагачаснае кіраўніцтва НКА не было зацікаўлена, па зусім зразумелых прычынах, у належным марксісцкім выхаванні студыйцаў. Яно, гэтае кіраўніцтва, старалася выхаваць з студыйцаў „свядомых беларусаў", гэта зн. свядомых нацдэмаў. З гэтай мэтай на чале студыі быў пастаўлены блізкі прыяцель і непасрэдны дапаможнік у контррэволюцыйных справах былога наркома асветы Баліцкага нейкі Ляжневіч, сам заядлы нацдэм і не чысты на руку чалавек.

Усё студыйнае выхаванне неспрактыкаванага маладняка было накіравана на адрыў яго ад рэчаіснасці і на службу „мастацтву для мастацтва". Гэтая буржуазная тэорыя была асноўнай лініяй у выхаванні студыйцаў. Студыйцам даводзілася, што актор павінен быць „абсалютна вольным мастаком", не звязаным ні з якою соцыяльнай групай, ні з якою партыяй. Прыналежнасць да партыі альбо да комсамола лічылася заганаю, адзнакай „дурнога тону", недастойнай звання мастака-актора. Актор павінен служыць толькі чыстаму, святому мастацтву, быць вышэй ад навакольнага жыцця, глядзець на яго зверху ўніз. Гэтыя высокія, з прабачэння сказаць, тэорыі ўсмоктваліся сялянскай моладдзю, як нейкія „откровения", і нават тая частка студыйцаў, якая была партыйцамі альбо комсамольцамі, ахвяравала свае партыйныя і комсамольскія білеты ва імя гэтых „высокіх" ідэй. Больш таго, больш упартыя байкатаваліся як выкладчыкамі, незалежна ад іх акторскіх здольнасцей, так і рэштай студыйцаў, незалежна ад таго, добрымі ці дрэннымі яны былі таварышамі.

Усякае адценне пролетарскае ці нават сялянскае ідэалогіі рашуча вытручвалася і самым упартым чынам прышчэпліваўся буржуазны светапогляд, афарбаваны своеасаблівым багемным колерам. „І вось гэты новы свет сваімі хвалямі агарнуў маладыя душы, у якіх загаманілі новыя, дагэтуль нязнаныя струны і ціха, непрыкметна для староннята вуха зазычэлі нясмелыя акорды мастацтва; яны пачынаюць складацца ў мелодыю, якая з часамі павінна будзе мацнець, павялічвацца, разрастацца, каб будзіць нашу зямельку-бацькаўшчыну з апанявераным панаваннем чужынцаў народам",—піша лірычна аб настроях у студыі праз поўгода працы тагачасны карэспандэнт*).

„Мастак павінен усё ведаць, усяго пакаштаваць",—другая тэза выхавання. Але не пазнанне навакольнага жыцця ва ўсіх яго праявах жорсткаю класаваю барацьбою, з вялікім гераізмам абароны і будаўніцтва новага свету, разумелася ў гэтай тэзе. Гэта азначала капанне ў сваіх дробных і драбнюткіх перажываннях. А дзеля таго, што

*) Р-ч М. Маскоўская студыя Беларускага дзяржаўнага тэатра, „Совецкая Беларусь" 1922, № 45 (450), 26 лютага.

жыццёвы вопыт большасці студыйцаў быў вельмі нязначны, а анархічная сістэма выхавання стварала ўнутраную разнузданасць, не стрымліваемую ніякімі з пункту погляду пролетарыяту нормамі. Гэта прыводзіла да таго, што „пазнанне жыцця“ студыйцамі пачыналася з горшых бакоў акторскае багемы. Гэтая распушчанасць пасля доўга адчувалася на працы маладога тэатра.

Паралельна вёўся курс „сістэмы“ Станіслаўскага ў лепшай ці горшай інтрэпрэтацыі выкладчыкаў студыі, а таму „сістэму Станіслаўскага мы ўсмакталі, як кажуць, у плоць і кроў.

Тагачаснае кіраўніцтва НКА глядзела на ўсё гэта, як на нармальнае становішча рэчаў, і не толькі не дапамагала маладым студыйцам крытычна ўспрыймаць тое, што выкладалася ў студыі, але сваімі нацдэмаўскімі ўстаноўкамі яшчэ больш паглыбляла шкодную сістэму выхавання, прывіваючы студыйцам нічым не прыкрыты звярыны нацыяналізм.

Студыйцам праз увесь час вучобы напамінаюць, што яны павінны быць змагарамі за самабытнасць беларускага тэатра, разумеючы пад гэтай самабытнасцю адраджэнне на паслякастрычніцкай Беларусі буржуазнага ладу і парадку. Ва імя гэтае „славутнае“ самабытнасці маладому тэатральнаму калектыву не толькі не раіцца вучыцца ў лепшай часткі рускіх драматургаў, але адмаўляецца права нават на вывучэнне лепшых прыкладаў сусветнае класікі. Аб самабытнасці не абмінаецца сказаць у кожнай нататцы альбо рэцэнзіі пра студыю.

У пачатку трэцяга году вучобы, падагульваючы вынікі двух год вучобы і даючы, так сказаць, устаноўкі для далейшае працы студыі, З. Бядуля на старонках „Совецкай Беларусі“ піша наступнае: „Нашая тэатральная студыя папала на рубеж двух тэатральных напрамкаў правай школы Станіслаўскага і левай Мейерхольда. Што-ж выбіраць? Вядома, Станіслаўскага“. І далей: „Галоўная мэта педагагічнага персанала школы стварыць тэатр спецыфічна беларускім, у чым і будзе яго найвялікшая каштоўнасць.

П о с п е х і б у д у ч а г а б е л а р у с к а г а т э а т р а ў я г о в ы к л ю ч н а й б е л а р у с к а с ц і. Вось пуцяводная зорка, якой павінна прытрымлівацца нашая студыя.

Кожны беларускі студыец—будучы тварэц самабытнае беларускае тэатральнае школы“.

І ў адпаведнасці з гэтым:

„Студыя павінна стварыць свой беларускі аркестр, які-б іграў т о л ь к і беларускую музыку.

Што датычыцца галоўнага рэпертуара... нам спачатку не цікава бачыць на беларускай сцэне Шэкспіра, Сервантэса, Шылера, Мальера і інш. Гэта мы можам бачыць на любой мове.

Нам дайце спачатку з беларускіх падмосткаў т о л ь к і беларускае“ *).

Гэтымі радкамі з установачнага артыкула З. Бядулі лепш усяго паказваецца ідэалагічнае кіраўніцтва тагачаснага НКА ў выхаванні будучага актора беларускага совецкага тэатра. Адным словам, самыя рэацыйнныя мастацкія тэорыі цесна змыкаліся з не менш рэакцыйнымі нацыянал-дэмакратычнымі і, па сутнасці, контррэволюцыйнымі ўстаноўкамі кіраўніцтва НКА.

Таму не дзіва, што ўжо на першым годзе свае вучобы паасобныя студыйцы лічаць, што „самабытнасць беларускага тэатра—адно з най-

*) З. Б я д у л я—„Кузьня Беларускага мастацтва“—„Совецкая Беларусь“, 1923, № 205-20. Падкрэелена ўсюды аўтарам.

важнейшых яго заданняў яго існавання і каштоўнасці... Вялікая соцыяльная рэволюцыя Кастрычніка, якая дала магчымасць самабытна (падкр, мною.—*А. Н.*) існаваць працоўным масам прыгнечаных нацыянальнасцей, дае права і яго мастацтву патрабаваць тое самае *).

Такім чынам, побач з засваеннем тэхнікі тэатральнага мастацтва студыйцамі засвойваліся, усмоктваліся „ў плоць і кроў“ варожыя справе совецкага тэатра ідэі і ідэйкі.

У падборы вучэбнага рэпертуара прышлося, з прычыны амаль поўнае адсутнасці беларускае драматургіі, адступіць ад установак З. Бядулі і звярнуцца да перакладнога матэрыялу і ў пэўнай ступені да класікі.

За студыйны перыяд былі ўзяты для працы: Эўрыпід „Бакханкі“, Шэкспір „Сон у летнюю ноч“, Жулаўскі „Эрос і Псіха“ (пераклад з польскага), Глоба „Астап“, І. Бэн „У мінулы час“ і „Цар Максімільян“ (тэкст Рэмізава, апрацаваны студыйцам М. Міцкевічам), часткова вялася праца над „Апраметнай“ В. Шашалевіча і, акрамя ўсяго гэтага, быў зроблены шэраг дробных рэчаў, пераважна камернага парадку „Цырульнік з Берыагу“, „Пільны вартаўнік“ Сервантэса, „Гавань“ па Мапасану, „Чорт і баба“ Аляхновіча. І калі кіраўнікі студыі лічылі за найлепшае скарыстанне для вучобы класічнага рэпертуара, што па сутнасці на тым этапе развіцця совецкае драматургіі было-б найбольш правільным пры адпаведным адборы гэтага рэпертуара, дык і гэта прынцып не быў вытрыманы, бо цяжка, напрыклад, аднесці да класічнага рэпертуара такія—далёка не класічныя творы, як „Эрос і Псіха“ Жулаўскага. Значыцца, не з гэтага выходзіла кіраўніцтва студыі пры адборы вучэбнага рэпертуара, яно гэты падбор цалкам падпарадкавала ідэалагічным установкам, існаваўшым, у студыі і паказаным намі раней.

З арыгінальных п‘ес была выкарыстана досыць слабая п‘еса І. Бэна „У мінулы час“ і пастаўлены паказ „Цара Максімільяна“, матэрыял якога можна аднесці да арыгінальнага. І, нарэшце, як адступленне ад агульнае лініі на рэпертуар, далёкі ад сучаснасці, была пастаўлена „сучасная“ п‘еса А. Глобы „Астап“.

„Цар Максімільян“, „Сон у летнюю ноч“ былі паказаны яшчэ ў студыі. Пры гэтым „Цар Максімільян“ у чэрвені 1924 г. быў паказаны ў Менску.

Увесь вучэбны рэпертуар быў цалкам уключаны ў рэпертуар БДТ 2.

Такім чынам, студыйны перыяд можна характарызаваць, як перыяд досыць дасканалага, асабліва для студыйцаў першага набору, засваення тэатральнае культуры і тэатральнае тэхнікі МХАТ‘а 2-га, пры гэтым, засваення на веру без усякага крытычнага падыходу. Тут Ленінскае палажэнне аб крытычным засваенні культурнае спадчыны было цалкам ігнаравана.

Студыйцы выхоўваліся на тэорыях „мастацтва для мастацтва“, на рэакцыйных тэорыях адрыву ад жыцця і тым больш ад сучаснасці. Гэтыя тэорыі прыпраўлены былі вельмі моцна нацыяналізмам і нацыянал-дэмакратызмам.

Падбор вучэбнага матэрыялу быў вельмі стракатым, але ён характарызаваўся адной агульнай рысай, адрывам ад сучаснасці і ад рэальнага жыцця ўвагуле.

---

*) М. Беларуская студыя ў Маскве, „Маладняк“, 1924, №5, ст. 106.

Студыя была зусім адарвана праз увесь час вучобы ад уплыву пролетарскае грамадскасці і ў ёй зусім адсутнічала патрэбная для совецкага актора выхаваўчая праца.

Выпушчаны студыяй акторскі калектыў вызначаўся, як моцны ансамбль без вылучэння паасобных адзінак.

З такімі вынікамі студыя вясною 1926 г. скончыла сваю вучобу і з восені распачала сваю працу, як самастойны мастацкі калектыў, які атрымаў назву Беларускага другога дзяржаўнага тэатра.

## II. Першы перыяд працы БДТ2

Адчыненне тэатра і пачатак яго першага сезона адбыўся 20 кастрычніка 1926 г. у г. Віцебску.

Абставіны за час да адчынення тэатра і само яго адчыненне адразу кідалі малады акторскі калектыў у абдымкі беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма, тым больш, што студыйнае выхаванне падрыхтавала дастатковую для гэтага глебу.

Нацыянал-дэмакратычнае кіраўніцтва НКА ў асобе Баліцкага ў першую чаргу пастаралася забяспечыць малады тэатр адпаведным кіраўніцтвам. На чале БДТ2 дырэктарам быў пастаўлены М. Красінскі, па сутнасці чорнасоценец, які перафарбаваўся да пары да часу ў „шчырага беларуса“, заядлага нацыянал-шавініста. Гэта той самы Красінскі, які, як кіраўнік тэатральнай падсекцыі Інбелкульта, вёў самую жорсткую барацьбу супроць Беларускага першага дзяржаўнага тэатра і яго мастацкага кіраўніцтва за паварот гэтага тэатра да сучаснасці.

Гэты жывы персанал з Александровічавых „Цэняў на сонцы“, які

> Няма тае дарогі,
> Дзе не рассыпаў-бы імкненні ён свае.
> „Ну, што зрабіць, каб стаць бліжэй да бога.
> Маліцца.—Мала часу не стае“...
> Але рашыў, і змрочнасцю пакрыты,
> У манастыр пайшоў, схіліўшы галаву.
> „Быць не быць. Дадуць архімандрыта,
> Не, ідрытваю, іначай зажыву“...

А калі архімандрыта не далі—

> „І не спазнаць праз тыдзень альбо два,
> Мову вывучыў; стаў сэдзіць, як дакладчык,
> рваць карані, пусціла што царква“.

І, далей:

> „Ён знае, дзе і каму зняць шапку,
> безумоўна.
> Ён бывалы спрытны чалавек.
> Барада архімандрыта варта,
> таму мо' й вылучэнцам стаў як на бяду
> і гляньце—сёння дырэктар не на жарты...“ *)

Прызначэннем такога прахадзімца-чорнасоценца дырэктарам БДТ2 нацдэмаўскае кіраўніцтва тагачаснага НКА брала рэванш за „прарывы“ ў нацдэмаўскай ідэалогіі ў БДТ1.

Само адчыненне БДТ2 было прыстасавана да „апагею“ нацыянал-дэмакратычнай шайкі, так званае „Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапіса“, якая з'яўлялася па сутнасці злётам і аглядам нацыянал-дэмакратычных сіл. На гэтай канферэнцыі прысутнічала не толькі ўнутраная белагвардзейшчына, але былі запрошаны

*) А. Александровіч, „Вершы і паэмы“, БДВ, 1931, ст. 203.

і прысутнічалі беларускія белагвардзейцы эмігранты В. Ластоўскі, А. Галавінскі (Літва), К. Езавітаў і Пігулеўскі (Латвія), Жылка (Чэха-Славакія).

Усім вядомы вонкавы бок гэтае канферэнцыі. Зала клуба, дзе распачала сваю працу канферэнцыя, была прыбрана заместа чырвоных сцягаў чырвона-белым „нацыянальным“ колерам, бюсты і партрэты правадыроў рэволюцыі, у тым ліку і бюст Леніна, былі вынесены, „каб не непакоіць нашых гасцей“. Былы нарком асветы заўзяты нацдэм Баліцкі ў сваім больш як поўгадзінным выступленні „не меў часу адзначыць кіруючую ролю комуністычнае партыі ў справе культурна-нацыянальнага будаўніцтва БССР і г. д.

Амаль увесь склад канферэнцыі быў запрошаны на адчыненне БДТ2. Каб надаць тэатру нацыянальны характар, дырэкцыяй тэатра са згоды НКА ўсе білецёры тэатра былі адзеты ў спецыяльныя вопраткі, сярэдневяковага баярскага, правільней, шляхецкага тыпу. Гэтым самым глядач з самага пачатку павінен быў падрыхтавацца да ўспрыймання „нацыянальнае“ культуры.

Адным словам, „агульнанацыянальную“ канферэнцыю чакала „агульнанацыянальнае“ свята. Аднак дэлегаты ў пэўнай ступені былі расчараваны. Партыйная арганізацыя Віцебшчыны дала адпаведны бой нацыяналістычным устаноўкам свята адчынення тэатра. Пазней адзін з дэлегатаў канферэнцыі ў газеце „Латвіс“ скардзіўся“: „у Менску нас сустрэлі і прынялі дыпламатычна, тонка. Мілавалі нашыя пачуцці, не ігралі „Інтэрнацыянал“. Інакш было ў Віцебску. Віцебскія „таварышы“, як відаць, хацелі бліскануць перад цэнтральным урадам сваімі комуністычнымі поглядамі. Нас віталі ў Віцебску як прадстаўнікоў яшчэ не совецкае рэспублікі, ігралі шмат разоў „Інтэрнацыянал“, прымушалі нас уставаць кожны раз. Выступленні ў Віцебску былі строга ў комуністычным напрамку і стылі 17-18 гг.*).

Незадаволены быў напрамкам урачыстасці і сам тэатральны калектыў. Для характарыстыкі настрояў у калектыве ў час адчынення тэатра прыводзім тут ліст, так сказаць, творчае душы тэатра—яго мастацкага кіраўніка, мхатаўца ў горшым разуменні гэтага слова, Сурэна Хачатурава. (У цытуемых урыўках ліста пакідаем арфаграфію аўтара, як вельмі характэрную).

„21. XI. 926 г. Витебск.

Дорогие товарищи, артисты оркестра!

Поздравляю Вас с открытием Театра. В культурной в общественной жизни, не только БССР, но и всего нашего Союза это чрезвычайно большое событие. В течении пяти лет молодой коллектив с энтузиазмом и юным пафосом творил дело Нового Белорусского Театра. С таким же энтузиазмом и неизсякаемой энергией он начинает вторую страницу „книги Бытия“ своего. Вы призваны в нашу художественную семью для совместной творческой работы. Вчера мы открылись... Все об‘ективные предпосылки сводились, чтобы мы провалились... Три дня и три ночи актеры не спали, творя „кухню“ театра, т. е. то, что недоступно зрителю... 34 человека со мною вместе шли сознательно на провал, п. ч. не в нашей власти остановить время... Путь наш—тернистый путь и еще раз не раз мы будзем свидетелями падений наших. Такова капризная структура Искусства. Вчерашний день должен сослужить нам хорошую службу, он плюс в нашем

*) Цыт. па „Стенографич. отчету X с‘езда КП(б)Б“, ст 127, выст. т. Шпекта;ава

балансе, пот, что на ошибках должно учиться и расти. В театре первое и главное-художественный коллектив. Вчера он был самым последним... Все это я говорю Вам, дорогие товарищи, чтобы предупредить Вас в начале Вашей ответственной работы и ввести Вас в круг идей, желаний, чаяний и мечтаний подлинных творцов этого дела—артистов трупы. Они Вам и Вы им братья по искусству. Сплотитесь с нами в одну тесную художественную семью, семью свободных художников и энтузиастов, органически по существу связанных друг с другом, и совместно творите культурное дело, чрезвычайной важности. В нашей семье Вы, молодые и начинающие, присматривайтесь к нам, учитесь у нас. Помните, что этот театр есть детище,—плоть от плоти и кровь от крови,—Московского художественного театра, первого и единственного театра не только Союза, но и Западной Европы. Его отцы и руководители—К. С. Станиславский, Вл. И. Немирович-Данченко, В. И. Качалов, М. А. Чехов, И. М. Москвин, В. С. Смышляев и другие—„имя им легион". Будьте зоркими, чуткими и внимательными ко всему, что касается художественной жизни театра. Помните, что театр живет в Витебске, т. е. в провинции, вдали от столицы и своего alma mater. Всем нам, тем более надо быть бдительными часовыми на страже культуры и художественной этики театра. Вчерашний день—первый звонок к неблагополучию в театре. На нашем театральном корабле—течь,—прасачивается халтура и провинциальщина. Держитесь стойко, ориентируясь на товарищей по труппе, помогайте друг другу и пусть подлинным и настоящим лицом театра будет художественный коллектив—свободный союз артистов, несущий зрителю Идею Прекрасного".

Такімі ідэямі і ідэйкамі рэакцыйнага па сутнасці парадку мастацкі кіраўнік тэатра апрацоўваў „прышлы" элемент тэатра ў выглядзе артыстаў аркестра. Што да складу актораў, дык пераважная іх большасць была настолькі апрацаванай у тым-жа кірунку студыйным выхаваннем, што яе больш апрацоўваць амаль не было патрэбы. Трэба было толькі зберагчы акторскі калектыў ад вонкавага ўплыву сучаснасці—у сярэдзіне ўсё было ў парадку.

Адным словам, адчыненне тэатра адбылося не так, як таго жадалася беларускай контррэволюцыі і рэакцыйным элементам МХАТ'а, хаця ў гэтым пытанні ў іх быў зусім адзіны фронт. Мастацкі кіраўнік папярэджваў калектыў ад уплыў правінцыяльшчыны, аднак ён зусім не баяўся большай небяспекі-замыкання тэатра ў нацыяналістычным шалупінні, небяспечным, чым мнімая небяспека правінцыялізма.

Пры адчыненні былі паказаны ў першы вечар п'еса Ї. Бэна „У мінулы час" і „Сон у летнюю ноч" Шэкспіра.

Так распачаў сваю працу Беларускі другі дзяржаўны тэатр.

* * *

Кірунак працы тэатра ў асноўным вызначаецца яго рэпертуарам. Рэпертуар БДТ2 у першым сезоне яго працы складаўся з работ часткова скончаных ужо ў час яго самастойнай працы, але пераважна з работ, зробленых яшчэ ў студыйны перыяд. За сезон 1926—1927 г. былі паказаны: „Сон у летнюю ноч" Шэкспіра, „У мінулы час" Ї. Бэна, „Цар Максімільян"—па Рэмізаву, „Астап" Глобы, „Эрос і Псіха" Жулаўскага, „Бакханкі" Эўрыпіда і вечар так званых студыйных практыковак, якія складаўся з мініятур камернага парадку („Гавань"—па Мапасану, „Цырульнік з Берыага" М. Мэйля і „Чорт і баба" Ф. Аляхновіча).

Такім чынам рэпертуар гэтага сезона таксама, як і праца студыі, быў вельмі далёкі ад сучаснасці.

Першай, як ужо было сказана, была паказана п'еса І. Бэна. П'еса ў плане слязлівай меладрамы паказвала далёкае мінулае Беларусі ў час прыгону. Досыць прымітыўна і трафарэтна ў п'есе маляваўся прыгон, здзекі і гвалт паноў над сялянамі. Малады хлапец Міхаль не вытрымлівае гэтых здзекаў і збіраецца ўцякаць у няведамую краіну, аб якой сялянам апавядае старац-жабрак. Гэты пасіўны пратэст канчаецца няўдачай, і Міхаль гіне ў страшных пакутах недзе за сцэнай. Ва ўсім паказе не было нават намёку на мастацкае ўсведамленне прычын няўдач сялянскіх паўстанняў. Усё гэта было ў пастаноўцы здорава прыпраўлена „экзотыкай“ старажытнага сялянскага быту з пэўнай ідэалізацыяй яго, а таксама перапоўнена голым этнаграфізмам, так, напрыклад, цэлая дзея была запоўнена паказам вясковага вяселля з усімі падрабязнасцямі. Усё гэта рабіла п'есу прыемлемай для беларускай нацдэмаўшчыны, але зусім непрыемлемай для совецкага гледача, які, акрамя агульнай адмоўнай ацэнкі гэтага паказу, празваў яго зусім слушна „нудны час,“ гэтым самым здзекваючыся над голай рыторыкай, панаваўшай у гэтым паказе. Пастаўлены паказ быў выкладчыкам студыі Барысам Афоніным, мастацкае афармленне мастака Леаніда Нікіціна.

Другой пастаноўкай гэтага сезона была камедыя Шэкспіра „Сон у летнюю ноч“ у пастаноўцы выкладчыка і кіраўніка студыі Валянціна Смышляева, у мастацкім афармленні мастака Л. Нікіціна, музыка У. Сакалова-Фядотава.

„Сон у летнюю ноч“—вядомы твор Шэкспіра, адносіцца да ранніх твораў гэтага сусветнага драматурга. Напісана гэтая лёгкая камедыя, відаць, з прычыны шлюбу якое-небудзь выдатнае асобы эпохі ранняе творчасці Шэкспіра. Уся камедыя напісана ў лёгкіх тонах, і, як гэта кажа сам аўтар у заключнай дзеі камедыі, яна павінна пакінуць у гледача ўражанне лёгкага дзіўнага сну:

„Когда не угодили вам мы, тени,
То я прошу—исправится беда—
Предположить, что в міре сновидений
Вы были здесь уснувши, господа;
Что слабое, пустое представление
Есть легкий сон не более того;
Не будьте же вы строгими в суждении,
Простите нас, мы просим одного.

(„Сон летней ночи“, пер. Н. Сатина, заключны выхад Пука).

Трэба сказаць, што студыі ўдалося ў зробленым спектаклі „Сну“ захаваць лёгкасць Шэкспіравай камедыі, асабліва гэтая лёгкасць адчувалася ў дэкаратыўным афармленні Л. Нікіціна, які вельмі проста, нават скупа аформіў спектакль, дабіўшыся аднак захавання стыля драматургічнага твора вялікага майстра. Сцэны ў лесе, пабудаваныя на эфектах асвятлення (светлавыя дэкарацыі), сапраўды стварылі ў гледача казачны настрой. Пастаноўшчык (В. Смышляеў) слепа прытрымліваўся старых традыцый трактоўкі гэтае камедыі, што тысячы разоў ставілася да яго. Ён зусім не распрацаваў тае ноткі іроніі, якая прасякае ўвесь твор, асабліва ў сцэнах лесу. На высокім культурным узроўні ў спектаклі стаяла музыка Сакалова-Фядотава.

„Сон у летнюю ноч“ упершыню быў паказаны студыяй у Маскве. Крытыка сустрэла гэты спектакль досыць стрымана. Так Бор. Лев-с у „Нашай газеце“ пісаў: „Цераз усю пастаноўку праходзіць нявынашанасць рэжысерскага замысла, яго раздвоенасць. Дзве лініі, што

ўзаемна адна другой супярэчаць, рэзка разрываюць адзіную тканіну п'есы. Зусім умесны і патрэбны іранічны падход да малюемага (усе сцэны ў Афінах і сцэны ў лесе з афінскімі персанажамі) і нечаканае прыняцце „ўсур'ёз" казачнага сюжэта (амаль усе сцэны ў лесе, усе сцэны з эльфамі і г. д.). *)

Працоўны глядач Віцебска, які зусім слушна чакаў ад тэатра выхаванага Кастрычнікам, паказаў, што адлюстроўвалі барацьбу за вызваленне і адбудову гаспадаркі, зразумела, таксама не мог быць задаволены гэтым паказам. Ул. Лілін у „Звяздзе" пасля першых паказаў „Сну ў летнюю ноч" у Менску піша: „У параўнанні з паказанымі нам ужо пастаноўкамі, „Сон у летнюю ноч", безумоўна, з'яўляецца крокам наперад. Так можна ацаніць спектакль, гаворачы аб ім наогул. Аднак глядач усё ж застаецца безудзельным да гэтага відовішча. Прычына вельмі простая і зразумелая. „Сон у летнюю ноч" з'яўляецца толькі прыгожым відовішчам. Тэатр не здолеў па свойму адбіць і гэтую рэч. А, кажучы па праўдзе, гэта льга было зрабіць, скарыстаўшы інтэрмедыі, куды і можна было ўнесці нешта сучаснае" **).

З апошнім заключэннем рэцэнзента наконт інтэрмедыі можна, вядома, і не згадзіцца, бо справа не ў тым, каб „асучасціць" інтэрмедыі, патрэбен быў зусім іншы падыход рэжысера да трактоўкі ўсяе п'есы, аднак агульнае заключэнне рэцэнзента было абсалютна правільнае, глядач чакаў ад тэатра не таго, што яму тэатр даваў.

Такім па сутнасці быў і трэці паказ гэтага першага сезона працы тэатра—„Цар Максімільян". Тэкст гэтае п'есы належыць пяру пісьменніка А. Рэмізава, апрацаваны студыйцам М. Міцкевічам. Пастаноўка спектакля належыць В. Смышляеву, рэжысер Б. Афонін, мастак Л. Нікіцін, музычная апрацоўка беларускіх мелодый А. Аленіна.

Інтрыга драмы „Цар Максімільян" складаецца з 2-х паасобных эпізодаў. Асновай першай дзеі з'яўляецца трагічны канфлікт паміж царом Максімільянам і яго сынам Адольфам на рэлігійным грунце: Адольф не жадае пакланіцца „кумірыцкім" багам, і за гэта, паводле загада бацькі, прымае смерць ад рукі ката. Галоўнымі момантамі другое дзеі з'яўляюцца: спрэчкі Анікі-ваякі з смерцю, спаборніцтва Максімільяна з Мамаем, смерць цара ад рукі рыцара-волата, які памшчаецца за Адольфа.

Рэжысер ставіў сабе за мэту ў спектаклі паказаць адвечнае змаганне шырокіх працоўных мас з самаўладствам і соцыяльным уціскам, шукаючы „векавечнае праўды балючай". Аднак гэтая задача пастаноўшчыкам не была вырашана, бо ў спектаклі лінія соцыяльнага была падменена іншымі момантамі і ў агуле была загружана цэлай кучай другарадных дробязей, якія затушавалі асноўную сюжэтную лінію.

Вельмі ўдалым было афармленне спектакля. Пры адчыненні заслоны глядач бачыў голую канструкцыю, вельмі падобную да павука пад гукі марша і песні:

Ясава карыта
Вадою наліта.
Дзеўкі ногі памылі,
Хлопцы воду папілі.

на сцэну выходзіць увесь склад выканаўцаў, якія размяшчаюцца на канструкцыі так, што Максімільян садзіцца ў сярэдзіну канструкцыі, з'яўляючыся, такім парадкам, галавою павука.

*) „Наша газета," 11 марта 1926 г., № 58.
**) „Звязда", № 251 (2761), 2 ліст. 1927 г.

Не дрэнная была і апрацоўка народных песень.

У гэтым спектаклі ўпершыню разгарнуліся сілы студыйцаў. Увесь спектакль прыцягваў сваёю сыгранасцю акторскага ансамбля, і цяжка было сказаць, хто лепш вядзе сваю роль.

У першы раз спектакль быў паказаны ў Маскве ў памяшканні студыі 24 мая 1924 г. Такім чынам гэта быў першы буйны паказ з якім студыя выйшла да гледача. Усяго гэты спектакль у Маскве ў бытнасць тэатра студыяй быў паказаны 9 разоў, акрамя гэтага ён быў паказаны 7 разоў у час гастроляў студыі ў Менску (чэрвень 1924 г.).

Маскоўская прэса спачувальна (за выключэннем „Жизни искусства") сустрэла гэтую першую работу. Амаль усе газеты адзначалі, што экзамен студыя вытрымала і мае права на назву мастацкага калектыва. „Калі тухнуць лямпачкі і ўспыхнуўшыя каляровыя пражэктары сустракаюць выплеснуўшуюся на лесвіцы буйную пачуццём і тэмпераментам, у цудоўна зробленых вопратках, гарачую ў песні і скоках трупу маладое беларускае студыі, дык відаць, што і акторскія дараванні, і рукі рэжысера і мастака апраўдваюць вялікі размах і перамогуць не толькі прастору гэтага пакою, але і тысячную аўдыторыю" („Известия ЦИК", май 1924.). Калі з гэтае рэцэнзіі адкінуць крыху прыўзняты тон, дык яна адпавядала рэчаіснасці—спектакль сапраўды, асабліва ў першай сваёй дзеі, фармальна быў цікавы, а для беларускіх тэатраў нават некалькі і смелы; нездарма-ж Ц. Гартны ў сваёй рэцэнзіі з прычыны гастроляў студыі ў Менску, іранізуючы над адсталасцю тагачаснага Менска, назваў „Цар Максімільян на Менскай концы". Аднак гэта што да формы спектакля. Змест-жа яго таксама, як папярэдніх спектакляў, не мог задаволіць новага гледача. Ужо пасля першых паказаў спектакля ў Маскве прэса папярэджвала студыю наконт памылковасці таго рэпертуарнага шляху, на якім яна стаяла. „З тэкстам Рэмізава, канешне, трэба было адчуваць сябе больш вольна. Інтэрмедыі, на жаль, зусім не скарыстаны ў лёгка магчымым і патрэбным нам, колькі-небудзь сучасным духу (акрамя аднаго антырэлігійнага эпізода). Спектакль упарта а п а л і т ы ч н ы і эстэтычны. У гэтым другі яго слабы бок" *). Прыблізна тое-ж пісалася і ў беларускіх газетах у тым выпадку, калі аўтары не належалі да лагера заўзятых нацыянал-дэмакратаў. І толькі тое, што спектакль быў фармальна досыць цікавы, а таксама і тым, што ў Менску ён быў паказаны пасля яўна нацдэмаўскай „Апраметнай", можна вытлумачыць, што гэты спекталь з невялікімі перапынкамі трымаўся на сцэне тэатра амаль тры гады. „Звязда" ў сваёй рэцэнзіі пісала: „Спектакль у цэлым з'яўляецца сапраўдным творам мастацкае культуры. Пачынаючы ад артыста—канчаючы мастаком,—усе садзейнічалі поспеху пастаноўкі. Агульныя старанні і зацікаўленасць—вынік таго, што спектакль атрымаўся свежы і бадзёры. Ідэалагічныя яго памылкі павінны, аднак, быць прыняты пад увагу тэатрам і не дапускацца ў наступных работах" **).

Такі быў трэці паказ БДТ2 у першым сезоне яго працы.

Чацвертым спектаклем сезона 1926—1927 г. была п'еса А. Глобы „Астап". Гэтай п'есай тэатр нібы хацеў адцягнуць ад сябе тыя папрокі, якія несліся на тэатр з усіх бакоў зусім заслужана. У аснову п'есы, як аб гэтым гаварыла праграма тэатра з тлумачэннямі, было пакладзена апавяданне М. Чарота „Саматканая світка". Трэба адразу сказаць, што Чаротава апавяданне было памылковае ў сваёй аснове. У гэтым апавяданні расказвалася пра тое, як малады вясковы

*) „Вечерняя Москва", 26 ноября 1924 г.
**) „Звязда", № 267 (2777), 24 ліст., 1927 г.

хлапец у саматканай світцы, што служыць ва ўсім апавяданні сімбалем яго непасрэднасці, а таксама і нацыянальнасці, трапляе ў Маскву ў самы разгар нэп'а, захапляецца адмоўнымі бакамі гарадскога жыцця і траціць сваю чыстату і самабытнасць. Такім чынам ужо ў апавяданні былі закладзены элементы нацыяналістычнага парадку—элементы супроцьстаўлення рускага горада беларускай вёсцы. Гэтая лінія ў „Астапе" была яшчэ больш выпуклена і даведзена да свайго лагічнага завяршэння. Сюжэт п'есы застаўся такім-жа, як і ў апавяданні М. Чарота: малады хлопец Астап з прычыны таго, што ён мае ў Маскве свайго добрага знаёмага, трапляе ў Маскву на адказную пасаду; выязджаючы ў Маскву, Астап пакідае ў роднай вёсцы любімую дзяўчыну Марысю, якая кахае яго з усёй непасрэднасцю вясковае дзяўчыны; папаўшы ў Маскву, Астап здабывае вялікі аўтарытэт і займае адказную пасаду, навакол яго круціцца шмат народу, які жадае скарыстаць Астапа ў сваіх далёка не прывабных мэтах, для гэтага Астапа пачынаюць уцягваць у жыццё нэпманскае Масквы з усёй „прыгожасцю" яе; Астап асабліва і не супраціўляецца гэтаму, больш таго, яму ўсё гэта падабаецца, яго захапляе вір п'янага жыцця, і за ім ён забывае і сваю вёску і сваю каханую Марысю і, калі да яго прыязджаюць сяляне з яго вёскі, ён не хоча да іх прызнацца, ён саромеецца іх, таксама, як пазней не хоча прызнаваць і свае каханае.

Гэта праца тэатра, як і ўсе папярэднія, была падрыхтавана яшчэ ў той час, калі тэатр быў студыяй. Ставілі п'есу рэжысеры В. Громаў і Г. Ноўскі, мастак А. Благанраваў. Робячы ківок у бок „сучаснасці", студыя, не гледзячы, што гэтая сучаснасць трактавалася з нацдэмаўскага пункту погляду, лічыла гэтую работу не асноўнай. Гэта адбілася як на рэжысерскай распрацоўцы п'есы, так і на мастацкім яе афармленні—спектакль гэты, параўнальна з паказанымі раней, стаяў на некалькі стопняў ніжэй. Гэта адразу пасля першага паказа адзначыла пролетарская грамадскасць. Рэцэнзент „Звязды" пісаў: „Тэма спектакля крыху спазнілася, яе зараз нельга лічыць своечасовай. Акрамя таго, сюжэт і яго афармленне не выяўляюць той каштоўнасці, каб з'явіцца сталай тэатральнай рэччу на працягу доўгага часу... Сюжэт „Астапа" з'яўляецца паўтарэннем некаторых рускіх п'ес, якія былі выпушчаны некалькі год таму назад (напрыклад „Воздушный пирог"). Усе такія п'есы мелі вартасць толькі ў першыя гады нэп'а. Розніца паміж „Астапам" і, напрыклад, „Воздушным пирогом" тая, што апошняя п'еса больш цікавая і сцэнічная, чым першая. У такім выпадку міма волі ўзнікае пытанне, навошта было ставіць п'есу пад „Воздушный пирог", калі значна лепш было паставіць „Воздушный пирог". І далей: „Уласна кажучы, цяжка зразумець, што хоча паказаць п'еса: ці комуніста, які пад уплывам дробнабуржуазнае стыхіі збіваецца з правільнага шляху, ці проста комуністаў з „нізоў", якія нібыта, як правіла, непрыгодны для адказнай працы. Даволі ўспомніць увесь службовы шлях Астапа, каб выказацца за другое дапушчэнне. Папаўшы толькі на працу ў Маскву, ён ужо становіцца бюракратам і фармалістам. Мы не бачым ніводнага светлага дня ў працы Астапа" *).

У той час, калі контррэволюцыйная дзейнасць нацыянал-дэмакратаў яшчэ не была выкрыта, зразумела, цяжка было выявіць агульныя тэндэнцыі гэтага спектакля. Пролетарскі глядач, улічваючы маладосць тэатра, схіляўся расцэньваць няправільны паказ сучаснасці як простую няўдачу тэатра, тым болей, што ў той час савецкая драматургія была яшчэ досыць слабай. Аднак пры больш уважлівым разглядзе спектакля

*) „Звязда", № 244 (2754), 25 кастр. 1927 г.

ў ім намячаліся ўсе тыя тэндэнцыі, якія пазней знайшлі сваё менш прыкрытае выражэнне ў Дударовым „Ветры з усходу“, „Пасеклі край наш папалам“, а таксама ў рамане Зарэцкага „Крывічы“. Гэта была ні чым не прыкрытая прапаганда супроцьстаўлення беларускае вёскі пролетарскай Маскве.

Аддаўшы дань „сучаснасці“, БДТ2 працягвае далей у сваіх паказах ранейшую рэпертуарную лінію адрыву ад сучаснасці, заходзіць усё больш далёка ў цемрадзь містыкі.

Наступнай працай, паказанай пасля „Астапа“, была п'еса Ю. Жулаўскага „Эрос і Псіха“ ў пастаноўцы Барыса Афоніна, мастацкім афармленні мастака Л. Нікіціна.

Тэатр гэтую п'есу адносіў да класічных твораў, прыкрываючы, калі так можна сказаць, суцэльную містыку гэтага твора. Містычнасць твора ў пастаноўцы тэатра не толькі не была аслаблена, а, наадварот, яшчэ больш была падкрэслена, і такім чынам атрымліваўся спектакль у плане літаратурных і тэатральных работ эпохі самае чорнае рэакцыі 1907-1908 гг. Зразумела, што рабочы і нават совецкі інтэлігентны глядач не мог прыняць гэтага спектакля яшчэ ў большай меры, чым усе папярэднія спектаклі гэтага тэатра. Кіраўніцтва тэатра старалася вытлумачыць сэнс гэтага спектакля вуснамі праф. Барычэўскага, так: „Эрос і Псіха“ грэцкія словы. „Эрос азначае каханне, Псіха—душа“. Спыняючыся, далей на грэцкай міфалогіі, звязанай з гэтымі імёнамі, праф. Барычэўскі так растлумачвае сэнс п'есы Жулаўскага: „Ад Апулея, Жулаўскі ўзяў наступнае: 1) Псіха, пабачыўшы Эроса, траціць яго; 2) яна доўгі час шукае яго, не трацячы надзеі, урачыстуючы над усімі пакутамі; 3) прайшоўшы доўгі цярністы шлях, яна ізноў знаходзіць страчанага ёю каханага. Арыгінальнасць трактоўкі міфа, прапанаванай польскім пісьменнікам, складаецца галоўным чынам з наступнага: 1) шлях доўгіх пакутных блуканняў Псіхі ўтоежсамлены з гістарычным шляхам чалавецтва, 2) к вобразу заўсёды ідучай, імкнучайся ўдаль чалавечае душы; Псіхі, і да вобраза, які заве нас наперад, і запальваючага кахання Эраса, далучаны трэці вобраз,—вобраз Блакса (грэцкае слова-азначае „вялы, нерадзівы, тупавумны“). Блакс аліцатварае той пачатак абмежаванасці, самадавольства, падмана і гвалтаўніцтва, якія стаяць на шляху Псіхі, якая аліцатварае лепшае чалавецтва; арыгінальнасць мастацкага замысла выявілася ў абраным аўтарам своеасабістым жанры, у своеасабістым выглядзе паэтыцкае творчасці, названай ім сцэнічнай аповесцю. Псіха і Блакс, іх змаганне даюць п'есе драматычнае адзінства... і Псіха і Блакс—адзіны, але з кожным векам яны мяняюць сваё аблічча. Багацце і рознастайнасць карцін, якія даюць магчымасць гледачу ў адзін вечар мысленна пранесціся па ўсёй гісторыі чалавецтва ў яе важнейшых перыядах, робіць гэтую п'есу вельмі цікавай, як зрэлішчнае відовішча. Кампазіцыйны замысел—паказаць змаганне Псіхі і Блакса ў змене вякоў, будзіць думку, нават назалежна ад таго ці згодны мы з тым асвятленнем гісторыі і яе паасобных эпох, якое прапануе нам аўтар“ *).

Так стараўся вытлумачыць сэнс гэтае, па сутнасці, рэакцыйнае п'есы праф. Барычэўскі. Аднак рабочы глядач па свайму расцаніў сэнс гэтае „класічнае“ п'есы. Вобразы Псіхі, Эроса і Блакса ім, рабочым гледачом ды і ўсёю пролетарскаю грамадскасцю, трактаваліся, як змаганне ідэалізма (Псіха) і матэрыялізма (Блакс). А дзеля таго, што матэрыялізм—база светапогляду пролетарыята, а ў п'есе Жулаўскага Блакс трактаваўся, як нешта да дзікасці агіднае, як

*) Е. И. Боричевский, „Эрос и Психея“. „Заря запада“, 1927, № 56, 9 сакавіка.

нейкая „фата-маргана“, якая ва ўсе вякі і ва ўсіх народаў праследуе чыстую прыгожую Псіху (душу), дык ім, рабочым гледачом, п'еса была сустрэта, як варожая вылазка рэакцыйнае філасофіі супроць матэрыялізма ў мастацкай форме. Зразумела, што п'еса падпала пад байкот пролетарскае грамадскасці, і кіраўніцтва тэатра вымушана было пасля некалькіх паказаў пры пустой залі п'есу з пастаноўкі зняць.

Такая была пятая пастаноўка БДТ2 у першым сезоне яго працы.

Шостай пастаноўкай, калі не лічыць так званага вечара мініятур, аб якім пазней, была трагедыя малодшага з трох выдатных афінскіх трагікаў Эўрыпіда „Бакханкі“, пастаноўка В. Смышляева, мастак Б. Матругін, музыка А. Александрава.

Эўрыпід у большай частцы сваіх трагедый выступаў як ідэолаг дэмакратычна настроеных прадстаўнікоў вольных прафесій і высокакваліфікаванага рамяства і як праціўнік арыстакратычнае Спарты і як саюзнік жрэцтва Дэльфаў. Гэтыя агульныя характарыстыкі творчасці Эўрыпіда ў поўнай меры могуць быць аднесены і да яго „Бакханак“. Трагедыя малюе дзікасць захаплення культам бога Дыяніса-Бакха. Супроць гэтага культа пачынае весці змаганне тэбанскі цар Пэнтэй. Аднак у гэтым змаганні ён гіне. У гэтым заключным акордзе трагедыі выявілася ўся тая непаслядоўнасць, якая характэрна для прадстаўнікоў усіх праслоек дробнае буржуазіі, а таксама і сафізм, якім прасякнута амаль уся творчасць Эўрыпіда. Не гледзячы на ўсё гэта, можна згадзіцца з выбарам гэтае трагедыі тэатрам у парадку асваення класікі, -вучобы ў класікаў, хаця, безумоўна, у таго-ж Эўрыпіда можна было знайсці рэчы больш сугучныя, калі так можна сказаць, для нашае эпохі. Аднак бяда была не ў гэтым. Бядою тэатра і яго мастацкага кіраўніцтва было некрытычнае ўспрыйманне класічнае спадчыны, падыход да трактоўкі вобразаў амаль дакладна так, як яны ўяўляліся самому Эўрыпіду, а адсюль далёкасць гэтае пастаноўкі гледачу, які, зразумела, і да гэтае працы тэатра аднёсся так-жа непрыхільна і нават больш непрыхільна, як і да іншых пастановак тэатра ў гэтым першым сезоне яго працы.

„Бакханкамі“ Эўрыпіда закончыў свой першы сезон працы Беларускі другі дзяржаўны тэатр.

Да прац, паказаных у гэтым-жа сезоне, трэба яшчэ дадаць пастаноўку так званага вечара мініятур, які складаўся з „Чорта і бабы“ Аляхновіча, „Гавані“ па Мапасану і „Цырульніка з Берыага“ М. Мэйля. Усе гэтыя мініятуры, як і папярэднія работы,—вынік вучэбнае работы студыі і насілі характар камерных пастановак і, як кажуць, не рабілі пагоды на сцэне тэатра і, тым больш, у залі, у гледача.

Такім чынам, падагульваючы вынікі першага сезона працы гэтага маладога тэатра, можна смела сказаць, што ён, не гледзячы на сігналы пролетарскае грамадкасці з першых-жа дзён яго працы, стаяў на тых-жа самых ідэалістычных, далёкіх ад сучаснасці пазіцыях, як і ў перыяд свае студыйнае вучобы. Больш таго. Пераезд у Віцебск і праз гэта набліжэнне маладога тэатра да „кіраўніцтва“ тагачаснага нацдэмаўскага складу Наркамасветы ўзмацнілі нацыяналістычныя тэндэнцыі ў тэатры.

Як-жа ішло ўнутранае жыццё гэтага маладога тэатральнага калектыва?

Сутычка з сучаснасцю не магла, вядома, абмінуць акторскага калектыва. Сёй-той з яго пачынае падыходзіць да тае прымітыўнае ісціны, што так далей нельга, што занятая тэатрам пазіцыя на адрыў ад сучаснасці, а праз гэта і на разрыў з сваім гледачом, рана ці позна прывядзе да катастрофы, што трэба пераглядаць свае ранейшыя пазі-

цыі. Аднак гэтая група была вельмі не значнай, на жаль, не займала вядучага становішча ў тэатры і не магла ў тым наваколлі, у якім яна была, і пры тым кіраўніцтве, якое ўзначальвала тэатр, правесці сваю лінію паслядоўна і да канца. Другая, большая група лічыла свае пазіцыі абсалютна правільнымі, не падлягаючымі рэвізіі, і прычыну адарванасці ад гледача старалася знайсці ў некультурнасці яго, даючы да гэтага чыста нацдэмаўскае палажэнне, што пролетарыяту беларуская (іменна беларуская) культура чужая, а значыцца і прыслухоўвацца да яго голасу не варта.

Перагляд старых мхатаўскіх традыцый разглядаўся, як нейкае святатацтва, хаця рэвізія мхатаўшчыны ўсё-ж пачынаецца. У першым сезоне працы БДТ2 у самым МХАТ'е наспяваў крызіс, які знайшоў сваё выражэнне ў вядомым бунце „маладых“ супроць рэакцыйнае часткі „старых“ на чале з Чэхавым. Моладзь выступала супроць самых рэакцыйных тэорый тагачасных „кітоў“ МХАТ'а, тэорый, якія прывялі пазней таго-ж Чэхава спачатку да эміграцыі, а пазней і да папоўшчыны і містыкі, як лагічнага завяршэння ўсяе лініі.

Акторскаму калектыву БДТ2 трэба было выявіць свае адносіны да таго канфлікта, які разыграўся ў яго alma mater МХАТ'2-ім. Пераважная большасць акторскага калектыва стаяла на абароне пазіцый і тэорый Чэхава. І толькі пасля вялікага змагання ўнутры калектыва і то толькі праз грамадскую арганізацыю (мясцком), была прынята рэзалюцыя, якая ў нейкай меры рабіла паварот, хоць і павярхоўны, унутры тэатра. У прынятай рэзалюцыі пісалася: „Пашыранае паседжанне мясцкома і профактыва Беларускага другога дзяржаўнага тэатра (БДТ2), абгаварыўшы канфлікт МХАТ2, цалкам далучаецца да меншасці, якая вядзе барацьбу за а к т о р а—г р а м а д с к а г а р а б о т н і к а. Наш тэатр, які атрымаў выхаванне ў Маскве, пад кіраўніцтвам артыстаў-рэжысераў МХТ2, ведае, што гэты тэатр мае за сабою велізарныя мастацкія заслугі, але ў той-жа час нясе ў сабе г н і л у ю ідэалогію, н е с у г у ч н у ю с у ч а с н а с ц і. Профактыў адзначае, што гэтая гніль з лозунгамі аб „жрэцах мастацва“, „мастацтва па-за класа“, мастцтва для мастацтва і г. д. і т. п., мае свой частковы ўплыў і адлюстраванне і ў іншым тэатры. П р а т э с т у ю ч ы с у п р о ц ь п а в о д з і н а ў МХАТ2 у а д н о с і н а х д а я г о р э в о л ю ц ы й н а е м е н ш а с ц і, мы п а т р а б у е м, к а б в ы р а ш э н н е г э т а г а п ы т а н н я б ы л о-б г р а м а д с к і в ы т р ы м а н ы м д а к а н ц а. Няхай жыве актор-грамадскі працаўнік. Няхай жыве Кастрычнік у мастацтве“. Такім чынам тут быў прыняты даволі выразны дакумант, але... гэты дакумант быў падпісаны толькі 15 чалавекамі з агульнага ліку супрацоўнікаў тэатра каля 100 чалавек, пры гэтым і ў ліку 15 падпісаўшых пастанову, актораў было вельмі мала.

Яшчэ адзін прыклад характарызуе настроі тагачаснага акторскага калектыва. Аўтару гэтых матэрыялаў у парадку папярэдняе распрацоўкі матэрыялаў да нарады па пытаннях тэатра пры культпропе ЦК ВКП(б) прыйшлося праводзіць сход актораў тэатра. Ход абгаварэння самых гострых пытанняў совецкага тэатра паказаў, наколькі далёкім быў ад гэтых задач акторскі калектыў, мастацкае і адміністрацыйнае кіраўніцтва. Усе выступленні ў час гэтага сходу можна звесці да наступных асноўных палажэнняў: 1) тэатр стаіць на абсалютна правільных пазіцыях, 2) разрыў тэатра з гледачом атрымліваецца таму, што ён, гледач, не дарос да ўспрыймання высокага мастацтва МХАТ'а і, што тэатр не мае права спушчацца да гэтага малакультурнага гледача, а глядач няхай сам дарастае да тэатра, 3) тэатр ні ў чым не вінаваты ў выбары рэпертуара, што на такі выбар, які быў

у тэатры, зрабіў уплыў нізкі ўзровень совецкае драматургіі, якая да гэтага часу адстае ад тэатра. На пастаўленае пытанне, чаму тэатр, правільней студыя, не спыніўся на рэволюцыйных узорах старое культурнае спадчыны, а выбіраў пераважна рэчы сімбалічнага альбо рамантычнага плана—быў атрыман такі-ж прымітыўны адказ, што нібы абраныя студыяй драматычныя творы давалі шырокі прастор для акторскага развіцця, чаго не магла даць рэволюцыйная, нават класічная, драматургія. На гэтым-жа сходзе выявіўся вельмі цікавы прыклад змыкання беларускай нацдэмаўшчыны з велікадзяржаўніцтвам. Дырэктар тэатра, вядомы нацыяналіст-чорнасоценец Красінскі выступіў і апляваў усю совецкую драматургію, якая к таму часу мела ўжо шэраг буйных дасягненняў, у прыватнасці ў рускай совецкай драматургіі, але Красінскі адносіў да буйных дасягненняў п'есу Булгакава „Дни Турбиных", ставячы яе вельмі высока, не гледзячы на тое, што гэты твор Булгакава быў прасякнуты ў вельмі моцнай меры велікадзяржаўніцтвам, а таксама паказаў як на ўзор высокага мастацтва славутую „Зойкину квартиру".

Для тэатра вельмі важным было пытанне яго мастацкага напрамку. Калі гэтае пытанне ставілася перад тэатрам, дык звычайна атрымліваўся адказ, што тэатр сваім мастацкім кірункам абраў стыль так званага ўмоўнага рэалізма. Не ўваходзячы тут у абгаварэнне самога разумення „ўмоўны рэалізм", якое можа выклікаць шэраг спрэчных пытанняў, можна толькі адзначыць, што на гэтым этапе развіцця тэатра цяжка было знайсці ў яго працах нават гэты „ўмоўны" рэалізм. Уся рэпертуарная лінія рашуча супярэчыла якому-б там не было рэалізму, нават у разуменні рэалізма тагачасным мастацкім кіраўніцтвам тэатра.

Першы сезон працы тэатра характэрны таксама і сваёй творчай бясплоднасцю. За ўвесь год тэатр не толькі не зрабіў ні воднае новае працы, але нават не распачаў яе, топчучыся на месцы і абсмоктваючы дзесяты раз свае папярэднія студыйныя працы і, такім чынам, дэманстрацыйна не згаджаючыся з тымі заўвагамі, якія рабіліся наконт работы тэатра пролетарскай грамадскасцю і рабочым гледачом. Усяго, што і было зроблена—гэта скочана афармленне некаторых неафармленых у студыі прац.

Паўстае пытанне, як-жа адносілася пролетарская грамадскасць да такое яўна непрыемлемай лініі тэатра? Яна з самага пачатку працы тэатра рэагавала праз прэсу, праз агульныя сходы, праз, нарэшце, просты байкот паасобных пастановак тэатра („Эрос і Псіха" была знята з прычыны адсутнасці гледача, тое-ж здарылася з „Бакханкамі" Эўрыпіда). Але пролетарская грамадскасць вельмі чула і ўважліва адносілася да маладога тэатральнага калектыва, разлічваючы на тое, што ён сам уразумее свае памылкі. Адносіны такія да тэатра—вельмі яскравы прыклад адносін пролетарскае грамадскасці да культурных каштоўнасцей. Аднак, як ужо было сказана, тэатр не звяртаў увагі на сігналы пролетарскае грамадскасці, знаходзячы падмацаванне сваёй лініі ў тагачаснага контррэволюцыйнага, нацдэмаўскага кіраўніцтва Наркамасветы, штаба нацдэмаўшчыны—інстытута беларускае культуры. Уважлівыя адносіны да тэатра з боку пролетарскае грамадскасці тэатральны калектыў і яго кіраўніцтва разглядалі, як нейкую ўступку ўстаноўкам тэатра і працягвалі сваю ранейшую лінію.

Так скончыў першы сезон свае працы Беларускі другі дзяржаўны тэатр.

Другі сезон свае працы БДТ2 распачаў у Менску. Перад пачаткам сезона тэатр абвясціў спіс свайго рэпертуара. У гэтым спісе, акрамя паказаных у Віцебску п'ес („Цар Максімільян", „Сон у летнюю ноч" Шэкспіра, „У мінулы час" Бэна, „Астап" Глобы, „Эрос і Псіха" Жулаўскага, „Бакханкі" Эўрыпіда, вечар студыйных практыковак—„Чорт і баба", „Цырульнік з Берыага", „Гавань"), былі абвешчаны „Каля тэрасы" Грамыкі, „Апраметная" Шашалевіча, „Воўк" Грамыкі, „Гайавата" Н. Агнёва, „Мушка-зелянушка і камарык—насаты тварык" М. Міцкевіча, „Анжэлье, тыран падуанскі" В. Гюго, а таксама два зборныя вечары—вечар беларускае камедыі, у склад якога павінны былі ўвайсці „Пінская шляхта" Дунін Марцінкевіча, „Модны шляхцюк" К. Каганца, „Чорт і баба" Аляхновіча і „Казка пра Робін Гуда" Заяцкага, і веч р замежнае літаратуры, у склад якога павінны былі ўвайсці „Гавань" па Мапасану, „Цырульнік з Берыага" М. Мэйля, „Два балбатуны" Сервантэса і „Пільны вартаўнік" яго-ж. Гэтая праграма паказаў тэатра ў другім сезоне яго працы разам з тым была праграмай творчае і ідэалагічнае лініі тэатра і азначала, што тэатр зусім не збіраецца мяняць сваіх ранейшых пазіцый, ігнаруючы ўсе пажаданні пралетарскае грамадскасці наконт працы тэатра ў Віцебску.

У адпаведнасці з такімі ўстаноўкамі тэатра быў выбраны і першы паказ для адчынення сезона ў пролетарскай сталіцы, а іменна „Апраметная" В. Шашалевіча ў сцэнічнай апрацоўцы М. Міцкевіча.

Гэтая работа была нібы дэкларацыяй ідэйнага і мастацкага парадку тэатра перад пачаткам другога сезона яго працы. Што-ж уяўляла сабою гэтая дэкларатыўная работа?

„Апраметная", як гэта азначалася ў папярэдніх тлумачэннях кіраўніцтва тэатра, азначае падземнае царства. Уся п'еса была напісана ў стылі псеўда - казкі, была перапоўнена алегорыямі і сімволікай і, паводле тых-жа тлумачэнняў тэатра, павінна была паказаць адвечнае змаганне беларускага сялянства з панскім і баярскім уціскам, як соцыяльным, так і нацыянальным. Беларусь у п'есе была выведзена ў вобразе Аленкі, якую захапіў злы чараўнік, заваражыў і кінуў у адвечны сон. Аленку вызваляюць нейкія „без чына і звання" людзі. Так тлумачыўся змест гэтай новай пастаноўкі тагачаснымі кіраўнікамі тэатра. А што-ж азначала гэтая п'еса на самой справе? Заместа адказу падаем некалькі ўрыўкаў з апалагетыкі беларускага нацыяналізма на тэатры, каб без асабліва доўгіх тлумачэнняў паказаць, што на самай справе азначаў гэты паказ.

Старац. Добра баіць байку казку бай. Ой, ды ўсё гукаець, сэрцайкам зайграй... Так гукаў ён байку, пакуль век ішоў... Так гукаў другую, пакуль не зышоў... Дык вось: ці ведаеце вы, што з нашае краіны прапала дзеўчынка Аленка... Прыгожая, белая, белая, румяная, румяная. А з гэтай самай прыгожай дзеўчынкай хацеў пабрацца Янка, але ўжо перад самым вяселлем прапала яна. Янка бядак ледзь не звяр'яцеў; усё ходзіць па свеце ды шукае яе. А Аленкі як няма, так няма... У якімсьці царстве, у якімсьці гаспадарстве жыў сабе вядзьмак, а надумаў ён так: абярнуся я старцам, пайду па свеце жабраваць, слёзы людзей збіраць. Буду над слязмі я варажыць, буду земчуг са слёзаў рабіць. Збудаваў ён сабе харомы, хто паглядзіць—у вачах рабіць. А толькі ў харомах яму не спіцца, не ляжыцца. Не есца, не п'ецца, быццам чуе ён з-пад зямлі голас і плач вялікі. Клікнуў вядзьмак Апраметную. І гэтакую раду дала яму Апраметная: тамака і тамака жыве-цвіце дзяўчынка, як журавінка, а завуць яе Аленка. І калі гэта Аленка будзе яму жонка, тады і душу яго яна супакоіць. А каб Аленку ўкрасці, трэба закляцце сказаць, каб паснула

старонка, дзе жыла Аленка. Паслухаўся вядзьмак, надзеў рыззя, быццам жабрак, ізноў па белу свету пайшоў“.

Гэтае прадслоўе папярэджвае далейшае развіццё падзеяў у п‘есе. Сюжэт п‘есы далей развіваецца наступным чынам: У лесе ідзе шабаш ведзьмаў; малыя дзеці Паўлючок і Ганулька заблудзілі ў лесе. Вядзьмак прапануе дзецям сваю дапамогу, каб дзецям выйсці з лесу, а каб гэта зрабіць, іх неабходна абярнуць у сабак. Вядзьмак робіць з дзяцей сабак і забараняе ім наперад гаварыць на роднай мове, прымушае гаварыць па сабачаму: „Кладу вялікі запрэт, не гаварыць трыста лет у роднай мове ні воднага слова. Запамятаваць мусіце тую старонку, што Бацькаўшчынай звалі раней, дзе елі, дзе пілі дзе з роднай маткаю жылі. Язык чалавечы бяру і даю вам сабачы,—выйце, брашыце—ніхто не ўчуе“. Аленка ўжо палонена жабраком, яна чуе плач дзяцей, хоча ўцякаць і ім таксама прапануе ўцякаць разам з ёю ў родную старонку. Вядзьмак ловіць Аленку і пацяшае яе тым, што ён прывёў ёй яе землякоў. Гэта не задавальняе Аленку таксама, як і ўсе багацці, якія прапануе ёй вядзьмак. Тады вядзьмак зачароўвае Аленку і сон апавядае ёй, што будзе з яе старонкай“ і ты ўбачыш цяпер, як айчына твая ўся зальецца крывёю, як застогне народ ад вайны, як задавяць, заціснуць знішчаць яго і як ён абальецца слязмі. Ты ўбачыш, як бацьку твайго засякуць, як брата заб‘юць, як матка старэнька-сівенька па свеце пойдзе пабірацца. Будзеш бачыць усё, бачыць гэта ў сне і, сціснуўшы зубы, будзеш маўчаць і здрыгацца душою“. Тым часам Янка, кахaнак Аленкі, шукае яе, завё братоў, паведамляе ім, што здарылася з Аленкаю: „Пранесліся па вёсках чуткі, што скраў вядзьмак Аленку, замкнуў у сваіх палацах крышталёвых, а тых дзяцей, што раптам счэзлі, ён абярнуў у сабак і па-сабачаму брахаць прымусіў. А нашыя браты, якіх чакаем, нібы ў ведзьмака ў няволі апынуліся. Алену ўзяў—пасне цяпер краіна; дзяцей ён скраў—і мова родная чужою стаць цяпер павінна“. Янка з таварышамі разыходзяцца ва ўсе бакі: „усход, захад, поўдзень, поўнач“. Ведзьмы, занепакоеныя паходам Янкі, мітусяцца і рашаюць заблытаць іх.

Палацы ведзьмака. Нявольнікі працуюць на цяжкай працы, ствараючы багацці ведзьмаку. Усе яны браты і апавядаюць адзін другому, як яны папалі ў палон да ведзьмака, апавядае пра гэта і шосты брат. Янка набліжаецца да палацаў, ведзьмы непакояцца, нявольнікі-браты і кавалі дапамагаюць ведзьмам абараняцца ад Янкі. Пазней шосты брат пазнае Янку, але нявольнікі не могуць дапамагчы Янку, і яго заварожвае вядзьмак. Нявольнікі-браты і кавалі дапамагаюць ведзьмаку закаваць у кайданы Янку. Янка абяззброены, пераможаны. „Скончана змога цемры з святлом: Янка закуты, Алена ў сне, вядзьмак уладае сусветнай, дык адсвяткуем мы тут усе наша ўладарства на гэтай зямлі“,—кажа адно з чарцянят падземнага царства. Чорная Лялея закахалася ў Янку, яна прапануе яму сваё каханне. Янка адмаўляецца, ён жадае быць чалавекам: „Няма розніцы ў тым, хто кат, хто ўладар. Чалавекам я быў і ім застануся, кажа ён. Аднак Чорная Лялея вызваляе Янку з путаў. Янка вызваляе дзяцей. Яны пачынаюць гаварыць па-чалавечы, абуджае Аленку-старонку: „Узбудзіся, Алёнка, узбудзіся старонка“. Вызваліўшы ўсіх, Янка абвяшчае, так сказаць, праграму свае далейшай дзейнасці: „За тучамі, за хмарамі месяц не ўзыходзіць, за сіламі, за цёмнымі краса гіне. Хапай мячы і зброю,—мы вызваленне панясем. Дагэтуль хто ў няволі, мы волю панясем. А сонцу, месяцу і зорам праз хмары шлях праб‘ем. Мы з нашае старонкі ўсе знішчым сілы цёмныя, і прыйдзе

брацік да сястрыцы краснаю зарыцай". Вядзьмак у паніцы. Апраметная і ўсе цёмныя сілы наладжваюць пагоню за Янкам, Аленкай дзецьмі і ўсімі вызваленымі. Аленка марыць аб волі, Янка аб каханні. Цёмныя сілы Апраметнай і ведзьмака даганяюць Янку, адбываецца бойка, Янка перамагае, сілы Апраметнай разгромлены. Начынаецца сяўба.

Мы назнарок даволі падрабязна спыніліся на гэтай п'есе, бо, як ужо было сказана, яна была праграмай новага творчага году тэатра. Больш таго. З гэтага кароткага зместу гэтае п'есы зусім акрэслена відаць, што па сутнасці гэта была праграма ўсёй беларускай інтэрвенцыянісцкай контррэволюцыі, бо хіба-ж спроба трактоўкі гісторыі Беларусі і яе вызвалення не падобна на трактоўку гэтае гісторыі агентам замежнае контрразведкі, ідэолагам беларускага шавінізма Ігнатоўскім. Хіба гэта ўсё не падобна на паклёпы беларускае белагвардзейшчыны на ролю комуністычнай партыі ў вызваленні і стварэнні БССР. Нарэшце, хіба тут няма пэўнай арыентоўкі на фашысцкую Польшчу і паказ яе як адзінае сілы, якая нібы вызваляе беларускі народ ад уціску маскалёў (роль Чорнае Лялеі і Ведзьмака). З усяго гэтага твора нясе звярынай нянавісцю да ўсяго рускага, бо, кажучы пра нацыянальны ўціск беларусаў у час царызма, у п'есе няма ні воднага слова пра ролю рускіх працоўных мас у справе нацыянальнага вызвалення Беларусі. Уся гэтая контррэволюцыйная брахня была лоўка замаскавана ўсякай чартаўшчынай, што рабіла не зусім зразумелай гэтую пастаноўку тэатра шырокім масам працоўнага гледача, які, безумоўна, адразу выкрыў-бы контррэволюцыйную сутнасць гэтага пахабнага нацыяналістычнага выбрыка тэатра. Лоўкая маскіроўка аднак не перашкаджала ўспрыйманню гэтай, з прабачэння сказаць, філасофіі нацыяналістычна настроенымі элементамі беларускае інтэлігенцыі.

Зразумела, што пролетарская грамадскасць Менска сустрэла з абурэннем гэты яўна варожы выпад тэатра. Яна, пролетарская грамдскасць, не магла надалей цярпець такога становішча, калі мастацкая ўстанова, створаная на працоўныя рублі, рабіла па сутнасці контррэволюцыйную справу. На другі-ж дзень пасля прэм'еры „Апраметнай" з'явіўся шэраг рэцэнзій, у якіх хаця і далікатна, але правільна паказвалася сутнасць гэтай пастаноўкі тэатра. „Звязда" ў рэцэнзіі Ул. Ліліна пісала: „Пастаноўка „Апраметнай" не можа быць ні чым апраўдана. Безумоўна, што першы спектакль тэатра, што тая п'еса, якая ідзе на адчыненне сезона, мае задачай паказаць твар тэатра" *). І „Рабочий" змясціў рэзка-адмоўную рэцэнзію В. Вольскага пад назвай „Васильковая мистика". У рэцэнзіі пісалася: „Не слишком-ли большую смелость взяли на себя автор и режиссер, искажая историческую и классовую перспективу" **).

Пастаноўка „Апраметнай" на другі-ж дзень была знята. Гэта аднак не перашкодзіла тэатру, пры дапамозе тагачаснага наркома асветы контррэволюцыянера Баліцкага, захоўваць пастаноўку яшчэ звыш паўгода. Баліцкі лічыў гэты спектакль зусім прыемлемым, але не зусім даступным масаваму гледачу.

Так распачаў сваю працу БДТ2 у другім сезоне.

Пасля „Апраметнай" былі паказаны ранейшыя пастаноўкі тэатра „Сон у летнюю ноч", „У мінулы час", „Цар Максімільян" і „Астап", прынятыя больш спрыяльна пролетарскай грамадскасцю, якая ўсё-ж пасля кожнага спектакля папярэджвала тэатр у небяспецы занятай тэатрам рэпертуарнай і творчай лініі.

*) „Звязда", 1927, № 239 (2749), 19 кастр.
**) „Рабочий", 1927, № 66, 19 кастр.

Адначасна тэатр распачаў працу над п'есай М. Грамыкі „Каля тэрасы“. Як дэкляравалася аўтарам і тэатрам, п'еса павінна была даць характарыстыку кастрычніцкіх дзён на Беларусі. У маёнтку пана Барановіча ўсе ўстрывожаны падзеямі апошняга часу. Вярнуўся дадому сын Барановіча Мікола, афіцэр, які ненавідзіць усё рэволюцыйнае. Другі сын Барановіча Генадзі—чалавек „не от мира сего“, вывучае гісторыю французскае рэволюцыі і аб нечым марыць. З Генадзія ўвесь час смяецца яго брат Мікола. Дачка Барановіча—ліберальна настроеная, крыху экзальтаваная паненка, поўная працівалегласць свайму брату Міколу,—яна спачувальна адносіцца да сялян і ў прыватнасці да сялянскае дзяўчыны Тацьяны, якую спакушае яе брат. У вёску, што недалёка ад панскага двара, вярнуліся з фронта матрос з „Аўроры“ Барыка і салдат Сысой. Матрос Барыка, заместа таго, каб пачаць арганізацыю сялянства на змаганне з контррэволюцыяй, як гэта было ў сапраўднасці, пачынае заляцацца да дачкі пана Барановіча Манюні. Манюні ён таксама да спадобы. Навакол Міколы пачынаюць групіравацца контррэволюцыйныя сілы. Спакушаная Міколам Тацьяна канчае самагубствам. Гэта і служыць сігналам да нападу на тэрасу. Паны абяззброены, арыштаваны, Мікола забіты. Але... з горада прыязджае брат Барановіча, які і вызваляе ўсіх, бо яго чамусьці слухае рэволюцыянер Барыка. Філасофія ўсяе гэтае рэчы відаць з апошніх рэплік некаторых дзейных асоб: Матруна (сялянка): „А шкада яго, хоць і пан. Да такога палажэння дайці“. Станіслаў (паводле п'есы большэвік): „Таварышы. З прычыны радаснай весткі аб поўнай перамозе пролетарскай рэволюцыі, абвяшчаю амністыю ўсім тут (азірнуўшыся) прысутным“ (на сцэне прысутнічаюць: брат Барановіча, Манюня, жонка доктара, сам Барановіч, афіцэр-камандзір атрада тэкінцаў, Вася-сын папа, камандзір ударнага батальёна; поп Іоана, Гэнадзі). Што-ж збіраецца перамогшы пролетарыят і сялянства рабіць з сваімі класавымі ворагамі. Слухайце“.

Галасы (сялян): Ён добры.—Вучыцелем будзе.—А што-ж, хай.—Гэта пра Генадзія.

Станіслаў. А дзе-ж таварышка (падкрэслена мною—*А. Н.*) Манюня? (Манюня ў гэты час іграе гучны марш перамогі).

І, нарэшце, фінал:

Манюня. Што, таварыш Барыка?

Барыка. Скончана. Замарыўся да смерці, але добра.

Манюня. Добра, таварыш Барыка.

Барыка. Не магу болей. Люблю цябе, люблю.

Манюня. Не так моцна, таварыш.

Барыка. Мая галубанька.

Манюня. Мой балтыец, цалуй.

Барыка. Хваля мая, „Аўрора“ мая. (Нясе Манюню ў сад. З дома чуваць „урра“. Гімн)*).

Такая „філасофія“ Кастрычніка паводле нацдэма Грамыкі. Спыняцца на яе крытыцы проста не варта, сутнасць яе відаць кожнаму. Адзначым толькі банальны тон усёй гэтай п'есы. Тым не менш яна гэтая п'еса нацдэмаўскім кіраўніцтвам тэатра і НКА была ўзнята на шчыт і была расцэнена, як пераключэнне тэатра на сучасную тэматыку. Праўда, у тэатры пры пастаноўцы некаторыя часткі п'есы, якія найбольш выразна кідаліся ў вочы, былі выпраўлены, ад чаго сутнасць Грамыкавай філасофіі не змянілася.

---

*) М. Грамыка. „Каля тэрасы“, драма ў 4-х дзеях з часоў 1917 году. БДВ, 1929, ст. 59.

Навакол гэтае пастаноўкі разгарэліся надзвычайна вялікія спрэчкі. „Каля тэрасы“ была першай пастаноўкай тэатра пасля яго арганізацыі з студыі, і калі на папрокі ранейшага парадку тэатр знаходзіў апраўданне, што гэта пастаноўкі чыста вучэбныя, што патрабаваць ад іх таго, каб яны былі вытрыманымі, нельга, бо студыя кіравалася ў першую чаргу нібы падборам такога рэпертуара, які-б даваў вялікія магчымасці актору—дык зараз гэтае апраўданне адпала. Таму зразумела, што пролетарская грамадскасць аднеслася да новай пастаноўкі тэатра больш крытычна, чым раней яна адносілася, робячы нейкую скідку на маладосць тэатра. Амаль усе рэцэнзіі на гэтую пастаноўку тэатра былі выразна адмоўныя. „Звязда“ змясціла рэцэнзію Л. пад назвай „Каля тэрасы, ці на тэрасе“, у якой рэзка-адмоўна расцэньвалася новая пастаноўка тэатра. „Чырвоная змена“ змясціла такую-ж адмоўную рэцэнзію М. Таўбе пад назвай „Крупіцца, а што далей“. Такой-жа адмоўнай была і рэцэнзія ў „Рабочим“ В. Вольскага. І толькі Тодар Глыбоцкі ў „Савецкай Беларусі“ расцаніў гэтую пастаноўку тэатра станоўча. Ён пісаў: „Наогул-жа пастаноўка „Каля тэрасы“ пакідае самае найлепшае ўражанне на гледача і з'яўляецца, на наш погляд, адным з багацейшых укладаў у скарбніцу беларускага тэатра“. Мы пазней пабачым, што азначаў сабою „наш погляд“ Тодара Глыбоцкага. Нейкі А. В. у той-жа „Савецкай Беларусі“ стараўся апраўдаць тэатр за пастаноўку „Каля тэрасы“ нават спасылкамі на ўражанні замежных рабочых дэлегацый, дыскрэдытуючы ўвагуле ўсю тэатральную крытыку. І гэта зразумела. Надыходзілі рашаючыя баі за тэатр, павінна было вырашыцца пытанне аб тым, чыім будзе гэты малады тэатральны калектыў. Контррэволюцыйная нацдэмаўшчына бачыла, што пролетарская грамадскасць не пацерпіць надалей такога становішча, якое склалася ў тэатры, і таму паставіла сваёй задачай скампраметаваць правільныя заўвагі нашага друку наконт працы тэатра і памылковасці таго шляха, па якім ён ішоў. Выходным пунктам для свае атакі нацдэмы абралі газету „Савецкая Беларусь“. Неўзабаве пасля змяшчэння ў друку адмоўных рэцэнзій на пастаноўку БДТ2 „Каля тэрасы“ ў „Савецкай Беларусі“ з'явіўся „Ліст у рэдакцыю“, падпісаны вядомымі пролетарскай грамадскасці контррэволюцыйнымі „беларускімі дзеячамі“ Ластоўскім, І. Цвікевічам, Ал. Адамовічам і некаторымі пісьменнікамі. Гэтым сваім лістом падпісаўшыя паставілі за задачу дыскрэдытаваць пролетарскі друк на чале з „Звяздою“ з тым, каб абараніць нацдэмаўскія пазіцыі на тэатры і ў прыватнасці ў БДТ2. Яны пісалі: „Паважаны таварыш рэдактар. Просім змясціць у вашай газеце наступнае:

Навакол працы БДТ2 за апошні час у значнай меры стварылася нездаровая атмасфера. Малады беларускі тэатр на першых кроках сваёй дзейнасці спаткаў цэлы шэраг нападак і паклёпаў, якія спачатку не маглі мець пад сабою пэўную падставу. Сапраўды БДАТ2 сваімі першымі пастаноўкамі ў Менску мог зрабіць не зусім добрае ўражанне, як на выпадковых гледачоў, так і на сталых прыхільнікаў Беларускага тэатра.

Пасля пастаноўкі „Каля тэрасы“, *якая з'яўляецца адною з грунтоўнейшых пастановак Беларускага тэатра* (падкр. мною—*А. Н.*), адносіны да БДАТ2 прымаюць ужо характар не здаровай крытыкі, накіраванай да папраўлення паасобных памылак тэатра, а да *сістэматычнага і зламыснага нацягвання фактаў* (падкр. аўтарамі ліста—*А. Н.*), якое мае на мэце паўнейшае „уничтожение“ БДТА2. Не ўваходзячы тут у разгляд ганебнай рэцэнзіі нейкага Л. у № 278 „Звязды“ і зусім недарэчнай дзіцячай заметкі Таўбе

ў „Чырвонай змене“, мы толькі падкрэсліваем, што гэтыя рэцэнзіі маюць характар зусім асабовы, пабудаваны на нейкіх індывідуальных меркаваннях, і ў значнай меры асвятляюць маральны і разумовы твар іх аўтараў у неспрыяючы для іх бок.

Мы лічым, што для таго, каб больш грунтоўна высветліць гэтыя факты, варта і неабходна ў самы бліжэйшы час наладзіць дыспут наконт апошняй пастаноўкі БДАТ2, чым павінен быў-бы заняцца хаця-б саюз працаўнікоў мастацтва БССР“.

Апелюючы да „грамадскасці“, аўтары аднак пралічыліся. Сапраўдная пролетарская грамадскасць не толькі асудзіла пастаноўку тэатра, але асудзіла і выявіла сапраўдны твар аўтараў ліста.

Яшчэ адна асаблівасць выявілася ў БДАТ2 пры пастаноўцы „Каля тэрасы“. Як-бы там не было, а „Каля тэрасы“ была амаль першай пастаноўкай тэатра, калі не лічыць „Астапа“, у якой актор тэатра павінен быў выконваць ролі сучасных людзей. І тут зусім выразна дала сябе адчуць парочнасць сістэмы выхавання тэатра: пры добрай сыгранасці ансамбля паасобныя ролі вяліся вельмі слаба, зразу адчувалася тое, што актор не падрыхтаваны да працы над ролямі рэальных людзей. Праўда тут выявілася і слабасць аўтарскай абмалёўкі персанажаў п‘есы.

Такая была другая праца тэатра, паказаная ў Менску.

Той дружны адпор, які дала пролетарская грамадскасць нацыяналістычна-буржуазным тэндэнцыям у гэтым тэатры, аднак нічаму не навучыла яго, за выключэннем хіба толькі ўменню яшчэ больш лоўка маскавацца пад маркай таго, што няма адпаведнага рэпертуара, што было абсалютна няверна, бо ў гэты час у звязку з 10-ай гадавінай Кастрычніцкай рэволюцыі ў совецкай драматургіі з‘явіўся шэраг рэчаў, якія ўвайшлі ў жалезны фонд совецкае драматургіі. Тэатр пачаў працу над вечарам беларускае камедыі, уключыўшы ў яго „Пінскую шляхту“ Дунін-Марцінкевіча, „Модны шляхцюк“ Каганца і пастаўлены яшчэ ў студыі „Чорт і баба“ Аляхновіча. Аднак гэты „вечар“ прайшоў зусім непрыкметна, ніякага зруху тэатра наперад з гэтым спектаклем не адбылося. Разрыў паміж тэатрам і працоўным гледачом толькі паглыбіўся. Тэатр прыйшоў у тупік. У самым тэатры пачынае нарастаць незадавальненне лініяй тэатра. Шмат хто з акторскага калектыва пачынае разумець памылковасць лініі тэатра і яго кіраўніцтва, разумець тое, што пры такім становішчы рэчаў тэатр ахвяраваны на бясплоднасць.

Пролетарская грамадскацць таксама зразумела, што паміж лініяй студыі і працай тэатра існуе простая сувязь і што спасылкі тэатра на тое, што нібы студыйны рэпертуар дапамагаў акторскай вучобе— ёсць простая спасылка, якая маскавала сапраўднае становішча рэчаў.

Неабходны былі рашучыя захады па аздараўленню гэтага маладога тэатральнага калектыва.

---

В. ВОЛЬСКІ

# СУПРОЦЬ ВУЛЬГАРЫЗАТАРСТВА, ПРЫШЫВАННЯ ЯРЛЫКОЎ І ШКОДНАГА ПУСТАЗВОНСТВА

У часопісі „Полымя рэволюцыі“ № 3 за 1934 г. змешчаны артыкул А. Усса „Супроць нацдэмаўшчыны і фармалізма ў беларускім выяўленчым мастацтве“.

Назва артыкула вельмі адказная. Яна шмат да чаго абавязвае аўтара. Паводле гэтай назвы можна было-б чакаць ад аўтара грунтоўнага і дасканалага раскрыцця соцыяльнай і палітычнай сутнасці нацыянал-дэмакратызма на канкрэтным, прадуманым аналізе асобных твораў і тэарэтычных выказванняў ідэолагаў нацдэмаўшчыны ў мастацтве. На справе ў артыкуле гэтага няма. Артыкул Усса пабудаваны на выпадковым, часам зусім не характэрным матэрыяле, падбор якога сведчыць аб слабым знаёмстве аўтара з беларускім мастацтвам. Гэты матэрыял разгледжан аўтарам надзвычай павярхоўна і лёгкаважна. Разгляд яго носіць у асобных выпадках зусім недапушчальны характар суб'ектыўнай тэндэнцыйнасці і староніх меркаванняў, не маючых дачынення да тэмы.

Да ацэнкі нацыянал-дэмакратызма ў выяўленчым мастацтве аўтар падышоў з фармальных пазіцый. Ён лічыць, што беларускі нацыянал-дэмакратызм „гэта той-жа самы рэтраспектывізм, якім жылі і дыхалі буржуазныя мастакі эпохі імперыялізма. Гэта вышукі соцыяльных пунктаў апоры ў мінулым, імкненне вярнуцца хоць у марах (курсіў мой—*В. В.*) да часоў распаду феадалізма і нараджэння буржуазнага грамадства. Гэта імкненне да мінулага, да дзён буржуазнага росквіту—характэрна для ідэйна спустошанай атмасферы эпохі гніючага капіталізма. Вось таму і беларускія нацдэмаўскія тэарэтыкі завуць назад мастакоў, цягнуць іх у мінуўшчыну, у прошлае, ідэалізуюць стары гнілы быт беларускага кулацтва, беларускай патрыархальшчыны“. Крыху раней Усс сцвярджае, што барацьба з нацыянал-дэмакратызмам у мастацтве гэта „барацьба паміж рэалістамі і фармалістамі“.

Гэтымі выказваннямі Усс цалкам змазвае і замоўчвае баявую палітычную накіраванасць нацыянал-дэмакратызма.

Сутнасць і карэнні нацыянал-дэмакратызма ў беларускім мастацтве Усс бачыць толькі ва ўплывах рускага буржуазнага дэкадэнства, сімвалізма і рэтраспектывізма.

Паводле Усса выходзіць, што калі-б не гэтыя ўплывы з боку рускага рэакцыйнага буржуазнага мастацтва, дык мы напэўна і не сустракаліся-б з нацдэмаўскімі праявамі ў творах асобных беларускіх мастакоў.

Паводле Усса нацыянал-дэмакратызм не больш, як бязвіннае буржуазна-ідэалістычнае эстэцкае захапленне рамантыкай мінулага. У супярэчнасці з прыведзенай вышэй цытатай (адносна імкнення „да дзён буржуазнага росквіту“) ён падкрэслівае далей у якасці асноўнай (на іншых ён не лічыць патрэбным спыніцца) рысы нацыянал-дэмакратызма яго замілаванне да рамантыкі сярэднявечча, захапленне (напр.

у графіцы Мініна) „папскім рэакцыйным барокко“, „рыцарствам са сваімі атрыбутамі і сярэдневяковым спратам“ і г. д.

Гэтым Усс імкнецца падфарбаваць нацыянал-дэмакратызм у мастацтве, прыгладзіць, затушаваць яго палітычнае вастрыё і мэтаімкнёнасць.

У праявах нацдэмаўшчыны ў мастацтве Усс бачыць толькі фармалістычна-эстэцкае паэтычнае імкненне „злучыць белую лілію з розай“, цытуючы для падмацавання гэтай думкі верш Вл. Салаўёва:

Пойте про ярые грозы,
В ярой грозе мы покой обретаем..
Белую лилию с розой
С алой розой мы сочетаем...

Між тым, ён мог-бы пры жаданні знайсці палітычную ацэнку гэтых захапленняў у маім артыкуле „Аб рэцыдывах нацыянал-дэмакратызма ў творчасці мастака Мініна“ *) таксама, як ён знайшоў у ім і выкарыстаў фактычны матэрыял.

З поля зроку Усса цалкам выпала такая „дробязь“, як вызначэнне палітычных мэт нацыянал-дэмакратызма.

Усс не лічыў патрэбным спыніцца на тым факце, што дзейнасць нацыянал-дэмакратаў, ідэолагаў беларускай буржуазіі і кулацтва была накіравана на падрыхтоўку імперыялістычнай інтэрвенцыі, на падрыхтоўку штучнага адрыву БССР ад Савецкага саюза, на падрыхтоўку рэстаўрацыі капіталізма.

Толькі ў такім адзіна правільным разрэзе, толькі пад такім кутом гледжання можна падыходзіць да разгляду і вывучэння праяў нацыянал-дэмакратызма ў мастацтве. Шкодніцкая дзейнасць нацыянал-демакратаў—агентуры замежнага фашызма, як у галіне эканомікі (прышчэпаўская хутарызацыя), так і на культурным фронце была цалкам і безагаворачна падпарадкавана адзначаным вышэй палітычным мэтам. Толькі ў такім аспекце можна ўскрыць да канца сапраўдную сутнасць „самабытніцкіх“ тэорый нацдэмаў.

Ідэалізацыя мінулага была патрэбна нацдэмам, як сродак класавай барацьбы. Яна была ім патрэбна далёка не ў мэтах „самоутешения“, далёка не ў мэтах пасіўных і бязвольных уцёкаў ад жорсткай і суровай для іх рэчаіснасці ў ілюзорны свет бязглебных мараў, як гэта імкнецца давесці Усс. Яна была ім патрэбна ў мэтах ідэалагічнага і гістарычнага абгрунтавання сваёй контррэволюцыйнай практыкі, у мэтах ідэйна-палітычнай апоры ў сваёй шалёнай і яраснай барацьбе супроць социялістычнага наступлення. „Тэорыя“ і практыка нацдэмаў у мастацтве з'яўлялася адным са сродкаў той барацьбы супроць дыктатуры пролетарыята, якую яны вялі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва і ў якой не спыняліся ні перад чым. Усе сродкі гэтай барацьбы былі для іх аднолькава патрэбныя.

Хто гэтага не разумее ў нацыянал-дэмакратызме, хто спрабуе змазаць і абыйсці гэту яго палітычную контррэволюцыйную сутнасць, той альбо нічога не разумее ў працэсах класавай барацьбы ў БССР і гэтым дэманструе сваю палітычную слепату і непісьменнасць, альбо сам свядома стаіць на буржуазна-нацыяналістычных пазіцыях, выступаючы ў ганебнай ролі няпрошанага адваката нацыяналістычнай контррэволюцыі.

Уссу няма ніякай справы да той арганічнай і неадрыўнай сувязі, якая існуе паміж канцэпцыямі нацыянал-дэмакратызма ў мастацтве і шкодніцкай контррэволюцыйнай практыкай нацдэмаў у іншых галінах культуры і эканомікі.

*) Часопісь „Мастацтва і рэволюцыя“ № 1 2 за 1933 г.

Замест належнай палітычна-класавай ацэнкі нацдэмаўшчыны ў мастацтве (яна з вычарпальнай поўнасцю дадзена ў адпаведных партыйных дакумантах), якой вымагае адказная тэма артыкула, Усс змазвае і абыходзіць інтэрвенцыянісцкую сутнасць канцэпцый нацыянал-дэмакратызма і гэтым аб'ектыўна дапамагае хаваць канцы ў ваду.

Замест таго, каб прадэманстраваць перад чытачом на аналізе канкрэтных твораў адзначаную вышэй сутнасць нацдэмаўскай дзейнасці ў мастацтве, Усс спяшаецца накіраваць агонь у супроцілеглы бок. Ён зблытвае факты, выкарыстоўваючы назву артыкула ў сваіх асабістых чыста суб'ектыўных мэтах. Так, напр., наперакор рэчаіснасці імкнецца ён правесці знак роўнасці паміж мною і вядомым нацдэмаўскім мастацтвазнаўцам Шчакаціхіным. Ён робіць гэта зусім беспадстаўна, спекулюючы на асобных, дапушчаных мною памылках, не маючых, да рэчы, адносін да беларускага мастацтва і цалкам ігнаруючых усе мае іншыя работы ў галіне мастацкай крытыкі, накіраваныя супроць нацыянал-дэмакратызма.

У нарысе пра некаторыя творы татарскага скульптара Байкеева (Ленінград—Эрмітаж) мною сапраўды былі дапушчаны вельмі грубыя памылкі буржуазна-аб'ектывісцкага і біялагічнага парадку, аб чым я пісаў ужо ў друку.

Гэтыя памылкі заключаліся ў тым, што да твораў Байкеева я падышоў выключна з біялагічнага боку, не даўшы разгляду іх у плане соцыяльнага аналіза. Пры гэтым я дапусціў асобныя няверныя вывады і фармулёўкі.

Цытуючы гэтыя асобныя памылкі і разглядаючы іх у абсалютным адрыве ад усёй маёй літаратурна-крытычнай і грамадска-палітычнай практыкі, Усс робіць спробу штучна залічыць мяне ў лік нацдэмаў, прыпісваючы мне вывады, прыцягнутыя ім самім і якія з'яўляюцца не больш, як плодам яго хваравітага, распаленага групавой раз'юшанасцю выабражэння. У прыватнасці ён робіць гэта, спекулюючы на тым палітычным разуменні слова „расы", якое надалі гэтаму ўмоўнаму антрапалагічнаму тэрміну фашысты.

Гаварыць аб тым, што рэакцыйныя нацдэмаўскія тэндэнцыі „ў выяўленчым беларускім мастацтве ў значнай ступені падтрымліваліся і абгрунтоўваліся буржуазнай расавай тэорыяй Віталія Вольскага", гаварыць пра наяўнасць „нацдэмаўскай тэорыі Шчакаціхіна і Вольскага", альбо рабіць мяне ідэолагам „імперыялістычнага ўціску над каланіяльнымі народамі (!)"—не толькі недобрасумленна, але і проста тупа.

Думаю, што мая шматгадовая дзейнасць, звязаная з барацьбой супроць нацдэмаўшчыны ў мастацтве наогул і ў тэатры ў прыватнасці, дае мне магчымасць спыніцца падрабязна на недарэчнасці беспадстаўных і хваравітых выдумак Усса, якімі ён толькі дэзарыентуе чытача і гэтым скажае і фальсіфікуе выкрыццё сапраўдных і паслядоўных праяў нацыянал-дэмакратызма ў выяўленчым мастацтве.

Ад рэдакцыі: Тав. Вольскі правільна паказвае рад недахопаў і памылковых месц у артыкуле тав. Усса. Так, напрыклад тав. Усс, гаворачы аб тым, што нацдэмы, апіраючыся на кулацтва, „Ставілі сваёй мэтай ствараць адзінуую буржуазную Беларусь, не падкрэслівае таго, што нацдэмы апіраліся яшчэ на замежную буржуазію і падрыхтоўвалі інтэрвенцыю, адрыў БССР ад Совецкага саюза. Часамі тав. Усс ацэньвае некаторыя факты з групавых пазіцый. Гэта адчув ецца, напрыклад, у тых месцах, дзе тав. Усс, адзначаючы паасобныя памылкі ў работах тав. Вольскага, ставіць яго ў адзін рад з контррэвалюцыянерам Шчакаціхіным. Аднак пры ўсіх гэтых недахопах і памылках тав. Усс у асноўным дае правільны аналіз класавава ворожых праяў у выяўленчым мастацтве. Адначасова рэдакцыя адзначае, што тон адказу тав. Вольскага не зусім спрыяе выпраўленню дапушчаных у артыкуле Усса і адзначаных вышэй рэдакцыяй няправільных палажэнняў.

# ЗА МЕЖАМІ*)

## Ліст да латвійскіх пісьменнікаў

Латвійская камісія міжнароднай арганізацыі рэволюцыйных пісьменнікаў разаслала ліст да ўсіх латвійскіх пісьменнікаў і работнікаў інтэлектуальнай працы. У гэтым лісце аналізуюцца палітычныя падзеі, што адбываюцца ва ўсім свеце, і пагроза фашызма, якая распаўсюджваецца на Прыбалтыку.

„Фашысцкая дыктатура, — гаворыцца ў гэтай адозве,—азначае аб'яднанне ўсіх найбольш рэакцыйных сіл для замагання супроць рабочага класа і соцыялізма, для змагання супроць усякага праграэса, які дагэтуль быў, для змагання за захаванне спосабамі самага жорсткага прымуса сістэмы капіталістычнай эксплаатацыі. Арышты, судовыя працэсы і праследванні, турмы, катаванні і забойствы, катарга, тапор ката і пятля - вось метады гэтай дыктатуры. У абавязак новаз'яўленых „рагаўнікоў“ капіталістычнага ладу ўваходзіць палітычная, соцыяльная і нацыянальная дэмагогія, культыванне найбольш варварскіх інстынктаў, вайны і рабавання ў інтарэсах прыгнёту і эксплаатацыі рабочага класа і каланіяльных і поўкаланіяльных народаў. Дыктатура фашызма азначае пагібель усякай незалежнасці, усякага развіцця і культуры.

Пісьменнікі і паэты!

Чаму гэтак рэдка з вашага асяроддзя падымаецца голас мастака супроць націска Гітлера на Балтыцкае ўзбярэжжа— вашу апаэтызаваную айчыну? Чаму вы ў сваіх вершах не выступаеце супроць дэмагагічных, захопніцкіх планаў нямецкіх фабрыкантаў, памешчыкаў і супроць тых, хто ліжа шпоры прыбалтыцкаму баронству, супроць фашызатараў Латвіі? Чаму ў вас не хапае смеласці паўстаць супроць розных выдаўцоў газет, супроць усякіх сумнай славы палітыкаў, былых у 1905 годзе здраднікамі рэволюцыянераў? Няўжо вам няма чаго сказаць супроць тых, хто, арганізуючыся пад кіраўніцтвам дзікай рэакцыі, якая лютуе ў Германіі, і балтыцкіх баронаў,—аддае цяпер у каланіяльнае рабства, якое рыхтуюць бароны, латвійскіх сялян беднякоў і рабочых для арганізацыі ў прыбалтыцкіх краінах плацдарма супроць будаўніцтва соцыялізма?

Фашысцкі ўрад Германіі на Лонданскай эканамічнай канферэнцыі адкрыта дэклараваў свае планы захопу новых тэрыторый і сваім выхадам з Лігі нацый дэманстраваў узброеную гатоўнасць да захопніцкай вайны. Захопніцкія планы германскага фашызма тычацца не толькі Польшчы і Украіны, але ў асаблівасці прыбалтыцкіх краін, каб пачаць такім чынам наступ супроць Совецкага саюза і супроць новага соцыялістычнага грамадскага ладу“.

Далей у лісце супроцьстаўляецца эканамічны і культурны росквіт Совецкага саюза заняпаду і загніванню капіталізма, работа совецкага пісьменніка і замежнага:

„Пісьменнікам Совецкага саюза ёсць пра што пісаць. У іх ёсць пэўная мэта, яны з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі будаўніцтва новага соцыялістычнага грамадства. Шмат якія творы рускіх, украінскіх, армянскіх, грузінскіх, татарскіх і пісьменнікаў іншых народаў СССР (М. Шолахаў, Л. Леонаў, В. Маякоўскі, А. Безыменскі, К. Федзін, Ф. Гладкоў, Б. Пільняк, Мікітэнка, Іван Ле, Марыэта Шагінян і інш.) за кароткі час занялі адно з першых месц у сусветнай літаратуры, не гледзячы на ўсе перашкоды, выстаўленыя супроць совецкай культуры.

Буйнейшыя сучасныя пісьменнікі Захада і ўсяго свету, не будучы комуністамі, становяцца на бок Совецкага саюза. Тэадор Драйзер, Дос-Пасос, Эптон Сінклер — у Амерыцы; Ромэн Ролан, Шарль Вільдрак, Андрэ Жыд, Жан Р.Блок, А. Мальро—у Францыі; Андэрсен Нексе— у Даніі і шмат іншых,—адкрыта, актыўна і мужна змагаюцца супроць вайны, супроць фашысцкіх зверстваў і агіднасцей, змагаюцца за абарону Совецкага саюза, які ажыццяўляе новы соцыялістычны лад.

Ці шмат знойдзецца сярод найбольш вядомых латвійскіх пісьменнікаў такіх, у каго хапіла б смеласці адкрыта выступіць супроць новых войн, супроць варварскага падняволення шырокіх народных пластоў? Няўжо нясмелая антываенная адозва, падпісаная летам 1932 г. Кур-

*) З часопісі „Інтэрнацыянальная літаратура“, № 1 за 1934 г.

цыем Розітсам, Упітсам і іншымі, з'явіцца адзінай нясмелай спробай загаварыць пра тое, пра што ўсе і ўсюды павінны крычаць і заклікаць? Няўжо ўзровень культурнай і грамадскай мужнасці ў пераважнай большасці латвійскіх пісьменнікаў можа быць такі нізкі, што яны нават у выпадку нездавальнення здольны толькі шаптаць пра яго па кутках, каб іх не пачуў ні грашовы туз, ні палітычны шантажыст, ні шпіон, ці правакатар? Няўжо гэта так?

Латвійскія пісьменнікі і паэты!

Кожны з вас бачыць, як рабочых за іх перакананні асуджаюць на катаргу і закоўваюць у кандалы за тое, што яны супроць ладу, які вядзе да пагібелі. Вам, рыцары слова і культуры, добра вядома, што рэакцыйнае варварства вырывае газеты, часопісі і кнігі рэвалюцыйных рабочых з друкарскіх машын, не гаворачы ўжо пра афіцыйныя канфіскацыі; не можа быць тайнай для вас, што пісьменнікі рабочага класа знаходзяцца або ў турме, або ў эміграцыі; не тайна для вас таксама той факт, што ў час паседжання сейма, у поўнач, шэсць рабочых дэпутатаў былі арыштаваны, збіты і кінуты ў турму. Калі-ж пра ўсё гэта вы маўчыце, дык ведайце, што нават найбольш сумленныя з вас заслугоўваюць абвінавачвання ў супольніцтве ва ўсіх гэтых подласцях!

Прыйшла, нарэшце, пара зразумець, што пісьменнік, які топчацца ў так званым балоце нейтральнасці і апалітычнасці, заўсёды становіцца зброяй рэакцыйнай буржуазіі ў змаганні супроць рабочага класа, супроць прагрэса і соцыялізма.

Вы, маладыя латвійскія пісьменнікі і паэты!

Вы, каторыя самі паходзіце з бядняцкіх пластоў сялянства і рабочых, каторыя толькі што ўступілі на літаратурную арэну,—для каго выкладаеце вы свае першыя, вострыя думкі і маладыя адчуванні?

Ведайце, што сваю маладую, якая нараджаецца, творчасць вы не павінны звязваць з класам і ладам, якія блізяцца да заняпаду. Гэтым самым вы зрабілі-б не толькі літаратурнае самагубства, але сталі-б у рады вашага класавага ворага, супроць вашых бацькоў, братоў і сясцёр. Якія матывы для вашай творчасці можа даць загніваючы капіталістычны лад? Спекуляцыя і рвацтва, эксплаатацыя, тэрор супроць бедных, падрыхтоўка да вайны,—ці не гэта вы хочаце ўсхваліць, ці не гэта вы хочаце культываваць? Відаць, што ўсё гэта вам праціўна, таму смутак па забыцці, па небыцці, таму кабацкая радасць і думкі пра самагубства сустракаюцца ў вашых вершах! Ці ўяўляеце вы сабе тое, што вашы творчыя ідэалы за апошнія гады ўсё больш хіляцца іменна да гэтых матываў? Ці падумалі вы аб прычынах?

Толькі ў рэвалюцыйнай грамадзе пісьменнік можа расці, удасканальвацца і стаць выразнікам і рухаючай сілай гэтага грамадства. Сучасны пісьменнік можа знайсці поўнацэнныя ідэі для сваёй творчасці толькі на фронце рэвалюцыйнай класавай барацьбы. Праца пісьменніка—гэта праца, якая стымулюе іператварае грамадства, гэта ёсць па сутнасці праца рэвалюцыйная. Рэвалюцыйны пісьменнік павінен пісаць супроць буржуазнай маны і фальшы. Рэвалюцыйны пісьменнік павінен паказаць сапраўдную структуру сучаснага жыцця і грамадства. Рэвалюцыйныя пісьменнікі пішуць праўду і такім чынам раскрываюць супярэчнасці капіталістычнага ладу, выяўляюць класавую барацьбу, заклікаюць да рэвалюцыйнага выхаду. Сапраўдная праўда—гэта праўда рэвалюцыйнага рабочага класа. Сродкі пісьменніка, ступень выразнасці яго творчасці, яго стыль залежаць ад таго, за што змагаецца пісьменнік. Толькі рэвалюцыйная ідэалогія можа даць літаратуры новыя сродкі выражэння. Раз няма новай мэты, за якую змагаешся, дык няма і новых сродкаў выражэння ў літаратуры!

Перспектывы рэвалюцыйнага пісьменніка шырокія, яны абдымаюць увесь свет. Вялікія задачы яго творчасці, высокія мэты. Праца сур'ёзнага пісьменніка не лёгкая праца. Гэта баявая работа, бо пісьменнік можа стаць пісьменнікам толькі ў змаганні за праўду. У каго няма мэты змагання, той не можа выпрацаваць свайго літаратурнага стылю і прыёмаў пісьма: як пісьменнік—ён чахне і памірае задоўга да сваёй фізічнай смерці.

Рэвалюцыйны пісьменнік не адзінокі ў сваім змаганні супроць варварства і за перамогу рэвалюцыйнай літаратуры і культуры. Напоперак усялякаму распальванню нацыянальнай варожасці і „тэорыі" расавай няроўнасці, напоперак зверству фашызма і здрадніцтву соцыялдэмакратаў рукі і думкі рэвалюцыйных дзеячоў культуры Польшчы, Чэха-Славакіі, Германіі, Францыі, Кітая, Японіі Амерыкі, Афрыкі і іншых краін і народаў працірающа насустрач пісьменнікам—змагарам Латвіі, Эстоніі, Літвы. Пролетарская літаратура народаў Савецкага саюза—магутная апора латвійскай рэвалюцыйнай літаратуры.

Латвійскія пісьменнікі і паэты, усе вы, і нейтральныя, і мяцежныя! Настаў час, калі трэба рашыцца! На чыім вы баку? Ці станеце вы ў адзін рад з Максімам Горкім, Ромэн-Роланам, Барбюсам, Андрэ Жыдам, Нексе, Драйзерам, Дос-Пасосамі і мноствам вашых калег у іншых краінах—ці вы намераны злучыцца з тымі, хто прыносіць шыбеніцу і свастыку, і лізаць тапор ката і шпоры юнкерства?

Сярэдзіны няма! Рашайцеся, за што і разам з кім вы будзеце змагацца, бо

пісьменнік можа быць толькі змагаром, і толькі змагар можа быць пісьменнікам!

Міжнароднае аб'яднанне рэволюцыйных пісьменнікаў—гэта арганізацыя, якая гуртуе прагрэсіўных пісменнікаў на ўсім земным шары. У гэту арганізацыю ўваходзяць не толькі комуністычныя пісьменнікі, а ўсе, хто не здаволен існуючым капіталістычным укладам, усе, хто ў сваёй творчасці, у жыцці змагаецца за лепшы, больш разумны грамадскі лад. Латвійская камісія міжнароднага аб'яднання рэволюцыйных пісьменнікаў запрашае вас, латвійскія пісьменнікі, паэты, мастакі,—станавіцеся ў сваім нездавальненні, у пошуках, у змаганні і рабоце на наш шлях, цясней змыкайцеся навокал нас і пісьменнікаў народаў СССР.

Цяперашнія дні—гэта гістарычныя дні! Рашайцеся!

Супроць фашызма—супроць вайны!

На абарону Совецкага саюза!

За брацкае рэволюцыйнае супрацоўніцтва пісьменнікаў усіх краін і нацыянальнасцей, у змаганні за новую культуру, за новыя творчыя шляхі, за новага соцыялістычнага чалавека, у міжнароднай салідарнасці нацый і рас!

Латвійская камісія міжнароднага аб'яднання пролетарскіх пісьменнікаў: Лінард Лайцэнс, П. Віксэ, Петр Кіктус, Анна Запроўская, К. Іокмус, Петр Свірс, А. Грантс.

Латвійскія пісьменнікі Масквы і Ленінграда: Судрабу-Эджус, І. Берзінь-Зіэмеліс, Віліс Дэрманіс, Р. Пельшэ, Віліс Кнорын, Павел Даўге, К. Пелекайс, Ал. Цэпліс, Э. Фрос, Ф. Дэменс, Сманіс Бергіс, Эд. Шылерс, К. Прыэднекс, П. Вейніс, Эд. Біройс, Эд. Саленіэкс, Я. Эйдук, Кадыкіс-Грозны, Д. Бурневіц, Е. Мізле, А. Перле, І. Янель-Віэна, Альфрэд Зіэдынш, Е. Браскалнс, І. Судрабс."

---

## „Ганьба Гергарта Гаўптмана"

Пад такім загалоўкам Альфрэд Кер змясціў артыкул пра Гергарта Гаўптмана. У гэтым артыкуле Альфрэд Кер піша:

„Той, хто піша гэтыя радкі, быў сябрам Гаўптмана—цэлае жыццё. Гаўптман старэйшы за мяне, але мы абодва былі маладыя калі сустрэліся. Мы прайшлі разам доўгі жыццёвы шлях, аж да сёняшняга дня. Не,—да ўчарашняга Я быў вартавы яго значэння ў Германіі. Я прайшоў з ім і агонь, і ваду, і медныя трубы. Я змагаўся за яго, калі на яго нападалі, ці то злева, ці то справа. Я падганяў яго самога, калі ён здаваўся. Я гартаваў яго ўпэўненасць, калі ён мацаваўся. Яго другі ўздым у старасці быў маім шчасцем.

І я любіў у ім не толькі пісьменніка, але чалавека, сябра, нязменнага, рэдкага, светлага.

* * *

З учарашняга дня паміж намі няма нічога агульнага, ні ў жыцці, ні ў смерці. Гэтага баязліўца я не ведаю. Няхай вырастуць церні там, дзе яшчэ ступіць яго няверны крок. І няхай усведамленне ганьбы душыць яго кожны момант.

Гаўптман Гергарт стаў ганебны!

* * *

Берлін. Летні вечар. Справа адбывалася ў садзе нашага сябра прафесара Іоагана Плеша, доктара па сардэчных хваробах. Сярод гасцей быў Эйнштэйн, быў і благародны нямецкі мастак Слефогт, які стварыў цудоўныя матава-каляровыя фрэскі на верандзе Плеша; прысутнічала яшчэ дзесяць-дванаццаць выдатных людзей. Я стаяў з Гаўптманам на лужку і заўважыў яму (гэта было два гады таму назад), што ён стаў палітычна няўстолівым. Я сказаў яму: „Ты-ж не здрадзіш... Ты-ж для гэтых хлопцаў так і застанешся тварцом „Ткачэй". Гаўптман аднекваўся. Гэта было зроблена ў яго звычайнай, бясконца мілай манеры выражацца, не даводзячы ясна да канца ні адной фразы і разам з тым чаруючы кожнага слухача чымсці не ад гэтага свету. Ён згаджаўся са мною. Зусім цвёрда. Паміж намі была поўная дагаворнасць.

Плеш цяпер пазбаўлены ад гадаснага відовішча нямецкіх парадкаў: ён у Англіі; Слефогт памёр (хто хавае яго фрэскі?). А Гаўптман...

* * *

Гаўптман ліслівіць перад разбойніцкаю сволаччу. Чалавек, які ўсё сваё жыццё з'яўляўся паэтам альтруізма, угодніча̀е перад яго смяртэльнымі ворагамі. Ён не толькі не знайшоў... ні слова пратэсту супроць самага варварскага з усіх варварстваў. Ён не захацеў паставіць на карту свой асабісты дабрабыт. І ён не толькі пакараецца: ён віляе. Нешта нечалавечае адбылося перад яго вачамі: яго самыя блізкія сябры сталі ахвярамі. Ён маўчаў. Але гэта прыватныя справы, яны маюць менш за ўсё значэнне. Аднак пры той пашане, якою ён карыстаўся ва ўсім свеце, ён мог нанесці ўдар значэнню гэтых забойцаў, значэнню гэтых дворнікаў, катаў, хлусоў, якія прыкідваюцца абаронцамі законнасці, праследуюць у яго на вачах ягоных ткачэй, праследуюць людзей, віною якіх з'яўляецца іх находжанне.

Вялікі альтруіст маўчаў. „Я не магу маўчаць",—так назваў Леў Талстой свой позны твор. Ён таксама быў старым, але, больш мужным. Так. Гэты рускі стары крыкнуў на парозе смерці: „Я не магу маўчаць". А Гаўптман... змог.

* * *

А пасля ён недвухсэнсова патаварышкаваў з тупымі турэмшчыкамі Германіі. Ён добра ведаў, што іх трук быў у тым, каб усялякую зробленую імі брыдоту прыкрыць урачыстым паняццем „Германія". Ён добра ведаў, што ўздым народа ні ў якім выпадку не павінен быць звязан з нізасцю. Аднак ён, сабраўшы свае апошнія невялікія сілы, падняў над сваім домам анучу са свастыкай—са страху, з выгады, з подлай слабасці. Гаўптман чарвівы да глыбіні душы. Ад яго да такіх прамых людзей, як Тасканіні, як Альберт Эйнштэйн, далёка, як да неба.

* * *

Я ведаю, Гаўптман, што ты мог бы мне сказаць (з нячыстым сумленнем): „Вялізны ўздым народа...", і таму падобнае. Ты хлусіш і самаму сабе. Я яшчэ раз гавару: існуюць сумленныя народныя рухі; апрача таго гэта зусім і не народны рух, а—як ты добра ведаеш,—абдурванне народа з дапамогаю нехлямяжых сродкаў гвалту. Падняволенне, сумесь чалавечай жорсткасці з прынцыпіяльнай хлуслівасцю. Адраджэнне бясправўя і бязжаласнасці. Ты бачыш, Гаўптман, гэта ўладары чарады гіен, і ты паступова наблізіўся да іх. У цябе не хапіла духу супроцьстаяць іхняй прапанове, калі яны прывабліваді цябе абяцаннем паставіць адну з тваіх п'ес... з мэтай узвышэння твайго імя, аплёванага ўсім светам. Ты стаў іх пагоншчыкам. Ты ганебны, ганебны, ганебны.

* * *

Грошы зрабілі ўплыў на яго ўчынкі. Гаварыць такія рэчы—жахліва. Але гэты дакор я раблю яму не першы раз. І мне было-б сорамна, калі-б гэта цяпер было першы раз. Грашовыя патрэбы Гаўптмана прымушалі яго выкідаць на рынак зусім недапрацаваныя п'есы і пячы раманы, у якіх цяжка сярод смецця можна было пазнаць яго геній.

Грошай каштуюць яго тры будынкі; Агнетэндорф — у гарах, Худэнзее — ля мора, Рапало—на сонцы. Грошай каштуе увесь снабісцкі лад жыцця гэтага ўнука „ткачэй".

Тварэц анты-капіталістычнай драмы з сусветным імем паў з-за грошай.

Прэса-нацы здзекуецца над наведваннем Гаўптманам штурмавікоў. Яны пісалі з усмешкаю, што гэта было „відовішча для багоў", калі соцыялістычны паэт узняў руку для гітлераўскага прывітання; і гэта было ў час ушанавання Хорста Веселя, сутэнера, якога нацы выбралі сімвалам „відовішча для багоў",—літаральна так пісалі гітлераўскія газеты. А з фасада ліцэя імя Гергарта Гаўптмана, не гледзячы на ўсё гэта, было сцёрта імя Гаўптмана... яно сцёрта і ва мне.

Тут памёр хтосьці раней за сваю смерць. Такі канец.

Няхай успаміны аб ім будуць закапаны пад чартапалохам, няхай вобраз яго будзе пахован у пыле.

Альфрэд Кер".

## Амерыканскія крытыкі аб класічнай літаратуры

Буржуазная Амерыка, краіна „бізнеса" перш за ўсё, даўно прывыкла вымераць культуру, як і іншыя віды жыццёвага дабрабыту, у футах і дзюймах, даларах і цэнтах. „Культура", якую амерыканцы ў свой час былі вымушаны пакінуць Еўропе, стала для іх таварам, які варта было вярнуць сабе з дапамогай багацця, залогам добрага становішча і прэстыжа, нарэшце, своеасаблівай прынадай, на якую можна лавіць неасцярожную рыбку.

Гэтыя адносіны да культуры адкрыта праяўляюцца ў такіх амерыканскіх нававодзінах, як, напрыклад, „Пяціфутовая кніжная паліца", спачатку задуманая здаецца прэзідэнтам Гарвардскага універсітэта Эмерытусам, Ч. Э. Эліотам, а пасля ўведзеная ў абыходак прадпрымлівымі выдаўцамі. Прадпалагаецца, што на гэтай маленькай паліцы дзелавы заняты амерыканец знойдзе ўсю „культуру" ў скарочанай і сціслай форме.

Шматлікія прадпрыемствы нажываюць багацці, распаўсюджваючы ў друку аб'явы аб тым, як любы амерыканец можа авалодаць „культураю", уносячы па дзесяць цэнтаў у тыдзень і падпісаўшыся на серыю брашур, якая „заключае ў сабе ўсё лепшае, што ёсць у сучаснай сусветнай навуцы". Усе гэтыя рэкламы абавязкова падкрэсліваюць ролю культуры, як козыра ў пытаннях „бізнеса". Звычайна гэтыя аб'явы апавядаюць, як новаспечаны „культурны" малады чалавек, абедаючы са сваім гаспадаром, з дзіўнаю лёгкасцю разважае аб рэнесансе, аб перуанскім гуано, аб палюбоўніцах Напалеона, аб пірамідах і аб Ібсене. Гаспадар, уражаны яго „культурнасцю" робіць яго сваім кампаньёнам. Тон гэтых аб'яў— не карыкатура; ён носіць усеагульны ха-

рактар і карыстаецца не меншым распаўсюджваннем у Йельскім і Гарвардскім універсітэтах.

Так пісаў у свой час аб падыходзе буржуазнай Амерыкі да пытанняў культуры амерыканскі пісьменнік Уолдо Фрэнк у сваёй кнізе „Наша Амерыка“.

Апошнія гады амерыканскага жыцця ўнеслі ў гэтыя радкі вядомыя гістарычныя папраўкі. Справа тут не ва утылітарна-дзелавым падыходзе да таго, што стопроцантна - буржуазны амерыканскі выдавец ці літаратар лічыць „культурай“; гэты падыход захоўваецца ў іх і цяпер. Але справа ў тым, што за гады крызіса „культура“ ў значнай меры паспела ўтраціць свой ранейшы характар „дзелавога козыра“, залога добрага становішча і прэстыжа“. Бачачы перад сабою сотні тысяч беспрацоўных альбо поўбеспрацоўных настаўнікаў, інжынераў, урачэй і г. д., радавы амерыканец пачынае баяцца культуры, адчуваць яе як непатрэбны і небяспечны цяжар.

Яркай ілюстрацыяй гэтага новага дачынення да культуры можа служыць незвычайная анкета, праведзеная нядаўна амерыканскім буржуазным тыднёвікам „Нейшэн“. Звычайна, у мінулым, спіскі і анкеты з прычыны „дзесяці лепшых кніг у свеце“ былі ўлюбёным прыёмам амерыканскай выдавецкай рэкламы; на гэты раз тэмай анкеты „Нейшэн“ сталі „Дзесяць кніг, якіх я не чытаў“.

У анкеце прынялі ўдзел карыфеі амерыканскай буржуазнай крытыкі, вядомы літаратуразнаўца Карл ван Дорэн; Г. Л. Менкен, былы рэдактар „Амерыкэн Меркюры“; Джын Натан, тэакрытык, паплечнік Менкена і сурэдактар „Амерыкэн спэктэйтор“; Гары Ганзен, літаратурны крытык нью-іоркскай газеты „Уорлд“; літаратурны рэдактар „Херальд трыбюн“ Бэртон Раско; сурэдактар „Амерыкэн спектэйтор“ Эрнест Бойд і інш.

Амаль усе ўдзельнікі анкеты без выключэння спаборнічалі ў імкненні пераканаць чытача „Нейшэн“, што іх начытаннасць мізерная, што яны зусім нічога не чыталі, а калі і чыталі, то не дачыталі да канца.

Г. Л. Менкен „павінен прасіць прабачэння галоўным чынам не за тое, што пакінуў вельмі многа прабелаў у сваёй адукацыі, а за тое, што вельмі многа прачытаў...“

„Спісак кніг“, не прачытаных „правадырамі“ амерыканскай крытыкі, усеабдымны: Эразм Ротэрдамскі і Гётэ; „Дон Кіхот“ Сервантэса і „Боская Камедыя“ Дантэ; Карлейль і Ніцшэ; Джордж Эліот і Теккерэй; Флобер і Золя; і нарэшце з рускіх пісьменнікаў—Дастаеўскі і Пушкін. „хоць некаторыя людзі, якіх я паважаю надзвычайна, гавораць, што Дастаеўскі быў таленавіты“, — зняважліва піша Менкен.

Анкета зрабіла ўражанне. Паводле слоў рэдакцыі „Нейшэн“ многія чытачы звярнуліся да яе з лістамі, гаворачы, што яны, „прачытаўшы гэтыя прызнанні прафесіянальных літаратараў, адчуваюць сябе цяпер больш спакойна, не перажываючы ранейшых дакораў сумлення“.

Вядомы амерыканскі крытык Джон Хейнс Холмс (ён не прыймаў удзелу ў анкеце) праслаў у часопісь наступны ліст. „Я прачытаў вашу анкету „Кнігі, якіх я ніколі не чытаў“. Цяпер я ведаю напэўна, чаму наша сучасная літаратурная крытыка такая жудасная; чаму кнігі, якія не маюць добрага стылю, ні колькі-небудзь значнага зместу, абвяшчаюцца ў нас шэдэўрамі, а нікчэмныя пісьменнікі заносяцца ў спісы бессмяротных! Ці-ж гэта не ясна? Наша-ж крытыка ніколі не чытала ні аднаго сапраўды вялікага твора,—адкуль жа ім пасля гэтага ўмець адрозніць таленавіты твор ад нікчэмнага?“

---

## Што чытаюць жанчыны ў Амерыцы

Каля ста год таму назад амерыканскі пісьменнік Эдгар По быў прымушаны з-за матэрыяльных меркаванняў узяцца за рэдагаванне тыповай жаночай часопісі таго часу „Грэймс мэгэзін“. Аднак хутка яму прышлося кінуць гэту працу. Тлумачачы свой адыход з „Грэймс мэгэзін“, По спасылаўся на агіду, якая выклікалася ў ім нікчэмным і жаманным характарам часопісі, з яе ўбогімі моднымі рысункамі, нотамі і любоўнымі апавяданнямі...“

У сваім нядаўным артыкуле „Гавораць, што жанчыны эмансіпіраваны“, у амерыканскім тыднёвіку „Нью рыпаблік“ Елізавета Бенкрофт Шлезінгер, амерыканская журналістка, прааналізаваўшы змест пяці найбольш распаўсюджаных сучасных амерыканскіх жаночых часопісей за апошняга поўгода, прышла да вываду, што становішча мала змянілася з часу Эдгара По і што матэрыял, які прапануецца для чытання сучаснай амерыканскай жанчыне, стаіць па сутнасці на тым-жа ўзроўні, што і сто год таму назад.

Шлезінгер піша: „... разгледжаныя мною пяць жаночых часопісей чытаюцца самаменш 12-ю мільёнамі падпісчыц... большасць з іх, як і раней, лічыць за лепшае вузкі кругагляд часопісей, якія ідуць за традыцыямі старамодных „Дамскіх альманахаў“ мінулага стагоддзя.“

Што друкуецца ў амерыканскіх жаночых часопісях?“ У іх, як і раней, вельмі многа сентыментальнасці“. Пачуцці

кахання і абавязку, які раней, змагаюцца ў душы дзяўчыны, якой урэшце ўдаецца задаволіць і тое і другое. Звычайна гэтая барацьба разгортваецца ў добра абстаўленым доме ці ва ўсякім выпадку ў памяшканні, з якога толькі часова знікла раскоша. Вышэйшае грамадства апісваецца ў прываблівых тонах. Аўтары абыходзяць рызыконыўя сітуацыі далікатнымі намёкамі; адкрыта аб іх ніколі не гаворыцца. Большасць апавяданняў пішуцца па схеме байкі аб Золушке, і ў сэрцах чытачоў, як і раней, абуджаюцца цудоўныя мары аб чакаючым іх казачным прынцы... Апрача гэтага „літаратурнага матэрыялу" найбольш значнае месца ў амерыканскіх жаночых часопісах займаюць, зразумела, модныя малюнкі, кулінарныя рэцэпты і ручныя работы. Значна больш месца, чым у мінулым, аддаецца парадам аб выхаванні дзяцей, а таксама майстэрству жаночай касметыкі. Больш папулярным зрабілася таксама і садаводства.

Праўда, жаночыя часопісі Амерыкі друкуюць таксама і артыкулы. Але якія? Асноўныя праблемы грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця сучаснай Амерыкі і ўсяго свету адсутнічаюць у полі зроку рэдактароў і чытачак гэтых часопісей.

Паводле дадзеных Шлезінгер, „часопісь „Пікторыял рэвію" надрукавала за шэсць месяцаў 51 артыкул. З іх 13 артыкулаў былі прысвечаны „праблемам" жаночага харaства, шэсць—гутаркам аб сардэчных справах, 6—парадам аб тым, як выгадна рабіць пакупкі, 4—абмеркаванню пытання аб шлюбе і аб даступных жанчынам занятках, 3—балбатні аб кіназорах. Два артыкулы мімаходзь закранaлі эканамічныя пытанні, два другія—бягучыя грамадскія падзеі. Два артыкулы выкладалі развіццё выяўленчага мастацтва, архітэктуры, музыкі, пытанню аб міжнародным міры і міжнародным падзеям было прысвечана па адным артыкуле. Астатнія артыкулы прадстаўлялі сабою інтэрв'ю з м-с Рузвельт (жонкай амерыканскага прэзідэнта), аб яе філасофскіх поглядах, чыйсьці біяграфічны нарыс, артыкул аб „Забытым мужы" і апісанне святкавання калядаў за межамі.

Другія часопісі мала чым адрозніваюцца па сваёй тэматыцы ад „Пікторыял рэвію". „Радавы чытач часопісі „Дэлініэйтор", — піша Шлезінгер, — мог-бы здзівіцца рэдакцыйнаму выбару „асабліва цікавых" тэм. З 22 артыкулаў—4 закранaлі падарожжы, 3—гульню ў брыдж; па адным артыкуле было прысвечана дзецям, сабакам, музыцы, тэатру і кіно. Апрача гэтага ў часопісі быў надрукаваны адзін біяграфічны нарыс, адзін артыкул на сацыяльна-эканамічную тэму і яшчэ сем артыкулаў, тэматыка якіх цяжка паддаецца класіфікацыі—пачынаючы ад апісання святкавання Дня падзякі ў Новай Англіі да ўчынкаў „Мікі Маус"... Жанчыны, абліччa якіх адчуваецца ў гэтай часопісі, у адрозненне ад сваіх папярэдніц мінулага стагоддзя, займаюцца не жаночымі работамі, а гульнёй у брыдж; але яны, як і раней, верныя сваім спадчынным „дамскім" традыцыям і жывуць у свеце, у які не адважваюцца пранікаць ні палітыка, ні эканоміка..."

---

## Літаратурныя прэміі

У снежні 1933 г. у Францыі быў прысуджан рад літаратурных прэмій:

Прэмію Гонкураў атрымаў член французскай секцыі МАРП-а Андрэ Мальро за раман „Умовы чалавечага існавання" (урывак з гэтага рамана надрукаваны ў № 4 „Интернациональной литературы" за 1933 год).

Уся французская прэса высока ацэньвае творчасць Мальро.

„Калі „Умовы чалавечага існавання" яшчэ толькі выйшлі ў свет,—піша французская літгазета „Марыян",—мы сказалі, што гэта, бясспрэчна, самая выдатная кніга з усіх надрукаваных у гэтым годзе і, напэўна адна з найбольш выдатных кніг усяе нашае эпохі. З таго самага часу, як Акадэмія Гонкураў узнагародзіла творчасць Марселя Пруста, ні адна з выбраных кніг не зрабіла ёй большага гонару, як кніга Мальро".

„Юманітэ" вітаючы прысуджэнне Андрэ Мальро прэміі Гонкураў, адзначае, што: „У барацьбе паміж капіталістычным светам, які гніе, і светам сацыялізма, які будуецца, Мальро, як гэта відаць з яго шматлікіх публічных выступленняў, стаіць на баку СССР.

Перад намі факт, адмаўляць значэнне якога немагчыма: буржуазія, жадаючы ўзнагародзіць выдатны літаратурны твор, прымушана спыніць свой выбар на творы пісьменніка, які ёй ужо не належыць".

Раман Мальро выходзіць у хуткім часе на рускай і украінскай мовах.

Прэмію Тэофраста Рэнадо, якая прысуджана ў 1932 годзе Л. Ф. Селіну за „Падарожжа на край ночы" (урывак надрукаваны ў № 4 „Интернациональной литературы" за 1933 г.) атрымаў у 1933 г. Шарль Брэбан за раман „Кароль спіць".

У рамане паказана жыццё жонкі буйнага фермера Марліз Берто, якая атрымала вялікую спадчыну пасля смерці мужа. Яе сын Эмэ, бязвольны лятуценнік, знаходзіцца ў поўнай падпарадкаванасці ў маткі, якая не хоча аддаць яму бацькавы грошы. Эмэ—няўдачнік; за што-б ён не браўся, у яго нічога не выходзіць; ён цягне нэндзнае існаванне дробнага

служачага. Так ён і памірае, не скарыстаўшы бацькавае спадчыны, якую Марліз, перажыўшы свайго сына, не выпускае з рук. Дзея рамана адбываецца ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

„Брэбан зразумеў тую элементарную ісціну,—піша аб гэтым рамане Жан Фрэвіль у „Юманітэ“,—якую, відавочна, ігнаруюць амаль усе буржуазныя раманісты, а іменна тое, што ў капіталістычным грамадстве асоба існуе толькі пастольку, пакольки яна з‘яўляецца ўладаром капітала.

Эмэ Берто, багацей у патэнцыі, пакараны за тое, што выявіўся як няздольны выканаць асноўнае прызначэнне буржуа—накапляць капітал.

Брэбан выкрывае дарагое сэрцу буржуазіі паняцце аб законнасці спадчыны і яе эканамічнай неабходнасці. Мы бачым, як спадчына, што з‘яўляецца, паводле слоў буржуазных эканамістаў, асноўнай рухаючай сілай чалавечай дзейнасці, у сапраўднасці служыць фактарам дэгенерацыі і распусты, прыгнёту і разлажэння, служыць перашкодай для здаровай дзейнасці індывідуума.

Брэбан дасканала паказвае сапраўдную прыроду кахання буржуазных бацькоў да сваіх дзяцей; гэта каханне цалкам падпарадкавана вышэйшым клопатам—аб захаванні капітала, які пераходзіць па спадчыннасці ад бацькі да сына. У асяроддзі сучаснай буржуазіі няма больш ні каралёў Ліраў, ні бацькоў Гарыо, затое там мноства Марліз Берто“

387.

Адказны рэдактар: МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ.

Рэдкалегія: Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.

Адрас рэдакцыі: Менск, Совецкая, 68, Дом пісьменніка, „Полымя рэволюцыі“.

# ЗМЕСТ

